здавалася яму залішне пераўвялічанай і наганяла на яго прыкрае замяшаньне. Яму цяжка было сядзець у хаце, і ён цэлы дзень бадзяўся па ваколіцах хутара, зазіраючы ў хату толькі за тым, каб дазнацца, ці вярнуўся Барковіч.

Барковіча ня было да самага вечару. Тады Сяргей рашыу пайсьці да настаўніцы.

Тацяна сустрэла яго без асаблівага задзіўленьня, быццам загадзя ведала, што ён прыдзе і што прыдзе адзін. Калі Сяргей пажаліўся ёй на Барковіча, яна з усьмешкай яму адказала:

— Ці-ж вы ня ведаеце гэтага лясуна? У яго вечна такія фокусы...

Сяргей адразу, як толькі ўвайшоў у прытульны Тацянін пакойчык, як толькі ўбачыў яе ласкавы вясёлы твар, яе шэрыя ўсьмешліва-ветлыя вочы,—адразу пачуў сябе лёгка і вольна, быццам прышоў да старога добрага свайго таварыша. Зноў, як і ўчора, занялася ў іх жвавая гутарка, зноў яны дружна сьмяяліся, жартавалі. Яны селі ў той чароўны цёплы куточак, дзе зазвычай сядзеў з ёю Барковіч, і Сяргею здалося, што ён сядзеў тут многа-многа разоў, што ўсё тут такое знаемае яму, такое блізкае.

Тацяна абыходзілася з ім трохі паблажліва, як старэйшая з малодшым—ён адчуваў гэта, але зусім не абражаўся. Гэта было нават прыемна яму, бо ўлівала ў іхныя адносіны асаблівую мяккасьць і цеплату.

— Раскажэце што-небудзь пра Стасю.

Яна папрасіла так проста і няпрыметна, што Сяргей зусім ня зьдзівіўся з гэтага раптоўнага яе жаданьня. Ён заўсёды рад быў гаварыць пра Стасю і быў шчыра ўпэўнены, што кожнаму прыемна пра яе слухаць. Цяпер ён гаварыў такім тонам, быццам спрачаўся з некім, абараняў яе ад нечыіх нябачных нападаў, упарта адстойваў яе добрыя якасьці. Ён так захапіўся, што зусім не сачыў за Тацяніным тварам і не заўважыў, як на ім адзначыўся быў цень глыбокае роспачы, як потым з балючай патугай перамагла яна гэтае пачуцьцё і глядзела на яго, на Сяргея, з несхаваным жалем, з ласкавым матчыным спачуваньнем.

Сяргей змоўк і задумаўся. У яго сініх вачох застыла сумная лятуценнасьць. Тацяна моўчкі паклала сваю руку на яго сукрыстыя валасы і пяшчотна перабірала іх. Ён спачатку нібы ня чуў гэтае ціхае ласкі, а потым, схамянуўшыся, схапіў яе руку і пачаў цалаваць.

Яна чамусьці прыкусіла губу, і ў вачох у яе заблішчэлі сьлёзы.

У гэты момант з сянец пачуўся бязладны грукат. Гэта прышоў Барковіч. Ён увайшоў у пакой, даў „добры вечар“, усьміхнуўся, заўважыўшы, што занята яго звычайнае месца, сеў зводдаль і застыў у немым маўчаньні.

Сёньня вышла так, як і тады. Барковіч моўчкі сядзеў, а яны вялі ўдваіх вясёлую жвавую гутарку. Раз-по-раз яны кідалі адзін на аднаго кароткія выразьлівыя погляды, і, калі вочы іх сустракаліся, яны гарэзьліва ўсьміхаліся адзін аднаму, як тыя дзеці, што напракудзяць чым-

небудзь, адылі, ня выкрытыя, застануцца без пакараньня. Паміж іх было ўжо нешта падобнае да супольнае тайны.

На разьвітаньні Таццяна зноў, насупіўшыся, старанна ўнікала Барковічавых вачэй, яму зноў сьмешна было ад гэтага і люба было глядзець на яе, і зноў узьнялася была ў ім гарачая хваля пяшчоты.

З таго часу так і пашло. Барковіч на цэлы дзень зьнікаў у палескіх нетрах, а Сяргей, апанаваны чорнай нудотай, бадзяўся па ваколіцах хутара. Як толькі асядала на зямлю шэрая гадзіна, Сяргей, поўны радаснай нецярплівасьці, бег да Таццяны—у яе прытульным куточку так чароўна зьвіваліся хвіліны сяброўскай гутаркі, перамежанай з ціхай нясьмелай ласкай.

Гадзіне а дзевятай прыходзіў Барковіч. Ён моўчкі сядзеў да канца вечару і, выходзячы ад Таццяны, нязьменна ўсьміхаўся добрадушна-загадкавай усьмешкай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтай парой над Палесьсем яшчэ ляцелі гонкія плаўнакрылыя гусі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сяргею доўга не ўдавалася стала пагаварыць з Барковічам. Іхныя выпадковыя гутаркі ніколі ня выходзілі за межы малазначных драбніц, роўна няцікавых ні аднаму, ні другому. Ці толькі Сяргей памыкаўся закрануць якую-небудзь жыцьцёва-вострую тэму, Барковіч ураз абрываў размову або рэзка пераводзіў яе на іншы прадмет. Сяргею гэта давала вялікую няпрыемнасьць. Яму цяжка было насіць у сабе нявыказаныя думкі—ён да гэтага не прызвычаіўся. Праўда, большую частку думак сваіх і пачуцьцяў ён выліваў у шчырых гутарках з Таццянай, але было і такое, аб чым яму цяжка было з ёй гаварыць. І ён з упартай цярплівасьцю чакаў, калі, нарэшце, можна будзе выказаць усё Барковічу.

Гэта здарылася дзён праз пяць пасьля яго прыезду. Позным вечарам яны вярталіся ад настаўніцы. У Сяргея, як і звычайна пасьля сустрэчы з Таццянай, застаўся ў нутры лёгкі хмель радаснага захапленьня. Густая волкая цемра, праз якую яны ішлі, спрыяла яго самаўглыблёнасьці—ён моўчкі прыслухваўся да прыемнага свайго пачуцьця і шырока п'янавата ўсьміхаўся—балазе ніхто ня бачыць. І вось раптам Барковіч ні з таго, ні з сяго пытаецца:

— Ты, Сяргей, чакаеш Стасю?

Ён здрыгануўся ад неспадзяванасьці і ня ведаў, што адказаць.

— Чаму ты пытаеш пра гэта?

Барковіч спакойна растлумачыў:

— Я бачу тваё новае захапленьне, і ў мяне зьяўляецца трывога за Стасю. Яна можа згубіць свайго апошняга вернага прыхільніка.

— Чаму „апошняга“?

Барковіч не адказаў. Сяргей падумаў, што цяпер якраз надышла пара для шчырай размовы, і рашыў пачаць.

— Слухай, Адам, я даўно ўжо хацеў сказаць табе... я цябе не разумею... Мне здаецца,—ты зусім ня рады, што Стася паздаравела, што скора прыедзе да цябе, будзе зноў, як даўней... Няўжо гэта праўда?.. няўжо ты сапраўды больш яе не кахаеш?..

— А ты?

Сяргей замяшаўся.

— Я... ты, Адам, ведаеш... Я яе зусім асабліва любіў і люблю... ня так, як ты... Я табе не замінаю... Я яе буду заўсёды любіць... заўсёды...

— Ты дужа сьмешны...

Сяргей зразумеў гэтыя словы, як выказ недавер'я да яго, і захваляваўся.

— Так, Адам, я гэта шчыра кажу... Я разумею, што так нядобра... Людзі многа чаго гавораць... Наогул, неяк... бязладна ўсё... Я разумею... Я многа думаў аб гэтым. Мы нешта зробім... Ты ня ведаеш, я-ж гэта наўмысьля хаджу да Тацяны... Яна мне адразу надзвычайна ўпадабалася. У ёй ёсьць нешта такое, што ўвесь час цягне мяне да яе—я гатоў цэлыя суткі сядзець з ёй, сапраўды... Яна разумная і добрая. У ёй так многа ласкі, сымпатыі... Слухай, Адам, усё можа быць... Магчыма, што я...

— Магчыма, што ты з ёй ажэнішся?

— Можа я пакахаю яе... так, як звычайна... як ты...

Ён сам спалохаўся гэтага свайго прызнаньня і змоўк. Барковіч запытаў бязуважным тонам, скрозь які, аднак, прабівалася пільна схаваная насторожанасьць:

— Ты з ёй аб гэтым не гаварыў?

Сяргей зусім засароміўся.

— Я ня ведаю... Ды не, не гаварыў... Але мы з ёй... наогул... мне здаецца, што яна да мяне добра адносіцца...

На гэтым скончылася іхная гутарка. Яны падышлі да хутара, моўчкі ўвайшлі ў хату і моўчкі пакладліся спаць.

Назаўтрага Барковіч зусім ня прышоў да Тацяны.

## 9

Заўтра прыедзе Стася. З самага таго моманту, як учора надвечар прынесьлі тэлеграму і Сяргей першы за ўсіх яе прачытаў, яго ні на хвіліну не пакідаў вясёлы радасна-ўзьняты настрой. Ён быў зусім шчасьлівы. Ён ня толькі рад быў, што скора сустрэне Стасю: ён чакаў ад прыезду яе нечага большага, нечага асаблівага. У яго вырасла дзіўная ўпэўненасьць у тым, што прыедзе Стася—і будзе ўсё добра. Будзе добра і ёй, і Барковічу, і ўсім-чыста. Ён учора гаварыў аб гэтым Тацяне, і яна згаджалася—яна таксама з нецярплівасьцю чакае Стасінага прыезду.

Адно непакоіць Сяргея—гэта незразумела-дзікі настрой Барковіча. На яго тэлеграма зрабіла, мусіць, дрэннае ўражаньне. Ён, праўда, спачатку толькі ўсьміхнуўся і прабурчэў, нібы сам да сябе:

— Ну што-ж, гэта добра...

Але потым спахмурнеў, усьцервіўся нечага, пачаў кідацца, як загнаны зьвер. То пойдзе куды-небудзь, то зноў вернецца ў хату, ходзіць ад сьцяны да сьцяны, не гаворыць ні з кім, ні на кога не зьвяртае ўвагі.

Сёньня зранку пашоў са стрэльбай. Мабыць, паходзіць, дык заспакоіцца. А заўтра выясьніцца ўсё, усё-чысьценька.

І Сяргей цалком аддаецца свайму бязрупатна-радаснаму пачуцьцю.

Барковіч вярнуўся рана—толькі пачало цямнець. Ён кінуў на лаўку свае прылады, падышоў да Сяргея і сказаў з выразным націскам:

— Я сёньне пайду да Таццяны.

Сяргей зразумеў.

— Добра, я застануся дома.

І Барковіч адразу пашоў.

У Таццяны агня яшчэ ня было. Яна сядзела ў сваім куточку, ахінутая густым валакном змроку. Ён адразу заўважыў яе, як увайшоў у пакой. Ён моўчкі падышоў да яе, схіліўся перад ёй—вялікі, грамоздны—і з парыўчатай палкасьцю пачаў цалаваць яе рукі. Яна слаба адпіхала яго ад сябе.

— Пастой... Я запалю лямпу...

І яна ўстала, падышла да стала. Яна чамусьці дужа доўга шукала запалак, хоць яны некалькі разоў бразгалі ў яе пад рукой. Нарэшце знайшла, запаліла сьвятло. Барковіч толькі цяпер заўважыў, што стаіць на каленах перад канапай. Ён устаў, падыйшоў да Таццяны, зазірнуў ёй глыбока ў вочы.

— Я ведаю, Таццяна, за што ты злуеш на мяне. Ты злуеш за тое, што не памерла Стася.

Таццяна спалохана адшаснулася ад яго.

— Досыць, Адам. Я больш не магу... Ты мучыш мяне...

— Я кахаю цябе—ты гэта ведаеш... Заўтра прыедзе Стася... Нам трэба нешта рабіць...

— Не-не, нічога ня трэба... Я ня хочу, я нязгодна...

— Ты баішся?

Таццяна з цьвёрдай рашучасьцю ўхапілася за гэтае слова:

— Так, так, Адам, я баюся... Я баюся Стасі... Мне здаецца, што гэта яна не памерла... вярнулася, каб толькі нас разлучыць... Я ведаю, што гэта глупства, але ўсё роўна... мне ня будзе спакою...

Барковіч абняў яе сваёй дужай рукой.

— Ты будзеш са мной, Таццяна... заўсёды... Я буду цябе бараніць. Мы можам паехаць куды-небудзь, зьнікнуць ад іх, ад усіх...

— З табой... заўсёды... Нашто ты гэта гаворыш? Ты сам ня верыш гэтаму... Ты-ж усё роўна кінеш. Такі ты чалавек... Я і цябе баюся... больш, можа, чымся Стасі...

У Барковіча ў вачох пыхнуў едкі агоньчык.

— Што гэта: практычнасьць ці сэнтымэнтальнасьць? На ўсё жыцьцё, значыць? Ха-ха!..

Тацяна сурова насупіла бровы.

— Кінуць лягчэй, чымся быць пакінутым.

— Гэта, ведаеш, дужа падобна да Сяргея...

Тацяна яшчэ больш насупілася.

— Ты зьдзекваешся над Сяргеем... Ты—мацнейшы... А ён добры; лепшы за цябе. Я веру яму ва ўсім.

— А мне ня верыш, бо кахаеш мяне. Каго кахаюць, таму ніколі ня вераць.

— Ай, ня ведаю я...

На яе твары адзначыўся сьлед нутранога болю. Яна адышлася да вакна і, адсунуўшы фіранку, пачала глядзець у чорную заслонку цемры. Барковіч застаўся на месцы. Хвіліна працякла ў нэрвова-напятым маўчаньні. Потым Барковіч загаварыў глухім, зьніжаным голасам:

— Што-ж... значыць—усё... канец... Што-ж... хай сабе...

Ён памаўчаў, быццам мяркуючы, што яшчэ трэба сказаць, і запытаўся:

— Ты, мусіць, захочаш, каб я з табой больш не сустракаўся?

Яна з нэрвовай пасьпешнасьцю абярнулася да яго.

— Так, Адам. Больш ня трэба... Ты нічым тут ня зьвязан... Едзь адсюль... Мне будзе лепш... Я хачу добра цябе ўспамінаць, і ты не павінен мучыць мяне... Едзь куды-небудзь... я дужа цябе прашу...

Барковіч пагадліва кіўнуў галавой.

— Добра, паеду. Бывай!

Ён хацеў на гэтым і скончыць усё, хацеў ужо завярнуцца іісьці, аж яна раптам падыйшла да яго, паклала на плечы яму свае рукі і ўпілася ў яго твар глыбокім балючым поглядам.

— Бывай, Адам!

І ў нейкім раптоўным захапленьні, у п'яным экстазе пачала яго цалаваць.

— Бывай!.. Бывай!.. Любы!..

Барковіч пачуў на твары ў сябе гарачую вільгаць: яна плакала. Ён моцна прытуліў яе да сябе і зашаптаў:

— Ты любіш мяне... Тацяна, ты любіш... Нашто так рабіць?..

Яна быццам і ня чула гэтых слоў. Яна яшчэ раз паглядзела ў твар яму сваім распаленым поглядам і раптам супакоілася.

— Ну, ідзі... Пачакай, захіні сваю куртку—на дварэ ўжо сьцюдзёна. Дай, я. Во так. Во... Які ты нядбалы! Як дзіцянё... Ну, ідзі...

Яна вывела яго на вуліцу і стаяла на ганку, пакуль не заглухлі ў цемры яго марудныя важкія крокі.

Дзіўнае адчуваньне было цяпер у Барковіча. Нейкі тлумны туман атуліў яго сьвядомасьць, і ў гэтым тумане бясформенымі абрыўкамі мітусіліся асобныя словы і вобразы, бязладна вырваныя з таго, што адбы-

лося там, у Таццяны. Жывей за ўсё адчуваліся Таццяніны пацалункі, якія нібы прыліплі да твару палкімі нязводнымі плямамі. Іншай хвілінай здавалася, што яна і цяпер цалуе яго, і затуманеная сьвядомасьць настойна дамагалася разьвязаць тупое, назольлівае пытаньне:

„Нашто гэта яна? Што абазначаюць гэтыя дзіўныя пацалункі?“

Потым памалу туман разьвеяўся, і раптам, нібы вострым нажом, рэзнуў па сэрцы бязьмерна-пякучы жаль. Перад ім адкрылася ў вострай, амаль што фізычна-адчувальнай конкрэтнасьці блізкая магчымасьць шчасьця, магчымасьць глыбокіх салодкіх уцех, якая была, бязумоўна, да гэтай апошняй сустрэчы.

— Няўжо—канец? Няўжо ўсё тое, што засталося там, за некалькі крокаў назад, што адчуваецца такім блізкім, патрэбным,—няўжо яно навек адарвалася? А можа гэта памылка? Можа яна чакае яго? Можа хоча, каб ён вярнуўся?

Не! Яна разьвіталася назаўсёды. Яна не чакае. Цяпер ужо позна. Жыцьцё супроць яго, перамаглі варожыя сілы. Скруцілі шчытным калючым вязьмом, не даюць вольна дыхнуць, зьдзекваюцца, сьвяткуюць сваю паганую перамогу.

Пачакайце! Ён яшчэ ня здаўся, яшчэ будзе змаганьне. Ён яшчэ возьме сваё!

І Барковіч, апанаваны раптоўным прылівам шалёнае злосьці, сударгава сьціскае свае кулакі, скрыгае зубамі і ўпіваецца ў цемру драпежным разьюшаным поглядам, быццам гатовы кінуцца на нейкага нявіднага ворага.

Раптам ён успамінае Сяргея, і нядобрая ўсьмешка крывіць яго дрыжачыя вусны. Ён спыняецца сярод дарогі, з хвіліну аб нечым мяркуе і рашуча заварочвае назад, на вёску.

У Таццяны ў вакне сьвеціцца ціхі прыветны агеньчык. Калі праходзіць міма Барковіч, агеньчык на момант ловіць яго ў сваё жаўтлявапразрыстае ўлоньне,—мусіць, затым, каб падзівіцца на яго злосны, дэмонічна скрыўлены твар.

Барковіч зайшоўся да Аўтуха, першага сябра свайго па паляваньні.

— Дай мне на заўтрашні дзень свае стрэльбы.

— Во... А твая што?

— Мы пойдзем удвух, з таварышом...

— А-а...

Аўтух нешта памыкаецца расказаць, але Барковіч ня слухае. Ён забірае стрэльбу і пасьпешна ідзе да сябе, на хутар.

Сяргей яшчэ ня сьпіць. Ён сядзіць за сталом, узьлёгшыся тварам на далоні, і шчыра аб нечым думае. Барковіч стараецца ўзяць добрадушны вясёлы тон.

— Бабы казалі, што ў чорным моху аселі гусі. Пойдзем з табой, заўтра ўраньні. Я ўзяў табе стрэльбу.

Сяргей узьнімае на яго свае наіўныя, ясныя вочы.

— Я-ж ня ўмею страляць.

— Гэта зусім проста. Во так...

І Барковіч пачынае на скоры пасьпех тлумачыць яму, як трэба абыходзіцца са стрэльбай. Сяргея надзвычайна цікавіць гэта мэханіка, і ён ужо шчыра радуецца, што Барковіч надумаў узяць яго на паляваньне.

Яны зараз-жа кладуцца спаць, каб заўтра яшчэ досьвіта быць на нагах.

## 10

Густы каламутны змрок, патрывожаны першым, яшчэ ледзьве-ледзьве прыметным сьвятлом заранья, санліва варушыўся ў мякка-нагрэтым занач гнязьдзе і доўга не хацеў пакідаць яго—доўга не хацеў падбіраць сваіх чорных, раскіданых па глухім закуцьці, космаў. Млявы, распараны сном, ён дыхаў цеплаватай вільгацьцю, і ў гэтым цягучым дыханьні насіўся пах мокрай кары і заляжалага лісьця.

З неба на зямлю асядала густая ліпкая парась...

Спачатку, як вышлі, Сяргей зусім ня бачыў дарогі. Ён чуў наперадзе ў сябе аднамерна-важкія крокі Барковіча і дробна семяніў у той бок, сьпяшаючыся, каб не астацца. Ісьці было дрэнна, часта трапляла пад ногі то сьлізкая лужына, то пень або карчавешка. Дужа замінала стрэльба—ён ніяк ня мог прыладзіцца, каб яна добра трымалася, і кожную хвіліну прыходзілася яе папраўляць.

Адылі Сяргею зусім было весела і прыемна.

Пачало днець. Ужо можна было агледзець наперадзе постаць Барковіча, толькі выдавала яна нейкай асабліва-дзіўнай, недарэчнай: то вырасьце раптам вялізная-вялізная, то зьбярэцца ў маленькі чорны камочак, то зусім зьнікне, сальлецца з цемрай, а потым вылучыцца цёмнай бясформенай масай, зусім непадобнай да чалавека.

Барковіч увесь час упарта маўчыць. Сяргею страшэнна хочацца гаварыць, і ён раз-по-раз пытаецца аб чым-небудзь у свайго спадарожніка, але той або адказвае адным словам, або проста адмоўчваецца. Ён нейкі дзіўны сягоньня. Нават голас у яго нібы зьмяніўся—грубейшы стаў і сурова-стрыманы. А тут яшчэ змрок гэты, цені розныя таемныя па баках. Сяргею пачынае залазіць у нутро міжвольная жудасьць.

Ага! Нарэшце ўжо сапраўды павіднела. Вырастаюць дрэвы наўкола вылазяць кудлатыя карчы. Пад нагамі відаць ужо жоўты дыван апалага лісту. І постаць Барковіча зрабілася зусім выразная: ён у звычайнай куртцы сваёй, у высокіх ботах, замест поясу—патронташ. У яго чамусьці падняты каўнер, і гэта надае ўсяму яго выгляду нейкую чэрствасьць, замкнёнасьць: звычайна ён ходзіць зусім расхрыстаны. Нашто ён паставіў каўнер? Сягоньня-ж ані-ні не халодна.

Вось і зусім ужо відна. Дзень заняўся сьляпы, сьлізготны. Можа гэта добра для паляваньня? А можа дрэнна?

Сяргей пытаецца ў Барковіча, але той маўчыць. Мусіць, задумаўся моцна. У яго сёньня зусім няўдалы настрой.

Яны ўсё ідуць ды ідуць. Ішлі па глухім балоцьвеным лесе, потым перашлі праз сухую выспу, падаліся ўсьцяж па канаве, зноў устраміліся ў дзікі непраходны лес. У Сяргея, нязвыклага да хады, ужо млеюць ногі і страшэнна ломіць плячо, на якім ён нясе сваю стрэльбу.

Дзе-ж тыя гусі?

Перад імі раптам адкрываецца шырокая чыстая паляна, абкружаная суцэльнай сьцяной высокага лесу. Барковіч спыняецца і абарачваецца да Сяргея.

— Вось тут... Давай адпачнем троху...

Ён абапіраецца плячмі аб ствол вялізнага дуба і глядзіць некуды ў бок, у цёмны лясны гушчар. Ён высьвіствае нейкую песьню—мабыць, затым, каб перамагчы таемна-хітрую ўсьмешку, яка, во-во гатова ўсплысьці на яго твар. Аб чым ён думае?

Сяргей з радасным палягчэньнем здымае з пляча стрэльбу і шукае месца, дзе-б паставіць яе. Барковіч раптам спыняе яго.

— Ты не забыўся, як трэба страляць? Пакажы...

Сяргей спраўна прарабляе ўсе патрэбныя маніпуляцыі. Барковіч задаволена ўсьміхаецца. Потым ён падыходзіць бліжэй да Сяргея і раптам прымае сур'ёзны, амаль што жорсткі выгляд.

— Во што... Нам трэба з табой пагутарыць... стала... раз назаўсёды.

Тон яго слоў такі нязвычайны, такі напружна-цьвёрды, што Сяргей мімаволі бляднее і ў вачох у яго пыхае раптоўны спалох.

— Аб чым ты хочаш гутарыць?

Барковіч падыходзіць яшчэ бліжэй, узьлягаецца на сваю стрэльбу і ўпінае ў Сяргея жудасна-нярухомы погляд.

— Слухай... Колькі часу, як мы спазналіся?

— Даўно ўжо... Год пяць.

— Так. Пяць год. Мы адразу былі здружыліся. Помніш? Гэта дужа цікава... У нас былі моманты, калі мы не маглі жыць адзін без аднаго. Мы часам спрачаліся, лаяліся, крыўдзілі адзін аднаго, а потым шукалі выпадку, каб зноў сустрэцца. Не маглі абыйсьціся бяз гэтай сустрэчы... Праўда? Ну вось... Мы пяць год былі самымі блізкімі, самымі шчырымі прыяцелямі...

Ён змоўк, нібы правяраючы ў думках, ці тое сказаў, што трэба было сказаць, або шукаючы слоў для далейшага. Сяргей з поўнай шчырасьцю пацьвердзіў:

— Я заўсёды лічыў цябе за лепшага свайго сябра.

Барковіч не зьвярнуў ніякай увагі на яго словы.

— Вось так... разумееш?.. А ўсё-ткі мы з табой ворагі адзін аднаму. Найлюцейшыя ворагі, якія толькі могуць быць...

— Адам! што ты гаворыш?

— Найлюцейшыя ворагі... Фатальныя ворагі... Мы ўвайшлі адзін к аднаму ў жыцьцё, каб папсаваць яго... Так увесь час і было...

Ён зноў змоўк, нібы аднаўляючы ў памяці драбніцы мінулага.

— Вось з Стасяй... Ты мне псаваў увесь час... страшэнна псаваў... агідна... А я табе... ха-ха!.. ты сам казаў, што нічога ня меў... ха-ха!.. нічога ня меў...

І ён дзіка зарагатаў. Потым ураз неяк сьціх і падблізіў да Сяргея свой скрыўлены злоснай грымасай твар.

— Папраўдзе сказаць, ты паскудненькую ролю там іграў. Зусім такую, ведаеш, нікчэмненькую, туалетную... Ты-ж, небарака, нічога ня меў... Ха-ха!.. Які недалужны!..

Сяргей яшчэ больш пабялеў і вочы яго востра заблішчэлі—ні-то ад сьлёз, ні-то ад зацятае злосьці.

— Адам! Ты мяне абражаеш!..

— Ха-ха! Абражаю? Я думаў, што ты зусім няздольны абразіцца... Слухай далей... Вось з Тацянай... Ты ня дужы сам для сябе знайсьці што-небудзь у жыцьці. Ты, як сьлімак, падпаўзеш да чужога і рад, што знашоў, дзе прасьлініцца. І просты жаль да цябе, перамяшаны з агідай, ты гатоў прыняць за каханьне! Ха-ха!.. Цябе кахаць? Такога склізьнёнка?

З Сяргеем рабілася нешта надзвычайнае. Яго зьбялелы твар раптам наліўся крывёй, вочы загарэліся дзікім вар'яцкім агнём,—ён увесь напружыўся і гатоў быў кінуцца з кіпцямі на Барковіча. Ён ня мог гаварыць, у яго выходзіў толькі здушаны шэпт.

— Ты... якое права... Я—чалавек!.. Я—чалавек...

Барковіч зусім блізка—твар у твар—прыхіліўся да яго.

— Ты—паскуднік... Я ненавіджу цябе...

З хвіліну яны стаялі так адзін супроць аднаго—лютыя ворагі, гатовыя кожную хвіліну кінуцца ў сьмяротную бойку. Потым здарылася нешта зусім дзікае і агіднае: Барковіч плюнуў у твар Сяргею і, крута завярнуўшыся, пашоў на паляну.

Гульня была надзвычайна рызыкоўная, і Барковіч, ідучы роўнымі, нібы зусім спакойнымі крокамі па паляне, з фізычнай яснасьцю адчуваў як па сьпіне ў яго марознай хваляй перабягаюць мурашкі. Нейкую балюча-вострую зьвярыную асалоду давала яму гэтае сьмяротна-напружнае чаканьне.

Усё, што адбылося далей, заняло ня больш, як хвіліну, але тая хвіліна ўвязала ў сябе цэлы віхор самых бурлівых перажываньняў.

Быў адзін момант, калі Барковічу здалося, быццам нешта з тупой сілай штурханула яго ў плечы, і ў галаве яго маланкай бліснула думка, што гэта Сяргей дагнаў яго і выцяў прыкладам. Але зараз-жа загрымеў стрэл, і за ім—балюча-балюча запякло ў правым плячы.

Цяпер ён ведаў, што трэба рабіць. Са зьвярынай круткасьцю ён абярнуўся назад і абыклым рухам сарваў з пляча зброю.

Сяргей стаяў на ўзьлесьсі—белы, як сьнег,—і з нерашучай патугай падымаў стрэльбу, ладзячыся да другога стрэлу.

І раптам—ні з таго, ні з сяго—Барковіч зайшоўся ад самага звычайнага, самага вясёлага, гульлівага рогату.

— Бэкасіньнік... ха-ха!.. Бэкасіньнік... Шрот такі ў цябе... ха-ха!.. Я забыўся... На дробных птушак... ха-ха!.. Бэкасіньнікам у чалавека... у чалавека... ха-ха-ха!..

Сяргей з тупой няўцямнасьцю апусьціў стрэльбу. Барковіч рашучым махам ускінуў сваю на плячо і, усё яшчэ сьмяючыся, прашоў міма Сяргея і ўглыбіўся ў лес.

— Адам!—пачуўся ззаду слабы, надарваны голас.

Ён прыбавіў ходу.

— Адам!—данеслася зусім здалёку—ціха і жаласна.

І ўсё змоўкла.

## 11

Барковіч усё глыбей і глыбей удаваўся ў цёмны гушчар і чым далей ён ішоў, тым спакайней рабіўся яго твар, і ўсьмешка, з якой ён не разлучаўся з самага таго трагікомічнага моманту, усё больш і больш набывала добрадушна-лагодны характар.

Глыбокая застылая ціхасьць палескае пушчы, хмельны пах волкай зямлі і спрадвечнага жыцьцёвага праху, ціхі, малельна-пакорлівы шэпт пажоўклых лістоў і самота—поўная, бязьмежная самота, салодкая да ап'яненьня, да забыцьця...

Як добра яму тут! Які цудоўны спакой ахінае істоту яго, як расьце, разьвінаецца яго вольны, непакорлівы дух, надламаны жыцьцёвай нягодай. І як далёка засталася ўся тая нягода—з жорсткай барацьбой, з трывогай, з дробным дакучлівым мятушэньнем.

Ён адчувае сябе пераможнікам. Ён сам ня ведае, у чым гэта перамога, але ў душы ў яго—урачыстасьць, на сэрцы—спакойная, чыстая радасьць. З наўмысна-навостранай чуласьцю ён прыслухваецца да свае раны, і яму чамусьці прыемна, соладка адчуваць, як пякуча садніць плячо, як сьцякае па целу ліпучая цёплая кроў.

— Бэкасіньнік...

І ён зусім наіўна, падзіцячаму ўсьміхаецца.

Лес перасякае чорная паламаная грэбля. Гэта—дарога на станцыю. Ён спыняецца, пільна азіраецца наўкола і ідзе далей па дарозе. Яму дужа прыемна, што дарога пустая, што нікога няма насустрэчу.

Але вось наперадзе, ад завароту, паказаўся конь. Недалужна калупаецца па гразкай грэблі, ледзьве цягне за сабой карахвашку. Пэўна, нехта едзе са станцыі.

Раптам Барковічавы мазгі праразае вострая здагадка. Ён, як злодзей, кідаецца ў бок ад дарогі і прытойваецца за вялізным камялём старавечнага дуба.

— Так, гэта яна... Гэта—Стася.

Яна праяжджае зусім блізка каля яго, і ён спакойна, уважліва яе разглядае.

Яна сапраўды паздаравела. Яшчэ відаць на твары сьляды цяжкай хваробы, але ўжо шчокі красуюцца сьвежай чырваньню і ў вачох гарыць вясёлы, зусім здаровы агоньчык. Яна амаль што такая, як і раней.

Яна думае аб нечым вясёлым, прыемным. Нават ня можа стрымаць міжвольнае ўсьмешкі, якая настойна лезе на твар ёй і гарэзьліва трывожыць яе тонкія прыгожыя вусны. Пэўна, малюе ў думках радасную карціну блізкай сустрэчы...

Ха, ха! Каб яна ведала, што ён стаіць тут, на некалькі крокаў, схаваўшыся ад яе, як злодзей!

Карахвашка, няэграбна клыпаючы па карабатай грэблі, зьнікае за заваротам. Барковіч чакае яшчэ хвіліны са дзьве, потым вылазіць з свае засады і, сьцеражліва азіраючыся, выходзіць на дарогу. На твары ў яго хітра-здаволеная міна. Ён ашукаў і тут. Ён усіх ашукае, пачакайце толькі! Ён ня здасца—о, не! Хай цяпер там разьбіраюцца, хай!

Радасьць яго пераходзіць магчымыя межы. Яе ўжо ня можна стрымаць, яна павінна выліцца неяк з яго да краю перапоўненай істоты. Ён яшчэ раз азіраецца на бакі і, нарэшце, дае сабе волю. Магутны раскатны рогат разьлягаецца па бязьлюднай пушчы і на хвіліну поўніць яе мятушлівым жыцьцём. Потым ён у адзін момант сунімаецца і стаіць, сударгава-застылы ў рэзка-напружнай нярухомасьці.

Так. Яго вострае вуха ня зманіць. Ён выразна чуе гэтыя далёкія гукі, ціхія і мэлёдычныя, як хлюпаньне нябачнай крынічкі. Ён упінае свой распалены радасьцю погляд у шэрае неба і бачыць (а можа гэта здаецца яму?), як плаўна сунецца там жывы рухавы трохкутнік.

Гусі... Апошнія сёлета гусі. Рупяцца, каб не застацца, каб не спазьніцца ў той зачараваны край. Яны яшчэ вераць, яшчэ спадзяюцца. У іхнай зазыўнай песьні так многа імкненьня, так многа надрыўнае радасьці.

Ляцеце, любыя! Ляцеце, родныя! Яшчэ ня позна. Ніколі ня позна...

Шукайце сонца! Шукайце шчасьця!..

Барковіч, як і тады, калі бачыў быў першых гусей, у п'яным захапленьні ўзьнімае ўгару свае рукі і крычыць усьлед далёкім вандроўцам:

— Го-го-го-го!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На станцыі стаяў некуды цягнік. Барковіч падышоў да касы, дастаў свой бумажнік, вытрас усё, што ў ім знашлося, і папрасіў касіра, каб ён на ўсе грошы даў яму праезны білет.

# ДРАПЕЖНІКІ[1])

*Роман у трох частках*

**Я. Нёманскі**

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### IV

Смутныя дні пачаліся для Зосі. Калі раней яна бачыла ў Зыкаве спагаднага, мяккага чалавека, разумнага і досыць далікатнага, які так патаварыску адносіўся да яе і, яна адчувала, кахаў яе, кахаў ня так, як брат ці бацька, такога чалавека, якому яна не пасаромелася сказаць а брудных учынках з ёю пана Ляскоўскага, то цяпер гэты яго вобраз завалокся нечым няясным, няпэўным. Апроч таго, у яе дзявочых лятуценьнях той чалавек, якога яна пакахае, здаваўся якім-небудзь ня зусім звычайным. Жыцьцё-ж Зыкава, або Росяка, ці як яшчэ там, было такім, паводле яго ўласных слоў, цьмяным, гаротным, што ніякім флёрам вышэйшае поэзіі яго апрануць было нельга. Праўда, ён займаўся нейкімі там справамі, за якія сядзеў у вастрозе. Ён быў рэволюцыянэрам. Але сучасны яго выгляд ня мае адбіткаў геройства. Аднак, Зыкава параўнаць няма з кім: ён усё-ж вышэй ад усіх тых людзей, што акружаюць яе.

Зося займалася такімі разважаньнямі і ў часе службы і дома, нават у прысутнасьці самога Зыкава. Яна заўважыла, што ў той вечар, калі ён ня прыходзіў, больш смутныя думкі ахаплялі яе, зьяўляліся розныя непаразуменьні з сабою. Але даволі было Зыкаву сядзець тут, у пакоі, схіліўшыся над кніжкаю, як яна супакойвалася: ціхая радасьць сыходзіла ёй на сэрца, і яна то з захапленьнем, то з пяшчотаю паглядала на яго твар, асьветлены ўпартаю думкаю, аздоблены рыскамі асаблівае рашучасьці. Праз некалькі дзён яе душэўная мешаніна, выкліканая апісаньнем жыцьця Зыкава, мінулася, і яна, як увесь апошні час, трапятліва чакала яго прыходу, сустрэч з ім.

Аднак, яе нагнала новая хваля цяжкіх разважаньняў. Адзін раз, калі Зыкаў выходзіў з школы каля поўначы і Зося прыхілілася да яго ў цемры сенцаў, ён, пасьля кароткае развагі, запытаў ціха, у самае яе вуха, калі яны стануць жанатымі. Зося адскочыла ад яго і нічога не змагла адказаць—так была ўсхвалявана. Моўчкі вярнулася яна ў пакой,

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 10 за 1928 г.

з моцна торкаўшым сэрцам пастаяла каля дзьвярэй, пакуль ня бразнулі дзьверы знадворныя, і кінулася ў сваю баковачку. Цэлую ноч праляжала яна бяз сну, некалькі разоў усхаплялася, запальвала сьвечку, сядзела з бяздумнымі, здавалася, вачыма. Самая думка аб шлюбе была такая нязвычайная, што яна зусім ня ведала, як да яе падыйсьці. Гэтая думка палохала, ледзяніла сэрца, страшна было думаць аб тым, што будзе пасьля шлюбу. Часамі здавалася Зосі, што яна больш ня зможа сустрэцца з Зыкавым, што цяпер скончылася пара шчырых, ясных адносін. Што ёй адказаць? Можа так і пакінуць бяз усякага адказу? Зыкаў забудзецца аб сваім запытаньні, пройдзе час, і яны будуць зноў проста так кахацца. Ёй калола нешта ў сэрцы, калі прыходзіла думка, што Зыкаў можа зусім кінуць бачыцца з ёю, калі яна не адкажа згодаю на яго прапанову. Ёй было і страшна, і соладка.

Пятрусь Мікалаевіч быў надта занепакоены тым выглядам, які мела дачка на другую раніцу. Палаўшы яе твар, сухія патрэсканыя губы, бліскучыя вочы прыдавалі ёй выгляд хворае. Ён з пяшчотай падышоў да яе і пачаў прасіць, каб яна лягла ў пасьцель, ня выходзіла-б, пакуль не наведаецца хоць фэльчар, які быў у вёсцы. Слухаючы перапалоханы голас бацькі, яго ласкавую клапатлівасьць, Зося горка думала аб тым, што ёй нават няма з кім параіцца, няма каму расказаць аб сваіх сумненьнях і сваім шчасьці. Пры гэтай думцы ёй стала яшчэ больш крыўдна на сьвет, яшчэ больш шкада самой сябе. Напружнасьці ўсіх адчуваньняў яна ня вытрымала і залілася гарачымі сьлязьмі.

— Што з табою, галубка мая?—запытаўся бацька, зусім зьбіты з панталыку.

Зося абхапіла яго шыю рукамі і бяз сілы схілілася галавою яму на грудзі. Плач доўга не даваў ёй гаварыць.

— Татачка, родны! Дапамажы мне!—скрозь плач вырываліся ў яе паасобныя словы.

— У цябе баліць што, Зосечка?

— Нічога ў мяне не баліць!—выкрыкнула Зося.—У мяне на сэрцы гарыць, галава круціцца, я ня ведаю, што рабіць. Дапамажы мне, як бацька, як родны, чаго ніхто ня зробіць.

— Ну, скажы-ж, у чым дапамагчы табе?

— Вось... скажы... ісьці мне замуж ці не?—апошнія словы яна вымавіла скарагаворкаю і задыхнулася.

Пятрусь Мікалаевіч страпянуўся, сполах яго крыху разышоўся. Нават хітраватая ўсьмешка паказался на яго губох.

— За каго?—Ён ужо весела глядзеў на дачку, чакаючы адказу.

— За... за... Зыкава!—адказала яна і схавала галаву пад бацькаў пінжак.

— Можна было-б і пачакаць табе з замужам, ты яшчэ толькі-толькі вышла з падлеткаў. Ну, але... Што-ж, ён прасіў цябе аб гэтым і ты згадзілася?

— Я нічога яму не адказала, спалохалася. Але я ведаю, што кахаю яго!—ціха, пачырванелая, як вішня, прызналася яна.

— Ну, добра, што запыталася ў мяне. Я пярэчыць ня буду, хоць „малады“ ён—ня зусім звычайны. Настаўніцкая дачка за каго звычайна ідзе? Ну, за дзяка, пісара, настаўніка, паштавога чыноўніка і іншую службовую „братию“. Зыкаў-жа—ні то рабочы, ні то тэхнік, сёньня тут, заўтра з трыдзевяць зямель. Адкуль ён сюды прышоў, што з ім было раней—нікому няведама. Які будзе ён муж, сказаць нялёгка. Чалавек ён, відаць, ня кепскі, для свайго стану разумны і здатны. Калі кахаецеся, то выходзь. Я не хачу камандаваць у гэтым.

Гэтыя сухаватыя разважаньні бацькі ня толькі не дапамаглі Зосі знайсьці адказ на тое, што мучыла яе, як дзяўчыну і кабету, але посеяла яшчэ больш смутку ў яе сэрцы. Бацьку таксама здавалася будучыня шлюбу няпэўнаю, хоць ён разглядаў гэтую будучыню зусім з іншага боку.

— Я сама падумаю аб гэтым,—спаўшым голасам прагаварыла Зося, і спалохалася за сваю самастойнасьць у такім пытаньні.

На службу яна не пашла, увесь дзень хадзіла, як няпрытомная; падвечар зайшла да Кавальчыкаў, у хату Зыкава, і пакінула там пісульку.

Зыкаў зьявіўся нават раней, чымся вызначана было ў лісьце Зосі. З твару яго быццам сыпаліся праменьні радасьці. Самы ліст ужо сьведчыў аб тым, што ўчарашняя прапанова яго не адкінута.

Пятрусь Мікалаевіч сустрэў яго ветліва, але няёмкасьць старога адчувалася даволі выразна.

Зося, змучаная бяссоннаю ноччу і беспакойным днём, прывіталася з Зыкавым так напружана, што ў таго зусім апала сэрца. Зыкаў бачыў, што аб яго прапанове шлюбу ведае ўжо і бацька. Гутарка ніяк не завязвалася, пачуцьці ва ўсіх траіх былі напружаныя.

— Пятрусь Мікалаевіч, выбачайце мяне, калі я выйду ў клясу і папрашу Зосю Пётраўну паказаць мне вучнёўскую бібліотэку: я даўно хацеў азнаёміцца з ёю. Вы не адмовіцеся?—зьвярнуўся Зыкаў перш да бацькі, а потым да Зосі.

— Калі ласка,—усьміхнуўся стары на гэтую ясную для яго хітрасьць.

Зося моўчкі пашла ўперад з лямпаю ў руцэ. Шкло дрыжэла і дробна зьвінела. Твар дзяўчыны то бялеў, як крэйда, асьветлены лямпаю, то зеляneў, калі на яго падаў цень ад абажура. Гэтыя зьмены сьвятла і ценяў надавалі Зосі суровы выгляд, які мала стасаваўся і з яе ўзростам, і з яе натураю.

— Я думаю, што ты не сярдуеш на мяне за ўчарашнія мае словы? Але-ж у цябе такі... такі асаблівы выгляд, Зося?

— Мне надта цяжка,—ледзь адказала яна.

— Страшна замуж ісьці? А як-жа з каханьнем, Зосенька? Я больш мучыцца не магу,—з нахлынуўшым, як паводка, пачуцьцём прагаварыў Зыкаў і абхапіў дзяўчыну ў магутным уздыме.

Яна хісталася, як тонкая галінка плакучае бярэзіны пад ветрам, і замёрла на яго руках.

— Я згодна на ўсё, што хочаш,—слаба прашаптала яна, і губы яе зьліліся з яго губамі.

Яшчэ нямоцную пасадзіў ён Зосю на ўслончык парты, а сам з лямпаю падышоў да шафы і нібыта пачаў разглядаць кніжкі. Але раптам другая рука ўзялася за лямпу і паставіла яе на вакно.

— Ну, дагоніш мяне ці не?—і Зося віхрам панеслася між партамі, па партах, пераскокваючы з аднэй на другую. Зыкаў першы раз голасна расьсьмяяўся, махнуў рукамі і пусьціўся лавіць яе. Але яго буйнаватая фігура кепска спраўлялася з вузкімі праходамі, з невядомымі яму паваротамі. Удабавак акуляры яго ляпнуліся на падлогу; зазьвінела жаласна выскачыўшае шкельца.

— Эх, ты бягун! І як ты адтуль уцёк?

Зыкаў зразумеў гэты шутлівы ўпік. Аднак, хоць гэта былі і жарты, але яна прыпыніла яго вясёласьць. Зоя таксама прыціхла пад уплывам гэтых слоў, якія яна сказала нават не абдумаўшы. Прыціхшыя, вярнуліся яны да Пятруся Мікалаевіча, якому Зыкаў крыху ўрачыста абвесьціў аб тым, што ён жадае жаніцца на Зосі.

— Благаслаўляць вас?.. э... ня... веру я і сам у гэта. Проста жадаю вам шчасьлівага сумеснага жыцьця,—дрыжачым голасам прагаварыў стары і з мокрымі вачмі пацалаваў Зосю і зяця.

— Шануйце яе, яна яшчэ зусім блазан.

Блакітныя агенчыкі скакалі з вачэй Зосі. Яна, слабая, абаперлася на руку Зыкава.

— У галаве ў мяне ўсё пераблыталася,—як праз сон прагаварыла яна.

Стары вышаў за дзьверы. Яны селі на канапу і моўчкі з захапленьнем глядзелі ў вочы. Раптам сударга прайшла па целу Зосі, і іскры зацьмелі ў яе прамяністых вачох.

— А калі даведаюцца, што ты ня Зыкаў?—Рука Зосі, ляжаўшая на плячы яго, саслізнула ўніз.

— Гэтага не павінна быць,—цьвёрда адказаў Зыкаў.

— Мне ўсё-ж страшна,—шаптанула яна.

— Цяпер перад намі абоімі вялікая праца. Ты побач са мною пойдзеш па шляху барацьбы са старым за новае, і трэба мець для гэтага належную адвагу.

— Я разумею, я рада быць з табою, але-ж вось нічога не зраблю са страхам.

— Зося, мы яшчэ не зламалі жыцьця адзін аднаму і... калі ты адчуваеш якую-небудзь няпрыемнасьць або непаборную цяжкасьць, дык... можна... разыйсьціся. Толькі мне гэта было-б страшна цяжка... так цяжка.

— Не, не! Толькі ня гэта! Я перамагу сваю боязьнь, спрабую забыцца аб тым, што ты ня Зыкаў. Я з табою буду заўсёды, Паўлючок!

Зося зноў прытулілася да яго, гладзіла яго валасы, шукала яго руку. Але ўсё-ж блакітныя агенчыкі яе вачэй ня былі такімі жвавымі. Часта погляд яе быў такім, быццам яна ўглядалася ў нязьмерную далячыню або, наадварот, у сярэдзіну самой сябе. Не змаглі канчаткова ажывіць яе і лёгкія вясёлыя гутаркі Зыкава аб розных здарэньнях, якія яму даводзілася наглядаць пры яго рознастайных занятках і вандраваньнях. Так і пакінуў ён засмучаную ў глыбі сваю маладую.

Засмучаным вышаў ад настаўніка Зыкаў. Што будзе, калі пад уплывам сваіх пачуцьцяў каханьня Зося дала згоду на шлюб, а страх перад яго мінулым і будучыняю ў яе застанецца? Яна будзе ўсё часьцей ды часьцей падпадаць пад уплыў гэтага страху, жыцьцё гэта ёй надакучыць, і замест радасьці будзе для яе адна нэндза. Можа ёй больш падыходзіла-б супакойнае жыцьцё, забясьпечанае больш пэўнымі ўмовамі? Але-ж Зося з самага пачатку іх знаёмства здавалася яму шмат вышэй звычайных „барышен". Яна мела жвавасьць, імпэт, захапленьне, адзыўнасьць на гора іншых, яна можа зрабіцца партыйнаю работніцаю. Да ўсяго гэтага яе хараство, яе поўныя цяплыні і каханьня да яго вочы, яе гарачыя, як вугалі, губы... У Зыкава зайшлося ў галаве ад успаміну аб пацалунку ў клясе сёньня... Не, гэты страх—часовы. Можа проста ў Зосі падвышаная нэрвовасьць пасьля дня і начы, на працягу якіх яна ня зводзіла ва сьне вачэй. Бязумоўна, ён даможацца перамагчы гэты яе страх, а тады ўсё добра будзе... Пасьля пабудовы паперні ён тут не застанецца: трэба будзе падацца куды-небудзь у горад, дзе больш партыйнае працы і дзе можна будзе даць належную працу і Зосі. Каханьне ў сумеснай, агульнай працы па аб'яднаньню рабочых на барацьбу за лепшую будучыню—гэта вышэйшая, найбольш поўная форма жыцьця. І ён даможацца гэтага. Зося самаахвярна, Зося таксама кахае яго.

Настрой яго падняўся. Ён прайшоўся па гасьцінцы, павольным крокам ішоў да свае хаты. Дзе-ні-дзе вокны ў хатах былі ярка асьветлены. Адтуль несьліся дзявочыя сьпевы, моцная гутарка і рогат хлапцоў. Самая пара вечарніц. Зыкава так падмывала радасьць, што яму хацелася зайсьці на вечарніцы, рагатаць і сьпяваць разам з хлапцамі і дзяўчатамі. Ён нават не падумаў, што з маленства, як паехаў у горад, ня бываў на такіх вечарніцах. Падышоўшы да сяней бліжэйшае хаты, ён ужо ўзяўся за клямку. Але раптам дзьверы адчыніліся і ў іх вылезла спачатку калматая галава прасьніцы, а за ёю другая—дзявочая галава, потым і ўся фігура ў кажушку.

— Ды гэта ты, Ануля?—прыгледзеўшыся, весела сказаў ён.

— Ну, а то хто-ж? А чаго вы тут, да дзяўчат, ці што?—у свой чарод запыталася Ануля, пастараўшыся асабліва падкрэсьліць слова „дзяўчат".

Зыкаў крыху заблытаўся.

— Вы-ж сьвяты,—насьмешна гаварыла Ануля,—да дзяўчат ня ходзіце, толькі за паненкамі круціце.

Гануля ішла дадому з вечарніц. Зыкаву было ўжо ніякава сунуцца ў чужую хату, і ён пашоў дадому разам з Гануляю.

— А ведаеш, Гануля, я жанюся,—ня ўстрымаўся, каб не пахваліцца, ён.

— Як-жа, на паненцы! Гэта навіна, можа, для вас.

Зыкаў быў зьдзіўлены. Больш таго, у голасе Ганулі адчувалася такая гострая варожасьць да яго, што ён быў надта зьбянтэжаны.

— Мужык вы, лапцюжнік, а за паненкаю ўвязаліся! Не дачакаецеся, каб я ўжо так шмуглявала падлогу ў вас у хаце!—зусім злосна прагаварыла яна ўжо ў сенцах, адкуль яны павінны былі разыйсьціся: Гануля ў курную, а Зыкаў—у чыстую хату.

Яна бразнула прабоем. Зыкаў ніяк ня мог зразумець, чаго раззлавалася на яго Гануля; не дагадацца яму было і аб тым, адкуль яна ведае, што ён былы селянін.

„Звычайная, мусіць, ваўкаватасьць вясковае дзяўчыны“, дастаючы з палічкі кніжку Горкага, падумаў ён. Прачытаў ён разы два „Буревестник“, хадзіў доўга па хаце, пробаваў чытаць яшчэ што іншае, але зараз-жа пакідаў: ня чыталася, нутраныя званочкі не давалі ні спаць, ні чытаць...

На другі дзень Зося, ня выходзіўшая яшчэ на службу, была надта зьдзіўлена, што бацька яе, распусьціўшы дзяцей з школы раней звычайнага часу, пачаў прыбірацца. Ён выцягнуў хоць крыху рыжаватую, але крухмаленую бялізну і застарэлы гальштук. Быў вынесены на сьвятло з шафы і пацёрты старэнькі сурдут. Зося амаль і ня помніла бацьку ў такой вопратцы.

— Куды ты зьбіраешся, татка?—зацікавілася яна.

Пятрусь Мікалаевіч адказаў не адразу: яму было няпрыемна паведамляць аб гэтым дачку.

— Ці не да папа ты? Такі ўрачысты выгляд у цябе,—ня іначай як для перамоў з папом аб шлюбе.

— Так, так да папа!—пасьпяхова падхапіў ён.—Трэба-ж з ім пагаварыць, спытацца, калі-б ён параіў абвянчаць вас.

— Можа гэта і непатрэбна было-б — раіцца; ну, але як сабе хочаш.

Настаўнік, сьпяшаючыся, вышаў з дому, прагнучыся ня глянуць у бок Зосі. Яна бачыла ў вакно, як ён сапраўды пашоў у бок царквы.

Але Пятрусь Мікалаевіч толькі крыху прайшоў у гэтым кірунку. Хутка ён павярнуўся ў другі бок і шпаркім крокам нарыхтаваўся да маёнтку. Нешта гнала яго ўперад, пакуль ён быў на адчыненым месцы шляху. Апынуўшыся на галоўнай алеі, дарозе за дрэвамі, дзе яго нельга было бачыць са школы, ён стрымаў сваю хаду, і чым бліжэй падыходзіў да палацу, тым больш мятусіліся яго ногі, быццам чапляліся адна за другую. Прыпыніўшыся каля галоўнага ганку, ён упаў у задуменнасьць, але, урэшце, страсянуў галавою і схаваўся за дзьвярыма. Вышаўшаму насустрэч лёкаю ён сказаў, каб той правёў яго да пана.

Ляскоўскі прыняў настаўніка ў тым самым габінэце, дзе некалькі месяцаў таму назад ён разьюшаваўся над яго дачкою. Акінуўшы вокам урачыстае, хоць і жаласна-пажоўклае адзеньне свайго госьця, пан Ляскоўскі агідна ўсьміхнуўся.

— Што гэта вы такі зухаваты сёньня, пане настаўнік? — з чуць прыкметнаю ўсьмешкаю запытаўся ён, прапануючы Пятрусю Мікалаевічу крэсла.

— Ня часта я наведваўся да вас, пане, а на гэты раз я асабліва хацеў падкрэсьліць сваю пашану да вас,—крыху хвалюючыся, прагаварыў стары.

Гаспадар яшчэ больш выразна ўсьміхнуўся. Яго, мусіць, забаўляў выгляд настаўніка, у якім злучалася заношаная прымітыўнасьць з нейкаю знарок нібы зробленаю ўрачыстасьцю. Пятрусь Мікалаевіч адчуваў, якое ўражаньне робіць ён на пана, і праз гэта ў ім ачнулася саромлівасьць і паразуменьне сваёй нязграбнасьці. Але больш усяго непакоілі яго іншыя думкі.

— Ну, дык чым я мушу быць вам карысны?—пакінуўшы ўсьміхацца, запытаўся Ляскоўскі.—Вы-ж ня проста так сабе зайшлі да мяне, аб гэтым сьведчыць ваш парадны выгляд.

— Я... я да вас па вялікай справе.

— Слухаю.

— Мая дачка выходзіць замуж,—як стукнуў голасам настаўнік.

— І вы прышлі прасіць мяне шаферам? Ха-ха-ха!—Сардонічны сьмех закалыхаўся ня толькі ў габінэце, але пранёсься і па другіх пакоях.

Пятрусь Мікалаевіч турзануўся ад гэтага сьмеху. У ім ён адчуў такую глыбокую няпрыязьнь да сябе, што ня мог адважыцца падняць вочы на пана. Губы яго нібы былі сьціснуты абцугамі.

— Не ад вас першага чую я, што ваша дачка зьбіраецца замуж: нават ведаю за каго. Вы крыху позна прышлі паведаміць мяне, але і на тым дзякуй.

Ляскоўскі ўпарта разглядаў свайго госьця, які, быццам прыціснуты нязьмерным цяжарам, схіліўся над сталом. Ляскоўскі ўспомніў, як каля гэтага самага стала ён сьціскаў у сваіх руках цёплае маладое цела Зосі, як яна з нечаканаю сілаю адбівалася ад яго... і высклізнула з рук у самы палкі момант яго жаданьня. Думка завалодаць гэтай дзяўчынай зноў усхвалявала яго, як і кожны раз, калі якая-небудзь прычына абуджала ў ім успамінак аб ёй. Гэтая думка крыху згладзіла колкасьць яго адносін да Пятруся Мікалаевіча.

— Я пакпіў крыху. Ведама, вы прышлі да мяне ня з тым, каб прасіць быць шаферам у вашае дачкі або ў майго-ж рабочага. Вы маеце нешта іншае да мяне, дык, калі ласка, скажэце,—зусім мякка ўжо прагаварыў Ляскоўскі.

Пятрусь Мікалаевіч не адразу акрыяў пад праменьнямі панскае ласкі. У яго вушах усё яшчэ гучэў злыдны сьмех Ляскоўскага. Адзін момант

ён нават намерваўся разьвітацца з панам і кінуць тое, за чым прышоў. Але больш моцныя спрунжыны прыціскалі яго да крэсла, і ён паволі ўцішваў у сабе тое абураньне, якое закіпела ў ім ад першых слоў пана і яго насьмешкі.

— Так, пане,—ціха загаварыў настаўнік,—вы не даслухалі мяне, а я маю да вас вялікую просьбу...

Ляскоўскі бачыў, што Пятрусю Мікалаевічу ня лёгка гаварыць; значыць, тут ёсьць нешта ня зусім звычайнае. Цікавасьць яго была ўсамдзеле падштурхнута.

— Кажэце, кажэце, я ўсякую вашу просьбу выканаю.

— Бачыце, шаноўны пане, мая дачка зусім паасобнаму хоча выйсьці замуж. Гэты Зыкаў усё-ж толькі рабочы, становішча яго няпэўнае.

— Так, так! Ваша дачка ўсё-ж паненка, мае асьвету, далікатная, і вы правідлова думаеце, што гэты мэханік ёй не падыходзіць.

— Але-ж я ня маю намеру супярэчыць ёй. Кахае—няхай ідзе сабе.

Рыска нездаволенасьці прамільганула па твары Ляскоўскага. Мільганула і схавалася за ўважліва-прыветным абліччам яго.

— Дык у чым-жа справа да мяне?

— Я вось і прасіў-бы вас дапамагчы ім. Можа будзе ваша ласка даць магчымасьць жыць Зыкаву не ў сялянскай хаце, а падругое — пакінуць яго на сталую працу на паперні. Мне цяжка было-б думаць, што мая дачка бадзяецца, ня маючы пэўнага прытулку.

Ляскоўскі ізноў пусьціў агідную ўхмылку.

— Вам, народніку, не падабаецца, каб дачка ваша жыла ў сялянскай хаце? Ну, добра, гэта мы зможам зрабіць. Што-ж належыць да Зыкава, то я ім быў задаволены да гэтага часу і буду цаніць яго, як рабочага.

— Дык вы дапаможаце ім, вы ўважыце маю просьбу?—задаволены пытаўся Пятрусь Мікалаевіч, устаючы лёгка з крэсла.

— О, будзьце ўпэўнены: ваша дачка ня будзе жыць у сялянскай хаце.

Настаўнік зрабіў нізкі ўклон. Выходзячы за дзьверы, ён не пачуў сьмеху Ляскоўскага.

— Твая дачка ня будзе жыць у сялянскай хаце! Ха-ха-ха!—рагатаў пан, выклікаючы лёкая.

Ён паслаў яго за бухгальтарам.

## V

Абсталяваньне папяровае фабрыкі набліжалася ўжо да канца. Вялізарныя катлы былі сабраны і ўмацаваны на цэмантовых пастамэнтах; ад іх тоўстымі, ламанымі вужамі пацягнуліся параправоды. Заставалася прывезьці і паставіць самую важную і найбольш далікатную частку абсталяваньня—самыя папяровыя машыны. Яны былі заказаны Ліўшыцам недзе ў Нямеччыне і павінны былі з дня на дзень разабранымі прыбыць на бліжэйшую станцыю чыгункі. Дзеля гэтага Зыкаў зусім ня быў зьдзіўлены, калі

дні праз тры пасьля таго, як была зроблена ўмова аб шлюбе, раніцою атрымаў загад ехаць на станцыю па машыны. Як толькі Зыкаў зьявіўся на работу, да яго падышоў ружовы інжынэр (ён так добра сьпяваў романсы пад акомпанімэнт панны Ляскоўскае!) і аддаў загад ехаць. Ехаць—безадкладна і як мага хутчэй. Толькі і падзівіўся Зыкаў, што гэтай пасьпяховасьці: інжынэр ніколі ня прыходзіў на месца работы па гудку, а так—гадзіне аб адзінаццатай, па другое-ж—каля агарожы паперні стаяў ужо запрэжаны ў вазок конь.

— Дык вось, сядай—і марш на станцыю! Там у вазку ўсё ёсьць—кажух і валёнкі,—гаварыў вясёлы інжынэр. – Трэба сьпяшацца, бо дарэмна прастаяць вагоны, прыдзецца за іх плаціць. Так... Ага! Хурманкі пашукаеш у мястэчку, што каля станцыі... Калі-ж машыны ня прыехалі, дык чакай іх, пакуль не прывязуць. Усё зразумеў?

Зыкаў коратка ўсьміхнуўся.

— Бадай усё—мудрага ў гэтым нямнога.

— Ну, дык садзіся і гані!

Праз некалькі хвілін Зыкаў, уваліўшыся цяжкім снапом у вазок, крануў каня, які, застаяўшыся на марозе, адразу хутка панёс. Праз момант вазок выскачыў на гасьцінец, у шэрані перадранішніку прамільгнуў сылюэт школкі.

— А як-жа паведаміць аб ад'езьдзе Зосю?—мільганула ў яго запытаньне.

Гэтая думка-запытаньне страсанула радасьцю сэрца. Раней ніколі ня было патрэбы паведамляць каго аб такім здарэньні, як кароткі ад'езд, а цяпер зьявілася такое пачуцьцё, як нешта ня пускае ехаць. Ён прытрымаў каня, спыніў, прывязаў лейцы за плот. Узышоў на засьнежаны ганак школкі, падняў руку пастукаць у дзьверы. Але цішыня і спакой, якія несьліся ад цьмяных вакон настаўніцкае кватэры, стрымалі яго. Сышоўшы з ганку, ён прастаяў некалькі хвілін нярухома перад вакном, пакуль заіржаўшы конь ня прывёў яго да сапраўднасьці. Ён сеў у вазок, абвёў доўгім поглядам вокны, брамку, нават голыя дрэвы за плотам і ступой ад'ехаў.

Праяжджаючы вёску, Зыкаў зноў прыпыніўся, на гэты раз каля хаты Сымона Кавальчыка, дзе ён кватараваў. Ён убег у хату і падняў грукат, шукаючы сярнічкі, каб запаліць лямпу. На гэты грукат на „чыстую“ палавіну заскочыла сьперш Гануля, а потым і старая Сымоніха.

— Што, што здарылася? Сымон, хадзі сюды: нехта зайшоў у хату!—сполахна загаласіла старая.

— Ды гэта-ж я—Пятро!—са сьмехам супакоіў гаспадыню Зыкаў.

Сярнічкі былі знойдзены, лямпа асьвятліла хату. Гануля і яе маці, зьдзіўленыя нязвычайным прыходам Зыкава, а яшчэ больш—яго раскошнаю цёплаю вопраткаю, стаялі нярухома каля парога і ва ўсе вочы пазіралі на свайго кватаранта. Той-жа дастаў з куфэрка невялічкі кавалак паперы ды конвэрт і пачаў нешта чыркаць: пёрка аж трашчэла ў яго руцэ-

— Хто адважваецца ўваходзіць?.. А! гэта вы самі, „таварыш“ Зыкаў, ці як яшчэ вас там завуць! Уваходзь!

З падлогі, якая была засыпана папераю, кніжкамі, паднялася кругленькая фігурка, абцёрла хустачкаю каленкі і крыху боязна зірнула ў бок дзьвярэй.

— Вы, калі ласка, заходзьце, заходзьце, пане майстар! Вы напэўна ведаеце мяне: я бухгальтар Пісарэўскі, у мяне працуе панна Зося.

Зыкаў адарваўся ад дзьвярэй і са сьціснутымі кулакамі пашоў уперад.

— А што-ж вам патрэбна тут, пане Пісарэўскі, і вам таксама, пане вураднік? Хто вам дазволіў разбураць мае рэчы? Гэта брыдка!

Бухгальтар кінуў позірк на твар Зыкава і дробнымі крокамі, нават мала прыкметна пачаў адыходзіць да дзьвярэй. Як толькі ён апынуўся каля самага парогу, нярухомы вураднік выявіў надзвычайную жвавасьць. Раптам блиснуў у яго працягнутай руцэ доўгі, як пушка, пісталет.

— Ты арыштаваны, не варушыся! Мы маем весткі, што ты—заядлы рэвалюцыянэр, а кніжкі і паперы, якія знойдзены намі, гэта пацьвярджаюць.

На нейкую хвіліну Зыкаў страціў усякі розум. Потым перад ім паўсталі два голыя вострыя факты: Зося ў пана і гэты арышт. Нікому тут, апроч Зосі, не гаварыў ён аб сваёй сапраўднасьці. Няўжо-ж яна змагла двойчы прадаць яго? Зося?! Ясная, як сонца, дзяўчынка? Гэтыя вострыя думкі віхрам пранесьліся ў яго галаве пад пагражаючым поглядам двух шэрых—вураднїцкіх і аднаго чорнага—пісталетных вачэй.

— Пане Пісарэўскі,—загадаў сухім голасам вураднік,—пашукайце ў яго кішэнях!

— А чаго там шукаць?—нясьмела прамовіў той, не адыходзячы ад дзьвярэй.

— Вы ня ведаеце чаго? Вядома, ня хустачак! Ды ня бойцеся вы, нічога ён вам ня зробіць, бо не ўцячэ.

Бухгальтар Пісарэўскі ледзь адліп ад вушака, дзе ён, здавалася, гатоў быў стаяць усю ноч. Крадучыся, як кот на мыш, пачаў ён набліжацца да Зыкава. Вось ён сунуў ужо адну руку ў кішэню кажуха, які даў Зыкаву інжынэр, пасылаючы яго на станцыю. Удалы пачатак, мусіць, надаў сьмеласьці бухгальтару, і ў другую кішэню ён палез ужо бяз дрыжачкі ў руках. Зыкаў цяжка ўздыхнуў, але стаяў нярухома. Ён ня зводзіў ні на момант сваіх вачэй з твару вурадніка.

— Вось тут нешта важкае!—сполахна хрыпануў бухгальтар.

Зыкаў адчуў, што той дакрануўся да рэвальвэра, але вочы яго неадчэпна сачылі за руляю вураднїцкага пісталету.

— Ды мацайце вы там хутчэй!—нэрвова крыкнуў вураднік. Вочы яго скасіліся на момант на бухгальтара.

Раптам нешта цяжка грукнула аб ножку стала. Бухгальтар адскочыў, як гумавая куля, ад Зыкава. Вураднік сьмешна ікнуў, быццам што зьеў

сухое; адтапыранаю рукою ён прогся выцягнуць з похвы шаблю. Але не пасьпеў: у момант цяжкі кулак Зыкава кінуў яго на падлогу. Зыкаў са сьціснутымі зубамі і налітымі кроўю вачмі схапіў з падлогі цяжкі даўжэразны пісталет вурадніка; у цішыні хаты храпнулі-хліпнулі два размераныя гукі. За імі—трэці, але ўжо падобны да крыку цяляці, якому заціскаюць рот перад тым, як рэзаць.

Гэты крык абудзіў Зыкава. Ён кінуў пісталет, зірнуў яшчэ раз на грузкае цела ў шэрым шынелі. Яно варушыла нагамі, скрабло пальцамі рук па падлозе, нібы хацела згрэбці раскіданыя там паперы. Зыкаў нахіліўся, падняў некалькі кніжак і панёс іх да абернутага куфэрка. За нешта зачапіўся кажухом: пан Пісарэўскі слупам стаяў, рот яго лавіў паветра, твар быў белы, як папера. Зыкаў толькі цяпер заўважыў, што той стаіць; ён замахнуўся на яго кулаком, але не пасьпеў выцяць, бо пан Пісарэўскі, заенчыўшы, як перад сьмерцю, кінуўся куляю за дзьверы.

— Зловяць мяне цяпер,—падумаў Зыкаў, і кінуўся таксама на вуліцу. Цяжкі кажух, які замінаў яму бегчы, ён сьцягнуў з сябе, не прыпыняючыся, і кінуў на дварэ Кавальчыка.

Сымон Кавальчык высунуў з-за вушака свой пэргамэнтны твар, прыслухаўся і ступіў цераз парог у „чыстую“ хату. Пара, што валіла белымі хвалямі з халодных сенцаў, шкодзіла яму бачыць, што рабілася ўнізе. Ён пераступіў разы два-тры—і жахнуўся, заўважыўшы вурадніка ў калюжыне крыві. Як гэта здарылася, ён ня мог уцяміць, бо калі вураднік прыйшоў да яго, то загадаў усім сядзець дома і ня соваццa ў хату, дзе жыў кватарант. І вось такое здарэньне! Гэта-ж забойства зваліцца на яго самога, на яго сям‘ю.

— Хутчэй выцягнуць яго на вуліцу з усімі яго прычындаламі!—загадаў ён сваім, склікаўшы ў новую хату.

Жагнаючыся і трасучыся, вывалаклі вурадніка на вуліцу і кінулі там, а потым кінуліся скрэбці падлогу, адціраючы кроў. Старая Сымоніха стагнала, жагналася, няпрытомна мармытала.

— Казала я, што дабра нам ня будзе, як пусьцілі ў хату гэтага гарадзкога андуфэльта! Эх-ха, а ўсё дурная я, дурная... тыкаеш мне ў нос дурною... Ну, што цяпер будзе?

— Вядома, бяда!—уздыхаў Сымон.—Але няма чаго прычапляць сюды гэтага хлопца... І пярун яго ведае, як гэта ўсё шчаўплося? Ратуй ты, божа, ад хваробы...

Знадворку пачуліся крокі. Вось ужо стукаюць і ў сенцах. І Сымон, і яго старая Ганупя, і сыны акамянелі там, дзе хто стаяў ці ў якім стане быў. Ганупя так і засталася, нагнуўшыся з анучаю ў руцэ і разяўленым ротам, а маці—як ліла ваду з вядра, так і трымала яго нахіленым, хоць яно ўжо было пустое... У хату ўвайшлі два чалавекі, закручаныя башлыкамі так, што твараў іх нельга было бачыць. Адзін стаў каля парога, а другі прайшоў уперад.

— Ведаеце, людцы,—ляскаючы зубамі загаварыў Сымон,—мы вось сёньні вяпрука закалолі... і... сьвежавалі тут, пакуль няма нашага кватаранта...

Але прыйшоўшыя ня слухалі яго. Той, штс зусім увайшоў у хату, выцягнуў аднекуль з-пад кажуха посьцілку і бярэмамі пачаў скідаць у яе кніжкі, паперы, рассыпаныя па ложку, на стале, на падлозе. Ён так пасьпешна сабраў іх, што Сымоніха нават не пасьпела адыйсьці і вымавіць хоць слова. Праз хвіліны дзьве-тры толькі сьнег прарыпаў усьлед гэтым невядомым людзям. Яшчэ доўга моўчкі стаяла сям'я Кавальчыка, ледзь пераводзячы дух.

— Няхай бог крые! Што-ж гэта чаўпецца з намі?—усхліпнула са страху старая.

— Хутчэй хадзем класьціся, тушы агонь,—скамандаваў Сымон, а сам застаўся вартаваць у сенцах.

*Працяг будзе*

# ФРАКЕЕЦ КІЛОН

## Андрэй Упіт

Палонныя ляжалі доўгім шэрагам, зьвязаныя папары. Рукі і ногі былі ў іх скручаны разам на сьпіне высахшымі бычачымі рамянямі. Папары— відаць, з тэй мэтай, каб, торгаючыся ў сударгах і корчах, яны павялічвалі-б адзін аднаму пакуту. А магчыма дзеля таго, каб не рабілі спроб паадным выкаціцца з паласы сьвету, які ішоў ад вогнішча, і кінуцца ў прорву паміж скаламі. Але, магчыма, гэткі спосаб прыдумаў проста які-колечы камандуючы афіцэр, у выабражэньні якога ўжо больш не заставалася ніякага іншага спосабу катаваньня.

У стаптаных, пыльных сандаліях, у касцы [1]), але бяз броні, толькі з мячом у руцэ, уздоўж шэрагу палонных паволі туды і назад хадзіў стары легіянэр.

Магчыма было-б падумаць, што ён ходзіць тут дзеля ўласнае прыемнасьці, калі-б не яго разьмерана-важкая хада і калі-б па лязу мяча не цягнуліся запекшыя бурыя палосы крыві. Калі ён нагінаўся, каб падкінуць у вогнішча палена дроў, яго рукі, нібы ў чырвоных рукавіцах, блішчэлі да самага лакця. У сівой барадзе таксама былі чырвоныя плямы, здавалася нават, што нешта капнула і ў вочы.

Бітва скончылася часоў шэсьць назад, яшчэ на змроку. Цяпер у поцемках чуваць толькі выгукі вартаўнікоў наўкола пляцу з палоннымі. На сто крокаў ніжэй, на самым краю горнага шляху гучаць удары молатаў. Уздоўж шляху замала расьце дрэў, каб прыбіць шэсьць тысяч палонных нявольнікаў—дадаткова патрэбны яшчэ крыжы. Праз дзьве гадзіны, калі Марк Ліцыні Крас накіруецца з Капуаса ў Рым,—жывая алея павінна быць гатова.

Салдатам здавалася, што чакаць дужа доўга. Далей управа, дзе дарога вядзе ўгару, гарэла другое вогнішча. Там пры больш моцным агні, з цемры высока падымаўся крыж з прыцьвікаваным да яго чалавекам. Нядбайна прыбітая перакладзіна перакасілася, тулава прыцьвікаванага схілілася так, што падбародак немаль датыкаўся да кален яго. Калі на момант прыціхалі ўдары сякерай, там згары былі чутны крыкі, быццам хрыплы вой недарэзанага ваўка. Тады легіянэр спыняўся, адкідаў сівую грыву назад і, закрываючы рукою вочы ад свайго вогнішча, рабіў спробы лепш разгледзець.

---

[1]) У шоламе.

Кілон і Гіпні ляжалі апошняй парай у чарадзе. Зусім неспадзявана яны апынуліся разам. Гіпні быў адным з тых першых адважных, хто разам са Спартакам вырваўся з турмы гладыятараў у Капуасе і вызваліў іншых нявольнікаў. Ён прыймаў удзел ва ўсіх вайсковых падзеях паўстанцаў, тымчасам як Кілон пасьціў статак Лентула Бантуата. Толькі пасьля таго, калі Спартак са сваёю дружынаю прарваўся скрозь акружэньне ў лясох Бруціі ды зноў падыходзіў да Рыму, ён кінуў свой статак і ўцёк да галійцаў Эномая, а потым далучыўся да палка свайго земляка Спартака. Толькі ўчора пасьля палудня, калі загінуў іхні атаман і легіёны Краса лавілі іх, як бешаных сабак, па ўсяму прыгор'ю, ён раптам спаткаўся са старэйшым братам... Так яны разам трапілі ў палон і цяпер ляжалі побач у канцы чарады на прамокшай зямлі і чакалі, калі іх пацягнуць да прыдарожнага дрэва або на крыж, як таго там.

Сьпіны ў іх былі адна каля аднэй. Яны ляжалі на баку і кожны ўсімі фібрамі цела адчуваў самую малую дрыготку ў целе другога. Як гэта ні дзіўна, у адступленьні Кілон застаўся нават без параненьняў. Яго даўгія жоўтыя валасы абкружылі шыю брата, ён адчуваў, як кроў Гіпнія з раны ў шыі мочыць іх і яны моцна прыліпаюць да яго шыі. Ён сьціснуў зубы, высахшыя губы патрэскаліся і гарэлі, як у агні.

Застагнаўшы, ён адчуў штуршок локцем брата ў рабро і пачуў гняўлівы шэпт:

— Ціха!.. ці я цябе задушу сваімі ўласнымі рукамі.

Кілон ня сьцяміў усёй бязгрунтоўнасьці гэтае пагрозы пры створаным становішчы. З павагі ды страху да старэйшага брата ён стараўся затрымаць нават дыханьне. Да гэтага часу ён думаў, што рукі брата несьвядома корчацца ў сударгах, але цяпер ён пачаў разумець, што той шавеліць імі з таямнічай мэтай і пляновасьцю. Яго ўласныя рукі быццам здубянелі і нічога не адчувалі. Але кожнае датырканьне да пляча калола нібы войстрым цьвіком. Усё часьцейшымі і больш балючымі рабіліся ўколы. Усё мацней сьціскаў ён зубы. Яму здавалася, што брат яго ўжо проста страціў розум.

Але тут ён раптоўна адчуў, што нешта адразу яго звольніла ад таго, другога. Ногі заставаліся шчыльна прыцягнутымі да ног брата, але верхняя частка тулава здавалася вольнай і лёгкай. Здавалася, адрываецца і ляціць лёгкай зграбнай дугой далёка ўніз па ўзгорку, праз дарогу, у вольную цёмную далячыню.

Ён нічога ня мог разгледзець. Ляжачаму запылілі вочы сандаліі[1]) легіянэра і, як толькі рукі адыйшлі, першай справай было працерці вочы.

Удар у сьпіну спыніў і гэты рух.

На гэты раз ён не расслухаў шэпту брата. Але заўважыў, што Гіпні, пацягнуўшыся, нешта робіць рукой каля іх агульнага рамяня каля ног. Скрозь маладое цела Кілона прабег ток страху і дзіўнага прадчуваньня.

---

[1]) Абутак, падобны да нашых пасталоў (увага перакладчыка).

— Няўжо-ж?..

У той-жа момант ён адчуў, што і ногі аслабаняюцца ад палючага болю путаў. Ён ледзь апамятаўся і стрымаў крык нечаканасьці. І нібыта здалёк пачуў шэпт брата:

— Ты можаш рухаць нагамі?

У нагах Кілона калоў пякучы боль да самага калена, але рухаць імі ён мог.

— А рукамі?

І рукі зусім адыйшлі.

Але тут яны прыліплі да зямлі, як уцякаючыя ад кошкі мышы, і стараліся нават затрымаць дыханьне. Легіянэр сьцяміў, што ён задужа захапіўся прыемным відовішчам і павярнуўся, каб праверыць сваіх палонных. Але, перачанаўшыся, што ў шэрагу ўсё пастарому, зноў прайшоў да паглыбленьня ўзгорка і абярнуўся тварам да другога вогнішча.

Кілон без загаду зразумеў, што яму рабіць. Калі постаць Гіпнія, як таўстая шэрая гадзіна, папаўзла міма яго ног, ён таксама лежачы павярнуўся і папоўз за ім. Удары сэрца, як гонг, гучэлі ў вушах, шум ад яго казловай вопраткі на пакрытай пяском скале здаваўся яму голасным крыкам. Ад душэўнага ўзварушэньня ўсё яго цела пакрылася потам. Ён прыхіліў галаву да самае зямлі, і яму здавалася, што ён увесь схаваўся ў вялікім цені свайго брата.

Дапоўзшы галовамі да паглыбленьня, у пяці кроках ад вартаўніка, яны заўважылі, што наўкола іх усё заліта чырвоным полымем. Вартаўнік падаўся наперад, відаць, як мускулы яго плеч сударжна трасуцца ад сьмеху. Вой падстрэленага загучэў яшчэ страшней. Але фракійцы думалі цяпер толькі аб тым, што цень, па якім яны паўзьлі, зрабіўся цямнейшы.

Тады Кілон адразу схапіўся і спрытна, як малады тхарок, устаў на ногі. Але ён не пасьпеў за скокам Гіпнія. Той ужо быў там. Яго правая рука схапіла ззаду руку рымляніна з мячом, а левая, як сталёвы абруч, абвілася каля шыі, паволі адхіляючы ўсю постаць назад. Сівая грыва немаль дакранаецца да сьпіны. Вось блішчаць чырвоныя вылупленыя вочы. Вось высунуўся язык. Вось увесь твар зрабіўся мядзянабурым.

Але змучаны смагай і голадам гладыятар спаткаўся з напрактыкаваным ваякам, былым цыркавым барцом, які яшчэ толькі дзьве гадзіны назад зьеў прасмажаную на верцялі бараньню шынку і выпіў пляшку віна. Вольная рука паднялася, сталёвай дугой абвіла шыю, упілася чэпкімі пазурамі ў скалмачаныя валасы нявольніка. І пакуль чатыры пальцы яго ўпіваліся туды ўсё глыбей, вялікі палец набліжаўся да страшнае раны на чэрапе ворага.

Гіпні дыхаў, як вол, якому прыцягваюць вяроўкаю галаву да нагі. Палова яго ўвагі ды сілы была скіравана на тое, каб ня выклікаць увагі бліжэйшых вартаўнікоў. Ламаючы рымляніна, ён і сам адхіліўся назад так далёка, што, здавалася, вось-вось паваліцца назад пад важкім целам

ворага. Меч, які заварушыўся ў руцэ легіянэра, вывеў Кілона з хвілёвага аслупяненьня. Адным спрытным рухам ён выхапіў важкую зброю. І тады, падняўшы абедзьвюма рукамі, увапхнуў збоку ад сьпіны, павольна, але адважна, вымераўшы вачыма належнае месца, націснуўшы з усёй сілы.

Постаць Гіпнія выраўнялася. Рымлянін паваліўся каля яго ног. Момант трымаўся седзячы, і здавалася, што ён робіць спробу трымацца рукамі за зямлю. Але потым ён схіліўся лобам да кален і так спыніўся, раскідаўшы па бакох рукі, нібыта зламаныя крылы.

Гіпні выхапіў меч у брата і выпрастаўся ва ўвесь рост—якраз так, як калісьці ва фракійскім лесе каля забітага ляснога кабана або ў Рымскім цырку каля цела пераможанага ворага. Але толькі на кароткую хвіліну блісканула на яго твары радасьць выратаванага жыцьця. Вогнішча на ўзгорку палыхнула яшчэ вышэй. Вой прыцьвікаванага перамог трашчаньне палаючых вогнішчаў і п'янае гарланьне легіянэраў. І Кілон павярнуўся туды, і вочы іх абодвух выказвалі нявымоўны словамі жах.

Ці ад іскраў вогнішча, ці знарок падпалены гарэў ніз аблітага ліпучай смалой крыжа. Цёмна-чырвоныя зьмеі полымя, перакручваючыся з чорным дымам, прагна лізаліся ўгару па зялёнаму ствалу кедра. Ног прыцьвікаванага ўжо ня было відаць па калена, момантамі цёмна-чырвонае полымя ахоплівала і грудзі, але хвілінамі, калі вецер адкідаў яго ўбок, відаць было, як рукі торгаліся ў перацягнутых мускулах і галава кідалася з боку ў бок, як у сьлімака, прытаптанага нацьвікаванай сандаліяй. Ён больш ня выў, ён рыкаў, як у агоніі, і яго рыканьне жудасна перамешвалася з рогатам п'яных легіянэраў.

На другім баку ўзгорку пачуліся падыходзіўшыя галасы. У прыпадку сполаху абодва фракійцы кінуліся бегчы, забыўшыся аб спробе вызваліць яшчэ дзе-каго са сваіх таварышоў па няшчасьцю.

Нахіляючыся, па магчымасьці, ніжэй, немаль што прыпоўзкам, хаваючыся ў цемнаце, яны беглі па няглыбокай далінцы на правы бок. Гіпні ўперадзе, а за ім Кілон. Ростам з маладую лань—супроць сівога галійскага аленя, ён у бегу быў спрытнейшы за старэйшага брата. Рана на галаве і барацьба з рымлянінам стамілі Гіпнія,—Кілону здавалася, што той, абапіраючыся на меч, ідзе задужа павольным крокам. Шпаркасьць стралы, крылы сокала—былі патрэбны цяпер. Здавалася, тут-жа за сьпіной зьвіняць шчыты легіянэраў і над галавой, як у пагоні, разьвіваюцца цёмна-чырвоныя цмокі полымя.

Але патроху шум і полымя засталіся далёка за сьпіной. Нават у цемнаце можна было заўважыць, як звузілася далінка. Тут была ўжо вузкая цясьніна, з зусім стромкімі бакамі. У часе бегу плечы ўцекачоў часчасам зачэплівала войстрая скала або вісячая глыба. Яны пашлі павальней, з асьцярогай прыслухоўваючыся і дасьледваючы цемру.

Выцягнутымі рукамі Кілон даткнуўся сьпіны брата. Гіпні раптоўна спыніўся і глядзеў угару. Цясьніна скончылася, крутая сьцежка ад яе

падымалася па горнаму схілу. Але пры канцы выгінаўшайся сьцежкі, высока над галовамі ўцекачоў, гарэла вогнішча, час-часам у паласе сьвятла паблісквалі лязы мячоў або канты бронзавых шаломаў.

Уцекачы кінуліся назад. Гэта мясцовасьць ня была незнаёмай Гіпнію, але раптоўна асьветленая вогнішчамі цемра сьляпіла вочы, сьмяртэльная стомленасьць і страх пазбавілі здольнасьці разважаць. Ён бег наўгад, зусім ня думаючы аб тым, што такім чынам прыбяжыць на тое-ж самае месца, дзе ўжо напэўна знойдзены забіты легіянэр і пачалася пагоня за ўцёкшымі нявольнікамі. Вось яны трапілі ў нейкую іншую, раней незаўважаную шчыліну. Як і першая, гэта скончылася такой-жа крутой сьцежкай, падняцца па якой у іх ня было сілы. Таксама над ёй палала вогнішча і каля яго цямнелі абрысы вайскоўцаў.

Момант яны стаялі схіліўшыся і глядзелі ўгару. Полымя шуганула вышэй і асьвятліла іх твары з зусім круглымі вытарашчанымі вачыма. Яны цяжка дыхалі, як стомленыя загнаныя ў закутак і зачыненыя лясныя зьвяры.

Відавочна, усе шляхі адсюль закрыты. Абодва ўцекачы зразумелі, што ратунку ім няма. Павярнуліся і з апушчанымі галовамі пацягнуліся адзін за адным. Ня было ўжо ніякага сэнсу бегчы.

Гіпні спыніўся і пачаў прыслухоўвацца. Прыслухоўваўся і Кілон. Угары за цясьнінай воддаль чутны былі крокі, перагукваньні, лязганьне зброі. Зусім ясна, што набліжаюцца хутка. Праз край цясьніны паблясквала чырвоным, ня інакш гэта былі ліхтарні даганяўшых.

Упяршыню за ўвесь час уцёкаў уцекачы паглядзелі адзін на аднаго. Доўга і глыбока, нібы спрабуючы адгадаць думкі адзін аднаго. Але няма чаго было гадаць, абодва ведалі, што выхаду ім няма. І перад вачыма абодвых пачаў палымець крыж з прыцьвікаваным чалавекам, які кідаў галаву, як сьлімак, прыдушаны да зямлі нацьвікаванай сандаліяй.

Гіпні прытуліўся да сьцяны скалы і ня спушчаў вачэй з края цясьніны. Кілон бачыў яго аблічча, бледнажоўтае, нібы скала, да якой была прыхілена яго параненая патыліца. Разьюшаны натоўп даганяўшых набліжаўся. Жменя іскраў з абгарэлае паходні ўзьнялася ўгару з-за краю цясьніны.

Кілон стаяў тварам у той бок, скуль ішла сьмерць. Ён уздрыгануўся, як уджалены, і пасунуўся назад да другога краю цясьніны. Вочы Гіпнія глядзелі на яго з непарушанай страшнай пастановай, гэта ён зразумеў так выразна, як-бы той яму голасна сказаў. Яго рот адкрыўся, каб крыкнуць, адмовіцца і яшчэ выратаваць сваё жыцьцё.

Гіпні ўрачыста падняў да яго руку. Гэта рука ў асьвятленьні блізкіх факелаў здавалася загартаванай. Але яна ня дрыжэла, і голас Гіпнія быў халадпаваты ды цьвёрды, як пастанова самога лёсу.

— Іншага выхаду ў нас няма. Або ты думаеш яшчэ аб іншым?

Кілон апусьціў галаву. Што ён мог думаць:

— Былі-б у нас у абодвух мячы, мы кінуліся-б уперад, у бойку. Яны былі-б змушаны нас забіць, бо ахвяраваць кожнаму з нас па пяць чала-

век, пакуль мы ня стомімся, гэтыя падлюгі не пажадаюць. Цяпер-жа адзін з нас павінен папасьціся ім у рукі жыўцом. Я не хачу быць гэтым. Мо' ты маеш жаданьне гарэць факелам у якога-колечы слупа і асьвятляць шлях, калі па ім паедзе ў Рым Марк Ліцыні Крас?

Кілон прысеў, нібыта ўхіляючыся бязьлітасных рук, якія ўжо цягнуць яго на крыж.

— Не, не, не!

Гіпні толькі матануў галавой. Потым ён працягнуў сьціснуты кулак, з якога тырчэлі дзьве траўкі. І гэта зразумеў Кілон. Такі быў звычай нявольнікаў у гэтай вайне: каму дастанецца даўжэйшая, той павінен забіць другога, а потым забіць сябе. Кілон працягнуў руку так, нібыта да яе прывешаны быў кавалак важкое скалы. У гэты момант у яго было толькі адно жаданьне, ахапіўшае ўсю яго істоту: хоць-бы толькі гэтым быў ня ён, а яго брат!

Гіпні нахіліўся бліжэй і дакрануўся да яго пляча.

— Хутчэй! Мне здаецца, я іх ужо бачу.

Сапраўды, шалёны рык гучэў ужо над самай галавой Кілона. Напэўна яны сьпяшаліся, каб хто-колечы не забіў уцекачоў. Толькі сьмерць гэта задужа лёгкая для іх кары.

Заплюшчыўшы вочы, Кілон памацаў кулак брата. Не... І ўсё-ж ткі гэта ён!

Ахапіўшая гладкую цавейку мяча рука яго здавалася сьціскаецца ў корчах, як тады, у ляжачага на зямлі, ад моцна перацягнутых рамянёў.

Гіпні падганяў яго, сьпяшаючыся, задыхаючыся.

— Хутчэй! Ты не пасьпееш сам... Я іх ужо бачу! Тут...

Але Кілон ня мог глядзець на тое месца, дзе была прыціснута далонь Гіпнія. Ён шукаў вочы брата—разьвітацца, ці яшчэ за чым, ён сам ня ведаў. Але падвекі Гіпнія былі цяжка спушчаны на вочы. Губы сьціснуты, быццам нарыхтаваны затрымаць або заглушыць найслабейшы стогн, які мог вырвацца ад болю ды нянавісьці.

Здаецца, ён сам кінуўся на канец мяча, паднятага братам. Калі Кілон зноў павярнуў твар, той павольна соўгаўся па скале, закрыўшы твар далонямі, каб схаваць вочы ад чырвоных успалохаў факелаў, што ліліся ўжо ўніз проста на іх абодвух.

Дзікі рык радасьці і злосьці дваццаці глотак аглушыў ззаду Кілона. Тупат ног набліжаўся шпарка. Дробныя каменьчыкі каціліся са звонам, зьвінелі шчыты, лязы бягучых мячоў напеўна скавыталі, расьсякаючы паветра. Супроць зыркіх агнёў цень Кілона, чорны і аграмадны, цягнуўся ўгару па сьцяне скалы ды зьнікаў у цемры за абрывам.

Цень згінаўся, нібыта яго паліла полымя гэтых чырвоных факелаў. Кілону прышло ў галаву, што ён прыцьвікаваны да сьцяны скалы і торгаецца якраз так, як той там на дарозе ў Капуас. Свой лёс ён уцяміў сабе ясна. Ніякага ратунку або літасьці ён не чакаў. І ўсё-ж ткі ня выкарыстаў тых дзьвюх хвілін, у якія яго жыцьцё належала яму самому.

Ён ня быў трусом. У нядоўгія дні вайны ён прымаў удзел у шматлікіх бойках. Прывык біцца вока-на-вока, кожны момант адчуваючы канец мяча ворага супроць сваіх грудзей або сякеру над галавою. Адважнай рукой і з крыкам пераможцы ён шмат разоў апускаў свой меч у цела ворага. З асалодай дзікага зьвера ён забіваў рымскіх палонных, старых і дзяцей арыстократычных сямей і нават простых рабочых. Нават паднятая супроць сэрца брата яго рука перад гэтым ня дужа дрыжэла. Але цяпер яна бяз руху трымала кароткі меч, па войстраму лязу якога паволльна цякла на зямлю кроў Гіпнія.

Крывулінамі маланкі, з асьляпляючай яскравасьцю ў яго мазгох пляялося тое, што ў гэтыя дзьве беззваротныя хвіліны пратрымала яго ў аслупяненьні. Далёкая і немаль што чужая Фракія, з яе дзікімі гарамі, у глыбока-дымным кругавідзе. Жыцьцё пастуха, калі начамі часта адна дзяўчына, зграбная ды спрытная, як сэрна, абвівала гарачыя рукі каля яго шыі і ўсё цела грэла сваёй пяшчотай. Яго хвалёныя сьветлыя, як у жанчыны, мяккія валасы, яго непражытая, нявыведаная маладосьць, яго жыцьцё,—яго жыцьцё!

Нешта голасна і загадна крычала ў ім. Гэта было дужэй, чым яснае разуменьне тых жахаў, што яго чакаюць праз хвіліну. Гэты момант быў даражэй, чым даўгія жудасныя мукі ў новым палоне ў п'яных разьюшаных зьвяроў. Руку, якая сотні разоў забівала, нібы гуляючы, ён ня мог падняць супроць уласнага жыцьця.

Ён бясьсільна сьлізнуўся на калені, глыбока ўцягнуў паветра, нібы ўбіраючы ў сябе ўвесь сьвет, разам з напяваючым ветрам, і плакаў, ахапіўшы абедзьвюма рукамі цавейку рымскага мяча. І калі яму прышла ў галаву думка ўскочыць ды абмяняць сваё жыцьцё на два-тры жыцьця ворагаў, было ўжо позна. Дваццаць прагных рук разам хапаліся за яго валасы, за шыю, за яго рукі ды ногі.

З латыскай мовы пераклаў **Кастусь Езавітаў.**

## НЕДРУКАВАНЫЯ ДАРЭВОЛЮЦЫЙНЫЯ ТВОРЫ [1])

**Янка Купала**

* * *

Каб я меў загончык нівы,
Каб я меў кусочак,—
З каласкоў-бы зьвіў вам, людзі,
Зьвіў-бы я вяночак.

Каб я меў лажок над рэчкай,
Каб меў сенажатку,—
Назьбіраў-бы вам букет я
З незабудкаў, браткаў.

Каб я меў сваю хаціну,
Каб я меў сялібу,—
Запрасіў-бы вас у госьці,
На кут пасадзіў-бы.

Дый ня мне вас так вітаці
Шчыранька, як дзеці,—
Крыў бог нівы, сенажаткі,
Хата—па ўсім сьвеце.

Хай хоць гэта мая думка
Ўспамін вам пакіне
Аб гаротным і маркотным
Беларускім сыне.

1910 г.

### МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка,
Што гібела сталецьці ў бяспуцьці, ў пацёмках,—
Гэй, скажы, скуль цяперашня слава твая?
Гэй, ты, гэй, Беларусь маладая мая!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не з вясёласьці яснай, ня з ясных палацаў,
А з канаючай крыўды ў пахіленай хатцы,
Вызываная праўдай, таптанай, жывой,
Я ўзышла, расьцьвіла непагаслай зарой.

Дарма хэўры чужынцаў мяне застаўляюць
Пакланяціся ім, прадаюць і купляюць
Ï апекай сваёй зьневажаюць мяне,—
З сваім людам ня дамся ў сваёй старане.

Ні насьмешак, ні пастраху ворагаў сільных,
Ня пужаюся й песень панурых, магільных,—
Сьвету цэламу лжывыя вочы пратру,
Што ўладарка я тут, не ўмярла і ня ўмру.

Гартавана сьлязьмі і крывёю народу,
Разаб'юцца цяпер аба мне ўсе нягоды,
Ï дзе ўпадак быў мой, стане думка сын мой,
Повен волі і славы нязломнай ступой.

Я сьвятла іскры ў думках бяздольных засею,
Аднаўлю сэрца іхнія гартам, надзеяй,
Пакажу ім жыцьця іх праўдзіву зару,
На разваліках нову ўсябытнасьць ствару.

Ï ад краю да краю ўсё далей і далей
Моц мая разальлецца нязможанай хваляй,
Песьняры аба мне будуць песьні складаць,
Народ будзе іх пець і мяне праслаўляць.

Грамадзянская згода, супольнасьць загосьце,
Аж усьцешацца прадзедаў цені і косьці,
Слоў унука ня зглушыць ніякі прымус,
Што ён роднай зямлі верны сын, беларус.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэй, ты, гэй, Беларусь, маладая старонка!
Уставай-жа, ўставай з паніжэньня, з пацёмкаў,
Хай-жа будзе нязможана ўлада твая!
Гэй, ты, гэй, Беларусь маладая мая!

Вільня, 12/I—1909 г.

## З ЛЮДЗЬМІ

Трудна, крыўдна жыць на сьвеце
Між нячулымі людзьмі,
Ня раз вочы маладыя
Заліваюцца сьлязьмі.

Ня раз сэрца затрасецца
Ад няпраўды векавой,
Ня раз так яны дадзенуць,
Што расстаўся-б і з душой.

Адных выракся-б навекі,
Кляцьбой плюнуў-бы другім,
За дазнаныя ўсе крыўды,
Эх, і мсьціў-бы, мсьціў усім!

9/-XI—906 г.

## ПАЛІЛІСЯ МАЕ СЬЛЁЗЫ

Паліліся мае сьлёзы
На жывыя вербалозы,
На сухія ачароты,
На глухоты, на сьляпоты.

Паліліся мае сьлёзы
На сьпякоты, на марозы,
На глухія непагоды,
Маладыя мае годы.

Паліліся мае сьлёзы
На заломы, на дзярмёзы,
На падломленыя грудзі,
На ўсё, што было, ёсьць, будзе.

Паліліся мае сьлёзы
На напасьці, на пагрозы;
З цяжкай думкай—пакарыся!—
Паліліся, паліліся.

Паліліся мае сьлёзы
На гасьцінцы, перавозы,
На крывавыя паляны,
На забытыя курганы.

21/XI—1909 г.

## ПОЭТАМ

Поэты вучаць месты, вёскі,
Як трэба жыць, багатым быць,
А самі-ж часта на падноскі
Ня ўмеюць грошы зарабіць.

Пяюць аб шчасьці, добрай долі,
Аб волі шчырай для людзей,
Пяюць, ня помняць, што ніколі
Ня будзеш песьняй сыт аднэй.

Сьпявайце-ж, мілыя поэты,
Дый трэба сьціха, меру знаць, —
Бо хіцер, хіцер наш век гэты—
Гатоў вам песьню апляваць.

31/III—1906 г.

## ДУМКІ ПЕРАД ВЯСНОЙ

Што дзень вышэй, што дзень цяплей
Глядзіць з-пад неба сонца нам,
Сплывае радасьць да людзей,
Чуваць і песьні там ды сям.

Вяселіць сонца цэлы сьвет
Надзеяй блізкае вясны,
З якой зімы загіне сьлед,
Зямелька скіне свае сны.

Зазелянее лес і лог,
Забурліць звонка ручаёк,
Па вёсках возьмуцца да сох,
Задзьме ў жалейку пастушок.

Так будзе блогасна усім,
Надзеі поўны ўсе такой...
А мне-ж і думачкам маім
Чаму так смутна, браце мой?

Чаму так сэрца мне баліць,
Маркотна чахну на яву;
Як той канюх галосіць „піць!“
Так—шчасьця! шчасьця! я заву.

Марнее моладасьць мая
У бяспрытульлі, ў беднаце,
Нуда—нямручая зьмяя—
Дух мучыць, а бяда гняце.

І жудка мне, хоць і вясна
Ўжо да людзей з цяплом ідзе;
Як-бы пустынь вакол адна,
Ня чуць прывету ад людзей.

Гэй, хіба ты, мой цёмны бор,
Мой зразумееш боль і жаль
І думам гулкім аж да зор
Ускалыхнеш прыспану даль.

Гэй, хіба вы, зоркі мае,
Заглянецце ў душу маю
І далям скажаце, як мне
Жыць трудна, як горка цярплю.

1906 г.

## ПЕРАД СЁМУХАЙ

Гаю, гаю, гаю,
Схаджу да дубровы,
Насяку там маю
Ахапак здаровы.

Будзе тут бярозка,
Будзе тут рабінка,
Будзе клёну горстка,
Будзе і калінка.

Перад хатай нізкай
Пасаджу я дрэўцы,
Ад вაконцаў блізка
Падбяру ім месца.

Ой, кумы, кумочкі,
Міла паглядзеці,
Як пачнуць лісточкі
Трэсьціся, шумеці,

Шаптаць, гаманіці
Сьціха між сабою,
Галоўкі хіліці
Тут-жа нада мною.

І мне здасца ў хаце,
Што дрэўцы бясконца
Раяцца, як даці
Долю мне й старонцы.

9/VI—1907 г.

## СОН

Ня помню дня і тэй мінуты,—
Днём толькі, помню, ўсё, было,
Як змучан доўгаю пакутай
Пакінуў я сваё сяло.

Пуцінай плёўся каменістай
Паміж кустоў, папарных ніў,
Глядвела сонца. Пот краплісты
Худы мой твар мачыў, сьлязіў.

Я змогся. Ногі больш служыці
Мне не хацелі, чуць цягнуў.
І ўсеўся на курган спачыці,
І на кургане я заснуў.

І ўбачыў вобраз векапомны,—
О, ўбачыў відаў я са сто!
Сам тросься ўвесь, як няпрытомны,
Ішла адвага за нішто.

Я сьніў. А ўсё як-бы на яве
Кругом мяне жыло жыцьцём:
Той абымаў, той нож крывавіў,
Той спаў лятаргі зводным сном.

Збуджэньня дух махаў крыламі,
Няпамяць свой скідала пыл,
Вякі пражыты за вякамі
Ўставалі з попелаў магіл.

Сьпіхала ў долы праўду здрада,
За быт, за шчасьце йшла вайна,
Парад цягнуўся за парадам,
Жыла, ўмірала старана.

І бачыў я ваякаў сільных,
І бачыў подлых я трусоў,
І чуў кайданаў звон магільны,
І чуў я вольных кліч сыноў.

Душа і рвалася й цярпела,
Ў халодным поце віўся я;
Хацела крыкнуць—і ня сьмела
Натура вольная мая.

Збудзіўся я. Жыцьця крыніца
Зноў панясла ў сваім кругу...
Я йшоў, іду, але забыцца,
Што сьніў, ня мог і не магу...

21/III—1907 г.

## ПА ДАРОЗЕ

Ідзеш па каменьнях,
Глядзіш на каменьне,
З каменьня і цэглы
Муры і скляпеньні.

Драўляныя хаткі,
Ў прысадах—дарогі,
Мураўка і кветкі
Кладуцца пад ногі.

*

Жалезныя краты
Звакол пазіраюць,
Шум, скрогат, задуха
Душу выдзіраюць.

Бязьмежнае неба,
Зялёнае поле,
Чырыканьне птушак...
А воля! а воля!..

1910 г.

## КАРШУН

Пад небам высокім лётаў каршун,
З пагардай на рой пазіраў чалавечы,—
Аж бачыць—пад плотам ходзіць пявун—
Махнатая шыя, злацістыя плечы.

Як віхар, як куля, імчыцца каршун
І певеня тут-жа на сьмерць забівае,—
У бойцы няроўнай гіне пявун,
У бойцы няроўнай жыцьцём пакладае.

З трыумфам каршун пад неба ляціць,
Пад небам крумчыць над здабычай сваею,
Ды зноў, каб дзе пажывіцца, глядзіць,—
Забіць яшчэ й курку—ня траціць надзеі.

Але скуль тут не вазьміся стралец,—
Прыцэліўся, раптам, як гром, стрэл раздаўся,—
Ўзмахнушы у паветры крыльлем ледзь-ледзь,
Зьляцеў каршун з неба і болей ня ўзьняўся...

12/III—1906 г.

## АДРЫВАК

I

Скінь, мой дружа, пыху з сэрца,
Скінь, вазьмі паслухай,
Што хачу тут расказаці
Думкай-маладухай.

Так, папростаму, пасвойску—
Не магу іначай—
Стану баіць, гаманіці
Аб жыцьці лядачым.

Сэрца сэрцам закалыша,
У душу загляне,—
Клок жыцьця людзкога возьме
І варочаць стане.

Хоць-жа высьмееш мо‘ слова,
Злосьці кінеш грудай,—
Хай патвойму будзе, дружа,—
Жалю мець ня буду.

Вось, калісьці, як узваліш
Лет на плечы многа,
Ўспомніш гэту казку-праўду
І ўздыхнеш з трывогай.

Курганоў-магіл бяз ліку
Накапаюць людзі,—
Ўсё схаваюць—шчасьце, волю,—
Праўда жыці будзе.

II

Там, дзе Нёман віці гоне,
Дзе Вільля лялее,
Там, дзе песьня аб Дунаю
Век плыве, як вея,—

Ў гэтым краю, ў Беларусі
Чаго ты ня ўбачыш!
Ажна сэрца затрасецца
І душа заплача.

Ці то пушча, ці то поле,
Ці гасьцінец біты,
Ўсё аплакана людзямі,
Ўсё сьлязьмі абмыта.

На сьвет вывесьці ўсё чыста,
Сьвету апісаці,—
З сэрца мусіш мець паперу,
Ў кроў пяро мачаці.

Сумаваці мусіш гэтак,
Як сумуюць хмары,
І зіхцець, як зіхацяцца
Сонцавы пажары.

Як твой воблік запануе
Зорна і крывава,—
Мо' тады калі што выйдзе,
Мо' дакажам славы.

1909 г.

## ТАЕЙ, ДАЎГАЖДАНАЙ

Чакаў яе, чакаў з трывогай,
Лічыў хвіліны неспакойна,
Чакаў... і ня прышла нябога,
Не захацела быць так гойнай.

Што-ж, ня прышлося маім думам
Быць явай радаснай, жаданай;
Сам застануся з сваім сумам
Лячыць нязьлечаныя раны.

Пачну адвечную бяседу:
Паклічу верных сваіх другаў—
Яны, як добраму суседу,
Акажуць шчыру мне паслугу.

Мой першы друг—бязьмежна гора,—
Мне ня скупіць сваёй апекі,—
Душа яго, як тое мора,
Што ўсе ў сябе ўбірае рэкі.

Мая сама вярнейша дружка,
Мяне ня здрадзіўша ніколі,—
Нядоля—беспадобна служка,
Мая пацеха дома ў полі.

Яшчэ, яшчэ ня мала маю
Такіх дружкоў, бы ўвесну цьвету,
Іх тутка я не вылічаю,—
Нашто дарма хваліцца сьвету!

Вось як яны усе зыйдуцца
Ў маю сьвятліцу—маё сэрца,—
Імглою вочы прыбяруцца,
Душа на жальбу абапрэцца.

І блысьне першая сьлязіна,
За ёй апошняя заблысьне,—
Абедзьве па табе, дзяўчына,
Што я чакаў так бескарысьне!..

20/I—1915 г.

## НА АДВІТАНЬНЕ

Будь шчасьліва, дзяўчынка, ў нядолі,
Хай пацеха цябе міне!
Мне з табой жыць ня суджана болей,—
Гоніць доля адгэтуль мяне.

Будзь шчасьліва, дзяўчынка-галубка!..
Ня крыўдую на гордасьць тваю,—
Ня чуў ласкавых слоў з тваіх губкаў,
Хоць так шчыра любіў і люблю.

Усё пекла я зьведаў каханьня,
Усе мукі яго скаштаваў,
А ўсю радасьць і рай мілаваньня
Недруг вырваў, спаганіў, стаптаў.

Я так шчасьця на сьвеце знаў мала,
І прывету ня знаў ад людзей,—
Цябе ўбачыў—і весела стала
І ты стала за ўсё мне мілей.

Як слуга, як нявольнік, табе я
Так стараўся служыць, дагадзіць!
Так любіў цябе шчыра, з надзеяй,
Што ўзаемнасьцю будзеш плаціць.

Ты-ж, дзяўчынка, за гэтую дружбу
Не жалела мяне анічуць,—
За прывет мой, за любасьць, за службу
Слова ласкі ня ўмела шапнуць.

Эй, дзяўчынка, дзяўчынка, сьвет відзе
Усю праўду, няпраўду усю,
І хто знае, ці часам ня прыдзе
Слушны дар за нядолю маю.

Будзь шчасьліва, дзяўчынка! Любіся
З тым, хто толькі зьняславіў цябе,
І, пазнаўшы ману ўсю, ня гніся,
Бо тады ўжо ня жыць лепш табе.

Мяне, знаю, дзяўчынка, забудзеш,—
Ці-ж на памяць слуга зарабіў?
Але хоць мо' і верыць ня будзеш,
Цябе першую я так любіў.

Яшчэ раз будзь шчасьліва, дзяўчынка,
Хоць ня лёгка нам шчасьце спаткаць!
Я-ж адзін, як над рэчкай вярбінка,
Буду жыць і цябе ўспамінаць.

І на памяць, што ў сэрцы мне ўскрэсьне,
Чым я жыў так і мучыўся чым,
Злажу самую лепшую песьню
Аб табе і каханьні тваім.

1907 г.

## МАЛАДЫМ НА ВЯСЕЛЬЛІ

Ня дубок пры ніўцы ў гаю,
Ня ў лузе лілейка,—
Маладны тут засядае
З сваёй дабрадзейкай.

Хто уцеху ўсю іх пойме,
Што ў душу ім льлецца,
Хто спазнае, хто пяройме
Думкі наважэнцаў?

Зышла радасьць на абое,
Бачыць сэрца сэрца,
Міла шчасьце залатое
Сьцеліцца каберцам.

З госьці кожны віншаваньне
Гладкім слоўцам кіне,
Мае простае жаданьне
Також хай ня згіне.

Жычу меці, як нікому,
Жычу я ахвоча,
Маладой і маладому
Усё, што толькі хочуць.

Згоду ў хатцы, спор у хатцы,
Гонар між людзямі
І ў які год дачакацца
Забавы з кумамі.

У салодкім у каханьні
Вечна варкаваці
І ня знаць, чым ёсьць расстаньне,
Злых прыгод ня знаці.

Няхай век вам ня ўбывае
Ў жыцьці сонца, кветак...
Малады і маладая,
Жывеце сто летак!

Я так жычу, так віншую,
І ня лгу, здаецца,—
Хто мілуе, хто цалуе,
Ўсяго спадзяецца.

Вільня,
11/VII—1909 г.

## НЕ ЧАПАЙСЯ, ПАНІЧОК!..

Не чапайся, панічок!
Жартуй, але ў меру,
Шэпты лісія—на бок!
Я табе ня веру.

Не чапайся ты, аса!
Багацтва не ўдзялю я,—
Ёсьць дзявоцкая краса,
Ўзяць хочаш і тую.

Не чапайся! Не раўня
Табе я, мужычка,
Цябе жджэ недзе твая
Панна-белалічка.

Не чапайся! Ідзі к ёй,
Шапчы, весяліся,
З ёй і песенькі ты пей,
З ёй і абніміся.

Не чапайся! Вы паны—
Ты з жонкай сваею,
Ўзялі скарб мой вы адны—
Веру ды надзею.

Не чапайся! Ўжо сынка
Песьціш з беларучкай,
А мужыцкая дачка,
Хай гіне, як сучка.

І я згіну сіратой,
Ты, паніч, ня згінеш...
Не чапайся!.. Што з табой?!
Стой!.. Куды?.. Што чыніш?!

19/VI—1907 г.

## „ШУМАН“ [1])

*З віленскіх абразоў*

Ці то летам, ці зімою,
Сып да Шумана, друг мой!—
Там расстанецца з нудою,
Хто з кішэняй няпустой.
„Шуман“ Вільні кроў і косьць,
Быў і будзе, як і ёсьць.

Рэжа музыка ахвоча,
Песьні, гоман—за адно,
Страва, карты, хто што хоча,
Льлецца рэчкаю віно.
„Шуман“ Вільні кроў і косьць,
Быў і будзе, як і ёсьць.

Там сабой таргуюць дзеўкі,
Бацька, сын купляе іх;
Там хватаныя капейкі
Пераводзяцца у міг.
„Шуман“ Вільні кроў і косьць,
Быў і будзе, як і ёсьць.

Цешся, горад! Што там знача
Вёска з голадам, з бядой?!
Хтось там стогне, хтось там плача—
Плюй, махай на ўсё рукой!
„Шуман“ Вільні кроў і косьць,
Быў і будзе, як і ёсьць.

[1]) „Шуман“—у тым часе быў у Вільні шыкозны рэсторан, дзе паны і купцы прапівалі прыдбанае чужымі рукамі дабро.

*Я. К.*

Хто ў казіны рог ня зьехаў,
Хто з сумленьнем—справу знай:
Гэй, да Шумана на ўцеху—
Ўтапіць долю, славу, край!
„Шуман“ Вільні кроў і косьць,
Быў і будзе, як і ёсьць.

Вільня, 1909 г.

## КАЛАТУХА

Род за родам ходзіць ходам...
Многа клопату з „Усходам“.
Водзіць гандаль, як быкамі,
„Младатурак“ султанамі.
Патрасае Талеранам
Пэрсіянец з Сатарханам.
Шум падняўся на поўсьвета...
Бачыць рускі усё гэта,—
Вухам кожны шум хапае
І „на вус“ сабе матае.
А ўсё клопаты Эўропе:
Хто ухопе, хто ня ўхопе?

1909 г.

## ХАЎРУСЬНІКАМ

„Gazeta Codzienna“
І „Виленский Вестник“
Сабраліся хэўрай,
Як сьвіньні на сьметнік.
Ды ну-ж гаманіці,
Ўхмыляцца пад вусам,
Як лепш атуманіць
Мазгі беларусам.
„Gazeta“ бармоча:
Нех бэндзе ён ляхам,
А „Вестник“—пусьць лучша
Маскоўскім прот шляхам!
Спрачаліся доўга,
Як край наш раскрасьці,
Дый сьпеліся ўрэшце...
Парваць на дзьве часьці.

Адна часьць Варшаве
Лізаць ногі будзе,
Маскве хай—другая
Нясе свае грудзі.

Забыліся толькі
Хаўрусьнікі ночы
Спытаць беларуса,
Чым сам ён быць хоча.

19/X—1913 г.

*Увага.* У той час—калі ня мыляюся—„Gazeta Codzienna“ была органам віленскіх „эндэкаў“, а „Виленский Вестник“—офіцыёз віленскага генэрал-губарнатара. Абедзьве газэты, як маглі, змагаліся з „Нашай Нівай“ і наогул—з беларускім рухам. Мушу ўспомніць тагочасную адну пашыраную чутку, паводле якое польскія „эндэкі“ і расійскія „кадэты“ ўжо тады падзялілі Беларусь на дзьве часткі: заходняя—палякам, усходняя—расійцам. *Я. К.*

## ЎСЁ САЮЗЫ...

Ўсё саюзы ў беларусаў,
Ўсё апякуны,—
А бадай-жа на іх немач!
Адкуль-жа яны?!

Быў „Крестьянин“, плёў „Крестьянин“
Сеткі, як павук.—
Глупства вышла—бач няма ўжо
За што заціць рук.

Скуль узяўся яшчэ шэльма—
„Общество“ скуе,—
„Белорусское“ няйначай,
Цёмныя мае.

Саланевіч ды з кампаняй
Сцапаў гэту мысьль,
А ўсё „истинным“ тым духам
Сьмярдзіць, знай, дзяржысь.

Ох, паможа саюз гэткі
Беларусі нашай,
Як „Крестьянин“, як знаёмы
У хваробе кашаль.

1908 г.

*Увага:* „Крестьянина“ выдаваў Кавалюк, а Саланевіч пасьля (здаецца) „Северо-Западную жизнь“. Абедзьве газэты выходзілі, канечне, за грошы „ахранкі“ і абедзьве змагаліся з „Нашай Нівай“, разумеецца, і з беларускім нацыянальным рухам. *Я. К.*

## НІБЫ КАЗКА

На сьвеце на белым жыў Янка адзін,
Быў добры сусед ён і добры быў сын,
Любілі яго ўсе, на куце сядзеў,
Ніхто лепшай ласкі, як Янка, ня меў.
І праўда—з яго быў нішто чалавек,
І, пэўне, так зжыў-бы ён цэлы свой век.

Дзе жыў гэты Янка, там двор блізка быў,
Туды схадзіць часам наш Янка любіў,
Але—не на працу, а так сабе,—знаць,
Пабыць з панічамі, жыцьцё іх пазнаць.
І добра пазнаў ён іх гэта жыцьцё,
Бо стала нямілым яму сваё ўсё.

А толькі, як Янка ня корчыўся ўвесь,
Ніяк цераз панскі парог не пралез;
Ні хорт і ні выжал цяперака стаў,
Ад вёскі адбіўся, ў палац не папаў.
У вёсцы ўсім страшны, глядзіць, нібы пан,
У двор-жа як прыдзе—такі самы хам.

Нарэшце дакучыла Янку жыць так.
Нырнуў сюды-туды, папаў нейкі знак,—
Прадаўся (так чуў) ў нейкі чорны саюз[1])
І гэй-жа ўсіх вабіць у гэты хаўрус!
Што станецца далей з героем маім,
Я вам раскажу другім разам аб тым.

1908 г.

## ЭПІГРАМЫ

На Бел. Выд. Суполку
„Загляне сонца і ў наша аконца"

1

Што і мы аб чымсь дбаем,—выдавецкую маем
Суполку ад прошлага лета,
Дый ажно „Загляне сонца і ў наша аконца"
Таварыства ахрышчана гэта.

---

[1]) Пасьля рэволюцыі 1905 г. на Беларусі было многа размножылася ўсялякіх расійскіх чорнасоценных саюзаў, якія мелі за мэту змаганьне з рэволюцыйнымі думкамі і асабліва з беларускім нацыянальным рухам. Такі саюз і меў тут на ўвазе аўтар.

*Я. К.*

Але ўсё йшчэ цямноты... Як да кожнай работы,
Ня надта сьпяшыць мы ахвочы;
Знаць, пакуль гэта „сонца“ гляне ў наша аконца,
Начная раса выесьць вочы.

2

Горы абяцаці—
Ня споўніць крыхі—
Не сьвятыя лепяць
Гэткія гаршкі.

Ёсьць у нас „суполка“—
Цешся, беларус,
Тваёй мовай кніжак
Надрукуе стус.

Ой, сьпяшыць суполка
Кніжкі выдаваць,
Хіба на тым сьвеце
Будзем іх чытаць.

1917 г.

## НА...

Вось так хлопец, вось так ён,
Слухай яго голь!
На славах—магутны слонь,
А на дзеле—моль.

Праўда, што ня ўмее красьць,
Дык лжэ горай баб,—
Абяцанак горы дасьць,
А выканаць слаб.

Пражыве ён многа лет,
Вечна сыт і рад,
І пройдзе нават сьвет,
Дый ня вернецца-ж назад.

26/VII—1906 г.

## НА...

Ён і работнік грамадзянскі,
Мужыцкі пан і служка панскі,
І антыквар, і археолёг,
І бібліолёг, і філёлёг,
І быў-бы слаўным ён зусім,
Каб быў чым-колечы адным.

## НА...

То беларус, то палячок,
А чым папраўдзе—не згадаць.
Паслухай, гладкі панічок:
Пашто так скурай гандляваць?

## НА Д...

У кавярні водзіць рэй і лад,
Бывач яе заўсёдны, шчыры,
Сатыры піша там на ўсіх,
А сам—сьмяшнейшы ад сатыры.

18/X—1913 г.

## НА...

Варшаўскіх брукаў марны франт,
Пусты на словах, хлюст, пэдант,
На дзеле—невук, дылетант,
А як поэта—ў прэйскурант
Гадзішся толькі, мой ты франт.

18/X—1915 г.

## НА...

Мо' чалавекам з рук, з вачэй
Цябе, панок, і дразьняць недзе,
Дый людзкага ў душы тваей
Ня чуў, каб хто калі што ўгледзеў.

1907 г.

## НА...

Любіць ён работу,
Нават—аж да поту,—
Але між суседзяў,
На куце, ў бяседзе.

1908 г.

## ДЭПУТАТУ N N

Пасаромся, дэпутаце,
Хоць сваёй чорнай бялізны,
Ты-ж другой, кром Беларусі,
Не павінен мець айчызны.

А калі так вельмі хочаш
Мець і мачыху кром маткі,
То йдзі вон ад нас, шаноўны!
Забірай свае манаткі.

Замест пасьвіцца над праўдай,
Пасьвіць душы йдзі ў загіне,
Хоць табе йдзе лепш да твару
Пасьвіць крадзеныя сьвіньні.

1908 г.

## ВОДКЛІК З 29 КАСТРЫЧНІКА 1905 г. У МЕНСКУ

Божа наш божа, што гэта будзе,
Што гэтак сталі таннымі людзі?
Царскія слугі б'юць іх, страляюць,
І сваіх брацьцяў за сабак маюць.
А за што-ж гэта?—ўсё за свабоду,
Што ў моры фальшу йшлі шукаць броду.
Люд збудзіць хоча праўду з магілы,
Каб не марнелі думкі і сілы,
Меў бедны ўволю грошы і хлеба,
Бо й бедным такжа шмат чаго трэба.
Дарма, што бедны, дарма, што ўбогі,—
Трэба капоту, лапаць на ногі,
Пачак запалак, пачак табакі,
Чарку гарэлкі зглуміць усякі,
Булку і скварку трэба на сьвята
Пачаставаці кума ці свата...
Шмат чаго трэба. Цар-жа бічуе,
А бедны з гора бічу ня чуе.
Росьціць надзею рай мець за сьлёзы,—
Што вясна будзе, зьнікнуць марозы.
І хоць за праўду гіне нявінна,
Сьмела йдзе ў бойку... Так быць павінна.

Вось, як анэгдай было бліз вагзала:
Крыві нямала зямля папівала;
Трупаў, калекаў няшчасных бяз ліку

К зямлі прыпала, а з енку і крыку
Вокал гудзела, як дзе на пажары,
Аж сонца нават схавалася ў хмары.

Зышліся цешыцца з царскага ўказу,
Што ўсім свабоду прыносіў адразу.
Кожны пасвойму судзіць стаў аб гэтым:
Ці ўказ праўдзівы, ці будзе прасьветам
У нашым горы, у нашай няволі,
Ці ўжо кайданаў ня ўзложаць ніколі?..
І ў гэтым можа сказаў хто замнога...
Аж тут зброд царскі, забыўшыся бога,
Дай-жа страляці, як па скаціне,—
За праблеск волі няшчасны люд гіне,
Вось тут пазнай, ці свабоду нам далі,
Ці ашуканствам у бойню загналі?
Цяпер-жа ўсякі пасвойму тут судзе:
Адны талкуюць, што горш яшчэ будзе,
Што—цяпер стрэльбы грымяць каля хатаў—
Будуць-жа потым валіць і з гарматаў.
А іншы кажа, што цар нацарыўся,
Што досыць крыві ён нявіннай напіўся,—
Нібы бяз цара абыцца ён можа.
А хто-ж драць будзе, як цар голаў зложа?..
Цяпер-жа ты ці цьвяроз, ці упіся,
Цар ёсьць з табою, ва ўсё ён убіўся.
Калі у свабодзе такой пажывецца,
То і за сонца плаціць давядзецца.

1906 г. (?)

*Увага аўтара.* Пад арыгіналам гэтага вершу такі подпіс: паправіў і перапісаў з чужога арыгіналу Я. Купала. *Я. К.*

## У ЛЮДЗЕЙ І Ў НАС

*З расійскага—Някрасава*

У людзей у хаціне—прастор, чыстата,
А у нашай курной—цемната, цесната.
У людзей і у пост сала повен гаршчок,
А у нас і ў нядзелю алей ды часнок,
У людзей кум з кумой падараюць дзяцей.
А у нас яшчэ ім дай з бядноты сваей.
У людзей на вуме, каб з кумой пагуляць,
А у нас—каб хаця не пайці жабраваць.

12/VI—1906 г.

## ГАСЬЦІНЕЦ

*З расійскага—Кальцова*

Шлях-гасьцінец даўно
Прада мной лёг, ляжыць,
Дый па ім нельга мне
Ні лятаць, ні хадзіць.

Хто-ж трымае мяне,
Каго кінуць мне жаль,
Што да гэтай пары
Ня пушчуся я ў даль?

Ці то доля на сьвет
Сірацінай прышла,
Ці са шчасьцем сьляпым
Звод разлуку ўзяла?

На гады я ня стар,—
Звонка песьні пяю,
Поўна дум галава,
Поўна сэрца агню.

Скарб нялічаны мой
Пад замкамі ляжыць
І хадун вараны
Асядланы стаіць.

Але волі няхват
Мне у сьвет паляцець,
У чужой старане
На людзей паглядзець.

Дзе падчас—у бядзе—
Сябе ў крыўду ня даць,
Проць благіх непагод
Грудзьмі сьмелымі стаць.

Быць вясёлым, скакаць
На бяздольлі сваём,
На загубу пайсьці,
Песьні пець салаўём.

Вільня. 16/IX—1929 г.

## З ПЕСЕНЬ БАРАЦЬБЫ ЗА ВОЛЮ

*З расійскага—Дм. Цэнзара*

Сьпеце, хто згінулі ў бойках за люд,—
Край за вас будзе маліцца...
Скора памінкі адбудуцца тут,
Маці-зямля адрадзіцца.

Блісnumь паходні Усходу й прыгон
Мучыць ня будзе народа,—
Будуць мінуўшыя бітвы, як сон,
Будзе вясна і свабода.

Толькі ня прыдуць на сьвята вясны
Тыя, што надта любілі...
Сьпеце, палеглыя, сьпеце, тут мы
Плачам на братняй магіле!

1905 г.

## НА ПАЛЕСЬСІ

*З польскага—Кандратовіча*

Сярод багнаў і бораў,
На пясочку на рыжым
Села вёска ў пакоры,
Як убогі пад крыжам.

Шумяць тонкія сосны,
Нуды ў шуме тым многа:
Выгляд вёскі нязносны,
Выглядае убога.

Людзі ў зрэбных сярмягах,
Лапці ногі ім вяжуць,
У ваччу голад, смага.
Б'е ад іх дым і сажа.

Тарчаць пуняў і хатаў
Ломам сьцены-шкілеты,—
Замест гонтаў на латах—
Лахманы з ачарэтаў.

Гняздо-ж бусел бясьпечна
На страсе пачаў класьці:—
Селянін верыць вечна,
Што яго ў гэтым шчасьце.

Не пляці гэткіх божбаў...
Жывуць буслы пустынна,
Калі-ж слухаць варожбаў,—
Шчаснай ваша краіна.

О, жывем мы шчасьліва!..
Трудна хлеба век меці,
Глядзіць пусткаю ніва,
Пустка ў пуні і клеці.

Думкі скрыты памрокай:
То прасьветласьць, то цьма там;
Уздыхаеш глыбока
Над сабою, над братам.

Нікне з сэрца надзея,
Праўдзе верыць марудзіш...
Надта-ж гора дадзене—
На сьвет цэлы забудзеш.

Сьцежкі росіш сьлязою,
Гляне труд без патолі;
Варажба варажбою,
А нядоля нядоляй.

Недзе ў далі палае
Наша сонца-багацьце,—
Бусел стуль вылятае
Бедакоў прывітаці.

Людзі бусла пусьцілі
Чысьціць сьвет з брыды ўсякай,
Дый ці-ж птушынай сіле
Усіх зьнішчыць вужакаў.

Зводзімся забабонам,
Як бяду напаткаем,
Няма долі даўно нам,—
Варажбой намагаем.

Чалавеку бясконца
Шчасьце ў прышласьці сьніцца,
Покі-ж выгляне сонца,
Грызе вочы расіца.

1905 г.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ [1])

**Якуб Колас**

X

Дзяжа трохвёрстку разглядае,
Каб уясьніць акопны плян.
І раптам спаў з вачэй туман:
Пастой—Падгаіна... Рудая...
Да гэта-ж вёска і ёсьць тая!
А дзе Засьценьне? дзе Раван?
На карце назвы, як жывыя,
Растуць, варушацца хутчэй,
І нікнуць літары з вачэй,
У плямкі сходзяцца сьляпыя
Ці гнуцца ў кульбачкі крывыя,
Каб скрыць імя сваё ямчэй.
А вось яно, вось дзе Засьценьне!
Бы кропка, значыцца кружок
І зьмейка-рысачка—Стружок!
І ясна ўсё, няма сумненьня...
Па карце робіць вылічэньне—
Як блізка вабны беражок!
Бярэ маштаб, кладзе, раўняе—
Ад нашай лініі вёрст шэсьць!
Адкрыцьце гэтае і весьць
Усё сабою засланяе
І ўвесь настрой яго мяняе,
А сэрца томіць нешта, есьць.
Бязладны тлум глухіх парываў,
Няясных вобразаў, праяў
У міг адзін прад ім паўстаў,
І аднавіліся так жыва
Мінуты дзён былых, жычлівых,
Што ў гэтай буры пагубляў.

---

[1]) гл. „Полымя“ № 2.

Ён карту складвае, хавае,
І дзе ў зямлі паўздоўж дратоў,
Калючых гідасных платоў,
І гэта лёха грабавая
На момант мысьлі разьбівае,—
А як надзейны гэты схоў?
А што калі адтуль мартыры—
Хіба што ёсьць дзіўнога ў тым?—
Агнём распрыжацца крутым
Якраз вось тут, у гэтай дзіры?
І ляжа трупам ён у жвіры,
Як лёг і той, забіты ім?
І пэўна жджэ яго расплата
За грэх, за пролітую кроў:
Ён больш, чым Каін, вінаваты
Бо і ня ведае ён брата—
Каго забіў, са сьвету зьвёў?
Акопам сунецца ён далей
Між цёмных выступаў зямлі,
І разам думкі з ім ішлі,
І страхі ўсюды выступалі,—
У кожны момант кожнай хвалі
Свае надзеннасьці былі.
Паміж траверсаў-ушчалопаў
Шарэюць постаці салдат,
Што свой выконваюць нарад,
Яму так жудасна ў акопу!
Ідзе да іх, бы зьбіты з тропу,
Ён проста ім, як людзям, рад.

ДЗЯЖА

Што, хлопцы, добрага у вас?

УНЦЕР КРАЙКА

Да так што нічаво.
Ён там глядзіць на нас,
А мы тут на яво.

ДЗЯЖА

А што-б рабілі вы,
Каб вораг стаў з акопаў выпаўзаць?

КРАЙКА

Мы пачалі-б яго лузаць.

ДЗЯЖА

Ну, малайцы, і дух ваш баявы!..
А дзе здабыў Георгія ты, брат?

КРАЙКА

На Сане, ваша бродзь, каля Карпат.

ДЗЯЖА

Ну, раскажы, за што і як
Здабыў пачэсны гэты знак?

КРАЙКА

Была задача баявая
Нашай роце:
Заняць узгорак каля гаю
На балоце,
Заняць, што-б там ні стала,
Хоць памры ўсе без астатку.
Анцілерыя мал-мала
Ў аўстрыякаў пастраляла,
Сказаць, ужо больш для парадку,
Пашлі мы гэта ў наступленьне,
А ён як сыпне з кулямёту,
Так і шчапае нашу роту!
І не даюць нам падкрапленьня.
Залеглі мы на відавоку,—
Ну, не падступішся ніяк.
Мы акапаліся сяк-так,
А дальш ня сунешся ні кроку.
Ляжым так гэта, я-ж цікую
І сьцяміў, дзе іх кулямёт,
І дакладаю рэч такую,
Сам выклікаюся ў паход.
Далі зьвяно.
Маўчком
Паўзком
Мы, як вужы,
Шыбуемся каля мяжы,
І нас ім ня відно.
Падпаўзьлі і—шусь зьнянацку!
Адабралі мы іх цацку.
Іх чацьвёра,
А нас пяць.
Анямелі і маўчаць,

Падымаюць рукі ўгору
І бяз слова
Просяць літасьці у нас.
Мы штыкамі іх—раз-раз!
І—гатова!
Наша ўзяла і—канец!

ДЗЯЖА

Ну, і маладзец!
Ваяк адмысловы!

Але ня тое, не, ня тое
Сказаць хацелася яму,
Ды не сказаў таго. Чаму?
Ён думкі тыя ў сабе тоіць,
І часам лепш сказаць пустое,
Чым іх адкрыць абы каму.
Ён зноў адзін, пясчынка ў моры,
З дарогі зьдзьмуты ветрам пыл
Сярод варожых яму сіл.
Паслухаў—шолах поўніць норы,
Зірнуў—там ноч спускае шторы,
І гасьне ў мроку небасхіл.
Патоп цямраны нярухома
Струменіць сон, спакой зямлі,
А ты ня сьпі, ты не драмлі:
Што будзе ўночы, невядома—
Зарніцы бліскаюць, і громы
На левым флангу загулі
І віск-выцьцё, ды так-жа нудна,
Прарэжа мрок, як гураган,
Нібы застогне сам шатан,
Каб сон навеяць непрабудны.
І не паддацца страху трудна,
Ніжэй панікнеш на дырван.
Ці не пачнецца наступленьне
Ці з іх ці з нашай стараны?
Чаго ўсхадзіліся яны?
Як жутка ў гэтым сутарэньні!
На чыстым доле, бяз сумненьня,
Гарматы больш яшчэ страшны.
Але выходзіць ён з акопу—
На версе дышыцца вольней,
А ноч становіцца цямней,
І скрозь цямраную затопу

Ня возьмуць сьледу яго, тропу,
І тут глядзець на ўсё зручней.
Знаходзіць добрую мясьціну,
Гарбок зямлі—прыродны шчыт,
І забясьпечан ён, прыкрыт.
Зарніца! стрэл! І сноп раскінуў
Чырвоных стужак на даліну
У наш бок іхні дынаміт.
Блісь-блісь! успыхваюць бліскаўкі,
Агністанітныя брыжы,
І мрок хістаецца, дрыжыць,
Бы нейкі люты зьвер загаўкаў,
Скрышыўшы ўсякія застаўкі,
Варожы, прагны і чужы.
Зьвініць зямля зацятым звонам,
І стогне ноч, галосіць даль,
Ён грудзі рве жалеза, сталь,
А над зямлёю засмучона
Зьвісае дымная заслона
Ды йдзе ў паветра сінеч-смаль.

Ў акопе гутараць салдаты.

АДЗІН САЛДАТ

Ну, гэта—глупства, так
Палохае нас толькі аўстрыяк.

ДРУГІ САЛДАТ

Але бяруцца штось заўзята
(І ў багародзіцу іх мацьЦ).

ТРЭЦІ САЛДАТ

Але і нашы не маўчаць—
Грымяць ня кепска, таўставата!

ПЕРШЫ

А нашы што? Цяля укралі ў бога?
Хапае гэтага дабра—
Мінулася галодная пара,
Калі ня мелі мы нічога:
Ні патронаў, ні снарадаў,
Хадзілі з голым кулаком
Ды адбіваліся штыком,
А нас лупілі, як тых гадаў.
Цяпер-жа фабрыкі, заводы

І робяць толькі на вайну—
Снарадны голад наш мінуў:
Вайна цягнуцца будзе годы.

ДРУГІ

Сядзіць на фабрыцы рабочы
Там, у тылу, і дні і ночы
Ды робіць гэтае дабро
Табе ў пашчэнку, у рабро—
На фронт, нябось, і ён ня хоча,
Куе, машынаю грукоча,
Каб меў ты ўставіць чым пяро,
Мы вас, моў, там не забываем—
А самі тож не дурачкі!—
Ваюйце толькі, землячкі!
І мы вам, брацьце, памагаем!

ПЕРШЫ

Вось то-та і яно!
А ня было-б прыпасаў,
І скончылі-б вайну тым часам!
А так—канца ёй ня відно.

ТРЭЦІ

Няма канца, канец яшчэ ня скора...
А дома ўсё гібе, прападае,
І сам тут прападзеш, як мыш рудая!..
Эх, гора наша гора!
Ніхто не спагадае...
Эх, маць твая такая!

ДРУГІ

Чаго зажаліўся так горка?
Хіба ня помняць аб салдату?
Хіба ня шлюць нашаму брату
Кусочкаў мыла і махоркі?
І мыйся, і куры,
І ворага з Расеюшкі туры!

ПЕРШЫ

Ну, вось і сьціхла страляніна...
Калі ўжо стануць наступаць,
Тады ня так пачнуць шчапаць,
Саб'юць на сукінага сына
Акопы ўсе і ўсе драты,

І самі выскачаць краты
Са шчылін гэтых, з гэтых нор—
Ня той, брат, будзе калянкор!

### ТРЭЦІ

Ніхто ня хоча замірэньня,
І кожны прагне верх узяць.
Эх, растакоўская іх мацЬ!
Яшчэ ўсё мала разбурэньня,
Ўсё за вайну яшчэ стаяць.
А ўсунуць-бы сюды такіх ваяк,
Староньнікаў вайны,
Што на вайну глядзяць са стараны,
Да паганяць-бы іх, як кручаных сабак,
Няхай-бы спробавалі смак
І наступленьня і атак,—
Ня тое пра вайну сказалі-б тут яны!

### ДЗЯЖА

А штаб паведаміць па-свойску:
„На фронце ўсё без перамен,
І „превосходный“ дух у войску.

І ён сядзеў, сядзеў і слухаў
І фронт усутыч назіраў.
Гарматны стрэл то заміраў,
То дзесь у месцы іншым бухаў
Зацята, здушана і глуха,
Нібы там вохкала гара.
Ракеты ўдоўж акопных ліній
Віліся ў небе матыльком,
Як-бы падмігвалі цішком
Засланай цемрадзьдзю нізіне,
Ня стой, разьведчык, на даліне,
На землю кідайся нічком!
Будзь чуйным, дружа,—сьмерць вартуе
Тут кожны міг твой кожны крок,—
Падступства коціцца здалёк,
І вораг пастку тут гатуе,
І брата брат не паратуе,
Калі ім паў на вочы мрок.
Зямлю і мора, высь над долам
Насыціў злобай дух вайны,
Бы ходзіць нехта патайны,
Ліхі і злы з панурным чолам

І ў сэрца льле атрутны шолам,
Каб кроўю змочваць дырваны.

Бяжыць хвіліна за хвілінай.
Дзяжа ня сьпіць, ня можа спаць,
Хоць сон кладзе сваю пячаць,
А думкі ткуць сваю тканіну.
Ці сьніць ці бачыць ён айчыну?
Засьценьне-ж тут рукой падаць!
І гэта блізкасьць так хвалюе.
Прад ім, бы той агністы слуп,
Стаіць пабіты громам дуб,
А Насьцю бачыць, як жывую,
Бы хто ў вачох яе малюе!
Як міл ён, вобраз той, і люб!
А ў галаве ўстаюць пытаньні,
Нястырна лезуць раз-па-раз.
Але хто-ж дасьць на іх адказ?
І ў сэрцы родзіцца жаданьне
Разьвеяць мрок таго нязнаньня,
Што так гняце і томіць нас.
І ён глядзіць у мрок імглівы,
У тую сторану зямлі,
Дзе дні вясёлыя плылі,
А з імі песень пераліўы,
Дзе лета з поклічам тужлівым
У вырай несьлі жураўлі.
І як дзіўно: на трэцім лецe—
Бы нейкі лёс ёсьць сапраўды—
Ён зноў закінуты сюды,
Прайшоўшы пэўны круг на сьвеце!
І гэты лёс ён запрымеціў
Яшчэ ў тылу, яшчэ тады.
Дазнацца трэба, здабыць весьці,
Дабіцца мэты тут адной—
Няпраўдай, праўдаю, маной:
Туды, на той бок пералезьці,
Пра ўсё даведацца на месьце,
Якою-б ні было цаной!

Вось тое цьвёрдае рашэньне
І пастанова і дэвіз,
Што ставіць сам сабе Барыс,
І ён пяройдзе бяз сумненьня,
Бо сьцежкі ведае ў Засьценьне,
Ён знае кожны роў і хмыз.

Жыцьцё-ж мільёнамі дарожак
У многалучнасьці праяў
Ідзе няспынна ў гаме зьяў,
Каго прыб'е, каму паможа,
Каго ў халодны дол уложыць.
Дзяжа ўсё гэта назіраў.
І ўсе штодзенныя праявы
Калецтва, сьмерці і пакут
На душу клалі толькі мут,
Ня так зражае шал крывавы,
Сышоўшы ў стан звычайнай справы,
І ўсё звычайным стала тут.
Але ня фронтам, не вайною,
Не драбязьлівасьцю разваг,
Што ты—нікчэмнасьць, пыл і прах,
Сарваны ліст і кучка гною,—
Жыве ён думкаю адною:
Як сьмелы выпаўніць замах?
Ён разглядзеў усе мясьцінкі,
Да кропкі вывучыў раён
І сотні розных тут імён,
Усе узгоркі і далінкі,
Балотцы, кусьцікі, маршчынкі,—
Усё, што вычытаць мог ён.
І ўсё прымаў ён пад увагу:
Законы строгія вайны,
І намер гэты патайны,
І афіцэрскую прысягу,
І рызыкоўнасьць, і адвагу,
І дызэртырства бяз віны.
Але-ж ён, праўда, так мяркуе:
Туды прабрацца і назад,
Калі на добры выйдзе лад—
Ён тут нічым не рызыкуе,
Наадварот—за рэч такую
Здабудзе славы сабе шмат.
Аб ім напішуць і ў газэтах,
А ў „Огоньку" дадуць портрэт,
Яго праславяць на ўвесь сьвет;
А не дасягне свае мэты,
Што-ж? сам паплаціцца за гэта,
І марна згіне яго сьлед.
А можа быць і не загіне,
У горшым выпадку палон,

Калі такі ўжо яго кон,
І ад вайны там адпачыне:
У гэтым віры-трасяніне
Такіх налічыцца мільён.
А тут, у „Рускім Інвалідзе“
Старанна выведзе пісец:
„... Прапаў бяз весьці!“ і—канец.
Да Насьці гэта вестка прыдзе,
І будзе ўсё ў законным відзе—
Ідзі, з кім люба, пад вянец!

Намечан дзень, і час назначан,
Калі ён рушыцца ў паход,
Усё абдумана ўпярод,
І кожны выпадак прадбачан—
Уводзіць самая задача,
Вось гэта труднасьць, пераход...
Надлецьцем сон у дзьве гадзіны,
Калі ўстае туман-дымок,
Найболей крэпак і глыбок...
Прывет вам, родныя мясьціны!
Ды як спаткаеце вы сына,
Што к вам набліжвае свой крок?

20/I—3/II 1929 г.

# ЗАГАРЫЦЦА СЭРЦА...

**Аркадзь Моркаўка**

Загарыцца сэрца... што-ж? дрыжы і бойся,
Гавары: сустрэча не ў пару.
Гавары, што косаў залатая восень
Знае прысак пешчаў блізкіх рук.—
Гэта толькі словы. Гэта кажуць вусны.
А на сэрцы граюць самаграі-гусьлі.

Між агнёў дзівосных ў крышталёвым садзе
Ты міжвольна пойдзеш, быццам цень.
Ліст на сьлед нябачны будзе сонна падаць,
Будуць птушкі вострыя ляцець.
І празрыстым звонам будзе зваць крыніца,—
Гэта край ружовы будзе сэрцу сьніцца.

З нячуваным болем гэты край пакінеш,
Абвіешся лёгкім пылам зор
І растанеш песьняй там, дзе месяц сіні
Патануў за гнуткаю лазой.
І застынуць словы. І замоўкнуць вусны.
І парвуцца ў сэрцы самаграі-гусьлі.

30-XII—28 г.

# НАРОДНАЯ ГАСПАДАРКА БССР НА ШЛЯХОХ КАСРТЫЧНІКА [1]).

Л. Расін

## Процэсы аграмаджаньня ў народнай гаспадарцы БССР

Необходимо стремиться к достижению более быстрого. чем в капиталистических странах, темпа народно-хозяйственного развития и непременного систематического повышения удельного веса социалистического хозяйственного сектора, что является решающим и главным моментом во всей хозяйственной политике пролетариата.

Резолюции и постановления XV с'езда ВКП(б) (стенограф. отчет, стр. 1292).

Мы бачылі, што народная гаспадарка краіны ўздымаецца, уздымаецца прамысловасьць, уздымаецца сельская гаспадарка, уздымаюцца ўсе іншыя яе галіны. Але констатаваць толькі гэту акалічнасьць для нас зусім мала, бо шлях Кастрычніка заключаецца ня столькі ва ўздыме нагогул, колькі ў кірунку гэтага ўздыму. Уздымацца бо можа і капіталістычная гаспадарка, і ў розныя гістарычныя эпохі рознага роду іншыя сыстэмы гаспадаркі! Але куды мы ўздымаемся? Якава якасьць і кірунак нашага разьвіцьця? Ці паднімаемся мы ў нашым разьвіцьці на больш высокую соцыяльную ступень, ці тупаемся на месцы? Толькі гэтым і азначаецца каштоўнасьць тых ці іншых дасягненьняў у колькасным росьце нашае народнае гаспадаркі. Зьвернемся таму да разгляду соцыяльных форм вышэй констатаванага разьвіцьця вытворчых сіл краіны.

Пачнем наш агляд з прамысловасьці.

### I

Усім вядома, што прамысловасьць у СССР знаходзіцца пераважна ў руках аграмаджанага сэктару (дзяржавы і коопэрацыі), для прыватнага капіталу тут вельмі абмежаванае поле дзейнасьці. Досыць сказаць, што ўвесь прыватны сэктар ужо ў 1925—26 г. займаў толькі 9,5 проц. у асноўных фондах прамысловасьці і 19,9 проц. у агуловай продукцыі, пры гэтым роля яго ў агуловай продукцыі буйнай прамысловасьці (цэнзавай) азначалася ўсяго 4,0 проц., а ў 1927—28 годзе значэньне пры-

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 1.

ватнага сэктару зьніжаецца ўжо толькі да 1,7 проц. Трохі іншае палажэньне прыватнага капіталу ў Беларусі. Тут, дзякуючы раду гістарычных прычын соцыяльна-політычнага і экономічнага характару, у даваенны час пераважнае значэньне мела дробная саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць, буйная-ж прамысловасьць была разьвіта параўнаўча слаба. Гэты свой характар прамысловасьць Беларусі ў пэўнай меры захавала да цяперашняга часу. Праўда, адносная вага дробнай прамысловасьці ва ўсёй прамысловай вытворчасьці краіны зьнізілася за апошнія тры гады з 44,1 проц. у 1925—26 годзе да 34,7 проц. у 1927—28 г., але значэньне яе ў прамысловай вытворчасьці БССР і ў 1927—28 г. больш як у два разы перавышае адпаведнае значэньне дробнай прамысловасьці ў прамысловай вытворчасьці па Саюзу ўцалку [1]). Адсюль вынікае, што шляхі аграмаджаньня ў БССР трохі адрозьніваюцца ад адпаведных шляхоў па Саюзу, процэсы аграмаджаньня тут непараўнана трудней, бо адпаведнае ўзьдзеяньне павінны адчуваць дзесяткі тысяч дробных вытворцаў, раскіданых па ўсёй краіне. Калі па Саюзу ўжо ў самым пачатку дзяржава мела ў руках такі магутны падважнік узьдзеяньня, як буйная прамысловасьць, то ў Беларусі ўплыў гэтага падважніка на дробную прамысловасьць, зьвязаную пераважна з сялянскім сырцом і сялянскім спажыўцом, быў непараўнана слабей. Ня гледзячы, аднак, на гэта, процэс аграмаджаньня ў БССР усё-такі не адстае ад такога-ж процэсу па СССР.

**Паказальнікі процэсаў аграмаджаньня ў прамысловасьці.**

| | Адносная вага аграмаджанага сэктару | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У БССР | | | | У СССР | | | |
| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Асноўныя фонды | 75,4 | 80,0 | 85,8 | 90,3 | 90,5 | 91,1 | 92,0 | 92,9 |
| Агуловая продукцыя | 67,5 | 73,8 | 83,4 | 89,1 | 80,1 | 82,8 | 87,3 | 89,3 |
| У тым ліку буйнай | 96,9 | 98,6 | 99,4 | 99,2 | 96,0 | 97,8 | 98,3 | 98,4 |
| " " дробнай (без сыравіны заказчыкаў) | 29,7 | 36,6 | 54,4 | 66,6 | 17,1 | 21,0 | 32,3 | 39,5 |

Аграмаджаны сэктар у прамысловай вытворчасьці БССР як па асноўных фондах, так і агуловай продукцыі пераважае. На яго долю ў 1925—26 г. прыпадала 3/4 усіх асноўных фондаў і больш 2/3 усёй агуловай продукцыі. Апошнія гады далі няўхільнае павялічэньне аграмаджанага сэктару, які разьвіваўся як за кошт новага ўжо з самага пачатку дзяржаўнага будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў, так і за кошт

[1]) Адносная вага дробнай прамысловасьці ва ўсёй прамысловай вытворчасьці па Саюзу складала ў 1927—28 г. 12,7 проц.

прыватнага сэктару, вымушанага спыніць вытворчасьць ці перабудавацца на коопэрацыйных асновах, пераходзячы, такім чынам, пад непасрэдны контроль і кіраўніцтва пролетарскае дзяржавы. Досыць паказаць, што аграмаджаны сэктар прамысловасьці даў павялічэньне сваёй продукцыі параўнаўча з папярэднімі гадамі ў 1926—27 г. на 14,5 проц., у 1927—28 г. на 36,1 проц. і ў 1928—29 г. дасьць далейшае павялічэньне на 38,0 проц., продукцыя-ж прыватнай прамысловасьці падае ў 1927—28 г. на 23,8 проц. і ў 1928—29 г. зьнізіцца, як мяркуецца, на 14,7 проц. Вынікам такой дынамікі вытворчай дзейнасьці паасобных соцыяльных сэктараў прамысловасьці было далейшае павялічэньне адноснае вагі аграмаджанага сэктару, значэньне якога ў 1927—28 г. азначаецца па асноўных фондах у 90,3 проц. і агуловай продукцыі ў 89,1 проц.

Параўнаньне адпаведных даных па БССР і СССР паказвае, што роля аграмаджанага сэктару ў прамысловай вытворчасьці БССР прыкметна слабей, чым у СССР, што тлумачыцца адносна большым значэньнем у Беларусі дробнай прамысловасьці з перавагаю прыватнага сэктару. Апошні, як відаць з табліцы, сконцэнтраваны выключна ў дробнай прамысловасьці, значэньне-ж яго ў буйной прамысловасьці выражаецца толькі тысячнымі долямі. Але і тут адбываецца няўхільны процэс „клясавага замяшчэньня“. Калі роля прыватнага сэктару ў дробнай прамысловасьці ў 1925—26 г. азначалася 76,6 проц., то ў 1927—28 г. вага яго зьніжаецца да 64,8 проц., а ў 1928—29 г. яго роля будзе зьведзена да 60 проц. Характарна, што процэсы аграмаджаньня ў прамысловасьці БССР разьвіваюцца нават больш хуткім тэмпам, чым па Саюзу, прычым адносная вага аграмаджанага сэктару ў дробнай прамысловасьці тут нават вышэй, чым па Саюзу (у 1927—28 г. 54,4 проц. супроць 32,3 проц.).

Такім чынам, у галіне прамысловасьці БССР апошнія гады характарызаваліся пашыраным аднаўленьнем вытворчасьці соцыялістычных элемэнтаў, прычым гэты процэс адбываўся адначасова як па лініі пашыранага аднаўленьня вытворчасьці, так і па лініі клясавага замяшчэньня, колектывізацыі, аграмаджаньня і зьвязанага з імі ўзбуйненьня прыватнай дробнай саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці. На мяжы 1928—29 г. агуловая продукцыя прамысловасьці аграмаджана па Саюзу на 87,3 проц. і па БССР на 83,4 проц. Гэты процэс ня спыніцца і ў 1928—29 г. Тое нямногае, што застаецца яшчэ не аграмаджаным, ня можа і ня будзе мець колькі-небудзь прыкметнай ролі ў народнай гаспадарцы краіны. Тая сувязь паміж горадам і вёскай, якая ажыцьцяўляецца на рынку шляхам таварна-грашовых адносін, ёсьць сувязь паміж вёскай і соцыялістычным горадам.

Але якава справа ў вёсцы? Ці пануе там беспадзельна прынцып прыватнай уласнасьці і прыватна-ўласьніцкія формы вытворчасьці, ці пролетарская дзяржава і там зрабіла патрэбныя соцыяльныя зрухі?

Да разгляду гэтага пытаньня мы зараз і пераходзім.

II

Адносная вага аграмаджанага сэктару ў асноўных фондах і агуловай продукцыі сельскае гаспадаркі за апошнія гады зьмянялася такім чынам:

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|---|
| Асноўныя фонды . . . | 1,0 | 1,1 | 1,4 | 1,7 |
| Агуловая продукцыя . . | 7,1 | 6,9 | 7,0 | 7,5 |
| У тым ліку зямляробства (расьлінаводз. і жывёлагад.) | 1,9 | 2,0 | 2,2 | 2,6 |

Гэтыя даныя кажуць аб тым, што ў галіне сельскае гаспадаркі аграмаджаньне за апошнія тры гады амаль не прасунулася наперад, адносная вага аграмаджанага сэктару тут вельмі нязначная, прычым да апошняга часу ён ня выявіў нават тэндэнцыі да росту. Разам з тым адзначым, што, прыкладам, такое-ж самае палажэньне і па Саюзу, хоць там апошні год адзначае ўжо ўздым крывое аграмаджаньня. Трэба, аднак, узяць на ўвагу што актыўны ўплыў у гэтым стасунку пачаўся толькі пасьля XV зьезду партыі, які паставіў гэту работу ў аснову ўсёй партыйна-савецкай работы ў вёсцы на бліжэйшы пэрыод. У веснавую і асеньнюю пасеўныя кампаніі мінулага году організавалася ня мала рознага роду коопэрацыйных аб'яднаньняў, продукцыя якіх, як продукцыя аграмаджанага сэктару, зможа быць улічана толькі ў продукцыі 1929—30 г. [1]).

Досыць паглядзець на дынаміку колгаснага руху для таго, каб пераканацца ў тым, што процэс колектывізацыі, пакуль што праўда павольна, але ўсё-ж ідзе наперад, ахапляючы ўсё большыя пласты сялянства.

**Дынаміка колгаснага руху ў БССР (на канец году).**

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|---|
| Усяго колектыўных гаспадарак | 380 | 441 | 995 | 1353 |
| У іх: а) зямельнай плошчы ў гектар. . . . . | | 50410 | 82640 | 132300 |
| б) сялян. гаспадарак . | 3956 | 4466 | 7950 | 13850 |
| У $^0/_0{}^0/_0$ да ўсіх сялян. гасп.) . | 0,51 | 0,57 | 1,00 | 1,72 |

За апошнія гады лік колгасаў і колькасьць сялянскіх гаспадарак, якія аб'яднаны імі, павялічылася больш як у $2^1/_2$ разы, коопэраванасьць ўзьнялася з 0,51 проц. на 1-X — 1926 г. да 1,00 проц. на 1-X — 1928 г., прычым пераважная частка гэтага прыросту прыпадае на 1927—28 г. які даў павялічэньне ліку колгасаў на 125,6 проц., ліку аб'яднаных сялянскіх гаспадарак на 75,9 проц. і колектывізаванай зямельнай плошчы на 63,9 проц. На 1928-29 г. мяркуецца далейшае павялічэньне колгаснага руху, які мераецца дзесяткамі процантаў.

Але гэтым ня вычэрпваюцца яшчэ паказальнікі ў галіне аграмаджаньня. Апрача колгасаў, у БССР налічваецца больш 2 тысяч рознага роду

[1]) Продукцыяй расьлінаводзтва данага году лічыцца агуловы збор папярэдняга году, які разьмяркоўваецца толькі ў наступным годзе. Збор збожжа, напр., у 1927—28 г. лічыцца агуловай продукцыяй 1928—29 г.

коопэрацыйных аб'яднаньняў, якія ахапляюць некалькі соцень тысяч сялянскіх гаспадарак. Усякага роду коопэрацыйныя аб'яднаньні: малочна-жывёлагадоўныя, машынныя, садова-агародныя, пчалярскія, насенныя, мэліорацыйныя і рад другіх, якія коопэруюць пакуль што толькі паасобныя віды гаспадарчай дзейнасьці, паступова перарастаючы ў больш высокія грамадзкія формы організацый—зьяўляюцца пераходнай ступеньню да поўнай колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Ня гледзячы, аднак, на гэта, мы ўсё-ж павінны констатаваць, што сельская гаспадарка пакуль што зьяўляецца тым „вузкім месцам“, дзе соцыялістычныя элемэнты яшчэ вельмі мала ўкараніліся.

Калі аграмаджаньне і коопэрацыя дробнай прамысловасьці натыкаецца на значныя труднасьці, што вынікаюць іменна з дробнага характару вытворчасьці і яе раскіданасьці, то яно яшчэ трудней, непараўнана больш складана ў сельскай гаспадарцы, дзе вытворчасьць распылена паміж мільёнамі дробных і драбнюткіх сялянскіх гаспадарак. Ленін у сваім вядомым артыкуле аб коопэрацыі, паказваючы на важнасьць і канечную патрэбу коопэрызацыі сельскае гаспадаркі, што „нам засталося *„толькі“* адно: зрабіць наша насельніцтва настолькі цывілізаваным, каб яно зразумела ўсе выгады ад удзелу усіх чыста ў коопэрацыі і наладзіла гэты ўдзел“, разам з тым пісаў, што „для таго, каб зрабіць гэтае *„толькі“*, патрэбен цэлы пераварот, цэлая палоса культурнага разьвіцьця ўсёй народнай масы“. Таму мы дасягненьні ў гэтай галіне павінны расцэньваць ня толькі па непасрэдных паказальніках конкрэтнай колектывізацыі, але і па тых „падглебавых“ процэсах, якія падрыхтоўваюць для яе ўмовы, ствараюць першыя элемэнты, накапленьне якіх выкліча пераход колькасьці ў якасьць.

І вось, калі зьвярнуцца да гэтых прадпасылак колектывізацыі сельскае гаспадаркі, то справа будзе выглядаць ужо зусім не такою безнадзейнаю, як яна здаецца на першы пагляд.

XV зьезд партыі ў сваіх рэзолюцыях і пастановах па гэтым пытаньні адзначыў, што „шляхі разьвіцьця вёскі азначаюцца разьвіцьцём гораду, і што капіталістычным элемэнтам вёскі супрацьстаіць у нашых умовах ня толькі батрак, бядняк і серадняк, але і ўся дыктатура пролетарыяту з яе магутнымі экономічнымі каманднымі вышынямі (у першую чаргу—соцыялістычнай індустрыяй), коопэрацыяй і іншымі падважнікамі плянавага ўзьдзеяньня на сельскую гаспадарку“.

Элемэнты разьвіцьця колектывізацыі пранікаюць у сельскую гаспадарку і рознымі ўскоснымі шляхамі. Сюды ў першую чаргу трэба залічыць плянавыя загатоўкі сельгаставараў дзяржаўнымі і плянавымі загатоўцамі, контрактацыю засеваў, сельска-гаспадарчы крэдыт, сыстэму дастаўкі машын і г. д. Усё гэта стварае патрэбныя ўмовы, прадпасылкі колектывізацыі сельскае гаспадаркі. Калі зьвярнуцца да нашых плянавых загатовак, то мы атрымаем вельмі цікавыя даныя, якія сьведчаць аб усё

больщым ахопе дзяржаўнымі і коопэрацыйнымі організацыямі таварнай продукцыі сельскае гаспадаркі.

Вось гэтыя даныя.

| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|
| Загатоўкі аграмаджанага сэктару ў %% па ўсёй таварнай масе сельгаспродуктаў . . . | 28,3 | 36,2 | 50,7 |

Сялянства, стала быць, да 1/3 усёй сваёй таварнай продукцыі рэалізавала цераз аграмаджаны сэктар. У 1928-29 г. значэньне аграмаджанага сэктару павінна ўзвысіцца да 50,7 проц. Мы далей пакажам, што пераважную частку прамтавараў сялянства набывае таксама цераз аграмаджаны сэктар. Рынкавы памен, такім чынам, з кожным годам усё больш і больш траціць уласьцівыя гэтаму гістарычнаму віду памену рысы, захоўваючы толькі яго форму. Гэта форма, аднак, з кожным годам усё больш перастае адказваць зьместу процэсу памену ва ўмовах савецкае гаспадаркі і павінна будзе саступіць сваё месца організаванаму продукта-разьмеркаваньню паміж горадам і вёскай. Гэты процэс будзе прысьпяшацца контрактацыяй засеваў, якая набывае ўсё больш шырокія разьмеры.

Ужо самы факт росту соцыялістычнай прамысловасьці, аграмаджаньня памену, да якога індывідуальная сялянская гаспадарка вымушана зварочвацца штодзенна,—ужо самы гэты факт, апрача ўплыву яго на ўздым сельскае гаспадаркі наогул, ня можа не рабіць пэўнага ўплыву і на соцыяльную організацыю сельскае гаспадаркі. Тое соцыялістычнае асяродзьдзе, якое ствараецца вакол сельскае гаспадаркі, павінна, хоць-бы па закону злучаных пасудзін, узьдзейнічаць на вёску, так-жа сама, як апошняя ўзьдзейнічае на горад, жывячы яго прыватна-капіталістычныя элемэнты. Наша вёска ня можа разьвівацца капіталістычна, калі горад разьвіваецца соцыялістычна. У экономічным і соцыяльным змаганьні дзьвюх супроцьлеглых сыстэм перамагчы павінна тая сыстэма, якая адпавядае больш высокай організацыі грамадзтва. Гістарычна горад заўсёды вёў за сабою вёску, быў рэволюцыянэрам у стасунку да апошняй. Маркс наконт гэтага пісаў, што „ўся экономічная гісторыя грамадзтва рэзюмуецца ў руху гэтай (горад—вёска.—*Л. Р.*) супроцьлегласьці („Капитал“, т. I, стар. 266). Але калі рэволюцыйнасьць капіталістычнага гораду ў прамысловасьці ў стасунку да вёскі выражаецца ў зьнішчэньні самастойнасьці селяніна, вызваленьня яго ад „атупляючай абстаноўкі вясковага жыцьця“ (Маркс) шляхам ператварэньня ў наёмнага рабочага, то соцыялістычны горад выганяе гэту атупляючую абстаноўку з вёскі і, перабудоўваючы соцыяльную організацыю вёскі, уздымае сельскую гаспадарку на больш высокую тэхніка-экономічную ступень.

Сельская гаспадарка можа разьвівацца толькі як буйная гаспадарка, бо дробная вытворчасьць мае на ўвазе раздрабленьне зямлі і рэшты

сродкаў вытворчасьці. Яна выключае як концэнтрацыю гэтых апошніх, так і коопэрацыю, падзел працы ўнутры аднаго і таго самага вытворнага процэсу, грамадзкае панаваньне над прыродай і грамадзкае рэгуляваньне яе, свабоднае разьвіцьцё грамадзкіх вытворчых сіл. Яна сумяшчальна толькі з вузкімі традыцыйнымі граніцамі вытворчасьці і грамадзтва. Імкненьне ўвечніць яе раўнасільна імкненьню „дэкрэтаваць усеагульнае пасярэдніцтва“ (Маркс, „Капітал“, т. І, стар. 612). А разьвівацца, як буйная гаспадарка, яна ў нашых умовах можа толькі як гаспадарка колектыўная, як гаспадарка аграмаджаная.

У самай вёсцы ёсьць ня мала ўмоў, якія палягчаюць і прысьпяшаюць гэты пераход да буйнае аграмаджанае гаспадаркі. Пераважная большасьць бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх гаспадарак непасрэдна зацікаўлены гэтым, і патрэбен быў якісьці знадворны штуршок для таго, каб драмаўшыя да гэтага часу сілы ўскалыхнуліся і пачаўся непасрэдны пераход да колектыўных форм гаспадаркі. Гэтым штуршком зьявіўся XV партыйны зьезд, які абвясьціў разам з узмоцненым наступам на капіталістычныя элемэнты вёскі разьвязваньне потэнцыяльных сіл колектывізацыі вёскі. Мінулы год не выпадкова адзначыў вялізарны рост рознага роду коопэрацыйных аб‘яднаньняў сялян. У мінулым годзе выявіліся тыя падглебавыя процэсы, якія адбываліся ў самай вёсцы ў апошнія гады, тое Ленінскае „толькі“, якое ў некаторай частцы ўжо ажыцьцёўлена. Бядняцка-серадняцкія пласты сялянства, перадавая яго частка, ужо зразумела, што выйсьці з эканомічнага тупіка дробнае гаспадаркі можна толькі шляхам колектывізацыі, якая стварае патрэбныя ўмовы для росту вытворчых сіл сельскае гаспадаркі. Гэта, зразумела, ня значыць, што індывідуальная форма сялянскае гаспадаркі ўжо да канца вычарпала ўсе магчымасьці для свайго ўздыму, але магчымасьці гэтыя, асабліва ў Беларусі з яе вострым малазямельлем і беднасьцю сялянскіх гаспадарак капіталамі, вельмі вузкія. Для сельскае гаспадаркі, каб прысьпешыць яе разьвіцьцё, патрэбна ўкладаньне значных капіталаў як для організацыі зямельнай плошчы, так і тэхнічнага пераўзброеньня сельскае гаспадаркі. Гэтыя ўкладаньні не пад сілу індывідуальнай сялянскай гаспадарцы, а часам і тэхнічна немагчымы: ужываньне, напр., складанай машыны выгадна толькі пры пэўнай больш ці менш буйнай велічыні зямельнай плошчы і гаспадаркі. Досыць параўнаць дынаміку ўраджайнасьці ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках і ў колгасах для таго, каб пераканацца, што перавага ў гаспадарчых адносінах бязумоўна на баку буйнае колектыўнае гаспадаркі.

Ураджайнасьць збожжавых культур у саўгасах і колгасах вышэй ураджайнасьці ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках (у $^0/_0$ $^0/_0$).

| 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|
| +20,2 | +11.7 | +18.8 | +21,4 |

Ураджайнасьць у колгасах і саўгасах, такім чынам, заметна вышэй ураджайнасьці індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Пры гэтым трэба ўзяць на ўвагу, што нашы колгасы сваёй тэхнікай пакуль што мала адрозьніваюцца ад індывідуальнае сельскае гаспадаркі, што самыя сярэднія разьмеры колгасаў яшчэ надта невялікія для таго, каб у колькінебудзь значнай ступені выявіць перавагу буйнае гаспадаркі. Гэта адносна большая вытворчасьць павінна быць аднесена пераважна за кошт організацыйных форм гаспадаркі—зьнішчэньня далёказямельля, цераспалосіцы і правядзеньня зямляўпарадкаваньня. У гэтых лічбах, такім чынам, не адбіваюцца ўсе магчымасьці ўздыму вытворчасьці сельскае гаспадаркі шляхам колектывізацыі.

Аб тым, што сялянства бачыць і разумее перавагі колектыўнае гаспадаркі і робіць адпаведныя вывады, сьведчыць і зробленае нядаўна Наркамземам дасьледваньне організаваных у 1928 годзе колгасаў.

Вось некаторыя даныя з гэтага дасьледваньня:

**Характарыстыка гаспадарак, што організаваліся ў 1928 г. ў колгасы.**

| №№ па парадку | Групы гаспадарак па засеву | Разьмеркав. сял. гаспад. орг. у кол. гасп. у 1928 г. па засеўных групах | З агульнага ліку гаспадарак, організ. у колектывы ў 1928 г.: Бяскон-ных (У процантах) | Бескароўных (У процантах) | % гаспадарак, што мелі цераспалоснае зямлякарыстаньне | Прычыны ўступленьня ў колгасы: Малазямельле | Магчымасьць атрымаць лепшую зямлю | Магчымасьць павялічыць зямлякарыстаньне | Магчымасьць весьці культурна гаспадарку | Усе прычыны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Безасеўныя . . . . | 21,2 | 70,0 | 40,0 | 60 | 24,0 | 1 | — | 56 | 19 |
| 2 | З засевам да 2-х дзесяцін . . . . | 37.4 | 20.0 | 5.0 | 80 | 19 | — | 1 | 25 | 55 |
| 3 | З засевам ад 2 да 4 дзесяцін . . | 33.5 | 3,0 | 1,0 | 84 | 7 | 1 | 2 | 49 | 41 |
| 4 | З засевам ад 4 да 6 дзесяцін . . | 5,8 | 4,0 | 2,0 | 90 | 4 | 4 | 9 | 53 | 30 |
| 5 | З засевам ад 6 да 8 дзесяцін . . | 1.2 | — | — | 80 | — | — | — | 83 | 17 |
| 6 | З засевам больш 8 дзесяцін . . | 0,9 | — | — | 80 | — | 14 | — | 57 | 29 |
| | Бяз розьніцы у групах . | 100,0 | 20.0 | 10.0 | 78 | 13 | 1 | 2 | 40 | 44 |

Пераважную частку гаспадарак, што організаваліся ў 1928 г. ў колгасы, становяць бядняцка-серадняцкія гаспадаркі з рабочай жывёлай і каровамі. Бясконныя сярод іх складаюць 20 проц., а бескароўныя нават толькі 10 проц. Характарна, што 78 проц. гаспадарак да ўступленьня ў колгасы мелі цераспалоснае зямлякарыстаньне, 4 проц. вотрубнае,

11 проц. пасёлкавае і 7 проц. хутарское; 24 проц. гаспадарак у выніку рэволюцыі атрымалі зямельныя прырэзкі. Цікава апошняя частка табліцы, якая характарызуе прычыны ўступленьня ў колгасы. З яе відаць, што пераважная частка гаспадарак уступіла ў колгасы, маючы на ўвазе „магчымасьць больш культурна весьці гаспадарку“, прычым 60 проц. усіх гаспадарак, што ўступілі ў колгасы, назіралі і знаёміліся з жыцьцём колгасаў да свайго ўступленьня ў іх. Таксама заслугоўвае ўвагі, што з агульнага ліку колгасаў, організаваных у 1928 г., 18 проц. організаваліся на надзельнай зямлі, 35,5 проц.—на фондавай зямлі і 52,7 проц. на надзельнай з прырэзкай, г. зн. колгасы організуюцца пераважна на сялянскай-жа надзельнай зямлі, што зьяўляецца вельмі важнай акалічнасьцю, якая дазваляе ўясьніць і ў пэўнай меры ацаніць гэты процэс.

Тут ня месца шмат гаварыць аб выгоднасьці буйнае гаспадаркі ў параўнаньні з дробнай; хто цікавіцца гэтым пытаньнем, няхай прачытае прамову тав. Якаўлева на XV партыйным зьезьдзе, які на прыкладах Смаленскай і Арлоўскай губэрань адпаведнымі дыяграмамі давёў гэта палажэньне з максымальнай пераканальнасьцю і нагляднасьцю (гл. стэнограф. справаздачу XV зьезду ЎсеКП(б), стар. 1207 і далей). У Беларусі ўраджайнасьць у сялянскіх гаспадарках і да гэтага часу яшчэ прыкметна адстае ад ураджайнасьці за даваенныя часы, што ў пэўнай меры тлумачыцца драбленьнем зямлякарыстаньня і сельска-гаспадарчага капіталу. Так, ураджай з адзінкі плошчы ў 1928 г. ніжэй сярэдняга ўраджаю за 1909—1913 г. г. па галоўных культурах на 7 проц., а па ільнапакульлю нават на 30 проц. Калі зьвярнуцца да тых зьмен, якія адбыліся ў структуры сялянства ў сэнсе разьмеркаваньня яго па асноўных вытворчых адзнаках, то атрымаем наступныя вельмі характарныя даныя, паказаныя намі ў ніжэйпаданых дыяграмах.

**Разьмеркаваньне сялянскіх гаспадарак па засеўных групах.**




У гэтай дыяграме досыць выразна відаць той процэс „асераднячэньня“, які меў месца ў нашай вёсцы за пасьлярэволюцыйны пэрыод: крайнія флянговыя групы скараціліся і адпаведна павялічылася сярэдняя група. Калі ў 1917 годзе беззасеўных было 9,9 проц. усіх сялянскіх

гаспадарак, то ў 1927 г. іх налічваецца толькі 1,4 проц.; адносная вага высока-засеўных груп (ад 8 дзесяцін і вышэй) зьніжаецца з 5,3 проц. ў 1917 г. да 3,2 проц. ў 1927 г.; за кошт гэтых крайніх груп павялічваюцца сярэдня-засеўныя групы. Гэты процэс „асераднячэньня“ яшчэ больш рэльефна выступае ў паказальніку забясьпечанасьці сялянства жывёлай.

**Разьмеркаваньне сялянскіх гаспадарак па забясьпечанасьці жывёлай.**




Такім чынам, пасьлярэволюцыйны пэрыод характарызуецца падцягваньнем бядняцкіх пластоў вёскі да серадняцкага ўзроўню за кошт кулацкіх груповак. Гэты соцыяльны зрух у вёсцы выклікаў пэўнае драбленьне гаспадарак і разам з тым зьніжэньне таварнасьці і прыбытковасьці сельскае гаспадаркі. Уздым сельскае гаспадаркі магчымы на аснове концэнтрацыі раздробленага і распыленага індывідуальнага сялянскага зямлякарыстаньня і паасобных сялянскіх капіталаў. У капіталістычным грамадзтве гаспадарчы прынцып узбуйненьня адбываецца шляхам вымываньня сярэдніх груп сялянства і росту яго флянгавых груповак—кулакоў і асабліва беднякоў-напоўпролетараў, г. зн. у канечным падрахунку шляхам паўпэрызацыі асноўнай масы сялянства. У нашых-жа ўмовах гэты шлях выключаны, узбуйненьне сельскае гаспадаркі можа адбывацца на аснове ўздыму ўзроўню дабрабыту асноўнай масы сялянства. Апошняе-ж магчыма толькі шляхам коопэраваньня і колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Такія прадпасылкі аграмаджаньня сельскае гаспадаркі, якія з жалезнай канечнасьцю рана ці позна павінны прывесьці да ажыцьцяўленьня Ленінскага коопэрацыйнага пляну ў сельскай гаспадарцы. 1927—28 год зьяўляецца першым годам пачатку ажыцьцяўленьня гэтага пляну, наступныя гады яго ажыцьцявяць.

Пераходзім да разгляду процэсаў аграмаджаньня ў галіне гандлю.

## III

Таваразварот, сфэра памену, зьяўляючыся функцыяй вытворчасьці, займаючы ў стасунку да гэтага апошняга падпарадкаванае палажэньне, зьяўляецца ў той-жа час люстрам, у якім адбіваюцца і соцыяльныя зрухі ў народнай гаспадарцы краіны. Констатаваныя намі значныя дасягненьні ў галіне аграмаджаньня ў сфэры вытворчасьці не маглі не аграмаджваць і памену; апошняе ў сваю чаргу палягчае і прысьпяшае процэсы аграмаджаньня ў галіне вытворчасьці. Таваразварот, яго абсолютны ўзровень і соцыяльная форма, якія азначаюцца ва ўмовах савецкае гаспадаркі разьмерамі і соцыяльнай формай вытворчасьці, зьяўляецца ў той-жа час магутным падважнікам рэгуляваньня народнае гаспадаркі наогул і далейшага разьвіцьця і ўзмацненьня тых грамадзкіх форм, вынікам якіх ён сам зьяўляецца.

Таваразварот, такім чынам, зьяўляецца зусім не апошнім элемэнтам у суме тых складанак, якія азначаюць сабою ступень аграмаджанасьці нашае народнае гаспадаркі.

Што мы, аднак, маем у гэтай галіне за апошнія тры гады, якаво соцыяльнае аблічча пасярэдніцкага таваразвароту БССР на мяжы 1928—29 году?

Трэба перш за ўсё сказаць, што ў гэтых адносінах Беларусь у сілу тых-жа соцыяльна-політычных і экономічных прычын аказвалася ў менш спрыяльным палажэньні параўнаўча з Саюзам. Калі прамысловасьць была разьвіта параўнаўча слаба, то гандаль, які меў характар пераважна раздробнага гандлю, быў надзвычайна пашыраны. Досыць паказаць, што ў канцы мінулага сталецьця лік асоб, крыніцаю існаваньня якіх быў гандаль, у Віцебскай і Магілеўскай губэрнях, напр., складаў 5,29 проц. ўсяго насельніцтва гэтых губэрань, тады як у суседніх Пскоўскай і Смаленскай губэрнях адносная вага гэтай катэгорыі асоб складала ня болей 1,94 проц. [1]). Гэтае палажэньне наўрад ці істотна зьмянілася ў наступныя гады. Гандлёвыя функцыі ў Беларусі былі, такім чынам, распылены паміж шматлікімі гандлярамі, якія ўступалі свае функцыі аграмаджанаму сэктару гандлю толькі тады, калі яны канчаткова былі біты ўсёй экономічнай політыкай савецкае дзяржавы. Натуральна таму, што аграмаджаньне гэтай сфэры народнай гаспадаркі ў Беларусі таксама адбывалася ў даволі складанай абстаноўцы.

[1]) Б. Д. Бруцкус. Профессиональный состав еврейского населения России, стар. 30.

Апошнія гады і асабліва 1927—28 г. усё-ж далі вельмі рашучы пералом у соцыяльнай структуры нашага гандлёва-пасярэдніцкага апарату і соцыяльным складзе таваразвароту краіны. З гуртавога гандлю прыватнік к пачатку 1928—29 г. ўжо амаль зусім выцінуты. Яго адносная вага ў гуртавым гандлі зьніжана з 7 проц. ў 1925—26 г. да 1,7 проц. ў 1927—28 г. У дробным гандлі, аднак, прыватнік больш жывучы, хоць і там ён за апошнія гады прыкметна здаў свае позыцыі.

**Соцыяльны склад раздробнай гандлёвай сеткі БССР (у %%)**

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўны і коопэрацыйны гандаль . | 20,3 | 21,4 | 27,0 | 31,4 |
| Прыватны гандаль . . . . . . | 79,7 | 78,6 | 73,0 | 68,6 |
| Разам . . . . | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

Соцыяльны склад раздробнае гандлёвае сеткі ў Беларусі на працягу апошніх гадоў зьмяняўся ў бок узмацненьня аграмаджанага сэктару і адпаведнага скарачэньня прыватнага. У 1927—28 г. агульны лік гандлёвых крам у БССР складаўся з 73 проц. прыватных і 27 проц. дзяржаўных і коопэрацыйных. Трэба, аднак, мець на ўвазе, што колькасны стасунак паміж лікам гандлёвых адзінак розных сэктараў не зьяўляецца яшчэ паказальнікам, які поўнасьцю адлюстроўвае фактычныя суадносіны паміж паасобнымі сэктарамі. Прыватныя гандлёвыя прадпрыемствы—пераважна прадпрыемствы дробнага гандлю з параўнаўча невялікімі зваротамі—ніяк нельга раўнаваць з коопэрацыйнымі ці дзяржаўнымі. Калі разьмежаваць звароты адпаведных соцыяльных сэктараў па колькасьці належачых ім гандлёвых прадпрыемстваў, то атрымаем наступныя вельмі цікавыя даныя, якія характарызуюць разьмеры гандлёвых прадпрыемстваў паасобных соцыяльных сэктараў:

**Сярэдні зварот на адну краму (у тыс. руб.)**

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўная . . . . . | 34,5 | 40,1 | 44,0 | 46,3 |
| Коопэрацыйная . . . | 37,3 | 45,0 | 51,8 | 57,2 |
| Прыватная . . . . . | 7,6 | 7,1 | 7,0 | 7,0 |
| Бяз розьніцы . . | 13,7 | 15,1 | 18,8 | 22,0 |

Сярэдні зварот на адну краму ў дзяржаўным і коопэрацыйным гандлі, такім чынам, вышэй адпаведнага звароту прыватнай крамы ў 7—8 разоў. Характарна, што ў той час, як дзяржаўны коопэрацыйны гандаль буйнее, прыватны гандаль, наадварот, выяўляе тэндэнцыю да зьніжэньня сярэдняга звароту на адну краму, г. зн. разам з агульным скарачэньнем ліку крам падае гандлёвая нагрузка існуючых яшчэ прыватных крам, што зьяўляецца прадпасылкай далейшага іх згортваньня і ліквідацыі.

Даныя ў папярэдніх табліцах датычыліся ўсёй гандлёвай сеткі БССР уцалку. Цікава, аднак, прасачыць разьвіцьцё гэтага процэсу ў горадзе і ў вёсцы.

**Соцыяльны склад раздробнай гандлёвай сеткі (у %%)**

| | Горад | | Вёска | |
|---|---|---|---|---|
| | Дзярж. і коопэр. | Прыватн. | Дзярж. і коопэр. | Прыватн. |
| 1925-26 г. . . | 15 | 85 | 42 | 58 |
| 1926-27 „ . . | 16 | 84 | 40 | 60 |
| 1927-28 „ . . | 20 | 80 | 47 | 53 |
| 1828-29 „ . . | 24 | 76 | 52 | 48 |

Як відаць з табліцы, адзначаны вышэй процэс згортваньня прыватнай гандлёвай сеткі характарны як для гораду, так і для вёскі, пры чым у вёсцы аграмаджаны гандаль у 1928—29 годзе лікам крам ужо пераважае. Зварочвае на сябе ўвагу надзвычайна высокая адносная вага прыватнай гандлёвай сеткі ў гарадох, дзе на яе долю прыпадае да 4/5 усіх гандлёвых крам. Прадпрыемствы гэтыя, аднак, у пераважнай сваёй частцы першага і другога разраду з сярэднім зваротам 7,3 тыс. руб. (у 1927—28 г.), тады як сярэдні зварот коопэрацыйнай крамы складае 84,5 тыс. руб. Адпаведныя лічбы ў вёсцы будуць: 5,7 тыс. руб. для прыватнай крамы і 25,4 тыс. руб. для коопэрацыйнай.

Гэтыя даныя, якія маюць самастойную цікавасьць, як мы на гэта ўжо паказвалі, не характарызуюць, аднак, поўнасьцю процэсу аграмаджаньня ў галіне гандлю. Больш паказальны ў гэтым стасунку абсолютныя разьмеры таварнай масы, што праходзіць праз каналы паасобных соцыяльных сэктараў. Калі мы зьвернемся да гэтага паказальніка, то атрымаем такія даныя:

**Соцыяльны склад раздробнага пасярэдніцкага тавараразвароту БСРР (у %%)**

| Гады | С. С. С. Р. | | | Б. С. С. Р. | | | У тым ліку: Горад | | | Вёска | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аграмаджаны | Прыватны | Усяго | Аграмаджаны | Прыватны | Усяго | Аграмаджаны | Прыватны | Усяго | Аграмаджаны | Прыватны | Усяго |
| 1925-26 г. . . | 56,2 | 43,8 | 100,0 | 53,7 | 46,3 | 100,0 | 50,6 | 49,4 | 100,0 | 66,7 | 33,3 | 100,0 |
| 1926-27 „ . . | 64,7 | 35,3 | 100,0 | 60,7 | 39,3 | 100,0 | 58,2 | 41,8 | 100,0 | 71,8 | 29,2 | 100,0 |
| 1927-28 „ . . | 76,7 | 23,4 | 100,0 | 70,4 | 29,6 | 100,0 | 68,1 | 31,9 | 100,0 | 79,0 | 21,0 | 100,0 |
| 1928-29 „ . . | 80,5 | 19,5 | 100,0 | 76,4 | 23,6 | 100,0 | 74,2 | 25,8 | 100,0 | 84,0 | 16,0 | 100,0 |

Адносная вага прыватнага гандлю, які займаў у раздробным пасярэдніцкім тавараразвароце БССР у 1925—26 г. 46,3 проц., зьніжаецца ў 1928—29 г. да 23,6 проц., г. зн. значэньне прыватнага гандлю ва ўсім раздробным тавараразвароце краіны зьніжаецца на палавіну, адпаведна ўздымаецца значэньне аграмаджанага сэктару, пераважна коопэрацыі. Пры гэтым прыватны раздробны гандаль ня толькі траціць сваю аднос-

ную вагу, але і абсолютныя разьмеры яго звароту выяўляюць зьніжэньне ў 1926—27 г. на 3,3 проц., у 1927—28 г. на 22,3 проц. і ў 1928—29 г. зьнізіцца на 11,6 проц. У той-жа час агульны раздробны зварот краіны павялічваецца за гэтыя гады адпаведна на 14,4 проц., 4,3 проц. і 11,2 проц. (у стасунку да папярэдніх гадоў).

Параўнаньне соцыяльнага складу раздробнага пасярэдніцкага таваразвароту БССР з адпаведнымі данымі па СССР і паказвае на тыя спэцыфічныя ўмовы, што склаліся гістарычна, соцыяльнай структуры гандлю Беларусі, аб якіх мы гаварылі вышэй. Прыватны сэктар тут на працягу ўсіх разгледжаных намі гадоў больш значны, чым па Саюзе. Гэтыя свае асаблівасьці таваразварот Беларусі захоўвае і ў 1928—29 годзе. Адносная вага прыватнага гандлю ў гэтым годзе ў БССР складзе 23,6 проц. супроць 19,5 проц. у СССР.

Разглядаючы другую частку нашай табліцы, мы бачым, што значэньне прыватніка ў вёсцы значна слабей, чым у горадзе. Адносная вага прыватнага сэктару ў сельскім гандлі, зьведзеная ўжо ў 1925—26 г. да $^1/_3$ усяго звароту, у 1928—29 г. скарачаецца, прыкладам, да $^1/_6$; у горадзе, аднак, яна ўсё яшчэ захоўвае за сабою $^1/_4$ усяго пасярэдніцкага таваразвароту.

Такі вынік трохгадовага процэсу аграмаджаньня ў сфэры таваразвароту краіны, вынік трохгадовага змаганьня за колектывізацыю тавараправодных каналаў і за аграмаджаныя формы сувязі паміж таваравытворцам і спажыўцом, паміж горадам і вёскай. Тыя клясавыя замяшчэньні, якія мелі месца ў сфэры гандлю, павінны, аднак, расцэньвацца ня толькі з пункту погляду аграмаджаньня самога таваразвароту, але, што значна важней, з пункту погляду таго ўплыву, які гэта замяшчэньне робіць і будзе рабіць на паглыбленьне процэсаў аграмаджаньня ў народнай гаспадарцы наогул і ў вёсцы паасобку. Аграмаджаньне памену, апрача ўсяго іншага, стварае патрэбныя ўмовы і прадпасылкі для ажыцьцяўленьня вялізарнейшай задачы па рэконструкцыі і індустрыялізацыі народнае гаспадаркі. Пролетарская дзяржава, апанаваўшы паменам, тым самым атрымлівае ў свае рукі магутны падважнік узьдзеяньня на ўсе галіны народнае гаспадаркі, сродак, які паслабляе ўплыў стыхійных фактараў і гарантуе, такім чынам, найбольш неадчувальнае ажыцьцяўленьне вялізарных гістарычных задач, што стаяць перад народнаю гаспадаркаю краіны.

* * *

Падагульняючы ўсё сказанае, мы констатуем, што апошнія гады зьяўляліся гадамі ня толькі росту народнае гаспадаркі краіны наогул, але і гадамі формаваньня і ўзмацненьня соцыялістычных элемэнтаў ва ўсіх яго галінах. Пашыранае аднаўленьне вытворчасьці народнае гаспадаркі, сьпіраль нашага гаспадарчага разьвіцьця зьяўлялася адначасна сьпіральлю аграмаджаньня, якая ўзьнялася за гэтыя гады на вельмі высокі ўзровень.

Гаспадарчы організм нашай маладой савецкай рэспублікі бясспрэчна ўмацаваўся як колькасна, так і якасна. На мяжы 1928—29 году народная гаспадарка краіны аказваецца аграмаджанай у прамысловай вытворчасьці на 78,5 проц. і ва ўсім пасярэдніцкім тавараздвароце (уключаючы і гуртовы) на 84,6 проц. У сельскай гаспадарцы гэты процэс аграмаджаньня толькі-толькі пачаўся. Мінулыя гады, аднак, і тут не „прапалі дарма", яны падрыхтавалі глебу, стварылі канечна патрэбныя прадпасылкі для гэтага процэсу, які ўжо пачаўся ў 1927—28 г. і які набудзе сваё далейшае паскоранае разьвіцьцё ў наступныя гады.

Азіраючыся назад, об'ектыўна падагульняючы пройдзены шлях, мы няўхільна павінны зрабіць вывад, што балянс мінулых гадоў зводзіцца з вялізарным плюсам на карысьць народнае гаспадаркі наогул і яе соцыялістычных элемэнтаў асабліва. Тыя перашкоды, якія пролетарская дзяржава спатыкае ў сваім разьвіцьці, тымчасовыя няўзгоды, якія прыходзіцца пераживаць на гэтым цяжкім і бяспрыкладным шляху, ня могуць зацямніць тых дасягненьняў, якія нясумненна зроблены; яны ня могуць засланіць сабою тыя багатыя пэрспэктывы, якія адкрываюцца перад нашай маладой савецкай краінай.

## ДЛЯ ВЫТОКАЎ МАСТАЦКАЙ ПРОЗЫ ЯКУБА КОЛАСА [1])

**А. Вазьнясенскі**

Дагэтуль мы разглядалі тыя зьявы стылю, што ствараюць гумарыстычную стыхію ў апавяданьнях Я. Коласа. Цяпер мы павінны разгледзець мову яго ўжо незалежна ад гумарыстычнай стылізацыі, выўчыць яго мастацкую мову, якую ён ужывае наогул, як звычайную і літаратурную мову. Гэты сур'ёзны (не гумарыстычны) стыль аднолькава ўласьцівы як апавяданьням комічным, так і сур'ёзным. Мы разгледзім яго зноў у сувязі з асноўнымі часьцінамі яго тэматыкі—з дзеючымі асобамі яго апавяданьняў і з тымі абставінамі, што іх акружаюць.

Усе стылістычныя зьявы ў мове пісьменьніка, з пункту погляду іхнай прыроды ды ўласьцівасьцяй, распадаюцца на дзьве вялікія групы: адны з іх даюць рэальнае, навочнае, плястычнае выяўленьне, а другія—псыхолёгічнае, эмоцыянальнае. У межах гэтых двух шэрагаў маецца некалькі больш прыватных пачленаваньняў, у залежнасьці ад таго, якую мастацкую ролю выконваюць пэўныя моўныя прыналежнасьці. Стыль першага шэрагу ўжывае аўтар звычайна ў тых выпадках, калі ён малюе знадворны выгляд герояў ці рэчаў, калі дае іхныя знадворныя портрэты. Мовай-жа другой катэгорыі ён пераважна карыстаецца пры выяўленьні ўнутраных бакоў вакольных рэчаў, зьяў ды жывых істот, іх псыхолёгічнага руху. Пры гэтым больш падрабязны пісьменьнік у другім выпадку і менш—у першым. Адпаведна з гэтым і колькасьць паасобных стылістычных прыналежнасьцяй большая пры абрысоўцы ўнутраных перажываньняў і меншая ў выяўленьнях знадворных станаў.

У сваіх апісаньнях *знадворнага абліччa дзеючых асоб* ці *іх дзеяньняў* аўтар ужывае звычайна зрокавыя *эпітэты*. Ён паказвае пераважна звычайныя, якія перш за ўсё кідаюцца ў вочы, прыметы таго героя, якога ён апісвае, адзначаючы сваімі эпітэтамі ці *форму* пэўнай часьці цела чалавека (круглыя вочкі), ці яго ўсяго (худы, высокі Андрэй), ці *колер* тэй або іншай прыналежнасьці чалавечага організму (рыжыя вусы). Для абазначэньня, якраз, гэтых звычайных прымет дзеючай асобы пісьменьнік карыстаецца такімі-ж самымі звычайнымі зрокавымі эпітэтамі,

---

[1]) Гл. „Полымя" № 1.

ня ўжываючы зусім вытворных ды штучных. Яго эпітэты такія-ж простыя, якія простыя тыя прыметы, што хоча адзначыць аўтар, апісваючы таго ці іншага героя. Пры абазначэньні агульнага аблічча героя аўтар ці зазначае яго прыблізна ўзрост (стары Пятрусь, маладая Галда), ці-ж азначае яго такімі эпітэтамі, як—высокі, гарбаты ды інш.

У некаторых выпадках, ужываючы зрокавыя эпітэты, аўтар не здавальняецца толькі імі; ён тут-жа конкрэтызуе тыя прыметы, што маюцца ў іх. Так, зазначаючы тое, што вусы Сьпірыдона („Так і трэба ашуканцу") былі *сьветлымі*, аўтар тут-жа дадае: пад колер сьмятаны (188). Гэта сьведчыць, што прымета зрокавасьці, плястычнасьці ў разгляданых эпітэтах не аднолькавай якасьці; у адных выпадках гэтыя прыметы больш выразныя і пэўныя, асабліва ў тых эпітэтах, што абазначаюць афарбоўку ці колер тых або іншых рэчаў (рыжы, чорны ды інш.), тымчасам як у другіх яны больш адносныя ды ўмоўныя (стары, высокі і г. д.).

Што да тых об'ектаў, якіх аўтар праваджае эпітэтамі, дык гэта— ці цэльная постаць героя, ці-ж галоўныя яе часьціны; часьцей за ўсё адзначаюцца якасьці галавы героя, а потым і другіх яго часьцін—носа, вачэй, вусоў і г. д. Але, як ужо зазначалася пры разглядзе тэматыкі, на апісаньні знадворнага выгляду герояў аўтар спыняецца надта мала і не надоўга; з прычыны гэтага і колькасьць стылістычных сродкаў, а прыватна эпітэтаў, параўнальна з колькасьцю іх пры выяўленьні другіх бакоў акаляючых абставін, невялікая. Прыклады, найбольш характарныя для данага выпадку, можна адзначыць наступныя: „хмель пачынаў туманіць яго (Міхася) *лахматую галаву*" („Апавяданьні", 10); „ходзіць па мястэчку вураднік, пакручваючы *рыжыя вусы*" (ib., 29); „пытаўся вечарам вураднік свайго належнага *гарбатага стражніка*" (ib., 29); „*худы высокі Андрэй* вынуў люльку" (ib., 39); „выступіў Грыгор, *шырокаплечы мужык* з *рудою барадою*" (ib.,); „*круглыя, цёмныя вочкі* Міхася" (ib., 44); „стукала саракоўка аб *тоўстую мазалістую руку*" (ib., 60); „пяць *сьветлых*, пад колер сьмятаны валаскоў пад носам, каторыя азначалі сабою Сьпірыдонавы вусы" („Родныя Зьявы", 188); „такія-ж *сьветлыя*, як і вусы, вочы, *сьветлыя бровы*, каторыя з першага погляду трудна было разглядзець" (ib., 188); стораж з *чырвоным носам*" (ib., 200); „селяніну (Піліпу) з *чорнай барадою*" (ib., 202); „Юрка важна пашоў... *босымі чорнымі ножкамі*" (210) [1]).

---

[1]) Пар. таксама: „фігура Паўлюка з *маленькімі цёмнымі вусікамі*" („Апавяданьні", 45); „апусьціўшы *пасівелую галаву*" („Родныя Зьявы", 15); „заблішчэлі *старыя вочы дзеда*" (ib., 47); „круціў *стары Юрка сівою галавой*" (ib., 49); „сам быў *маладым хлопцам*" (ib., 49): „Мужыкі... мерылі *шырокімі крокамі* поле" (ib., 50); „*мазалістыя рукі* з вялікім трудом пісалі фаміліі сваіх уладзельцаў" (ib., 52); „ён (Арцём) высунуў сваю *кудлатую*, *ўскалмачаную галаву*" (ib., 128); „*тоўстыя агрубелыя пальцы* спабожна перабіралі струны" (ib., 193) і г. д.

Такога-ж характару і *параўнаньні,* ужываныя аўтарам з тых-жа самых мэтаў. Як і ў папярэднім выпадку, пісьменьнік карыстаецца параўнаньнямі для больш маляўнічага выяўленьня героя ці ў яго цэлым (стаяў Васіль, як палатно, белы), ці-ж толькі асобных яго часьцін (нос яго быў чырвоны, як бурак), але ў пэўны статычны момант яго бытаваньня, ці-ж больш за ўсё ён бярэ гэтыя спосабы стылю пры апісаньні дзеяў героя, іх руху ў тэй ці іншай форме (людзі *хадзілі,* як цені; *задрыжэў* увесь, як праступнік).

Самыя вобразы, якімі карыстаецца аўтар, бяруцца ім з рэчаў ды зьяў, такіх блізкіх да таго героя, якога ён малюе, г. зн. да беларускага селяніна; ён запазычае іх з яго-ж блізкага яму быту. У якасьці вобразных разуменьняў фігуруюць такія рэчы звычайнага вясковага ўжытку, як палатно, асіна, мурашка, бурак, баран, злодзей, вуж і г. д. Але гэты быт, паводле свайго зьместу, як вядома, надта вузкі ды абмежаваны; у ім цяжка шырака разгарнуцца мастацкай вынаходлівасьці аўтара; таму і колькасьць асобных самастойных вобразаў з гэтага, якраз, быту надта абмежаваная; з прычыны гэтага, у яго сустракаюцца часамі паўтарэньні адных і тых-жа вобразаў (як куля, Р. З., 34, 202), як злодзей (Р. З., 62, 212 ды інш.).

З прычыны таго, што дзеяньне і рух герояў у апавяданьнях, як было зазначана раней, займаюць надта многа месца, дык і агульная колькасьць параўнаньняў, якія аўтар ужывае часьцей за ўсё, якраз пры выяўленьні іх, значна большая, чым эпітэтаў. У якасьці ілюстрацый можна падаць такія: „ня раз стаяў Васіль, *як палатно, белы* ад крыўды і несправядлівасьці, выслухіваючы спавяданьні пана лясьнічага“ („Васіль, Чурыла“, 5); „успамінаў Васіль, што ў яго ёсьць жонка, ёсьць маленькія дзеткі, і рукі самі апускаліся, і стаяў ён, *як акамянелы,* маўчаў—ні слова“ (ib., 5); „морда лясьнічага... дрыжэла, *як лісьця асіны перад навальніцаю*“ (ib., 7); „дамарослага пісара цягнулі праз усю хату, *як мурашкі хрушча*“ (ib., 20); „нос яго (памоцніка пісара) быў заўсягды чырвоны, *як бурак*, і выдаваў яго шчырую дружбу з манапολькаю“ (ib., 24); „стаяў ён (сядзелец) сагнуўшыся і круціў шыяй, *як аглушаны баран*“ (ib., 27); „людзі хадзілі, *як цені*, халодныя, сярдзітыя“ (ib., 56); „толькі ён (стары Базыль), *як той стары падгніўшы дуб*, растраціўшы сваё лісьце, стаіць між зялёнымі дубамі“ (ib., 17); „ён, *як куля*, рванецца на двор“ („Родныя Зьявы“, 34); „Міхалка задрыжэў увесь, *як злоўлены праступнік*“ (ib., 36); „прылажыўшы руку да вуха, каторае *быццам гарэла* на агні, пабег дадому“ (ib., 36); „Увечар, *як рой пчолаў*, гудзелі мужыкі ў школе“ (ib., 52); „Толькі ён, *як злодзей*, крадзецца адзін“ (ib., 62); „аб‘езчык забегаў вокал лясьніка, *як ганчак*, вынюхіваючы сьляды“ (ib., 71); „Аб‘езчык, *як каршун,* зірнуў на лясьніка“ (ib., 71); „Аб‘езчык зьвіваўся, *як вуж*“ (ib., 72); (Дзямян), „вылятае, *як бура*“ (ib., 98); (Іван) „варушыўся і пакутваў, *як пасолены мянёк*“ (ib., 160); „ты (староста) гэта, *як жабрак*, нядоімкі зьбіраеш (ib., 183); „дзяўчыны-красуні, такія прыгожыя, сьве-

жыя, *як майскія краскі*“ (ib., 193); „Старшына стаяў белы, *як сьнег*“ (ib., 201); „Юрка... пазіраў сваімі сінімі, *як васілкі, вочкамі*“ (ib. 209) [1]).

Такія-ж самыя ўласьцівасьці стылю ў аўтара пры выяўленьні знадворнага выгляду тых прадметаў ды зьяў, што ствараюць абставіны, на фоне якіх дзейнічаюць героі. Пры дапамозе эпітэтаў ён малюе асобныя рэчы прыроды ці быту акаляючых вясковых абставін. Асабліва часта зьвяртаецца аўтар да эпітэтаў у малюнках прыроды. Гэта акалічнасьць зусім зразумелая, калі прыняць пад увагу, што мотывы прыроды, як гэта відаць з агляду зьместу апавяданьняў, займаюць надта паважнае месца. З бытавых абставін ён пры дапамозе эпітэтаў малюе розныя рэчы з адзеньня, памяшканьняў і г. д., г. зн. такія зьявы вясковага ўжытку, якія асабліва блізкія герою і, так сказаць, акружаюць яго з усіх бакоў.

Малюючы дзеючых асоб, пісьменьнік меў на ўвазе маляваць пэўныя бакі іх—а менавіта, агульнае аблічча, як уцалку, так і ў пэўных часьцінах, а таксама і афарбоўку, колер іх. Тыя-ж мэты ён ставіць і пры апісаньні абставін. І тут ён, ужываючы розныя, пераважна, зрокавыя эпітэты, імкнецца адзначыць агульную форму ці колер усяе рэчы (над белаю зямлёю, з высокага пацямнелага неба, старыя дубы ды інш.), ці-ж асобных часьцін (блішчасты месяц, блішчастыя зораньки, касматыя яловыя вяршыны і г. д.). У рэдкіх выпадках, побач з гэтымі ўласьцівасьцямі, адзначае ён і прыметы эмоцыянальнага характару (*халодных* і чорных хвалях).

Некаторыя зрокавыя эпітэты, якія ня маюць пэўнай конкрэтнасьці, аўтар тлумачыць дадатковымі заўвагамі; так, кажучы пра высокі дубовы пень („Малады дубок“), ён больш дакладна адзначае вышыню яго; ён кажа: высокі, *у палавіну чалавека.*

Паўтарэньні асобных эпітэтаў у пісьменьніка здараюцца вельмі часта. Гэта тлумачыцца тым, што аўтар звычайна адзначае самыя агульныя ўласьцівасьці знадворных абрысаў і фарбаў наўкольных рэчаў (высокі, зялёны ды інш.), а кола стылістычных разуменьняў для іх досыць абмежаванае. Роўным чынам, адзначаючы агульныя формы рэчаў шляхам зазначэньня на прыблізны ўзрост іх, пісьменьнік таксама надта абме-

[1]) Ці яшчэ прыклады: „галава (старосты) была, *як саганец*—ніводнай мысьлі ня выцісну з яе“ („Апавяданьні“, 22); „і цяпер чалавек даццаць“ „падазроных“ жыхароў бяз мейсц бадзяюцца, *як басякі*“, (ib. 26); „Твар яго быў белы, *як-бы вымараны мукой*“ („Родныя Зьявы“, 67); „Андрэй стаяў, *як аглушаны*“ (ib., 67); „*як гад*, сіпеў аб'езчык“ (ib., 71); „хрыпеў ён (Максім), *як зьвер*“, (ib. 72); „Максім нахмурыўся, *як-бы цень лёг на яго лоб*“ (ib., 82); „Андрэй, *як праступнік*, апусьціў галаву“ (ib., 83); „убег ён (Пілip) у воласьць, *як куля*“ (ib., 202); (старшына) „хадзіў па воласьці, *як сам цар...*, а гэты сагнуўся, як жабрак, і маўчыць, *як немка*“ (ib., 202); „Юрка цэлы дзень, *як злодзей*, туляўся па зарасьлях“ (ib , 212); „Юрка так перапужаўся, што ня мог узварухнуцца, *якбы ён акамянеў*“ (ib., 213); „ён (Юрка) калоціцца, *як асіна*“ (ib., 221); „Юрка дзень за дзень гас, *як тая куравая газоўка, каторай бракуе газы*“ (ib., 231); „Юрка, *як пасынак*. пазіраў з душнай і смроднай хаты“ (ib., 231).

жаваны ў слоўных сродках; таму ён часта і ўжывае такія эпітэты агульнага характару, як „стары“, „малады“ ды інш.

Прыклады эпітэтаў: „*касматыя* яловыя вяршыны трасьліся“ (3); „*блішчасты месяц*, як *кружок залаты*“ (11); „*гара высокая і прыткая*“ (16); „над *белаю зямлёю* зьвісьлі *бясформеныя сівыя хмары*“ (42); „пакрыты *чыстым настольнікам*“ (43); „Тарасавы сыны выбіралі *цёмны куток*“ (ib.); „харошанькую *зялёную, купчастую елачку* паставілі каля стала“ (45); „з *высокага пацямнелага неба блішчатыя зоранькі*“ (47); „пасядалі ў салях за *шырокімі і доўгімі сталамі*“ (17); „могілкі, абкопаныя *нявысокім пяшчаным валам*“ (50); „*высокі, у палавіну чалавака, дубовы пень* ясна выдзяляўся сярод дзеравяк і сьвяціў сваім *сьветлажоўтым верхам і сьвежымі трэскамі* вокал, а *шырокая разложная верхавіна* і *адсечаныя сукі* пазіралі так нявесела“ (55); „ён прапаў у *халодных і чорных* ад *змроку хвалях Нёмана*“ (78) і г. д.[1]).

Што да другога спосабу, якім карыстаецца аўтар у данай галіне — параўнаньняў, дык яны ўвогуле маюць у сабе тыя-ж самыя ўласьцівасьці, што былі зазначаны ўжо раней. Аўтар ужывае гэтыя параўнаньні

---

[1]) „*Белаваты дымок* падымаўся“ (43); „Маці паклапацілася напхаць *мяккі сяньнік* і прыгатаваць *чыстую пасьцель*“ (44); „*у полі шырокім* ляжалі... хаты“ (48); „*крывыя подпісы* мужыкоў“ (52); „Максім угледзеў *маладую бярэзінку* з абломанымі галінкамі“ (55); „стаяў глухі шум *старых хвой і ялін*“ (56); „*высокія асіны і бярозы* прылучалі зрэдку і свой голас“ (56); „*маладыя высокія елкі* ўжо разгарнулі свае *кашлатыя зялёныя лапы*“ (56); „зьняў з-за плеч сваю *старасьвецкую стрэльбу*“ (56); закрыў *зялёным мохам*“ (56); „*старая вярба* шумела“ (59); „*высокае, роўнае, выноснае*, як точанае, яно (дрэва) здавалася, сумыслу тут вырасла“ (59); „сьвяціліся вокны мужыцкіх хат *чырвонымі і бледнаватымі плямкамі*“ (62); „жалобна шорхаў *сухі заваяўшы ліст*“ (68); „*вострая сталь* глыбока ўрэзалася *ў маладое дрэва*“ (63); „*чорная карова*... і *чырвоны конік* уставіліся пільна“ (73); „Андрэй... упаў... *на халодную і мокрую зямлю*“ (78); „расьцілалася *поле, голае, пустое, ababранае*“ (85); „стаялі *парыжэлыя стагі*“ (85); „былі даўней шырокія рэкі“ (88); (конік) „выгінаў сваю *худую шыю з курчатаю грывай* і борзда драбязіў *таўставатымі ножкамі*“ (91); „*старым касьцям* куды лепш было-б ляжаць“ (97); „начлежнікі выбіралі *высокі, сухі груд*“ (99); „за лугам чуць-чуць выступала сваім *чорным абрысам зубатая палоска* яловага лесу, а над ім мігацелі *чырвоныя стужкі* трывожных зарніц“ (100); „гэтыя *тоўстыя вязы* казалі яму“ (Сьцяпану) (111); „*Далёкая цёмная палоска* лесу абвязалася наміткаю сіняватай смагі“ (126); „зьвярнуў з *шырокай дарогі*“ (146); „прасунулася *маленькая, чорная, жвавая жывёлка*“ (167); „афарбаваным пад *бурачны квас*“ (188); „выбілася з зямлі *тоненькая чырвонаватая травінка*“ (204); „з яшчэ *болей тоненькіх зялёных ніточак-травінак*“ (204); „*маладая расьлінка* стаяла“ (205); „стары лес закрываў яе“ (ib.); „ніхто не замячаў *маладой травінкі*“ (205); „*маленькая хвойка* ня ведала“ (206); „хвойка... была ўжо даволі *высокім дрэвам* з *купчастаю верхавінаю*“ (207); „узгорачак жаўцеў сваім *чысьценькім пясочкам*“ (214); „царква весела выглядае сваімі *высокімі вежамі* з *зялёнага вянку стройных ліпак* і *купчастых бярэзін*“... (214); „ён пазіраў на *зялёныя пагоркі*, на *маладыя ўсходы* ярыны“ (215); „выбраўшы *высокую старую хвою*“ (216); „неба над ім было зацягнута *чорнымі* ўгары, *купчастымі з чырвонымі краямі* хмарамі“. „Зьнізу гэта *чорная хмара* падпіралася *чырвонымі вялізарнымі слупамі*“(224); „над яго магілкаю стаіць *высокі крыж*“ (232). „Вецер... асушаў роску з *зялёнага лісьця* яго“ (235) і г. д.

і для тлумачэньня рэчаў ці зьяў у іх адзіным цэльным выглядзе (лес, закрыўшыся белым інеем, усё роўна як узлажыў к сьвяту чыстую кашулю) ці ў асобных часьцінах (вырысоўваліся ў небе іх вяршыны, як крыжыкі, як вежы царквей). Часьцей за ўсё ён карыстаецца імі для больш яркай конкрэтызацыі тых ці іншых прымет пэўнага разуменьня, якое маецца ў межах тэмы параўнаньня. Ён конкрэтызуе ці якасьці, якія выражаюцца прыметнікамі (з шырокімі, як заслонка; халодная, як жалеза, ды інш.), ці дзеяньні дзеяслоўных формаў (цягнуўся, як падкова; усхліпвала, як маці, страціўшы дзяцей сваіх, ды інш.).

Як і ў папярэднім выпадку, малюнкі вобразаў параўнаньняў аўтар бярэ з тэй-жа самай бытавой крыніцы, асабліва блізкай да простага абыдзеннага жыцьця беларускага селяніна. Гэта—такія вобразы як: воўчае вока, заслонка, сьвяточная чыстая кашуля, крыжы цэркваў, падкова і г. д. У гэтым стасунку пісьменьнік круціцца ў тым-жа самым коле слоўных вобразаў, якім ён карыстаецца і ў папярэднім выпадку. Прыклады параўнаньняў: „Здалёк ваконца (у хаце) здавалася *воўчым вокам*“ (3); „блішчасты месяц, *як кружок залаты*, стаяў“ (11); „хто (быў) у кажусе з шырокімі, *як заслонка*, каўнярамі“ (18); „лес перастаў хістацца, маўчаў, закрыўшыся белым іхнеем, усё роўна *як узлажыў к сьвяту чыстую кашулю*“ (42); „стройныя елкі падымалі свае галовы высока над другімі дзярэўямі і хораша вырысоўваліся ў небе іх вяршыны, *як крыжы, як вежы царквей*“ (42); „Тарасава пасада стаяла каля самага лесу, каторы цягнуўся, *як падкова, роўным поўкругам*“ (42); „сковарады весела бранчалі на прыпеку, і мяккія, гарачыя аладкі, *як грушы*, кідаліся спрытнаю рукою Касі“ (43); „борзда, *як грыб*, вырастала гара“ (55); „новыя дзярэўі былі нізкія, крывыя, няўдалыя, *як сухотныя*“ (57); „раса блішчала ранкам, *як сьлёзы*“ (57); „зямля зморшчылася, *як старуха*, пакалолася і плакала“ (67); „белыя хмаркі, *як пух*, плывуць“ (4) і г. д. [1]).

---

[1]) „Адзінокі месяц плыў над ёю, *як сярэбраны круг*“ (33); „сярэбраны месячык то круглы, то вузкі, *як серп*, як хораша сьвеціць“ (4); „дарога мая *чуць віднаю шэраю ніткаю* ідзе“ (5); „распаўзьліся па полю, *як чэрві ў нягоду*, бедныя мужыцкія хаты“ (6); „божыя зоркі, *як саромлівыя дзяўчаткі*, пазіралі на зямлю“ (8); „хвалі Нёмна, што *пакручастым зьмеем* абвівае“... (18); „гэты дуб крыху пахіліўся на бок, як *падгуляўшы гаспадар*“ (25); „вада то ўздымала яе, то адпускала, то раскідала ва ўсе бакі і гуляла ёю, *як вецер дымам*“ (25); „сіняе неба ласкава зьвесіцца над зямлёю, *як маці над калыскаю*, дзе ляжыць яе любае дзіцятка“ (33); „плыт плыве па ёй (вадзе) лёгка, *як трэска*, толькі ў нартох зьвіваецца ён, *як вужака*“ (44); „дваровае поле, *як падкова*, акружылі іх благія палеткі“ (49); „шырокая разложная верхавіна і адсечаныя сукі пазіралі так нявесела, так сумна, *бы тыя пакінутыя бацькам дзеці*“ (55); „*Як дарагі нябожчык*, стаяў ён (дубок) у вачох беднага лясьніка“ (58); „халодная, *як жалеза*, вада плюхала ў пустыя берагі і ўсхліпывала, *як маці, страціўшы дзяцей сваіх*“ (78—79); „Максім нахмурыўся, *як-бы цень лёг на яго лоб*“ (82); „вісела хмурае неба, *як кепска загаранае поле*“ (85), „А можа яны (галінкі) шапталі што Андрэю, *як шэпча маці*, схіліўшыся над дзіцем“ (87); „Мікола калаціўся, *як асінавы ліст*“ (94); „луг быў голы, *як бубен*“ (99); „зоры, *як божыя матылёчкі*, трапыхаліся“ (100); „*як крумкачы на падлу*, накінуліся

Як відаць з паданых прыкладаў, аўтар у сваіх выяўленьнях знадворнага боку тых абставін, што ён малюе, абмяжоўваецца толькі малой колькасьцю пэўных зьяў стылю, галоўным чынам, эпітэтамі ды параўнаньнямі; імі ён пераважна і опэруе, як выяўленчымі стылістычнымі сродкамі. Крыху іншым пісьменьнік робіцца, калі пераходзіць да абрысоўкі ўнутраных станаў тэй-жа самай асярэдзіны, якую ён малюе. Тут, як ужо зазначалася, ён перш за ўсё значна больш падрабязны і значна больш спыняецца на выяўленьні гэтага, якраз, моманту; дзякуючы гэтаму, значна павялічваецца і колькасьць стылістычных зьяў, якія ўжывае ён для данага выпадку, хаця па сваіх формальна-поэтычных прыметах яны тыя-ж самыя, што і ў папярэднім выпадку; і тут аўтар ужывае тыя-ж самыя эпітэты ды параўнаньні, як галоўныя стылістычныя спосабы выяўленьня.

Пры апісаньнях псыхолёгічных станаў сваіх герояў, а таксама і акаляючых іх рэчаў аўтар часта ўжывае адзін спосаб, які праходзіць амаль праз усе разгляданыя намі апавяданьні; гэты спосаб, які выражаецца, галоўным чынам, пры дапамозе эпітэтаў, часткова і параўнаньняў, ёсьць у тым, што аўтар уводзіць у свае выяўленчыя сродкі якуюсь адцягненую мэтафізычную аснову: стылістычна яна выражаецца найчасьцей неазначальным займеньнікам—нейкі, некі, нешта і г. д. Яна звычайна становіць сабой азначэньне ці эпітэт, для разуменьня якое ў сваім зьмесьце таксама мае пэўныя моманты таямнічасьці, невядомасьці ды мэтафізычнасьці; сюды, напр., належаць такія разуменьні, як: сіла, трывога, страх, жуда, таямніца ды інш. Час-часом здараюцца выпадкі абазначэньня гэтай таямнічасьці і пры дапамозе адпаведных прыметнікаў, напр.: нявідзімы, страшны, нячысты, невядомы і г. д., якія звычайна таксама ставяцца ў ролі тых эпітэтаў, што характарызуюць тое ці іншае разуменьне. Часамі аўтар ужывае ў такіх выпадках неазначальны займеньнік—нешта, штось, злучаючы яго з адпаведным прыметнікам, сугучным яму па сваёй таямнічасьці: нешта цяжка, штось страшное ды інш. У большасьці выпадкаў гэта таямнічная сіла, якая дзее на героя ці ёсьць у акаляючых яго абставінах, пахмурнага, сярдзітага характару (страшное, грознае ды інш). Адзін раз ён нават конкрэтызуе гэта разуменьне, кажучы, што пэўна, пад нейкай сілай трэ' разумець сілу нячыстую (Р. З., 103). Часамі, аднак, яна мае

---

на гаспадарку старога нябожчыка" (110); „палоска лесу абвязалася наміткаю сіняватай смагі, *як маладзіца хусткаю, каб ня так пякло* сонца" (126); „стаў узьнімацца сіні дымок, *як пара з катла*" (135); „зьвіўся, *як вуж*" (147); „сьветлая мінуціна мігалася яму, *як адзінокая зорачка ў бязрадасную восень*" (158); „блох у нас, *як пяску*" (170); „ні—адна матка не магла так прыгожа ўбраць сваё дзіця, *як убрала сонейка гэту травінку*" (204-205); „яны (мурашачкі) клапаціліся, бегалі, *як перакупшчыкі-жыдкі на кірмашы*" (205); „вось прыляцеў беленькі матылёк, *як чыстая сьняжынка*, блішчучы на сонцы сваімі крыльцамі; а вось снуюць малюсенечкія матылёчкі, чырвоненькія, сіненькія, жоўценькія, усё роўна *як зьбіраюцца яны на баль*—так прыгожа ўсе убраны! (215—216). „Хмары, *як мухі над гаршком куцьці*, віліся чорным роем над зямлёй" (238) і г. д.

становкі характар, выражаючы сабой сьветлыя настроі ў прыродзе ці ў чалавеку—нейкая бяспрычынная радасьць і г. д.

Як спосабы стылю, такія выразы ствараюць атмосфэру эмоцыянальнай таямнічасьці і ў той-жа час зацікаўленасьці чытача, бо ў яго, дзякуючы гэтай інтрыгуючай сіле, часта незразумелай і таямнічай, зьяўляецца пэўная зацікаўленасьць да таго малюнку, што ён рысуе жаданьне давесьці агляд яго да канца, каб даведацца аб выніках уплыву гэтага надпрыроднага фактару. Цяпер адзначым выпадкі рознастайных выражэньняў для гэтага спосабу, галоўным чынам, пры дапамозе азначэньняў і эпітэтаў: „*некая глухая трывога* залезла ў душу Алесі“ (4); „*абмылкаю нейкаю* прышоў на сьвет гэты чалавек“ (лясьнічы) (6); „ён маліўся богу, едучы цераз гэтае *страшнае месца*“ (12); „скарэй-бы ад гэтага *нячыстага месца*“ (13); „*нейкая цёмная* сіла пазайздросьціла шчасьцю людзей“ (55); „каркалі крумкачы і наганялі нуду на душу людзей *невядомым страхам* палохалі сэрца“ (56); „*страшны шум* пайшоў па „мёртвым полю“ (57); „прайшоў *страшны момант*, і стала спакойна“ (57); „*нейкая беспрычынная радасьць* расхадзілася па ўсіх закутках яго цела“ (100); „*нейкая сіла* (ведама, нячыстая) не давала людзям спаць на гэтым месцы“ (103) і г. д. [1]).

Ёсьць некалькі прыкладаў, калі аўтар разуменьне аб таямнічай нябачнай сіле ўводзіць і ў вобразы сваіх параўнаньняў; вось такія выпадкі:

„Лапы то падымаліся, то апускаліся, *як-бы лавілі нявідзімага ворага*, каторы не даваў спакою і запраўляў трасьціся лес... („Апавяданьні“, 3), „нічога не магло разглядзець вока адзінокага Васіля; усё роўна *як нехта выкінуў* яго непатрэбнага, беднага, у гэтую зяўру страшнай ночы“ (6); „хацеў Юрка пабегчы, ног ня можа аддзерці ад зямлі, *як-бы іх хто прымураваў*“ (Р. З., 224).

Незалежна ад зазначанага спосабу, агульнага для ўсіх апавяданьняў аўтара, у стылі Я. Коласа, што ўжываецца ім пры выяўленьні ўнутраных

---

[1]) „Ціхая скарга грымела ў небе *страшным голасам бога*“ („Апавяд.“ 58); „і куды ты нясеш мяне“, „*няведомая дарога*“ (Р. З., 3, 5). „Далёкае, *невядомае сіняе неба!*“ (3); „*сьпевы* былі *нейкія невясёлыя* і яму стала маркотна (25). „Асабліва *нешта страшнае і няпрыветнае* прыгатаваў яму густы алешнік“ (35); „былі мамэнты, калі ў Лукашову душу ўлівалася *нейкая горасьць* і туманіла яе“ (43); „*нейкі страх і трывога* душылі яго“ (58); „*нейкая жуда* ахапіла Андрэя“ (62), „і было *штось страшное* ў гэтым нямым спакою лесу“ (63); „Андрэй першы раз пачуў, што [*нейкая сьцяна* вырасла ў гэту ноч між ім і Максімам“ (68); *нейкі холад* прабег па ўсім яго целе“ (69); „у сярэдзіне ў яго *нешта* заныла“ (74); „Андрэй быў павярнуўся, кабісьці назад, але яго цягнула *нейкая сіла* да гэтай кучкі“ (81); „ужо два тыдні, як над сялом павіс *нейкі страх* і трывога, чаканьне *чагось страшнага і неадваротнага*“ (90); „ён (Тамаш) чуў, што *нешта цяжка* навалілася на яго плечы“ (102); „ззаду за ім павінна быць *нейкая грозная сіла*, ад каторай і нясьлі яго непаслушныя ногі“ (127); „як-бы *нейкая злая воля* неадступна цягнулася за Іванам“ (155): „і столькі ў іх (зыках) было... *нейкай патайной жальбы*“ (206); „Юрку здавалася, што гэта ня хмарка, а *нейкі сьвяты* стаў на небе і моліцца“ (215); „мяне сягоньня мама клікала да сябе,—сказаў з *нейкаю таемнаасьцю* ў голасе Юрка“ (230) і г. д.

псыхолёгічных рухаў, трэба адрозьніваць, як і раней, дзьве тэмы: з аднаго боку, душа дзеючых асоб, іх унутраныя настроі, думкі ды жаданьні, а з другога—унутраныя рухі сярод тых рэчаў знадворнага сьвету, што акружаюць героя ды жывуць разам з ім сваім жыцьцём. Гэтыя дзьве тэмы выяўляюцца аўтарам неаднолькава. Як і пры абрысоўцы знадворнага боку тых об'ектаў, што ён малюе, ён быў больш падрабязны пры апісаньнях знадворнага сьвету, прыватна-ж прыроды, такім-жа ён застаецца і тут. Над псыхолёгіяй герояў ён спыняецца менш, як на ўнутраных дзеяньнях розных зьяў прыроды. Таму і стыль яго колькасна багацейшы ў другім выпадку, чым у першым.

Што да агульнага характару стылістычных сродкаў, ужываных аўтарам у сваіх апавяданьнях для абедзьвюх адзначаных тэм, дык яны, паводле сваёй мастацкай якасьці, досыць далёка стаяць ад тых, што ён браў пры сваіх выяўленьнях знадворнасьці акаляючай асярэдзіны. Гэтыя стылістычныя сродкі або адцягнутага характару, або эмоцыянальна-псыхолёгічнага.

Прыватна, эпітэты, якімі аўтар карыстаецца і тут у шырокіх разьмерах, досыць выразна падзяляюцца на дзьве групы, між якімі, аднак, ёсьць шмат супольнага; з аднаго боку, эпітэты эмоцыянальныя, псыхолёгічныя, а з другога—адцягненыя. Першыя з іх, такія, як: горкі, ціхі, хмурны гнеўны, суровы і г. д., ён ўжывае для абазначэньня пэўных *эмоцыянальных* станаў героя ў той момант яго бытаваньня і дзеяньня, які аўтарам малюецца. Цікава пры гэтым зазначыць, што большасьць эмоцый, адзначаных пры дапамозе гэтых эпітэтаў, маюць характар цяжкіх перажываньняў. Сюды належаць такія прыклады: „*горкія думкі* (Васіля) кружыліся над яго галавою“ (5); „далей гэтых граніц ня ходзіць *забітая прыніжаная душа* простага чалавека“ (6); „*бесталковыя дзікія думкі* заварушыліся“ (6); „вецер падхапіў яго *немы крык*“ (7); „а вунь там відаць *худы змучаны заплаканы твар Алесі*“ (7); „*хмурныя гнеўныя зоркі*“ (48); „зоркі кінулі *суровы погляд*“ (48); „сьпяваў ён доўгія, нудныя песьні, песьні нядолі“ (Р. З., 7) ды інш. [1]).

Больш рэдкія выпадкі радасных пачуцьцяў, перажываных героямі апавяданьняў; можна адзначыць такія прыклады:

---

[1]) „*Дзікі крык* вырваўся сам проці волі Васіля („Апав.“, 7); „беспрыменна падазрыцельны!—сказаў стражнік *ціхім і працяжным галасам*“ (29); „вочкі былі поўны *ціхіх думак*“ (44); „многа *горкіх думак* бушавала ў душы Тараса“ (46); „*глухая злосьць* на праклятую гару падымалася ў сэрцы людзей“ (56); „Чаму (неба) не асушыш нашы *горкія сьлёзы?* не супакоіш *хворую душу і сэрца?*“ (Р. З., 4). „Мужыкі хадзілі з *хмурнымі тварамі*“ (50); „такія *нядобрыя думкі* апанавалі цяпер Андрэя“ (76); „ласьне чалавек ня мае права хоць на адну мінуту, *сьветлую мінуту ў жудаснай імгле цёмнага жыцьця?*“ (158); „Мы, далёка пакінуўшы за сабой вясну свайго жыцьця, часта сядзімо каля гнілога карыта *растрэсеных думак і абманных* надзей“ (195); „Усе гэтыя зыкі ішлі з глыбіны *праўдзівай душы*“ (206); „прагнаць *нядобрыя думкі*“ (229); „*гарачыя сьлёзы* абмачылі яе“ (232); „аб гэтым судзяць *мудрыя і кемныя людзі*“ (235) і г. д.

„Паўлюк быў *слаўны хлопец!*“ (44); „гаварыў ён і залівауся *вясёлым сьмехам*“ (Апавяд., 45); „бяда, гора, голад і холад злучыліся, каб прагнаць згэтуль усякую *весялейшую думку, ясьнейшы сон*“... (48); „пісар меў на рэдкасьць *чуткую душу, мяккае сэрца і жывое слова*“ (Р. З., 149); „*прыемнае пачуваньне агульнага здаволеньня* ахапіла ўсё яго (пісара) цела“ (166); „хто з нас... не парываўся, увесь аддаўшыся ў абладу *сьветлым марам*, у невядомую даль“ (195) і г. д.

Апрача эпітэтаў, якія ў даным выпадку становяць для аўтара галоўны мастацкі сродак для выяўленьня псыхолёгіі героя, можна адзначыць і прыклады ўжываньня *параўнаньняў*, але надта мала.

Усе гэтыя параўнаньні ў большасьці выпадкаў маюць адцягнена псыхолёгічны характар і тлумачаць тыя ці іншыя душэўныя станы герояў ці-ж станы больш складаныя („ціха было на сэрцы“, *як ціха была сама ночка*“ (Р. З., 8), або-ж звычайнымі зьяўляюцца эмоцыянальныя рухі герояў („лаяўся пан лясьнічы, *як дзівы майстар свайго дзела*“ (Апавяд. 6); „*як чалавек, каторага агарнулі грэшныя жаданьні*, Андрэй наўперад азірнуўся“ (Р. З., 59); „*як чалавек, катораму няма чаго баяцца*, пашоў уладжывацца каля гаспадаркі“ (73—74). Самыя вобразы параўнаньня, як відаць з прыкладаў, маюць мала конкрэтныя малюнкі—адцягненыя—„як дзівы майстар свайго дзела“—якія пераходзяць часамі ў малюнак прыроды з эмоцыянальнай афарбоўкай: „як ціха была сама ночка“.

Пры апісаньні *абставін* у іх унутраных станах пісьменьнік карыстаецца тымі-ж самымі спосабамі стылю і таго-ж самага мастацкага характару, што і пры выяўленьні псыхолёгіі герояў: эпітэты.

Ён ужывае іх, каб надаць эмоцыянальнасьць, адухоўленасьць няжывым рэчам і зьявам. У гэтым выпадку стылістычна выяўляецца той спосаб аўтара, пра які ўжо была гутарка раней, менавіта, яго імкненьне адухавіць, паказаць у чалавечым абліччы ўсе зьявы і рэчы ў акаляючай асярэдзіне. Дзякуючы псыхолёгічным эпітэтам, няжывая рэч выступае ў жывым выглядзе; так, ён ужывае такія эпітэты: „маленькае ваконца хаткі *смутным значком* пазірала ў поле“ (Апав., 3); „якія здарэньні маглі прылучыцца з Васілём у гэту *неспакойную ноч*“ (4); „у ахвяру *сярдзітай буры*“ (6); „*вясёлы вечар!* ўсе нецярпліва чакалі“ (44); „ногі яго ўсё нясьлі... у гэты *страшны пануры лес*, дзе пяпер так цёмна і жудасна“ (Р. З., 62); „*шэрае, невясёлае жыцьцё* прайшло“... (158); „*цярплівыя камяні* і тыя нылі ад жару і лопаліся“ (57); „*болей сьмелы вецер* гаварыў грамчэй“ (13); „гэта дуб, звалены *бязжаласным тапаром*“ (56) [1]) і г. д.

---

[1]) „Каб скарэй збавіцца ад *сабачай* службы“ („Апавяданьні“, 5); „бедныя *коні* варушыліся ўсім целам“ (41); „настала ночка новага году, ночка хаця *марозная, але ціхая, спакойная*“... (47); „песьні волі разьліваліся на ўсіх кутках шчасьлівай старокі“ (55); „ня чутно ўжо было там *вясёлых песень*“ (56); „пугач і сава ўночы сьпявалі ім „вечны спакой“ сваім *нудным крыкам*“ (56); „лес, поле, луг з *нуднаю мальбою* пазіралі на неба“ (57); „*як добра ў ціхую ночку*“ (4); „*горкаю ўпёкаю, ціхаю скаргаю*

Эпітэты адцягненыя аўтар бярэ, як гэта было і раней, каб адзначыць велічыню рэчаў ці пэўных станаў, а таксама і для адзначэньня часу (адцягненага), у які бярэцца пэўная зьява; прыклады: „была ўжо глыбокая ноч“ („Апавяданьні“, 4); „устрапянула іх згроза вялікая“ (48); „блеск (зорак) пераліваўся дзіўнымі колерамі нязьлічоных агнёў“ („Родныя Зьявы“, 100); „з вялікага страху бедны жолуд задрыжаў“ (14) і г. д.

Зноў-жа рэдкія выпадкі конкрэтызацыі некаторых эмоцыянальных эпітэтаў у такім прыкладзе: „чаго ён (Андрэй) прышоў сюды варушыць і трывожыць яго цяжкі, блізкі да сьмерці сон“ („Родныя Зьявы“, 63). Аўтар эпітэт „цяжкі“ больш дакладна азначае словамі: „блізкі да сьмерці“. Па-за гэтых тлумачальных заўваг адцягненыя эпітэты даюць вобразы, неабмежаваныя ў сваіх разьмерах; з прычыны гэтага, успрыйманьню чытача адкрываецца шырокая прастора для яго вынаходлівасьці ды фантазіі пры конкрэтнай пабудове сабе таго малюнку, што дыктуецца вобразам эпітэту.

Асабліва відочна гэту прастору для чытацкага выабражэньня адкрываюць адцягненыя параўнаньні, якія аўтар ужывае пры выяўленьні данае тэмы. Дзякуючы таму, што тыя слоўныя выразы, якія ствараюць вобраз, у параўнаньні звычайна больш многалікія, чым у эпітэтах, з прычыны гэтага і малюнкі, якія ён рысуе, больш шырокія. Параўнаньні, што ёсьць у Я. Коласа, у даным выпадку выключна амаль адцягненага характару; таму і абставіны, якія ён малюе, дзякуючы свабодзе вынаходлівасьці чытача, абарачаюцца ў малюнкі з шырокім ды рознастайным зьместам. Вось прыклады:

„Вяршыны трасьліся, *як у шалёным танцы*“ („Апавяданьні“, 3); „гэты кут аставаўся глухі, акамянелы, і сьвет жыцьця новага адскаківаў ад яго, *як адскаківае луч сонца ад ледзяной гладзі*“ (4); „жыцьцё яго (Васіля) устала прад ім, *як жывое*, усё роўна, як пазіраў ён на яго, як на адзін цэлы закончаны вобраз уніжэньня і крыўды“ (5); „жаласна ківаліся каласы ў полі, то кланяліся зямлі, то падымаліся к небу, усё роўна, *як прасілі яны* ратунку“ (57); „дубы спакойна, *як чалавек, каторы ўсё пераведаў на сьвеце, усё пражыў і ўжо нічога новага не чакае ад жыцьця, апроч сьмерці*“ (Р., З. 18); гэты першы зык быў падобны да *цяжкога адрывістага кашлю*, каторы вырываўся з глыбіні надарваных грудзеў сухотніка“ (63); „усё вокал была так глуха, так нёма, усё роўна, *як закамянела, або вымерла*“ (66); „ціха стагнала праз сон сьвіньня такім *змарнелым стамлёным галаском, усё роўна, як-бы ёй заставалася тры*

плывуць“ (Р. З., 6); „многа ўсякіх зьмен часоў бачылі гэтыя *нямыя сьведкі* прошласьці!“ (18); „устануць прад вачыма *дзіўныя малюнкі роднай вёскі*“ (34); „сабакі. пабрахаўшы, замаўкалі, і патрывожаная ноч яшчэ цяжэй насядала на *халодную, сырую зямлю*“ (58); „неба ціснула яе сваім *густым і цяжкім змрокам*“ (66); „сабакі чулі гэты страх *магільнай цішы*“ (66); „*гэта маўчалівая і страшная ноч* не дала яму ніякага адказу“ (67); „ноч *доўгая, жудасная, трывожная ноч*, яшчэ цяжка аблягала зямлю“ (67—68); „гэта была *цяжкая і неспакойная ноч* у жыцьці Андрэя“ (69) і г. д.

*чвэрці да сьмерці*" (67); „яна (сьвіньня) спакойна ляжала ў сваім бярлогу і, здавалася, ніколечкі ня дзівілася, *як-бы даўно ведаючы, што і чалавек зазвычай бывае* сьвіньнёй" (73); шумелі паціхоньку хваёвыя галінкі, *як-бы віталі першы сьняжок*" (87) і друг.

Канечна трэба сказаць яшчэ некалькі слоў пра стылістычныя зьявы, што зьяўляюцца выражэньнем лірычнай манеры аўтара ў яго апавяданьнях, якая часамі выступае і ў апавяданьнях другой групы. Больш багата ды рознастайна яна выяўляецца ў апавяданьні „Думкі ў дарозе", якое, як зазначалася, становіць сабой лірычны верш у прозе. Асабісты ўдзел аўтара, праўдзівей, яго хваляваньне і зацікаўленасьць у ім, выяўляецца цэлым шэрагам стылістычных спосабаў—воклічамі, пытаньнямі ды паўтарэньнямі. Усе яны пераплецены адно з адным, з прычыны чаго і ўнутраны настрой аўтара, які яны выражаюць, выступае асабліва рэзка ды выразна. Апрача таго, гэтая-ж самая псыхолёгічная напружнасьць падкрэсьліваецца і тым, што адзначыныя слоўныя сродкі лірычнага ўдзелу аўтара зьвяртаюцца да рознастайных кліматычных цэнтраў. Так, ён зьвяртаецца з пытаньнем да дарогі, малюнак якой ён толькі што даў: „і куды ты нясеш мяне, невядомая дарога?"... (3). І тут-жа непасрэдна ён зьвяртаецца да неба, падкрэсьліваючы свой зварот да яго шэрагам воклічаў, паўтарэньняў ды пытаньняў: „А неба! Далёкае, невядомае, сіняе неба!" (3)... „Далёкае неба, сіняе неба! Чаму не дасі адказу на нашу пакуту, на нашы надзеі, на нашы блуканьні? Чаму не асушыш нашы горкія сьлезы?"... (4). Далёкае неба! Сіняе неба! Што ёсьць на сьвеце дзіўнейшае, як ты" і г. д. (4). Гэтыя стылістычныя зьявы прыстасоўна да тэй самай тэмы (неба) паўтараюцца яшчэ некалькі разоў і далей. Потым аўтар азіраецца на свой родны край, на сваю родную вёску ды выяўляе свае пачуцьці да іх пры дапамозе тых самых воклічаў ды паўтарэньняў. „О, мой родны край!" (5)... „Як нявесела, як няпрытульна пазіраеш ты, мужыцкая вёска, сірата між людзкой будовы!" (6)... „О, мой родны край!" (6) і г. д. У выніку ўсё апавяданьне насычана слоўнымі выразамі лірычнага характару, якія надаюць і ўсяму твору такі-ж сама лірыка-псыхолёгічны характар.

Падобную-ж лірычную зацікаўленасьць аўтар выяўляе і ў апавяданьні „Злучыліся". Ён наогул з напружнай увагай сочыць за гісторыяй маладога героя Юркі, але імкнецца перадаць яе ў эпічна-спакойных тонах. Прынамсі стылістычна асабістая прысутнасьць мастака ў значнай часьціне апавяданьня не заўважаецца. Але ў моманты высокай напружнасьці яго спакой канчаецца, і ён асабіста выступае на поле дзеяньня. У гісторыі Юркі гэта адбываецца тады, калі герой правініўся перад мачыхай сваёй (разьбіў гаршчок з малаком), і яму пагражала вялікая кара. Аўтар тады кажа:

„Ня дай божа, каб застала яго мачыха... А мо' было-б і лепш. Аддубасіла-б за адным разам—і канец. Або мала ўсчувала яго мачыха? Ці не яго гэта плач напаўняў двор бадай ня кожны дзень?.. Ці ня ён, зьня-

важаны і пакрыўджаны, шчаміўшы зубы, ляжаў на цьвёрдай пасьцельцы, уткнуўшыся тварам у саламяную сваю падушку, каб спыніць крык болю і ўтрымаць сьлёзы? Ці не яго гэта грудзі паліліся агнём жаласьці і нявыказанай жальбы? А што будзе цяпер? Як вывернешся з гэтага ліха?“.. (213).

Сваімі пытаньнямі мастак імкнецца згадаць далейшы лёс героя і да пэўнай меры забясьпечыць ды захаваць яго ад суровых вынікаў яго правіннасьці.

Ён адцягвае разьвязку гэтага эпізоду, прымушаючы Юрку выправіцца ў поле да ўлюбёнай ім елкі. Тут аўтар зноў, шляхам воклічаў ды зваротаў, дае знак, што ён сам прымае ўдзел: „І, трэба сказаць, харошае тут месьцечка!.. Ах, як тут прыгожа! А сонейка добранька і прыветна грэла тут!“ і г. д. (213—214). Гэты ўдзел аўтара пры дапамозе тых самых стылістычных сродкаў заўважаецца і далей, пакуль герой ня вышаў шчасьліва з таго становішча, што стварылася.

Часамі пытаньні аўтара адначасна з лірызмам выконваюць, як гэта было ўжо адзначана прыстасоўна да гумарыстычнай мовы, і задачы композыцыйнага характару. Яны лёгічна зьвязваюць часьціны твору і ў той-ж час палягчаюць аўтару задачу апавяданьня. Прыклады такога ўжываньня пытальных сказаў можна адзначыць у апавяданьнях „Старасьць ня радасьць“ і „Малады дубок“. У першым з іх аўтар ужывае пытальныя сказы пры пераходзе ад апісаньня сьветлай маладосьці героя Базыля да яго сумнай старасьці. Абрысаваўшы яго маладыя гады, ён пытае: „І дзе яно ўсё падзелася? Ці было ўсё гэта?“ (16). Гісторыя старасьці, якая апісваецца далей, і зьяўляецца адказам на пастаўленыя пытаньні. Ці ў другім апавяданьні: „Як яна (расьлінка хвойкі) сюды папала?“ (205) зьяўляецца звычайным зьвяном між малюнкам цяперашняга стану елкі „цянюсенькая ножка, а на ёй угары на два пальцы ад зямлі выплелася з яшчэ болей тоненькіх нітачак-травінак прыгожая каробачка; на самым версе гэтай каробачкі сядзела цёмная шапачка“ (204) і г. д.) і яе мінулага („на гэта пытаньне, прыведзенае вышэй, можа адказаць адзін толькі вецер“... (205).

Застаецца яшчэ адзначыць, што ў межах сур'ёзнай гутаркі аўтара, як пэўная рэмінісцэнцыя ці рэфклексыя ад яго сьмеху, маецца шэраг языковых моўных зьяў з адзнакамі гумарыстычнымі. Амаль выключна гэты гумарыстычны струменчык выяўляецца ў лаянках, якімі часамі карыстаецца аўтар і ў гэтых апавяданьнях, а потым у прыказках і прымоўках, што маюць гумарыстычнае адценьне і ўваходзяць звычайна ў склад параўнаньняў. Прыклады для першых выразаў:

„Чорт яго разьбярэ, хто жыве тут не на абмылцы“ („Васіль Чурыла“, 6); „у злосьці назваў Грышка Базыля Насалём, а Базыль Грышку абазваў Рабэйзаю“ („У старых дубох“, 21); „Якому-ж лысаму чорту гатаваў я гэты дубок?“ („Малады дубок“, 78); „Дзе цябе чэрці душаць?“ (ib., 79); „Чорту лысаму!“ (ib. 80); „Каб ты ногі паламаў, каб

ты дарогі ня бачыў!“ (ib. 85); „шэльма“ („Злучыліся“, 216); „Уй, батрак сусьветны!“ („Казкі жыцьця“, 237) і г. д.

Прыклады для другіх: „папасьці ў турму або чорту на скавараду“ („Васіль Чурыла“, 6); „Хоць на пупе круці“ (Калядны вечар“, 45); „Хто ўкраў парасё, таму і ў вушох пішчыць“ („Малады дубок“, 64); „Тырчаў на дарозе пень, пакуль за яго не ачапляліся, а сталі чапляцца—пню ня стрымацца“ (ib., 82); „Цяпер твая споведзь паможа мне, як мёртваму кадзіла“ (ib., 84); „Вароны паважаюць яго (крумкача), як жыды рабіна“ („Казкі жыцьця“, 234); „высушу, як шкурат у Пятроўку“; (ib., 237) і г. д.

Разгляд мастацкага стылю Якуба Коласа дае магчымась вызначыць пэўныя агульныя вывады аб ім. Зусім ясна ў мове пісьменьніка адзначаюцца дзьве стыхіі—гумарыстычная і сур'ёзная. Кожная з іх мае свае слоўныя сродкі выразу, стыль пэўнага характару. Сярод іх пануючым спосабам стылістычнага выяўленьня, найбольш улюбёным аўтарам, зьяўляюцца эпітэты і параўнаньні. Другія мастацкія моўныя зьявы ён амаль ня ўжывае. Тая і другая стыхія знаходзяцца ў цеснай сувязі з конкрэтным зьместам тэматыкі яго творчасьці. Лірычны спосаб апавяданьня аўтарам ужываецца досыць вузка і выражаецца звычайнымі ды характарнымі для яго сродкамі мастацкай мовы.

## VI

Гістарычны разгляд мастацкага стылю Якуба Коласа, констатаванага раней, значна цяжэйшы, чым тлумачэньне тэматычнага боку яго твораў. Нават для вызначэньня частковай сувязі з адпаведнымі літаратурнымі традыцыямі стылістычнага характару канечна патрэбна падрабязнае дасьледваньне іх з боку поэтыцкай мовы. Тымчасам гэты бок мастацкай творчасьці дасьледваны надзвычайна мала. З прычыны гэтага, нашы гістарычныя дасьледзіны пры тлумачэньні стылю Якуба Коласа будуць самымі агульнымі.

Калі тэматыка гумарыстычных твораў Я. Коласа аказалася ў пэўным паралелізьме творчасьці „натуральнай школы“ і, прыватна, з гогалеўскай, дык, само сабой зразумела, і ў галіне стылю мы маем рацыю прыпушчаць такую самую аналёгію. Гэтае прыпушчэньне мае чыста тэорэтычныя падставы, бо, як ня раз ужо зазначалася, стыль твораў пісьменьніка знаходзіцца ў цеснай сувязі з іх зьместам. Больш пільны разгляд гэтага пытаньня практычна пацьвярджае высунутае палажэньне.

У сфэры стылю гумарыстычнага Я. Колас працягвае далей традыцыю гумарыстычнай мовы. Асобныя спосабы яго знаходзяць для сябе адпаведнасьць у спосабах гогалеўскага гумору.

Адзначаная намі індывідуалізацыя мовы дзеючых асоб нашага пісьменьніка становіць адзін з спосабаў, якім Гогаль карыстаўся асабліва шырака і рознастайна. У яго кожная асоба ў сваім стылі выяўляе сваё

ўнутранае аблічча, таму яго мова заўсёды глыбока індывідуальная. Калі нават яго героі па сваіх моральных якасьцях належаць да аднэй групы і такім чынам у гэтых адносінах становяць сабой аднародную масу, дык у галіне мовы кожны з іх зьяўляецца ў поўнай меры пэўным і выразна акрэсьленым індывідуумам. Апрача таго, рознастайнасьць спосабаў індывідуалізацыі мовы ў Гогаля знаходзіцца ў залежнасьці ад таго, што пэрсонажы яго твораў належаць да самых рознастайных соцыяльных груп.

У руках Я. Коласа гэты спосаб мае больш вузкае прыстасаваньне. Гэта тлумачыцца тым, што пераважная большасьць яго дзеючых асоб належаць да аднаго пэўнага соцыяльнага кола—беларускага сялянства, якое ў сваім агульным разумовым абліччы і ў сваёй мове аказваецца досыць аднастайным мастацкім матэрыялам. Яго героі гавораць на аднэй сялянскай мове, якая ў вуснах кожнага з іх гучыць амаль аднолькава. Індывідуалізацыю мовы ў шэрагах гэтых герояў правесьці надзвычай цяжка. Толькі для пэўнай часткі сваіх пэрсонажаў, а менавіта для тых, хто другога соцыяльнага паходжаньня і стану, чым большасьць іх, ён ужывае гэты спосаб, каб і ў гэтай галіне — у мове—адрозьніць іх, выдзеліць іх з агульнай масы.

Стылізаваныя параўнаньні, якімі шырока карыстаецца Я. Колас, асабліва пры характарыстыках сваіх герояў, маюць для сябе паралель у мове таго-ж самага Гогаля, для якога гэта зьява была адным з улюбёных спосабаў. Праўда, у адносінах да зьместу тых вобразаў, што ўваходзяць у склад параўнаньня, абодва пісьменьнікі адрозьніваюцца адзін ад аднаго досыць рэзка. І той і другі часта бярэ матэрыял для параўнаньняў з галіны акружаючых зьяў, сучасных кожнаму з іх. Так, у Гогаля мы маем параўнаньні, вобразам для якіх зьяўляюцца розныя чыноўнікі яго часу: „Козел дребезжал резким голосом, *как городничий*"; „пустился бежать, *как мужик, которого только что выпорол заседатель*". Тымчасам у Я. Коласа гэтыя вобразы ўзяты з яго сучаснасьці: „вураднік пазіраў на прыстава так, *як-бы ён японскага мікаду забраў у плен*". Паралелізм іх у галіне данага спосабу ёсьць, якраз, у тым, што і той і другі зьвязваюць яго зьмест з пэўнымі сучаснымі кожнаму з іх абставінамі. Гогаль бярэ вобразы параўнаньняў з жыцьця дробнай шляхты, а Я. Колас—з жыцьця сялянскага. Значыць, пры неаднолькавым зьмесьце ў фармальных адносінах, яны аднолькавыя.

Таксама і параўнаньні, выражаныя панібрацкай таварыскай мовай, зусім роўналежныя такім самым параўнаньням у Гогаля. Такой мовай расійскі пісьменьнік карыстаецца вельмі часта. Як Гогаль уводзіць у свае апавяданьні шэрагі асоб, зусім невядомых па ходу твору—якога-небудзь Сьцяпана Іванавага Курачку з Гадзяча, які апавядаў „гісторыю", ці якую-небудзь Агафію Федасееўну, тую самую, што адкусіла вуха ў засядатаря, так і Я. Колас гаворыць пра розных—Марціне Паліваны, Сымоне Очэпе, Давідзе Рэзгіне—ды іншых асобах, адзін усяго раз названых і незнаёмых чытачу.

У галіне ўжываньня гіпэрболь таксама можна адзначыць пэўную адпаведнасьць. Гогаль ужывае іх у шырокіх разьмерах. Карыстаючыся сродкамі ўзмацненьня абшару, часу, чысла, аб'ёму, меркі і г. д., Я. Колас опэруе, галоўным чынам, гіпэрболямі мерак („*надымілі люлькамі, што і галоў іх ня было відаць*"), зьвяртаючыся, аднак, да іх, як да сродкаў мастацкага выяўленьня, параўнальна, рэдка. Поўная роўналежнасьць між пісьменьнікамі ёсьць у галіне ўжываньня тых ці іншых лаянак. У Гогаля яны шырокай хваляй уліваюцца ў яго творчасьць, адбіваючы індывідуальны разумовы вобраз кожнага героя, які карыстаецца гэтымі выразнымі сродкамі, з прычыны гэтага лаянка ў яго вызначаецца большай рознастайнасьцю. Я. Колас у гэтых адносінах таксама дае надзвычай багаты лексыкон лаянак, але гэты лексыкон сьведчыць аб аднароднасьці соцыяльнага складу асоб, якія ўжываюць гэтыя лаянкі; як відаць з нязначнай колькасьці прыкладаў, паданых вышэй, у шмат якіх выпадках мы маем шэраг паўтарэньняў гэтых лаянак. У гэтых адносінах між пісьменьнікамі вялікая розьніца, абумоўленая соцыяльнымі ўласьцівасьцямі тых герояў, якіх малююць гэтыя аўтары. Але ў галіне мастацкіх мэт, дзеля якіх абодва яны карыстаюцца лаянкамі, між імі амаль поўнае супаданьне. Я. Колас бярэ іх у большасьці выпадкаў для выяўленьня стану гневу; для тых-жа самых мэт пераважна карыстаецца імі і Гогаль. („Типун бы тебе под язык, старая ведьма! Тебе какое дело?"; „Чорт бы тебя схватил в бане за пуп!") ды інш.

Ва ўжываньні спэцыфічных слоўцаў для розных мастацкіх мэт абодва пісьменьнікі ідуць поруч. У таго і другога ў гэтай галіне пэўна адчуваецца вялікае штукарства. Але з пункту погляду крыніцы гэтых выразаў між імі ёсьць вялікая розьніца. У Гогаля у пераважнай большасьці гэтыя словы зьяўляюцца яго асабістай выдумкай (пикенция, „Пульпультик", „Монмуня", „немчура, катай-валяй, финтирлюшки, подмасьливать, спускают на кур'ерских" ды інш.), якія ў значнай сваёй часьці потым увайшлі ў расійскую мову і зрабіліся ўласьцівасьцю звычайнай мовы. Тымчасам Я. Колас ужывае, галоўным чынам, тыя якраз спэцыфічныя слоўцы, якія ўжо ёсьць у народнай беларускай мове; ён бярэ іх адтуль ды прыстасоўвае для мэт мастацкага выяўленьня. Бясспрэчна, сярод іх ёсьць пэўны процант выразаў, выдуманых самым пісьменьнікам, але аддзяліць яго індывідуальную выдумку ад народных лаянак вельмі цяжка, бо мы пакуль што ня маем навуковага слоўніка жывой беларускай мовы.

Роўным чынам, карыстаньне прыслоўямі ды прымоўкамі ў таго і другога пісьменьніка мае шмат аднолькавых рысаў. Гогаль часткова карыстаўся гэтымі выразамі ў тым выглядзе, у якім яны ўжо выпрацаваны народнай мовай і зьяўляліся яе агульным набыткам („ругнуть во все бока"; „хоть святых вон выноси", „пошла писать губерния" ды інш.); часткова-ж ён на ўзор народных ствараў свае ўласныя („загнуть слово", „ввернуть слово", „пошли писать чушь и дичь" ды інш.). Тое самае мы бачым і ў Я. Коласа.

У галіне лірычных адхіленьняў зьвяртае на сябе ўвагу сваім падабенствам ды адпаведнай манерай і ў Гогаля спосаб ужываньня Я. Коласам сур'ёзнага тону пры апісаньні нікчэмных і дробных рэчаў. Толькі ў нашага пісьменьніка гэта ўласьцівасьць выяўленьня ўжываецца звычайна, як у свой час зазначалася, пры асабістых выступленьнях аўтара, тымчасам як Гогаль да гэтага высокага стылю зьвяртаецца пры індывідуалізацыі мовы дзеючых асоб („Из дамских благовонных уст устремились к Чичикову множество намеков и вопросов, проникнутых насквозь тонкостью и любезностью“; „Пазволено ли нам, бедным жителям земли, быть так дерзкими, что бы спросить вас, о чем мечтаете?“; „Где находятся те счастливые места, в которых порхает ваша мысль?“; „Можно ли знать имя той, которая погрузила вас в эту сладкую долину задумчивости?“) ці-ж апісаньне акружаючай асярэдзіны і ўчынкаў герояў („Будочник... закричал спросонья что стало мочи, кто идет?; но, увидев, что никто не шел... поймал у себя какого-то зьверя и казнил яго тут-же у себя на ногте, после чего уснул опять по уставам своего рыцарства“).

У сфэры тэй самай лірычнай манеры апавяданьня пэўнае падабенства мае спосаб ужываньня пытаньняў, воклічаў і зваротаў для выяўленьня асабістых звычайна гістарычных настрояў мастака. Гэта мы бачым у Я. Коласа. Тое самае дае у сваёй творчасьці і Гогаль. Ён выпрацаваў пэўны спосаб выяўленьня сваіх нібы-та гіронічных пачуцьцяў радасьці („А какими пирогами накормит моя старуха! Что за пироги!.. А масло!.. Боже ты мой, каких на свете нет кушаньев!“), зьдзіўленьня („Господи боже мой, Николай Чудотворец! какой у него дом в Миргороде!..“ „А какой богомольный человек Иван Иванович!“), абурэньня і г. д.

У кожным разе значная частка мастацкіх сродкаў гумарыстычнай мовы Я. Коласа працягвае традыцыю Гогалеўскай школы з тымі зьменамі, што дыктуецца ўласьцівасьцямі самой тэматыкі. Аднароднасьць яе ў нашага мастака значна скарачае магчымасьці ўжываньня рознастайных спосабаў мастацкага стылю. Тымчасам рознастайнасьць мастацкага зьместу ў Гогаля цягне за сабой такую-ж самую ўласьцівасьць і ў галіне выяўленчай мовы яго.

Што да вызначэньня традыцый для сур'ёзнага стылю Я. Коласа, дык у гэтай галіне пры поўнай амаль адсутнасьці дасьледваньняў мастацкай мовы натуральнай школы, прыватна, дасьледваньняў тых пісьменьнікаў— Тургенева і Дастаеўскага,—якія маюць ўжо пэўны паралелізм з нашым мастаком у галіне тэматыкі твораў, даць якую-небудзь конкрэтную адпаведнасьць няма магчымасьці. Толькі развагі самага агульнага характару прыпадаюць на лёс гэтай часьціны нашых дасьледзін.

Мы адзначылі ў Я. Коласа дзьве стыхіі ў галіне гэтага, „другога“, стылю: адну відавочную, плястычную і другую—эмоцыяльна-псыхолёгічную. Першая з іх асабліва блізкая да традыцый і прынцыпаў „натуральнай школы“, прыватна, Тургеневу. Ня цураюцца пісьменьнікі гэтага

кірунку і другой стыхіі, але яна ў іх займае ўжо далёкае месца: яна ўваходзіць, звычайна, у іх творчасьць, як другарадны, часамі як выпадковы элемэнт. Яе сапраўднае поле чыннасьці—романтызм; тут яна знаходзіць для сябе поўнае прызнаньне, ставячы плястыку выяўленьня на задні плян.

Пры выяўленьні стыхіі першага шэрагу мы адзначылі тое, што яна ёсьць у апісаньнях знадворнага боку дзеючых асоб і фону, на якім яны выступаюць. Гэта манера нашага пісьменьніка знаходзіць сваю адпаведнасьць у творчасьці Тургенева. У яго таксама пры абрысоўцы, якраз, знадворнага выгляду тых герояў і рэчаў, што ён малюе, прэвалююцымі аказваюцца стылістычныя сродкі плястычнага характару, галоўным чынам, зрокавыя.

Прыватна-ж у галіне ўжываньня эпітэтаў відаць досыць вялікі паралелізм. У Тургенева, як зазначаюць дасьледнікі яго [1]), зрокавыя эпітэты сярод другіх зьяўляюцца пераважнымі па сваёй колькасьці. Ён ужывае іх, малюючы выгляд героя, у прыватнасьці, яго твар, рост, голас, валасы, вопратку і г. д. (Рядчик из Жиздры был невысокого роста, плотный мужчина лет 30, рябой и курчавый, с тупым вздернутым носом, с живыми карими глазками и жидкой бородкой, „Певцы"). Ужываючы эпітэты гэткага, якраз, роду, пісьменьнік імкнецца намаляваць *„дакладны портрэт"* тэй асобы, што ён выводзіць на сцэну, прымусіць чытача *„ўбачыць"* героя, які выступае ў творы.

Роўным чынам, такім-жа самым зьяўляецца расійскі пісьменьнік, калі малюе прыроду. „Палітра фарбаў і колераў асабліва багатая ў Тургенева,—кажа пра яго дасьледчык;—горача кахаўшы прыроду і тонка адчуваўшы хараство яе, ён найбольш пільна працаваў над малюнкамі, якія рысавалі яе—над сваімі апісаньнямі, надаючы асаблівае значэньне падрабязнасьці іх. Пры гэтым ён успрыймае прыроду, галоўным чынам, зрокава, і таму натуральна павінен быў найбольш удасканаліць у сябе зрокавы эпітэт" [2]).

Той-жа самы характар відавочнасьці ды плястычнасьці выступае ў Тургенева і пры ўжываньні ім параўнаньняў. У вялізнай большасьці сваёй усе яны рэчавага адчувальнага характару. Як зазначае аўтар спэцыяльнай працы аб гэтых зьявах стылю ў Тургенева [3]), пісьменьнік бярэ іх з такіх галін, як чалавек ды прырода (параўнаньні з дрэвамі, красамі, з ветрам і г. д.), з сьвету жывёл (параўнаньні з рознымі групамі ды жывёламі), з галіны тых ці іншых рэчаў і г. д. Нават калі мастак запазычае іх з галіны „літаратурных рэмінісэнцый", напр., з клясычнай

---

[1]) Бар. Б. Лук'яноўскі. Эпитеты у Тургенева. Творчество Тургенева, зборнік артыкулаў пад рэд. І. Н. Разанава ды Ю. М. Сокалава. Москва, 1920 г., стар. 140—151.

[2]) Ib., стар. 146—147.

[3]) В. І. Д'яканаў. Сравнения Тургенева. „Тургенев и его время". Першы зборнік пад рэд. Н. Л. Бродзкага, Масква, 1923 г.

літаратуры, то і ў гэтым выпадку ён бярэ чыста пластычныя параўнаньні (Санін „вспомнил ее мраморные руки, подобные рукам олимпийских богинь“, „Вешние воды“).

Характар гэтых стылістычных сродкаў у Я. Коласа, як было зазначана раней, такога-ж відавочнага, фізычна-адчувальнага характару. Крыніца іх паходжаньня таксама рэальнага характару; гэта—сьвет акаляючых яго рэчаў ды зрокава ўспрыйманых зьяў. Значыць, у данай галіне наяўнасьць працягу ў нашага пісьменьніка традыцый натуральнай школы, прыватна, Тургенеўскай творчасьці. Гэта ня можа выклікаць ніякіх спрэчак. Мы ня кажам пра залежнасьць Я. Коласа ад Тургенева. Наша мэта ў даным выпадку, як і наогул у галіне вызначэньня гістарычных сувязяй,—вызначыць, хаця-бы ў агульных рысах, тую сфэру літаратурнага разьвіцьця, у межы якой павінен быць залічаны і наш пісьменьнік. Калі мы ставім пэўныя зьявы яго творчасьці ў пэўныя суадносіны з творамі пісьменьнікаў Гогаля, Тургенева, Дастаеўскага ды інш., дык мы бярэм гэтых мастакоў толькі ўсяго як найбольш тыповых і выдатных прадстаўнікоў тэй літаратурнай плыні, у межах якой, бясспрэчна, знаходзяцца літаратурныя сымпатыі і нашага аўтара. Гэтыя пісьменьнікі—усяго толькі сьцяг тэй школы, да якой павінен быць залічаны і Я. Колас.

У галіне стылю эмоцыянальнага псыхолёгічнага наш пісьменьнік больш блізкі да традыцый романтычнай творчасьці. Яго мастацкая мова ў гэтым выпадку пераважна романтычная. Асобныя спосабы яго, канстатаваныя намі, пры параўнаньні іх з адпаведнымі зьявамі романтычных твораў, даюць амаль поўную аналёгію.

Я. Колас, як было зазначана раней, больш падрабязны тады, калі малюе ўнутраныя бакі таго об‘екта, якога ён выяўляе, чым калі знадворныя яго бакі. Гэта зьява ў поўнай меры зразумела, калі ўзяць пад увагу, што сфэра ўнутраных адносін значна багацейшая на зьмест, чым знадворных; таму яна, само сабой зразумела, і вымагае больш шырокага мастацкага выяўленьня. Варта толькі для прыкладу падаць творчасьць Дастаеўскага, які так глыбака заглянуў у псыхолёгію чалавека і так падрабязна яе запісаў, каб мець відавочны ўзор для данага выпадку. Я. Колас таксама дае шэраг спроб гэткага-ж характару, асабліва ў тых выпадках, калі галоўнай мэтай сваёй мастацкай творчасьці ён ставіць сабе выяўленьні ўнутранага сьвету чалавека („Малады Дубок“, „Злучыліся“).

Але гэта рыса ў творчасьці нашага мастака знаходзіць сваю адпаведнасьць у романтычнай поэтыцы, якая, што вядома, ставіла ў аснову мастацкай творчасьці сфэру ўнутраных адносін, сьвет пачуцьця — ці актыўнага ці-ж мэлянхолічнага. Романтыкі далі найбольш высокія ўзоры мастацкага выяўленьня ўнутраных таямнічых перажываньняў чалавечай душы, далі поэтыцкія малюнкі таго Stimmung‘а (настрою), у якім яны імкнуліся згадаць бясконцыя пачаткі жыцьця, якое нельга выявіць. У нашага пісьменьніка мы маем усяго толькі пэўны далёкі водгалас ад гэтай

усёахапляючай зацікаўленасьці да псыхолёгіі чалавека, якi ў яго мастацкіх выяўленьнях да таго-ж набывае рэальны характар.

Больш выразна гэта романтычная традыцыя выяўляецца ў паасобных зьявах мастацкай мовы Я. Коласа, якой ён карыстаецца, малюючы ўнутраныя псыхолёгічныя рухі тэй асярэдзіны, што ён выяўляе.

Вышэй было адзначана, што маецца пэўны водгук ад фантастыкі романтызму. Стылістычна гэта выявілася ва ўжываньні шэрагу адцягнёных выразаў (нейкі, нешта ды інш.) для абазначэньня прысутнасьці асобнай надпрыроднай сілы, якая прымае ўдзел у дзеі твору. У романтыкаў пачатак цудоўнага (merveilleux) быў сапраўднай „поэтыцкай машынай" іхных твораў і канонам іхнай поэзіі. Стылістычна яно абазначалася шэрагам такіх выразаў як: wunderbar, wundersam, wunderlich, seltsam і г. д. У гэтыя словы яны ўкладалі дзівосны фантастычны зьмест, у якім паасобныя часьціны станавілі сабой поэтыцкія вобразы, меўшыя пэўныя абрысы і формы (сьвет мітаў і казак), лёгка ўспрыйманыя чытачом. У нашага-ж пісьменьніка гэта merveilleux абарачаецца ў зусім адцягненае нешта, выступае ў выглядзе нейкай сілы, ня маючай ніякіх рысаў. Вобразнасьць гэтых фантастычных постацяй тут зусім пацьмянела, пакінуўшы ўсяго толькі адзін адцягнены касьцяк. Аб сваяцтве са старым мітам романтычных чартоў ды ведзьмаў гэтага „нешта" сьведчыць тое, што часамі, як ужо гаварылася, аўтар конкрэтызуе гэта разуменьне, зазначаючы, што ў ім ёсьць, якраз, нячыстая сіла.

У галіне ўжываньня эпітэтаў ды параўнаньня для абазначэньня ўнутраных станаў таго матэрыялу, які Я. Колас малюе, ён мае шэраг роўналежнасьцяй з мовай романтыкаў. Большасьць стылістычных зьяў гэткага характару ў яго мае адбітак пэўнага суму, нудоты, ці-ж яны ўзятыя з сфэры адцягненых разуменьняў. Гэтыя-ж уласьцівасьці так характарны для романтыкаў з іх заўсёднымі эпітэтамі—сумны, мэлянхолічны, бледны, задумёны, сьвяшчэнны—ды вобразамі да параўнаньняў, як: бязмоўнасьць ночы, змрок лясоў, бязьлюднасьць гор, спакой магіл і г. д.

Мы адзначаем пэўную роўналежнасьць толькі ў галіне тых агульных якасьцяй, якія ўласьцівы ўжываным зьявам стылю ў Я. Коласа ды яго папярэднікаў. У сфэры-ж конкрэтнага зьместу яго там і тут ёсьць значная розьніца, якая азначаецца розьніцай знадворных умоў, акаляўшых творчасьць нашага мастака і пісьменьнікаў романтычных і быўшых для іх па-за эстэтычнай крыніцай. Гэтым тлумачыцца, чаму ў нашага аўтара тэматыка стылю такая блізкая да акаляўшых яго яму сучасных абставін і, апрача таго, да абставін яму родных, беларускіх.

Нарэшце, прысутнасьць лірычнага ўдзелу аўтара ў яго творы, яго лірычная манера апавяданьня таксама сьведчыць аб тым, што ён блізкі да сантымэнтальна-романтычнага стылю, для якога гэты спосаб зьяўляецца адным з самых характарных; ён знайшоў у ім самае шырокае распаўсюджаньне. І Гогаль, з якім у данай галіне мы бачылі ўжо пэўную аналёгію ў Я. Коласа, у гэтым выпадку дае яркі ўзор сваёй залеж-

насьці ад тых самых густаў романтычнага характару. Цікава адзначыць пры гэтым, што Гогаль карыстаўся гэтай манерай ня толькі з мэтаў гумарыстычных. Ён ужывае яе і пры апісаньні сваіх герояў у сур'ёзных станах, адзначаючы гэтым самым сваю асабістую зацікаўленнасьць у іхным лёсе ці ў іхным душэўным стане. Так, перадаючы жыцьцёпіс Тэнтэтнікава, ён, як і Я. Колас у апавяданьні „Злучыліся“ пры апісаньні Юркі, карыстаецца тым самым сродкам мастацкага выяўленьня („Что значили эти рыдания? Обнаруживала ли ими болеющая душа скорбную тайну своей болезни,—что не успел образоваться и окрепнуть начинавший в нем строиться высокий внутренний человек“ і г. д.).

З паданых заўваг, датычных гістарычных сувязяй Я. Коласа ў сфэры яго мастацкай мовы, зусім пэўна выцякае, што і ў данай галіне ён, як і ў межах сваёй тэматыкі, знаходзіць для сябе адпаведнасьць у тых-жа самых літаратурных плынях ды густах. Як і там, на першым месцы больш шырокая роўналежнасьць з традыцыямі „натуральнай школы“, прыватна-ж, гогалеўскай і больш вузкая аналёгія з кірункам романтычным. Але як і раней, працяг ды адпаведнасьць традыцыі датычыць, галоўным чынам, усяго толькі агульных уласьцівасьцяй ужываных ім стылістычных спосабаў. Іх конкрэтны зьмест цалкам продыктаваны ўмовамі акаляючай яго беларускай грамадзкасьці. Гэта блізкасьць да родных яму абставін пацьвярджаецца таксама і яго няўхільным імкненьнем да некаторых спосабаў народнай творчасьці. Ужываньне ім прыказак ды прымовак для мэт стылізацыі мовы сьведчаць аб яго сувязях з гэтай мастацкай крыніцай ды аб яго крэўным сваяцтве з беларускай народнай асярэдзінай.

*Канец будзе*

# ГРАМАТЫЧНЫ СКЛАД МОВЫ Ц. ГАРТНАГА [1])

**Язэп Лёсік**

## Морфолёгія

У разьдзеле морфолёгіі знаходзім, поплеч з формамі адзін. і множн. л., частае ўжываньне парнага ліку для іменьнікаў жаночн. і ніякага роду, напрыклад:

1) *У назоўным склоне:* дзьве сіля Дз. 8, 22, дзьве хаце Дз. 8, 31, дзьве тварыня Дз. 8, 31, дзьве кабеця Дз. 8, 33.

Іменьнікі ніякага р. ў назоўным склоне злучаюцца з лічэбнікам „дзьве", але маюць форму множн. л.: дзьве пісьмы Дз. 8, 12, абедзвя пісьмы Дз. 8, 12, дзьве крэслы Сц. 43; пяць вокан—тры на двор, а *дзьве* на вуліцу. Сц. 107.

2) *У родна-месным склоне: З вачу* П. 99, Дз. 8, 22.

3) *У творным склоне:* грашыма З. 24, 52, дзьвярыма Дз. 8, 9, С. 23, 49, вачыма Дз. 6, 2, П. 42, Сц. 301, плячыма С. 42, трайма С. 61, з абайма С. 67, абедзьвіма З. 39, абедзьвюма С. 88, усіма Дз. 6, 7, Сц. 293, П. 99, з усіма Сц. 245, і—вачмі В. 80, Сц. 88, вачамі С. 55.

Тут нават прыметнікі могуць прымаць форму на—„ма": сам сябе падбіваў на разрыў *з усіма*. Сц. 245. Няхай-бы ўсе цікавіліся адным і адзін—*ўсіма* Сц. 293.

Гэтак сама шырока ўжываюцца клічныя формы як у вершах, так і ў прозе для іменьнікаў мужч. р., напр.: сваце С. 114, Міколе С. 114, родзе П. 23, госьцю мой С. 38, званару П. 38, Карпе З. 13, суседзя В. 21, татку Дз. 8, 11, Міхаську, С. 41, майстрове П. 31, Апанасе сынку В. 63, ягамосьцю В. 57.

Цікава слова „дзеці" (дзеце?) у клічным значэньні адзін. ліку: „Я пайду па сьвеця з торбаю цягацца, а з цябе, *мой дзеці*, будуць ўсе сьмеяцца". З. 63.

У катэгорыях роду зварачаюць увагу словы: *талента*—жаноч. р. пры звычайным „талент"—мужч. р.: вялікую *таленту* В. 7; яго *твар* П. 41, мой *твар* С. 83 і—паэтаву *твар*. П. 48; гэту *папер* П. 42—жаноч. р.; немалы *боль* С., 20, і гэткім *болям* Дз. 8, 26, П. 20, ад моцнага *болю* Дз. 8, 12, насіўся *цень* П. 77, на *ложак* Дз. 8, 33—мужч. роду.

---

[1]) Гл. „Полымя" № 10, 1928 г.

Поплеч з гэтым знаходзім прыпадабненьне іменьнікаў ніякага р. на—„я“ да тых-жа іменьнікаў на—„е“ і—„о“: *вярне* П. 11 (у рыфму з „жыве“), *дзіцё* С. 42, *дзіцянёці* С. 22.

Слова „картопля“ ўжываецца толькі ў множным ліку; адзіночны лік падмяняе слова „бульбіна“ Дз. 8, 9, хоць слова „бульба“ не сустракаецца, напр.: грасаваць *картоплі* Дз. 8, 30, кошык з *картоплямі* З. 2, картопяль З. 19, Дз. 8, 9 і г. далей.

У словавытварэньні зварачаюць увагу прозьвішчы дачок, сыноў і замужніх жанчын, якія выводзяцца ад фаміліі ці ўласнага імя бацькі ці мужа, напр.: *Прыдатчанка* С. 109—ад фаміліі Прыдатны, *Карзунянка* Дз. 8, 30—дачка ад фаміліі Корзун; *Карзуніха* Дз. 8, 30 (жонка), Стэпа *Нязвычніха* Сц. 286—жонка ад фаміліі мужа Нязвычны; *Беражыха* Сц. 285—ад Бераг; *Хлёрыха* Сц. 283—ад Хлёр, імя мужа; *Нязвычнічак*, *Нязвычнічка* С. 120—сын ад прозьвішча Нязвычны; Волькі *Ярмалаішкі* С. 49, Гэлю *Сідорышку* С. 23, *Мікалаішчцы* С. 24—дачка ад бацькавага імя *Мікалай*, адкуль прыметнік прыналежны *Мікалаевы; Макарышка* Дз. 8, 33 (дачка ад Макар—Макаравы), Аксеня *Астапішка* Сц. 160, *Стэпінчык* Сц. 120 (сын ад жаноч. імя Стэпа), а таксама—*пасэсарчанцы* Т. 24.

Гэтыя фамілійныя формы слаба пашыраны ў нашай літаратурнай мове, а тымчасам яны ўпрыгажаюць мову, і пісьменьнікам варт-бы выкарыстваць іх замест звычайных бацькоўскіх прозьвішч.

Звычайна прозьвішчы (фаміліі) дачок, сыноў і жанок выводзяцца з бацькоўскіх (гаспадарскіх) прозьвішч з дадачаю да іх суфіксаў—*анка (янка)* або—*ішка* для дзяўчат,—*онак (ёнак)*,—*шнык* або—*чык* для хлапцоў і—*іха* для замужніх жанчын, напр.: Станкевіч—*Станкевічанка, Станкеўчык* або *Станкевічонак, Станкевічыха;* Куніцкі—Кунічанка, Кунічонак, Купіцчыха; Буйло—Буйлянка, Буйлёнак, Буйлічыха; Мікалаевы—Мікалаішка, Мікалайчык, Мікалаіха.

Украінскі мовазнавец О. Сіняўскі піша, што ўжываньне такіх злучэньняў для дзяўчат, як „Ганна Глывэнко, есть искажение украинского языка; должно быть—Ганна Глывэнківна і т. п. Жена же Глывэнка, Максымовыча і проч.—Глывэнкова, Максымовычева і проч.“ („Украинский язык“ 1923 г., стр. 57).

Наша правапісная камісія пры Акадэміі Навук пастанавіла ў дакумэнтах і пры офіцыяльных зносінах пісаць прозьвішчы сыноў і дачок па бацьку, а прозьвішчы жанок—па мужу, калі яны носяць адну фамілію, але ў звычайным абыходку, адзначыць і ў прыгожым пісьменстве, ня трэба сьціраць гэтых асаблівасьцяй у фаміліях, тым больш, што ў некаторых славянскіх мовах гэтыя фамілійныя варыяцыі носяць афіцыяльны характар.

У творах Гартнага часта знаходзім слова „вецер“, пашыранае суфіксам—*іска:* вятрыска Б. 30, сапнула *вятрыска.* П. 61. Гэтая форма спатыкаецца, як вядома, і ў „Слове а палку Ігараве“.

Гэтак сама зварачаюць увагу словы з суфіксам—*шч.*: любошчы. Сц. 135, *гулёшчы* С. 31 торжышча Сц. 134, пяшчышчах Т. 41, ваксоўшчык Сц. 73.

Любіць Гартны і памяншальна-ласкальныя формы прыметнікаў і нязьменных слоў, якімі так багата нашая мова, напр.: *спаткі* В. 52, *нядаўначка* Дз. 8, 30, *паўнюсенька* Дз. 6, 4, *цёпленькі* П. 31, *цяперачкі* С. 26, *цалюсенькія* С. 69, *аднюсенька* С. 78, *чысьцюсенькім* С. 76, *тошечкі* Дз. 6, 3, усе *усенькае* Т. 32.

Ужываюцца іменьнікі жаноч. р. з суфіксамі—*уля*—*ухна:* матуля С. 142, цятуля С. 40, сяструхна Дз. 8, 30.

Зварачаюць увагу дзеяпрыметнікі залежнага значэньня з суфіксам *т: заслат* Дз. 8, 29 (ад „заслаць“), *дастатая* Дз. 8, 30 (ад „дастаць“), *прадата* З. 64 (ад „прадаць“), *адчынетае* акно Сц. 186, *адчынятая* Дз. 8, 22 (ад „адчыніць“), хата *замкнута* Сц. 105 і—*дадзена* Сц. 209, як наватвор, неўласьцівы мове Гартнага.

Поплеч з правільнымі беларускімі дзеяпрыметнікамі ад прошлага часу на—*л*—(*застарэлым* Т. 37, *упалых* вачэй Т. 33, *парудзелыя* Дз. 6, 7, ліст *апалы* П. 72, *прывыклымі* Сц. 73, *пачырванелыя* С. 69, *пажоўклы* С. 79, *зьнямоглая* С. 26, *пажаўцелая* Дз. 8, 38) у мове Ц. Гартнага многа неўласьцівых нашай народнай мове дзеяпрыметнікаў дзейнага і залежнага значэньня, вытвараных на ўзор расійскай кніжнай мовы, напр.: *перажываемага* С. 92, *новападсеўшага* пасажыра Ст. 62, *сьвяцяшчы* П. 96, *затопшага* П. 97, *запёкшайся* П. 97, *хаваўшую* П. 98, *уваскросшае* П. 98, *спускаючага* П. 85, *залежачы* ураджай П. 89, *пішучым* П. 89, *зьвісшым* П. 90, *магушчы* П. 94, *прыдучыя* клопаты С. 143, хутка *нясучыміся* С. 80, *цьвітучую* вясну С. 81, *укахаўшагася* С. 86, *разыходзючыся* змрок С. 68, *расплываючымі* дарогамі С. 68, *чакаемыя* сьвяты С. 21, *пасылаемыя* С. 30, *вызваляемай* зямлі П. 77, *пяяўшай* П. 29, *убіраўшай* П. 29, *сьпячае* зямлі П. 66, *спаўшая* сіла П. 68, *вартуючая* П. 68, дзён *ідучых* П. 69, *успрэўшая* зямля П. 7, *заплесьнеўшая* столь П. 8, *зьбялеўшую* П. 8, *прасмагшую* П. 8, *ажыўшая* П. 32, *яскраблішчучых* П. 33, *набалеўшую* П. 39, *незьблядаемае* жаданьне С. 35 (расійск.: неуведаемае желание), *не збываюшчым* С. 43, *зьвешваямы* В. 127, *губляючаю* рукою С. 128, усё *спаляючаю* маланкаю В. 31, *імючых* З. 31 (расійск.: *имущих*), *карыстаючых* В. 31, *аднімаямую* Дз. 8, 25, *падмацоўмаямыя* Дз. 8, 31 (рас.: подкрепляемые), бачыў *крадучых* Гапу і Гэлю. Дз. 8, 31 (*крадучых*=якія краліся, падкрадваліся, г. зн. цішком падыходзілі) і шмат іншых.

Калі некаторыя полёнізмы ў фонэтыцы ўзяты пісьменьнікам беспасрэдна з свайго роднага дыялекту, то гэтыя формы дзеяпрыметнікаў вытвараны пад уплывам расійскай кніжнай мовы. Падобных дзеяпрыметнікаў у беларускай народнай мове няма. Калі ў навуковай мове бяз дзеяпрыметнікаў дзейнага значэньня трудна бывае абыйсьціся, то ў звычайнай мове дзеяпрыметнікі на—*шы* ў некаторых разох лёгка падмяняюцца формамі на—*л*, напр.: *прасмагшую* П. 8—*прасмаглую*, *набалеўшаю*,

П. 39—*набалелаю*, а ў іншых выпадках трэба замяняць іх апісальна, напр.: „таварыш, *што жыве са мною*", замест „таварыш, *жывучы* са мною"; мы сустрэлі чалавека, што ішоў у горад", замест „мы сустрэлі чалавека, *ішоўшага* ў горад" і г. д. Дакладней аб дзеяпрыметніках у беларускай мове мне прыходзілася гаварыць у спэцыяльным артыкуле „Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы", надрукаваным у журнале „Полымя" за 1924 г. № 2, стар. 192, а таксама ў падручніку „Граматыка беларускай мовы". (*Морфолёгія*, стар. 158—163).

У Гартнага знаходзім і такія прыметнікі, як *іхнія* С. 85, *бывалашняга* С. 80 і нават—*сёньняга* Дз. 8, 11.

Для выражэньня шматразовасьці ўжываюцца вельмі пашыраная ў народных гаворках падвойная прыстаўка „папа": *папамучыў* людзей З. 4, *папасушыў* З. 4, *папагутарыць* Сц. 187, *папацярпела* Сц. 267, *пападзужваў* Сц. 282 („Бачыш, мала ён *пападзужваў* Зосю, калі яшчэ быў тут", г. зн. „падгаворваў, пад'южваў"; у беларускіх слоўніках гэтага слова няма). Гэтак і ў народных дыялектах: *Папакраў-жа* ён у нас добра! Вот калі *папаямо* груш! У гэтым склепе, кажуць біскупы *папахованы*. (бач. маю „Морфолёгію", стар. 53).

Чужаземныя іменьнікі на—*ыя* маюць форму іменьнікаў жаноч. р. на—*а*: *канцыляра* З. 80 (канцылярыя), *да канцыляры* З. 34, *пастаца* Дз. 8, 30, (пастацыя), *пастацу* П. 23, Дз. 8, 13, *у турбацу* П. 32 (турбацыя), *ад паліцы* Дз. 8, 15 (паліцыя), але і—*рацыю* Сц. 283 (*рацыю* кажа, г. зн. слушна гаворыць), калі гэта не рэзультат стылістычнай рэдакцыйнай выпраўкі).

У слове „валадыр" Дз. 8, 22 маем суфікс—„ыр" замест—„ар": *валадар*.

## Дзеясловы

1) Дзеясловы першае асобы множн. л. маюць цьвёрды зычны перад асабовым канчаткам незалежна ад таго, ці націск прыходзіцца на канчатак, ці на аснову, напр.: *атыдам* З. 112, *сядам* Дз. 8, 31, *будам* З. 19, *паедам*, Дз. 8, 14, *зайдам* Дз. 8, 9, *пойдам* Дз. 8, 9, *дастанам* Дз. 8, 9, *загінам* З. 27, *аром* 3, 4, *ня будам* П. 100, *жывом* Дз. 8, 15, *сьпяком* Дз. 8, 9, *няпяком* Дз. 8, 9, *раскладом* Дз. 8. 9, *пачном* З. 14, *вернамся* З. 31, *таўкомся* Сц. 32, *рвомся* З. 114, *зьвернамся* Дз. 8, 31, *адрыгномся* Дз. 8, 25, *астаномся* Дз. 8, 14, *абыдамся* Дз. 8, 11, вернамся З. 31.

Спатыкаюцца, але рэдка, формы і з зьмякчаным зычным, мабыць, запазычныя, напр.: *будзям* З. 6, пры „будам" там-жа З. 19, *зьвязём* П. 18, *прыедзям* З. 6, *пагледзім* Дз. 8, 31—тут маем форму 2-га спражэньня.

Як бачым, зычны застаецца цьвёрдым звычайна ў формах 1-га спражэньня, я як будзе—*маўчом*, *крычом* ці *маўчым*, *крычым*—заўважыць ня прышлося.

2) Ад „даць“ і „есьці“ маем старыя формы: *дасі* З. 34, Дз. 8, 31, *дамо* С. 43, 126, *атдамо* З. 25, Дз. 8, 41, *прадамо* З. 80, *зьямо* Дз. 8, 41.

Дзеяслоў на—„м“ у першай асобе адзін. л. замест—„у“ знаходзім у выражэньні: „А вось болей *выжам* тугі“. П. 17. (Замест „выжму“).

Канчатак—„мо(ма)“ знаходзім і ў іншых дзеясловах першае асобы множн. л., звычайна другога спражэньня: *лажымося* З. 13, *пабачымо* З. 20, 22, *стаімо* С. 106, *недасьпімо* З. 17, *высьпімася* З. 13.

3) Формы загаднага ладу з *е* у суфіксах: *не тамецеся* П. 9, *папішэця* З. 50, *бярэця* З. 6, *садземся* Дз. 8, 31, *ня крычэця* Дз. 8, 30, *пасядзеця* З. 37, *завеця* З. 9, *пасьцялецеся* З. 11, *кажэця* З. 13, *запалеця* З. 13, *баранеця* З. 15, *судзеця* З. 15, *лажэцеся* З. 17, *спеця* З. 17, *рабеця* З. 29, *закусеця* З. 20, *садзецяся* З. 19, *тачэця* П. 71, *кладзеця* П. 31, *перакусёця* С. 40, *папрасем* Дз. 8, 30, *ідзем* С. 69 і—*шліце* П. 78, яўна запазычаная форма.

Пасьля зычных у першай асобе множн. л. маем форму загаднага ладу на—„ма“: *уцякайма* С. 97, *раскіньма* П. 91, *атручвайма* С. 71, *падумайма* С. 70, *павячэрайма* Дз. 6, 3, Дз. 8, 30, *кіньма* З. 5, Дз. 8, 41.

Ад „ліць“ знаходзім загадную форму другой асобы адзін. л.: *падлей* П. 30. І наагул, ад „ліць“ маем формы без т. зв. падваеньня зычнага: *ліе* П. 23, *ліецца* П. 22, *падліе* П. 20, *паліюцца* П. 20.

4) Будучы складаны час выражаецца з „іму“: *магчыму* П. 34, *умецьму* Сц. 85, *не магчыму* Сц. 85, *мецьмяш* З. 123, *мусіцьме* П. 72, *сіяцьме* П. 91, *мялькацьме* П. 91, *зьдзяйсьняцьме* П. 71, *магчыме* Сц. 30, *рупяцьме* З. 7, *супадацьме* Сц. 63, *каштавацьме* Сц. 87, *думацьме* Сц. 97, *трымацьмем* П. 97, *выглядацьмем* Сц. 124, *вячэрацьмем* Сц. 153, *думацьмуць* Сц. 20, *ведацьмуць* Дз. 8, 35, *супыняцьмуцца* Сц. 148, *злазіцьмуць* Сц. 148, *падбірацьмуць* Сц. 148, *патрабавацьмуцца* Сц. 22.

Рэдка спатыкаецца будучы складаны час з „буду“: *будзе рабіць* Сц. 23. *будзе жыцца* Сц. 91, *будзем маўчаць* Сц. 183.

Формы з „іму“ пануюць у мове Гартнага, а поплеч з імі часта ўжываюцца формы з „мушу“ *мушу даглядаць* Сц. 123, *мусіць радавацца* Сц. 23, *мушу не адставаць* Сц. 95, *мушу зайсьці* Сц. 120, і г. далей.

У сказе „*Годзе гнулі* свае сьпіны“ знаходзім будучы закончаны час.

5) Дзеясловы другога спражэньня прыпадобнены да першага і ў 3-яй асобе адзін. л. тыя і другія ўжываюцца бяз канчатка—„ць“: а) *шанцуя* З. 4, *кажа* З. 4, *муруе* П. 67, *капае* П. 68, *піша* З. 50, *скажа* З. 51, *шануя* Дз. 8, 22; б) *не разлуча* Сц. 33, *датычэ* З. 4, *вісе* З. 4, *твора* З. 62 (творыць) *гамоня* Дз. 6, 7, *разлуча* Дз. 8,70, *хопе* Дз. 8,26, *гутора* Дз. 8,11 (гуторыць), *паловя* Дз. 8,11, *знача* З. 22. *муся* З. 31, *падыходзя* Дз. 6, 3, *любе* С. 72, *зачэпе* С. 73, *гавора* П. 23.

Рэдка знаходзім формы з—„ць“ у абудвых спражэньнях: *цячэць* С. 8, *расьцець* П. 70, *сьвеціць* П. 9.

Гэтак сама ў 3-яй асобе множн. л. дзеясловы другога спражэньня маюць форму першага спражэньня: *ня бачуць* П. 13, *лічуцца* Дз. 6,3, а таксама—*глядзючы* Дз. 6,7, *коцючы* Дз. 6,7, *молючы* Дз. 8,31.

6) Націскны асабовы канчатак—„це“ мае „ё“ і „е“: *міняцё* Дз. 8,9, *кляняцёся* С. 140, *лажыцёся* З. 13 і—*пляцяце* З. 9, *жывіце* С. 39.

7) Інфінітывы на „і“ ужываюцца ў вершах і прозе поплеч з звычайнымі формамі на „ць“: *гніці* Сц. 27 (абрыдла жывым *гніці*), *дажыці* П. 66, *пісаці* П. 44, *занядбаці* П. 44, *набліжаціся* П. 30.

Інфінітыўную форму *іці* Дз. 8, 19, *прыці* С. 149, Дз. 8,31 знаходзім поплеч з *ісьці* Дз. 8, 9, *йсьці* П. 53, *вайсьці* З. 80, як *гусьці*.

8) Зваротны займеньнік „ся“ ў вершах часам скарачаецца ў „сь“: *схіліліcь* Дз. 8, 35, *рашчыніліcь* Дз. 3, 35, *старанісь* П. 35, *апусьціліcь* П. 13, *захлёпшысь* П. 97, *управілась* Дз. 6,7.

9) Дзеяслоў „есьць“ ужываецца і ў форме „есьцека“ Дз. 8, 22, Сц. 187, „ёсьцека“ Сц. 216.

10) Сярод дзеясловаў зварачаюць увагу наступныя словы: *утлуміць* Т. 7 (не магла ўтлуміць сабе, г. зн. не магла зразумець, абясьніць), *зазрыла* С. 100 (зайдросьціла, расійск:. ревновала), *пападзужваў* Сц. 282, (нагаворваў, пад‘южваў), *злыгалася* Т. 5 (зьвязалася), *нырпаліць* Т. 175 (*нырпаліць* па горадзе Т. 175, Языкі агнявыя наўсьцяж *нырпаляюць* па цёмным мясьцінам П. 65), *не палісьцілася* Сц. 324, *лісьціла* Т. 247 (расійск.: льстить), *акольвае* Сц. 264, Т. 3 (... усё, што мяне акольвае, г. зн. *акружае*), *шнайдрым* Сц. 284, *шнайдрылі* Дз. 8, 15 (*шнайдрылі* па падвоканьню Дз. 8, 15. Нясьціхана *шнайдрым* па хаце Сц. 284), *балхвіць* (балхвіць ліха ведае што З. 2), *разбалхвіў* Дз. 8, 15 (расійск. *разболтал*), *валэндацца* С. 65 (А чаго-ж *валэндацца*, ідзем С. 65), *пацьвельваліся* (а ліхамысьнікі сьмяяліся, цешыліся, *пацьвельваліся* Сц. 323), *пацьвільваліся* (сьмяяліся і *пацьвільваліся* нават, калі ён прыходзіў на зборню. С. 31), *сумелася* С. 50 (нібы сумелася), *суміла* С. 28 (Тадосю гэта *суміла*), *швэндацца* С. 74 (надаела *швэндацца* дарма), *ашыгаць* Дз. 6,7, С. 56 (прагна *ашыгаць* хлеб, г. зн. парас.: *уплетать*), *сьвірэла* Дз. 6,4, С. 29 (*сьвірэла* газоўка на прыпечку, *сьвірэла* лянпа Дз. 6, 4), *нышпарыць* З. 4, *закапырсьціцца* С. 28 (расійск.: капризничать), *памалуй* (вось *памалуй* толькі, С. 66, г. зн. *асьцярожна*), *прыстаканіцца* Дз. 8,12, П. 14, Т. 250 (Дзе-ж ён на работу *прыстаканіцца*? П. 14. Ладымеру вельмі хацелася даць мажлівасьць Даміцэлі *прыстаканіцца* ў яго сям‘і Т. 250), *зьдзяберваяя* даўбешкаю З. 39 (моцна біць чым тоўстым і цяжкім), *не шманалі* Дз. 8, 12 (не зважалі), *шманаю* С. 44, *не шманаючы* Т. 163, *вырачылася* Дз. 8, 14 (вырачылася на яе), *кламіць* С. 44, *кламяць* (лгуць) тыя С. 77, *клыпае* П. 12, 14 *енчыць* П. 22, *соп* П. 8, *сапе* З. 114, *пасапу* чыстым паветрам П. 79, *таварышкуе* С. 76 (сябруе, дружыць), *паверуй* (Але, родная, *паверуй* і суцешся скора П. 74) *мусібыць* З. 3 (мабыць), *крулявала* Дз. 8,33, *вымерхаўшыся* С. 5,18

(Бацька... таксама быў здарава *вымерхаўшыся* і старэнна па поўніцы чэрпаў... страву С. 18[1]), *сьлібізаваў* Т. 89 (чытаў па складох), *пашлёгвала* С. 16, *чаўпецца* С. 17, *абламзаў* С. 19 (спыніў яе ля студні, *абламзаў* і давай спавядаць, лаяць да штурхаць С. 19), *нарымсьцілася* С. 22, *плявузгае* С. 24, Т. 14, не *плявузгай* Т. 55, *няўрымсьцішся* С. 73, *прыкархнула* (задрамала) С. 46, *шалабоніць* С. 44, *уталопіла* вочы ў акно С. 14, *падрабязіў* (рас.: засеменіл; „ён хутка *падрябязіў* за гору. С. 49) *запуліў* гарнец гарэлкі С. 106, *сьцігалі* (шагалі) С. 106, *мінтрэжылася* С. 144 (гэтак *мінтрэжылася* часу да гадзіны адзінаццатае С. 144), *катурхаць* Т. 67, *выпетрала* (высахла і выветрылася) Т. 44, *мерзьконуў* у бліжэйшы двор Т. 57, *закапыліў* губкі Т. 71, *спляжыць* Т. 95, будуць *русці* (?) З. 78, *разбэргаць* З. 78, *гізуя* З. 34, ня *ўпэндзяцца* З. 14, *вышчэдала* („неяк *вышчэдала* берасьценьчык малака хоць за дзён колькі“ З. 9.

Некаторыя з пералічаных слоў (напр.: *кламіць, енчыць, крулявала)*—палёнізмы, другія, як, напрыкл., *руціцца, клыпае, валэндацца, няўрымсьцішся* [2])—літоўскага пахаджэньня, узятыя пісьменьнікамі беспасрэдна з свайго роднага дыялекту. Рэшты слоў або зусім няма ў беларускіх слоўніках, або рэдка можна знайсьці ў літаратурнай мове.

Поплеч з гэтымі словамі знаходзім многа дзеясловаў расійскага пахаджэньня, запазычаных, як відаць, самым пісьменьнікам, прычым без канечнай патрэбы, бо ўсе яны могуць лёгка перадавацца адпаведнымі беларускімі словамі, якія ёсьць і ў мове самога пісьменьніка, напр.: *пахайце* П. 88 (арэце), *сумее* СЦ. 196 (патрапіць), *катайся* СЦ. 176 (вазіўся) *сьпяшылі* СЦ. 178 (сьпяшаліся), *сыграць* вясельле СЦ. 169 (справіць вясельле), *закатывацца* сосьмеху СЦ. 140, *адлічыўся* Т. 4 (рас.: отличился), *адлічалася* СЦ. 211, *пабеспакоіць* Т. 18, *прасьлязілася* СЦ. 317, *засьціг* СЦ. 269 (рас.: застиг), *азадачыла* СЦ. 294, *шавяльнуцца* СЦ. 225 (шевельнуться), *асвоіўся* СЦ. 261, не *даві* П. 36, *цяраю* (теряю) П. 43, *серджуся* П. 44 пры *злую* П. 44, *цяраем* В. 25, *нараджацца* С. 22 (наряжаться), *разжог* П. 68, *раджае* П. 69, *сумееш* П. 16, не *цярай* П. 8 і інш.

*Дзеяслоўныя новатворы: паўсюдзь* СЦ. 159, *паўсюджыць* П. 95, *паўсюджыла* СЦ. 288.

У інфінітыве „вісець“ зварачае ўвагу націск на першым складзе з пачатку: „Гуд машыны, рамнёў піскі будуць *вісець* над табой“ П. 22.

---

[1]) У П. А. Бузука слова „вымерхаўшыся“ няправільна тлумачыцца, як *утаміўшыся* (бач „Галоўн. асаблівасьці мовы Ц. Гартнага“ „Полымя“ за 1926 г. № 5, стар. 135). Няправільна яно тлумачыцца і ў „Белар. рас. слоўніку Некрашэвіча і Байкова“.

[2]) П. А. Бузук. „Галоўн. асабл. мовы Ц. Гартнага“ „Полымя“ № 5, 1926 г., стар. 135. Тут аўтар няправільна адносіць чыста беларускае слова „скароджаньне“ да слоў літоўскага пахаджэньня.

## Іменьнікі

1) Іменьнікі ніякага р. множн. л. ужываюцца з канчаткам *а* і *ы*, напр. *каліоса* В. 58, *дрэўца* і *дрэўцы* Дз. 8, 41, *на сьвята* С. 24, *дрова* З. 2, 62, *дзяўчата* Дз. 6, 2, З. 15; *карыты* В. 2, *вокны* З. 2, *дровы* Дз. 6, 7, *словы* З. 52, *сіолы* (сёлы) В. 115, *слоўцы* Дз. 8, 12, *сьвята* і—*сьвяты* Дз. 8, 11, пад *ваконцы* Дз. 8, 40, як—*цабры* З. 2, *гарады* З. 115.

2) Іменьнікі з суфіксам—„ін" у множным ліку маюць форму з канчаткам—*е* (не пад націскам—*я*): *сілчане* Дз. 6,7, *мяшчаня* Дз. 8, 25, *капыляня* Дз. 8, 15.

3) Пры слове „маці" (*Маці* ня было дома. С. 99) знаходзім старую форму *матары* З. 26 у лаянцы (ліха матары!); у множным ліку—*мацеркі* С. 78 (тыя мацеркі); *мацяраю* С. 95, *мацяр'ю* З. 51.

4) У вадным і тым-жа творы знаходзім: старшын*я* З. 35, старшын*а* З. 38, старшын*у* З. 38.

5) Словы „галав*а*" і „царкв*а*" заўсёды ўжываюцца ў форме *голаў* Дз. 8, 22, С. 93, Дз. 6, 3, *у голаў* П. 43, *цэркаў* Дз. 8, 11 і г. далей.

6) Формы роднага склону адзін л. муж. р.: а) *з канцу* С. 103, у канцы *гасьцінцу* Т. 37, за плотам *гароду*, С. 127, *з-за столу* С. 127, у дому (?) С. 42, *ад гневу* Дз. 6, 5, *з двору* Дз. 6, 5 *з дому* Дз. 6, 6, промін *месяцу* В. 17, *з аўторку* В. 19, *с кубку* Дз. 8, 35, *да канцу* Дз. 8, 31, *да скутку* Дз. 8, 31, *ля двору* Дз. 8, 31, *з вечару* Дз. 8, 40, *ад гневу* Дз. 6. 5, *да сталу* Дз. 8, 41, В. 7, ня боляй *месяцу* Дз. 8, 12, *да парогу* Дз. 8, 26, таго *дню* Дз. 8, 12, *тыдню* Дз. 8, 12, *з полу* Дз. 8, 12, *са столу* Дз. 8, 12, *лісту* (пісьма) Дз. 8, 12, *духу* творчага П. 32, *да вечару* П. 20, *з вечару* С. 68, *з гораду* С. 79, *супачынку* П. 22, *ад двару* Дз. 8, 11, каля *месяцу* (у знач. часу) С. 147, *бяз прымусу* Дз. 8, 29, *ячменю* С. 91;

б) *аўса* С. 91, *тыдня* С. 42, *з ложка* С. 31, *да вечара* Дз. 8, 40, *агня* П. 29, з першага *дня* С. 47, *сна* П. 83.

Тут цікава, што формы з канчаткам—„у" прымаюць і іменьнікі ніякага роду, напр.: *ад паветру* С. 123, *да целу* Дз. 8, 12, *з вакну* Дз. 8, 30, В. 5, і такія мужч. р., як *с кубку* Дз. 8, 35, *з сыну* Дз. 8, 22, *да канцу* Дз. 8, 40, а некаторыя разьбежнасьці як *дня—дню, з вечара—да вечару* аб'ясьняюцца неўстаноўленасьцю гэтых формаў.

7) Іншыя іменьнікі адз. л. ў родным склоне: *любові* С. 99, 122, Сёмкавага *братка* С. 135, *бяз імні* П. 99, *ад дзіцяці* С. 71, *дзіцянёці* С. 22, *да цэрківі* Дз. 8, 11.

8) Іменьнікі жаноч. р. адзін. л. з цьвёрдаю адменнасьцю ў месным і давальным склоне звычайна канчаюцца на—„э(е)", не пад націскам на—„а(я)": *у руцэ* П. 79, *у руццэ* Дз. 8, 35, *дзяўчыня* Дз. 8, 26, *на прызьбя* Дз. 8, 12, *Вольца* Дз. 8, 14, *дачушца* Дз. 8, 14, *у хусца* З. 1, *папраўдзя* В. 3, *у вёсца* В. 8, *на лаўца* Дз. 8, 31, *жонца* Дз. 8, 14,

*у ярмолца* З. 21, *па даліня* Дз. 8, 14, *на падушца* З. 38, *грамацяя* Дз. 8, 11, *к рэчца* Дз. 6, 5 *аб рабоця* Дз. 8, 9, *у хаця, у духоця, пры рабоця, у старонца, на хваброца*—Дз. 8, 22, *у кніжца* Дз. 8, 15, *пры газоўца ці сьвеуца* Дз. 8, 15, *гаворца* канец В. 27.

Радзей знаходзім канчатак—„ы—і“: *на вуліцы* Дз. 8, 11, *у каморцы* Дз. 8, 9, *у люльцы* З. 3, *к хаці* Дз. 6, 5, *у каропцы* Дз. 8, 14, *на лаві* З. 11, *па праўдзі* З. 14, *на вуліцы* Дз. 8, 35, *на лаўцы* Дз. 8, 35, *у вёсцы* Дз. 8, 12, *па галоўцы* З. 52.

Гэтак сама пры мяккай адменнасцці: *у беднасьці, на душы* Дз. 8, 11, З. 62.

У мужч. і ніякім р. вельмі пашыран канчатак—„у(ю)“: *аб пасагу* С. 130, *аб гаспадару* С. 133, *аб спасеньню* С. 98, *у капялюшу* С. 40, *па твару* Дз. 6, 5, *на ложку* Дз. 6, 5, *у мейсцу* В. 21, *на мейсцу* Дз. 8, 31, *па мейсту* Дз. 8, 41, *па твару* Дз. 8, 42 (але пасьля „па“ звычайна стаіць давальны склон адзін. л.), *у саду* Дз. 8, 42, *на сталу* В. 7, *у вуглу* В. 2, *у гарнітуру* Дз. 8, 30, *па падвоканьню* Дз. 8, 30, *у багацьцю* Дз. 8, 26, *на мейсту* Дз. 8, 26, *аб дому* Дз. 8, 26, *па разуменьню* Дз. 8, 26, *аб вялікадню* Дз. 8, 11, *аб пісьму* З. 52, *на лахмоцьцю* З. 52, *у яе гору* З. 58, *па скату* П. 34, *пры гаю* З. 75, *у саду* З. 76, *на ветру* В. 79, *па заплоцьцю* З. 79, *на краю* П. 44, *на загіну* С. 81, *па долу* П. 75, *у грому* П. 75, *у проміну* П. 76, *у дыму* П. 12, *у месцу* Дз. 8, 9, *на пляцу* Дз. 8, 21, *у куфэрку* Дз. 8, 22, *у руху* Дз. 8, 15, *аб здароўю* С. 153, *аб прыезду* Дз. 8, 15, *на крэслу* Дз. 8, 22, *пры сталу* Дз. 8, 22.

Пасьля прыназоўнікаў „у“ і „на“, поплеч з гэтым, бываюць і канчаткі—„ы—і“ або—„е“ (не пад націскам—„я“): *на парозі* З. 16, *у плузя* Дз. 6, 2, *на* гэтым *тыдні* Дз. 6, 7, *на небя* Дз. 6, 2, *у небя* Дз. 6, 3, *на цьвінтары* З. 20, *на мейсцы* В. 13, 7, *у кабаце* З. 1, *у туманя* Дз. 8, 14, *у горадзі* Дз. 8, 12, *у канцы* З. 81, *на дажджы* Дз. 8, 30, *на дварэ* З. 2.

9) *Творны* склон адз. л. ад слова „дзіця“ маем *дзіцём* С. 71.

10) У *давальным* склоне множн. л. муж. роду пад націскам знаходзім звычайна стары канчатак—„ом(ём)“, які часта прымаюць і іменьнікі жаночага і ніякага роду, напр., а) *сватом багачом* Дз. 8, 9, *гаспадаром* Дз. 8, 40, *майстром* П. 90; б) *вачом* С. 68, *бацьком*, С. 54, *к бацьком* Дз. 8, 22.

Сустракаецца і канчатак—„ам“: *бацькам* Дз. 8, 22, к *вазам* Дз. 8, 11, *па дамам*, хлопцы! С. 95, *дням* П. 90, *вякам* П. 98 (у рыфму з „нам“).

Формы на—„ам“ трэба лічыць не ўласьцівымі гаворцы Гартнага. Яны трапілі ў яго мову пад уплывам расійскай мовы. Асабліва выразныя расіізмы для мовы Гартнага пасьля прыназоўнікаў „па“ і „к“: *па шляхам* Дз. 8, 16, *к вазам* Дз. 8, 11, *па дамам*, хлопцы! С. 95, *па гаспадам* С. 136, *па вуліцам* Дз. 8, 25, *па сьцежкам* Дз. 6, 7.

Звычайна-ж пасьля прыназоўніка „па“ стаіць форма меснага склону множн. л., як і ў цяперашняй нормаванай літаратурнай мове, напр.: *па бакох* П. 89, па жытох З. 5, па лясох Дз. 8. 11 і тут-жа „па блядым шчакам“ З. 50 замест „па блядых шчаках“.

11) У *месным* склоне множн. л. таксама пад націскам знаходзім стары канчатак—„ох (ёх)“: а) у мужчынскім р.: *аб сватох* С. 75 і—*аб сватах* С. 71, *на дыванох* П. 37, *у куткох* П. 33, *аб краёх* П. 61, *аб сынох* Дз. 8, 9, *у гарадох* Дз. 8, 15, *у лістох* Дз. 8, 12, *у канцох* Дз. 8, 35, *па дварох* П. 44, *у кажухох* П. 89, *на днёх* (на дніох) З. 14, *па часох* З. 99, *у вуглох* З. 2, *у агнёх* Дз. 8, 41 і тут-жа—*на вазах* Дз. 8, 11.

У другіх родах: *у вачох* С. 77 і—*на плячах* С. 75, *пры дзьвярох* С. 80, *у вачох* П. 42, *у грудзёх* П. 36, 61, *на грудзёх* С. 120, *на сьцянох* З. 1, у дзьвух *мясцох* З. 1, *па жытох* З 5.

12) Іменьнікі жаноч. і ніяк р. множн. л. у *родным* склоне звычайна маюць форму асновы, напр.: *болек* С. 92, такіх *Зось* С. 94, *вуліц* П. 96, *ліп* Дз. 6, 3, *вярбін* Дз. 6, 3, *песянь* Дз. 6, 6, *падзей* З. 130, *грамад* З. 132, *сьцен* Дз. 8, 31, *бяроз* Дз. 6, 7, *гумьон* (гумён) Дз. 6, 7, *палосак* Дз. 6, 7, *сясьцёр* Дз. 6, 7, *з гор* Дз. 6, 7, *сіл* З. 5, *сьвят* С. 25, сотні *вёрст* Сц. 28, 30, *баб* Дз. 8, 12, *плётніц* Дз. 8, 12, *вакон* Дз. 8, 30, *зборышч* Дз. 8, 25, *песянь* Дз. 8, 25, *ялін, хвой* Дз. 8, 9, *варон, сарок* Дз. 8, 9, *дачушак* (сынкоў і дачушак) Дз. 8, 15, і нават—*з вусн* П. 48 (штучная форма для рыфмы, бо паміж „сн“ няма ўстаўнога галоснага), *нівак* С. 79, *міль* С. 80, *пташак* С. 81, *шышак* С. 82, *мошак* (мошак і камароў) С. 84, *сіл, дзяўчат* П. 19, *птушак* П. 31, *помст* П. 73, *бліскавіц* П. 75, рык *кароў, авечак* Дз. 8, 33, скрып *варот* Дз. 8, 33.

Радзей знаходзім формы на—„оў (ёў)“, не пад націскам—„аў (яў)“: *сілаў* П. 43, *словаў* П. 44, *патрэбаў* С. 93, *песьняў* П. 79, *бітваў* П. 96, *жылаў* П. 99, імяў З. 131, *да сушоў* С. 81 і—*вушэй* С. 22, *зайздрасьцяў* З. 11, *з мейсцаў* Дз. 8, 14, сорак *вярстоў* Дз. 8, 9, Т. 42, Дз. 8, 15, *падводаў* Дз. 8, 11, *вочаў—ночаў* (у рыфму) П. 36, *палёў* С. 85, *машынаў* П. 22, *нябёсаў* П. 19, *куляў* П. 73, *мукаў* З. 114, але—*з зуб* (ня вымаючы люлькі *з зуб*) З. 2.

Ад *коні, грошы, людзі, дзьверы* і падобных маем наступныя формы: *коняў* Дз. 8, 30, С. 1, 113, *канёў* Дз. 6, 7, *на канёў* Дз. 8, 11, шмат *грошы* З. 11 не шануе *грошы* С. 150, *грошаў* С. 86, *дзьвярэй* Дз. 8, 11, С. 21, *людзёў* П. 85, *грудзёў* П. 57, *днёў* П. 95, С. 80, Дз. 8, 11, *дніоў* З. 32, *дзён* Дз. 8, 11, *вачэй* Дз. 6, 4, С. 22, *вушэй* С. 22, *да вушоў* С. 81, *вочаў—ночаў* (у рыфму) П. 36, а таксама—*ценяў* П. 86, пяць *сажняў* С. 85, *гонаў* з чацьвёра Дз. 6, 3, С. 120, 87, як дваццаць *гадоў* С. 76.

13) Іменьнікі мужч. р. множн. л. у *родным* склоне маюць формы на—„оў“, але—*дажджэй* П. 32 (мабыць расіізм), *з зуб* (ня вымаючы люлькі *з зуб*) З. 2.

14) Цікава, што дзеяназоўнікі множн. л. у *родным* склоне маюць форму асновы: *чакань* С. 99, *жадань* С. 99, *прыстань* Дз. 6, 2, *убрань* Дз, 6, 2, *патрабавань* Дз. 8, 40, *жадань* Дз. 8, 12, *пахацень* Дз. 8, 26, *пытань* С. 15, *хацень* П. 50 і вельмі рэдка *хаценьняў* С. 99. Гэтыя формы правільна адбіваюць асаблівасьць некаторых Слуцкіх гаворак.

15) Гэтак сама іменьнікі тыпу „селянін“ у родным склоне множн. л. заўсёды ставяцца ў форме чыстае асновы: *мяшчан* Дз. 8, 15, 25, *капылян* Дз. 8, 29, *сілчан* С. 112 і г. далей.

16) Зварачаюць увагу некаторыя формы *творнага* склону адзін. і множн. л., напрыклад, а) *цемняю* П. 35, *пасьцеляй* Дз. 6, 6, *злосьцю* З. 31, *зацем'ю* П. 61, *крывьой* (крывёй) Дз. 6, 7.; б) *вачамі* С. 55, 81, З. 80, 82, *вушамі* С. 82, *дзьвярмі* П. 72, Дз. 8, 41, *грудзьмі* П. 36, *з дзяцьмі* З. 52, *каменьмі* З. 80, *дзьвярыма* Дз. 8, 31, *грашыма* С. 86, *вачыма* Дз. 8, 11.

17) Форму „два пытаньня“ З. 112 (з „я“ на канцы ў слове „пытаньня“) трэба лічыць расіізмам, бо ў мове Гартнага пасьля „два“ звычайна стаіць форма цяперашняга множн. л.: два *рублі* З. 56, два *крэслы* Сц. 43.

18) Слова „брат“ часта ставіцца ў памяншальна-ласкальнай форме: *братко* Дз. 8, 40 і ў другіх творах (з націскам на „о“).

19) З іменьнікаў, так ці іначай цікавых, пакажам наступныя: *квадранец* (у значэньні—*хвіліна:* колькі тае ночы цяпер—*квадранец* З. 11; пераспытыя *квадранцы* С. 71, прытуліў да сябе *на квадранец* С. 19) *мэт*, З. 19 (Што-ж ён вельмі гэтакі за мэт? У Насовіча маем слова: *мэтр, мэтроўка*), *промін* месяцу З. 17, *хроп* З. 17 (рас.: *храп*), *донька* мая З. 50, *шайнакатрынку* (завяла *шайнакатрынку* З. 6, рас.: *шарманку*), *муля* Дз. 8, 9, *мулі* (скінуць хварбу беларускай *мулі* З. 109), *плюшнік* (аер) С. 21, *руж* Т. 238 (харошы выгляд, *руж* на шчоках ухарошвалі хлопчыка Т. 238), *рамухоўку* (надзелі на яго фігуру шынэль, ворак і патронную *рамухоўку*. Т. 196), *саўлук* (увесь тыдзень працягаўся, як *саўлук*, нудны і маркотны С. 25), *рамізьнікаў* С. 32 (рас.: извозчиков), *сьпеўчыя* С. 31 (прыметнік з значэньнем іменьніка; рас.: *певчие*), *палітон* С. 39, *гаманы* (гутаркі) С. 25, *асца* Дз. 8, 9, *махавік* (маятнік), Дз. 8, 12, *паралесік* Дз. 8, 9, бацькаўскі *пацяхун* З. 1, *шоргат* Дз. 8, 33, *козлыт* Дз. 8, 12, *горс* С. 48, *мітраволю* Дз. 8. 33, *міраволям* Дз, 8. 33, (сернаю кіслатою?), *вярэя* Дз. 8, 31, *прыпоны* П. 68, *горнасьць* Дз. 8. 31, *нямко* (нямы) Дз. 8, 14, *гарт* П. 92, народ-*гарацешац* З 112, *салоха* С. 110, *нудзьга* П. 42, *вейкі* вачэй С. 6, *тувальлю* С. 1.2 (абразы завешаны *тувальлю* С. 76), *котлішча* Дз. 8, 22 і С Сц. Т., *рыж* С. 134 (выгнаў на твар яго лёгкі *рыж* С. 134), *пітнік* С. 100, *прамя* С. 140, *віціну* (галіну) С. 85, *трапкачом* (ручнікам?) С. 76, *госпад* С. 45, *горс* (на грудзях, праз шыю, вымулёўваўся шырокі *горс*, выстаўляючы к сонцу маладое, здаровае цела. С. 48), *капеж* С. 68, *ралкі* (галінкі) Дз. 8, 30 і ў іншых творах, *лунь* С. 69, (ужо займаюцца досьвіткі, бялее ўсход,

на паплавох і ў полі паднімаецца *лунь*. С. 69), *прогліца* Дз 8, 14, *жмакі* (жмуты) Дз. 8, 25, *кабэрцік* (канвэрцік) Дз. 6, 7, *мыцяльнік* Дз. 8, 40 і скрозь ува ўсіх творах (рас.: *умывальник?*), *ачэмера* Дз. 8, 40, *цураха* Дз. 8, 40, *байбізаў* З. 3, *зэдлік* З. 50, на *услоні* З. 50, *жыжа* (агонь) З. 52, *цалізну* З. 13, *Ёсіп* (Язэп) З. 19, *пранозаватасьць* (другім памагая і іх *пранозаватасьць*, навык. З. 11), *гарункі* С. 15, *ягамосьцю* З. 57 (кліч. форма), *макаціорт* (цёрла?) З. 3, *ежай* Т. 21, *менітка* (іменітка?) Т. 24, *восьці* сьвятла Дз. 8, 14, *прашпарт* (пашпарт) Дз. 8, 15, *выйсьце* Т. 217, *выйсьцю* Т. 196, *цямлівасьцю* сажы П. 61, горнасьць Т. 197, *водыр* (Парнае паветра... наганяла снатворны *водыр*. Т. 210), *стрыфлях* Т. 210, *прымха* Т. 211, *салоха, нягэгляц* С. 110 (хлопец толькі пацешыцца ды палюбавацца... адзет, як паніч, а тая—*салоха, нягэгляц*. С. 110), *надазолы*, Дз. 8, 40, *цямняж* П. 65, *вобчаствам* Т. 253, *апаскі* С. 86, *Багатнік* (асеньняе сьвята) Сц. 321, *позвы* Сц. 299), *дзядзіна* (братняя жонка) Сц. 299, на *радзіму* Сц. 296, *мужнасьці* Сц. 293, *няхлюгі* Сц. 290 (дастанецца ад гэтага *няхлюгі*. Сц. 290, *моралы* Сц. 289, *хэньця* П. 17, *цюцюпана*, *смалянкі* (кветкі) С. 81, *мэшты* (Белыя *мэшты* і цельнага колеру панчохі. Сц. 89), *пастэрка* (жаночая адзежына) Сц. 89, *убёры* Сц. 89, *струц* (адна аднэю, як *струц*, у хаце сяджу Сц. 267), зьбіў яго з *панталыку* Сц. 261, *пекнача* Сц. 259, *асадку* Т. 33, *ворачак* Т. 38, *ворак* Т. 40, *пярэсьцікі* Сц. 73, *каструбатасьць* Сц. 221, *важданіну* Сц. 127, *пастаўнік* (не загароджаны *пастаўнік* Сц. 107), сьвежым *ружам* (румянцам) Сц. 51, *недавярак* Сц. 38, *нэндза* Сц. 3, няма *хэнці* Сц. 12, *рымст* Т. 94, *трапунак* (выпадак) С. 25, *хэўра* С. 25 (нядобрая кампанія), *плойму* запытаньняў С. 47, *хвальбон* С. 48 (форма родн. склону множн. л. жаноч. р.), *наўда* (дзіва. навіна. Што за *наўда?* С. 72) [1]), *лахудра* С. 124, дамо *патолю* С. 126, *спрунжынах* Т. 175.

Калі такія словы, як *недавярак, хэньць, нэндза, ягомасьць*—палёнізмы, узяты пісьменьнікам беспасрэдна з свайго роднага дыялекту, то ніжэй паказаныя *расіізмы* запазычаны ім самым з расійскай мовы, прычым без канечнай патрэбы. Пры больш уважлівых адносінах да свайго стылю ад іх лёгка-б можна было ўхіліцца, напрыклад: *няўдобствы* (рас.: неудобства) Т. 225, *ляпёшак* Т. 235, *разувер'е* Т. 243, *грудзь* П. 8, *зьменьнік* (рас.: изменник, белр.: здраднік або зраднік) Сц. 183, *пачот* (белр.: пашана) Сц. 168, *подвіг* Сц. 146, *баўтунам* (рас.: балтунам, нават з расійскаю морфолёгічнаю формаю—*ам* замест белр. канчатка—*ом*) П. 77, *узьнік* П. 70, *ахвотнікамі* (замест белр. *паляўнічымі* або *стральцамі*) Т. 253, *расьніцах* (пры белр. *вейках* С. 6) П. 43, *урагоў* П. 79, пры *варагоў* П. 80, *усяленнай* (рас. вселенной) П. 95, *пабядзіцель* (рас. победитель) П. 95, *палач* (белр. *кат*) П. 87, *трэльлю* П. 93

[1]) У проф. Бузука няправільна тлумачыцца слова „наўда", як *карысьць* (бач той-жа артыкул, стр. 134).

*дзьвер* (белр.: *дзьверы*, як і *грудзі* з ўсёды множнага ліку) П. 90, *палачоў* П. 96, *варужжам* (рас.: оружием, белр. зброяй) П. 97, *вуст* (белр.: вуснаў) П. 100, *візаг* куль (рас.: визг) П. 84, *зьвіток* (белр.: скрутак) П. 71, *зьвітках* П. 93, *барбою* П. 71, *пашчады* П. 72, *труд* П. 19, *лучы* (белр. прамяні, праменьні) П. 29, *точцы* С. 75, *лічка* С. 58, *выстрал* З. 80, *варужжа* (белр.: зброя) З. 110, *рашчоты* С. 28, але апошняе слова знаходзім і ў Якуба Коласа („Сьцісла, з *рашчотам*, жыў Янка Жыгала; зайшло яно і ў народныя гаворкі), *стаўнямі* (белр.: аконіцамі) С. 68, *угашчэньня* (белр.: пачастунак) З. 37, *палову* (палавіну) Т. 137, *непадлегласьцьь* (незалежнасьць) С. 27, *кандалы* (белр.: кайданы) Сц. 171, *труд* прадаю П. 12, за *труд* П. 18.

Тут пакажам і некаторыя *новатворы*—іменьнікі, якія знаходзім пераважна ў мове Гартнага, напрыклад: *даўбачэньня* (рас.: досвидания) Т. 244, *морг* векамі С. 68, *адрахунку* (рас.: отчета) Т. 207, *малярнасьць* (рас : художественность) З. 126, *рожнамульнасьцю* хварбаў (рас.: разнообразием красок) З. 126, *з недасьцерпам* П. 52 (рас. с нетерпением), *пасягаўцам* Дз. 8,22, *наведы* (рас.: свидания, белр.: досьвідкі) С. 297, *абдымы* (рас.: обьятия) Сц. 261, *вокагляду* (рас.: кругозору) С. 96, *гаспадарства* (замест „гаспадаркі“) С. 30, *спадзевы* (рас.: надежды, ожидания) Сц. 305, *пад надавам* (рас.: под давлением) Дз. 8,31, *узбудоў* (рас.: строение) П. 70, гімнастычныя *махі* (рас.: гимнастическия движения) Сц. 72, *суцеха* Сц. 61, выпадковую *стрэчніцу* (рас.: случайную встрэчную) Сц. 57, *раздумам* (рас.: размышлением) Сц. 68, *да спынкі* (рас.: до остановки) Сц. 66, *самахвоць* Сц. 54, *здавольства* (рас.: удовлетворение) Сц. 54, *вадакрут* (рас : водоворот, белр.: вір) Сц. 119, споўню *аброк* (рас. исполню обет) П. 57, *нізрынуцца* (рас. свержения) Сц. 109, *мінучасьць* (рас.: прошлое) Сц. 29, даў *даўбачэньне* (рас.: сказал досвидание) Т. 244, *злука* (рас.: соединение) Сц. 311, *неакрэсьленнасьцю* (палёнізм, белр.: неазначаннасьцю) Сц. 292, *лічыльнікі* (рас.: щеты) Сц 80, *рахавальнікі* (рас.: счетоводы) Сц. 80, колектыўным *адзнаньнем* (рас.: коллективным сознанием) Сц. 257, няма *стрыму* Т. 39 спакойны *вымаў* Сц. 251, *ступу* ног Сц. 74, *выяве* Сц. 223, трамвайну *спынку* (рас.: трамвайную остановку) Сц. 218, *ня ўмочу* (рас.: невмоготу) П. 81, *здром* (рас.: дремота) Сц. 185, *адзнаньне* (рас.: сознание) Сц. 146, *узрокам* (рас.: взглядом) Сц. 127, *абдым* (белр.: абоймы) Сц. 116, *правіловасьць* (замест правільнасьць), *хуткагутаркаю* (рас.: скороговоркою) З. 56, *кровасмокам* З. 36, *сярадковай цягучасьці* (рас.: центробежной сілы) З. 116 і іншыя.

Цікава, што слова *душа* Ц. Гартнага скрозь замяняе словам *нутро*, і калі часам сустракаецца слова *душа* С. 4, то трэба глядзець на гэта, як на аўтарскі недагляд

20) Сярод *назоўнікаў лічэбных* зварачаюць увагу наступныя формы: *чатэры* З. 1, *трэйці* З. 17, *адзіннанцаць* Дз. 8, 9, *пятнанцаць* З. 27 (заўсёды ў творах, што не падлягалі пабочнай рэдакцыі), *чацьвёра* С. 80,

*дзесяцёра* С. 149 (з націскам на перадапошнім складзе), *абудва* Дз. 8,9, Дз. 6, 4, *абадва* С. 74, *двума, трайма* С. 61, *трыма* Дз. 8, 16, З. 6, *абоімі* Дз. 6, 4 *абедьвіма* З. 3, 31 *абедзьвіямі* рукамі Дз. 6,5, *абедзьвюма* рукамі С. 88, *з абайма* С. 67, *па двох* С. 142, *абаіх* Дз. 8, 11, *утраіх* Дз. 8, 30, З. 2, Дз. 8, 33, *абедзьвіх* Дз. 8, 26 *абудвых* Дз. 8, 12, *чацьвярых* Дз. 8,12, *у дзьвух* З. 2, *у двух* вуглах З. 2, *у абодвых* Дз. 831, *у шэсьцярох* С. 95, *абедзьвух* С. 109, *саракма* пакутамі Сц. 257.

*(Канец будзе).*

# ЗАРЫСОЎКІ Ў ПАДАРОЖЫ[1])

М. Полін

## 2. Бэрлін № 1

Кожны горад мае сваё ўласнае аблічча і свае ўласьцівыя рысы. Кажуць, што Бэрлін—стотвары з адменнымі рысамі. Магчыма. Мабыць для таго, каб схапіць усе рысы гэтага шматтварага Януса, трэба радзіцца і пражыць жыцьцё ў гэтым асфальта-жалеза-бэтонным віры. Мо' для гэтага трэ' быць добрым нямецкім грамадзянінам, які гадзінамі сядзіць за квартай піва ды ўважліва слухае рэзкую музыку электрычнай піянолы. Усё можа быць. Але звычайна вы заўважаеце толькі два твары: яны б'юць струменем з усёй гэтай шматграннасьці. Два відочна процілеглыя ва ўсіх адносінах твары. На іх напластаваўся гістарычны асадак. На іх абодвых сьляды вялікага змаганьня... Адзін з іх чысты, убраны, зьзяе мільёнамі агнёў, урачыста асфальтаваны, шумны, здаволены ды п'янавясёлы, чадна-разбэшчаны, прыгожа зашпілены Бэрлін.

Гэта Бэрлін Вэстэна ды іншых буржуазных раёнаў. Гэта Бэрлін № 1.

У ім душыць аднастайны пяціпаверхавы масыў дамоў, заваяваўшы права г амадзтва яшчэ ў эпоху Гогенцолернаў. Гэта традыцыя пяціпаверхаваcьці асталася і да гэтай пары. Новае будаўніцтва сьлепа цягнецца за старой архітэктурай. Ва ўсім горадзе вы ўбачыце толькі рэдкія адзінкі, непадпарадкаваныя гэтай традыцыі. Адзінока, панура паднялі галовы гэтыя непакорныя над асобнымі кварталамі і вінавата азіраюцца па баках, бы просячы ў сваіх каменных суседзяў прабачэньня за парушаную гармонію ды спакойную сымэтрыю.

Шумныя напружна ліхаманкавыя вуліцы ўсё дэманструюць амэрыканізаваны тэмп жыцьця буржуазнага Бэрліну. Часамі тэмп гэты ірвецца спакойнымі, ганарлівымі сваімі сувязямі з мінулымі сквэрамі, пляцамі, набережнымі. Рэспубліканская Нямеччына, відаць, вельмі паважае сваіх былых продкаў цароў. Паважае сваіх курфюрстаў, каралёў, імпэратараў.

Як можна абыйсьціся бяз усіх гэтых Фрыдрых-Вільгельм-Кёніг-штрасэ? Як адмовіцца ад знаёмых кожнаму бэрлінцу Курфюрстэн-Кайзэр-Гогенцолерн-даммаў? Як выкрэсьліць з памяці патрыётычна настроенага бюргера, усе гэтыя Подстамэр-Вікторыя-Люізэн-Аўгуста пляцы?

---

[1]) Гл. „Полымя" № 2.

Любіць ды паважае старое пачцівы нямецкі буржуа. Усе гэтыя дàммы і пляцы, сам фэльдмаршал і прэзыдэнт Гіндэнбург, Бісмарк перад будынкам парляманту, вырашэньне пытаньня аб маемасьці князёў, дэмонстрацыя быўшых матросаў 4 жніўня пры ўдзеле Гіндэнбурга ды пад лёзунгам: „за ахову бацькаўшчыны, непераможны флёт і назад коленіі", броняносец „А", усё гэта мае цесную сувязь паміж сабою, усё гэта зьяўляецца выражэньнем аднэй соцыяльна-экономічнай сутнасьці, усё гэта гаворыць за ўтварэньне „праўнага" парадку, які ніякімі навінамі розбурацъ нельга. „Дэмократычны" лад новай Нямеччыны дае прытулак і монархістым і нацыяналістым. Ды ня толькі прытулак. Яны ахоўваюцца аднолькава з усімі грамадзянамі рэспубліканскімі законамі. Часамі нават на шкоду для рэспубліканцаў. Змахвацца-ж на свабоду грамадзянскай думкі ў „дэмократычнай" дзяржаве нельга. А з тае прычыны, што частка грамадзкай думкі за старыя эмблемы, сымболі, лёзунгі ды назвы, дык хто-ж можа пры існаваньні ў краіне „рэспубліканскай" законнасьці замахвацца на добрыя, старыя традыцыі? Каму-ж яны перашкаджаюць? Хай сабе цешацца аматары старога.

Бэрлін багата ўбраны. У ім падазрона ды пагардна паглядаюць на чалавека, які зьявіўся ў вір дзелавога жыцьця ў танным капялюшы ды старым паліце. Тут па гарнітуры сустракаюць і па гарнітуры праводзяць, хоць сабе і поўная кішэня грошай. Тут пануе сіла рэйхсмаркі.

Тут рэстораны ды кафэ. Шыкоўныя жанчыны ўсіх катэгорый ды ўзростаў. Заводзкія прадстаўнікі нямецкай буржуазіі. Марнатраўцы жыцьця. Кокоткі ды альфонсы. Моноклі. Дарагія лімузіны ды таксі на прокат. Золата ды брыліянты. Ноччу бліскучыя агні, адлюстраваныя ў асфальце. Заўсёдны шолах шын. Вясёлы бясьпечны сьмех, ажыўленая гутарка. Душныя пахі дарагой парфумы.

Над усім гэтым пануе фокстрот. Ён уеўся ў організм гораду. Яго дзейнасьць—гэта дзейнасьць цынктуры, без якой ня можа абысьціся хворы організм. Гэта idèe fixe сучаснай буржуазнай гр мадзкасьці. Без яго ніяк не абысьціся. Усюды, дзе толькі магчыма—усюды фокстротуюць: і малы, і стары. У ім таксама адбіваецца характар буржуазнай сталіцы. Ён таксама адказвае на ўсе патрабаваньні рацыяналізацыі. Для выкананьня яго не патрабуецца спэцыяльнага памяшканьня. У рэсторане, бары ды кафэ—усюды ён усунецца, нікому не перашкаджае. Фокстрот сам па сабе. Яму абы трошкі прасторы паміж столікамі. Толькі некалькі крокаў. Ён танец разумны, рахубны Ведае, што ня можна траціць шмат энэргіі ў імпэтным і доўгім вярчэньні. Нельга займаць шмат месца—кожны квадратны мэтр абкладаецца даволі вялікім падаткам. Адпаведна з гэтым і характар танца. Больш тупаньня на месцы. Часамі можна і на стале.

Перахітрыў прасторавыя магчымасьці, а настрой ды тэмп захаваў. Пасядзеў, пасядзеў чалавек за квартай піва, кавы або чаго іншага—

устаў, зрабіў некалькі аднастайных рухаў, зноў сеў ды спакойна гутарыць далей. Галоўнае—зручна. Ня зморвае і нэрвы ласкоча...

Гэты фокструючы Бэрлін—вялікі прыхільнік прыгожага цела. У ім пануе культ цела. Пераважна голага. Попыт вялікі. Багатая прапанова ня можа здаволіць усіх жадаючых далучыцца да новай рэлігіі заняпаднай буржуазіі. Спэцыяльная літаратура. Спэцыяльная соцыолёгія. Спэцыяльныя курсы, добра выбраная рэкляма. Ды, урэшце, сучасныя храмы гэтага культу—начныя кабарэ, вар'етэ, рэвю, спэцыяльныя піўныя ды вінныя аддзяленьні. У кожнай з гэтых устаноў пераважвае свой толькі ёй аднэй уласьцівы жанр. Порнографія ды эротыка. Трапляюцца і сур'ёзныя вучоныя, якія стараюцца апраўдаць гэта захапленьне культам голага цела. Так, напрыклад, проф. Іхгэйзэр у часопісу „Псыхолёгія народаў і соцыолёгія" у артыкуле „Аб грамадзкім значэньні хараства цела індывідууму" даводзіць вялікае значэньне знадворнага хараства культываванага цела ў мэтах дасягненьня ўсякіх чалавечых імкненьняў сучаснага грамадзтва. Адным словам, грамадзкі посьпех розных адмен аж да „ўдачнага" шлюбу залежыць ад хараства цела. Паводле думкі названага профэсара, усім, хто зьбіраецца мець посьпех у сучасным грамадзкім змаганьні, трэба заняцца культам цела. Асабліва-ж гэта датычыць жанчын. Грамадзтвам яна ня зусім яшчэ прызнана; яна покі што толькі пракладае сабе дарогу да верхавін жыцьця; посьпеху звычайнымі сродкамі дабіцца цяжка. Таму профэсар раіць ёй звычайную нікчэмнасьць: заняцца культурай цела ды дабівацца посьпеху сваім выглядам. Ня менш адпавядае гэтаму культу і знадворная культура буржуазнага Бэрліну. Добра ўпарадкаваныя скверы з платнымі крэсламі для адпачынку на іх. Мэханізацыя рэгуляваньня вулічнага руху. Выразістыя ды аднастайныя, накшталт жывых лялек, рухі шуцманаў, што рэгулююць рух. Шырокія тротуары ды вуліцы. Спакойныя, чыста падмеценыя ды абсаджаныя зялёнай травою двары. Акуратна падстрыжаная, заусёды сьвежая зелень на скверах. Зручнае перасуваньне. Практычныя надпісы на брамах, куды ня ўпушчаюць сабак-анучнікаў ды жабракоў.—Нямецкі буржуа ня прывык, каб яго супакой трывожылі ўсякія там нежаданыя элемэнты. Традыцыйны надпіс Nur füs Herschaften (для паноў) на парадных дзьвярах. Чыстыя ахайныя грамадзкія ўборныя з такімі-ж акуратнымі надпісамі на сьцянах. Адзін з такіх надпісаў скрозь папераджае: „упарадкуйце ваш гарнітур, перш чым выйсьці на вуліцу"...

Тут-жа, у гэтых раёнах, галоўным чынам, у тым-жа Вэстэне згрупаваны рэзыдэнцыі белаэмігрантаў. Дзе і ў якасьці каго вы толькі ня сустрэнеце белаэмігранта! Ён і шофэр, ён кэльнер, ён проста чалавек на вуліцы, так, на кожны выпадак. Гэта ён з ёю сядзяць цэлымі вечарамі ды начамі дзе-небудзь у дрэнным бары і кафэ. Толькі больш шчасьлівыя з іх—у каго ёсьць яшчэ старыя грошы, або хто назьбіраў іх цяпер, усякімі штукамі—марнуюць жыцьцё ў эміграцкіх рэсторанах „Тоска", „Мядзьведзь", „Рушо" ды „Нева-Грыль".

У гнілаватае дно Бэрліну багаты эмігрант укладае ня мала свайго жыцьця, ён вельмі верны і сталы яго кліент. Тут ён адводзіць душу. Тут знаходзіць „ён абражанаму пачуцьцю куточак“.

Гэта „чысты“ твар сталіцы, пакрыты элеганцкай маскай „чыстай“ дэмократыі. Тут вельмі выгадная глеба для выросьліваньня ўсякіх ілюзій, якія адгэтуль пераходзяць у другія раёны, дзе спакваля рыхтуюцца падзеі іншага зьместу.

## 3. Крывыя міны „чыстай“ дэмократыі

Бэрлін дэмократычны... Так, так! „стопроцантная“ фармальная дэмократыя. Нямецкі бюргер шчыра шануе сваю конституцыю, якая ўстанавіла ўсе прыгожасьці буржуазна-дэмократычнага ладу. Ён (бюргер) проці замераў нацыяналістых ды нацыянал-соцыялістых. Ён усімі мерамі за дэмократыю. Ён чытае ўсе газэты дэмократычнага толку. Чытае спэцыяльную літаратуру. Апошняя-ж не пакідае ў супакоі абываталя. Усюды і скрозь на кожным кроку: і ўрад і органы мясцовага самакіраваньня дэмонструюць жыхарству яскравыя прыклады „дэмократыі“. Наогул як можна гаварыць аб адсутнасьці дэмократыі ў краіне, дзе вы зусім не адчуваеце ўлады. Гэта лейтмотыў тлумачэньня немцаў-абываталяў. Толькі „шуппо“ на вуліцы. Але-ж ён ахоўвае парадак мірных грамадзян. Ён анёл у адзеньні рэспубліканскім. Абываталь паважае свайго паліцэйскага—у ім ён бачыць рэальную ахову сваіх інтарэсаў, у ім ён прызнае эмблему заваяваньня свабоды. Якая справа бюргеру да таго, што гэты паважаны шуцман скарыстае сваю дубінку, калі некаторыя „неспакойныя“ элемэнты гораду наступаюць на мазоль „дэмократычнай“ гіндэнбургіі? Яго ня цікавіць і тое, што гэты-ж шуцман асабліва рыхтуецца ды моцна ўзбройваецца ў дні дэмонстрацыі рабочых. Абываталь не заўважае чуць прыкрытую нарыхтаванасьць шуцманаў кінуцца па першаму патрабаваньню паноў міністраў ды прэзыдэнта на покі яшчэ спакойна протэстуючыя колёны чырвоных фронтавікоў.

Бэрлін фарсіць сваёй дэмократычнасьцю. Усё законнае дазволена грамадзянам усіх рангаў ды станаў. Нікому няма справы да вашых палітычных перакананьняў. Нават дазваляецца змаганьне сьцягаў,—змаганьне буржуазна-рэспубліканскага з монархічным. У гэтым змаганьні бэрлінскі біскуп нават перамог. Ён таксама грамадзянін „дэмократычнай“, але толькі яго сымпатыі больш схілены на бок былой дынастыі, і таму ён вывесіў на будынку свае рэзыдэнцыі монархічны сьцяг.

Таму гарадзкое самакіраўніцтва Бэрліну распачало крымінальную справу проці пана пропста ды хацела яго прымусіць у дзень конституцыі, г. зн. 11 жніўня, вывесіць рэспубліканскі сьцяг. Аднак чым далей разьвіваўся процэс, тым больш у далёкія нетры забіраліся судзьдзі ды ўдзельнікі процэсу. Урэшце зусім заблыталіся. Адвокат пропста, спасылаючыся на гістарычныя крыніцы разьвіцьця ўзаемаадносін паміж гора-

дам і яго духавенствам, даводзіў маемасную недатычнасьць уладаньняў пропста. Гістарычныя спраўкі пры гэтым даходзілі аж да 1319 году. Выступаўшы па справе прокурор, відаць, зьдзіўлены „пераканальнымі" довадамі, даводзіў суду, што пры наяўнасьці свабоды ў краіне духоўнай асобе нельга навязаць чорна-чырвона-залаты сьцяг (колер рэспубліканскага сьцягу), бо такім чынам можна было-б навязаць яму таксама патрабаваньне вывешваць рэклямы, усякага роду шыльды ды інш., што ніяк не пасуе з годнасьцю культу.

Пасьля такіх таксама „пераканальных" довадаў суду нічога не асталося, як яшчэ раз адлажыць справу. Такім парадкам бэрлінскі біскуп перамог нямецкую рэспубліку, бо 11 жніўня пытаньне яшчэ ня было вырашана, і ў гэты ўрачысты дзень нямецкай „дэмократыі" монархічны сьцяг набыў права грамадзянства на аснове пастановы суду.

Як бачыце, пры „чыстай" дэмократыі вельмі лёгка на законнай падставе, так сказаць, жывуць і элемэнты сярэднявякоўя. З аднаго боку, свабода сумленьня, з другога—свабода для старых прывілей.

Уласна кажучы, суд, што ўваскрасіў у сваёй практыцы кавалачак сярэднявякоўя, зрабіў зусім лёгічна, паверыўшы легендзе аб свабодзе сумленьня. Нельга крыўдзіць прадстаўнікоў культу, бо конституцыяй прадугледжана іх усямерная абарона. Артыкул 135 пасьляваеннай нямецкай конституцыі прадугледжвае поўную свабоду веры ды сумленьня, прычым бесьперашкоднае выкананьне культу ахоўваецца дзяржавай. Хоць дзяржаўнай царквы ня існуе, аднак выкладаньне рэлігіі ўваходзіць у програму школ, за выключэньнем школ „внеисповедных" (цывільных).

Пры гэтым выкладаньне рэлігіі ды выкананьне абрадаў залежыць ад волі настаўнікаў ды асоб, ад якіх залежыць вырашэньне пытаньня аб рэлігійным выхаваньні дзяцей. Акрамя таго, у вышэйшых навучальных установах захоўваюцца тэолёгічныя (багаслоўскія) факультэты. Пры такіх комбінацыях, зразумела, пану пропсту няма чаго баяцца неспагаднага для яго прысуду.

Змаганьне сьцягаў наогул цяпер зьяўляецца політычнай надзеннасьцю. У гэтым змаганьні адбіваецца прынцып свабоды думкі. На гэты конт напісана досыць трактатаў, досыць адбылося паседжаньняў розных гістарычных таварыстваў. І калі-б не зацятае ды грознае наступленьне з пролетарскіх раёнаў чырвоных сьцягоў, то можна-б было падумаць, што пытаньне аб жыцьці ды сьмерці сучаснай Нямеччыны залежыць ад мірнага паядынку сьцягаў чырвона-бела-жоўтага ды чорна-бела-чырвонага (стары нацыянальны сьцяг).

У тым, што нямецкі суд даволі дэмократычны, можа пераканаць паданы прыклад.

Вось яшчэ некалькі ня менш пераканальных рыс.

Разглядаюцца кватэрныя справы. Судзьдзя ды два засядацелі. Адзін ад кватарантаў, другі—ад домаўласьнікаў. Справы вырашаюцца шпарка,

бяз жадных затрымак. Вырашаюць пытаньні судзьдзя ды засядацель ад домаўласьнікаў. Але форма захавана. „Захавана роўнасьць“ бакоў.

Вось вы ў крымінальным аддзеле. Да адказнасьці прыцягваецца адзін з чыноўнікаў паліцэй-прэзыдыуму за зьнявагу чатырох супрацоўнікаў „Ротэ Фанэ“ ў дзень вызваленьня Маркса Гельца. Ён зьневажаў ня толькі словамі, але і дзеяньнем, якое выразілася ў перавышэньні ўлады. Суд вельмі ўважлівы да пацярпеўшых прадстаўнікоў комуністычнай газэты. Пасьля падрабязнага разгляду справы—вельмі „дэмократычны“ прысуд: справу ў адносінах да паліцэйскага чыноўніка спыніць і прыцягнуць да адказнасьці супрацоўнікаў газэты за парушэньне грамадзкага супакою ды супраціўленьне прадстаўніку дзяржаўнай улады.

Гэты-ж суд прыцягнуў да адказнасьці аднаго рабочага, які супраціўляўся паліцыі ў час перадвыбарчага сходу, у сувязі з провокацыйным выступленьнем некалькіх членаў „сталёвага шлёму“, якія зьявіліся на сход з рэвольвэрамі ды гумовымі палкамі. У час судовага разгляду адзін сьведка рабочы заўважыў двух узброеных „штальгэльмаўцаў“, таксама сьведак з другога боку. Аб гэтым было заяўлена старшыні суду, але той адказаў, што гэта справы не датычыць і што, мабыць, яны маюць дазвол на нашэньне зброі. Нэконт гэтага была падана соц. дэм. міністру ўнутраных спраў—Зэвэрынгу спэцыяльная пэтыцыя, аднак ніякага адказу і пастановы на гэта пытаньне ня было.

Так рэспубліканскія інстанцыі ажыцьцяўляюць лёзунг роўнасьці ўсіх перад законам, які вельмі часта становіцца ўзаконеным узбраеньнем фашыстых.

Пры наяўнасьці такой гібкасьці „дэмократыі“ няма чаго дзівіцца, калі вы прачытаеце ў газэце аб тым, што настаўнік бэрлінскай народнай школы пабіў сямігадовага вучня кіем за тое, што той... забыўся дома сшытак (гл. „Die Weltam Abend“ № 169—1928 г.).

Выбух скандал. Грамадзкая думка запротэставала. Пасьведчаньне доктара аб сьвежых сінякох на целе хлопчыка зьявілася на старонках шмат якіх газэт. „Ліга па ахове правоў чалавека“ зьвярнулася да галоўнага школьнага інспэктара, патрабуючы прыцягнуць настаўніка да адказнасьці. Інспэктар-жа праз два месяцы паведаміў „Лігу“ аб тым, што ён не зьяўляецца непасрэдным начальнікам вінаватага і што гэту справу ён перадаў загадчыку школай, які забараніў настаўніку займацца выхаваўчай (добры выхаваўца!) працай на працягу шасьці месяцаў. Гэтым справа і скончылася. Як бачыць чытач, розгі ў школе законам у Нямеччыне яшчэ не скасаваны. Магчыма, што гэта асаблівы мэтод „дэмократычнага“ выхаваньня дзяцей школьнага веку. Толькі гэты мэтод нешта пахне сярэднявякоўем. Час-бы новаму парляманту прыняць закон, які-б зьнішчыў розгі ў школах і гэтым самым зьняў-бы з краіны вельмі і вельмі ганебную пляму сучаснай культуры капіталістычнага сьвету. Аднак такая героічная мера не па сіле парляманту.

Але пры наяўнасьці ўсіх гэтых заган „дэмократычнай“ сыстэмы існуюць дзіўныя адносіны да сабак. Нямецкі абываталь вельмі любіць сабак.

Багатыры маюць па некалькі сабак. Самы дзіўны догляд, вялікая клапатлівасьць. У выніку—сабакі акуратныя, чыстыя і сытыя. У кожнай кватэры канечна ёсьць сабака. Жыць без сабакі ўсё роўна, што ня мець грамафону, ня піць піва, ня чытаць газэты. Добра там жывецца сабакам Для іх нават адчыняюцца парадныя дзьверы, на якіх напісана „Nur für Herschaf en“.

Нечаканы пярэпалах. Зблыталіся ўсе карты. Аматараў хатніх жывёл напаткала вялікая бяда, блізкая да абурэньня.

Падумаць толькі: гарадзкое самакіраўніцтва, жадаючы выратавацца ад бяспрытульных жывёл, запрапанавала ўсім уласьнікам сабак выпушчаць іх на вуліцу толькі з наморднікам і на прывязі. Бюргерская грамадзкая думка запротэставала. Як можна! Дзе гэта можа быць, каб у дэмократычнай, свабоднай краіне жывую істоту пазбавіць волі! Не для таго-ж свабоды дабіваліся, каб дзяржаць у намордніках каханца свабодных грамадзян. Змаганьне цягнецца некалькі месяцаў. Гарадзкая дума ня вытрымала напору. Грэбля прарвалася і чатырохногія нявольнікі зноў на волі. „Гуманнасьць ды справядлівасьць“ перамаглі і на гэты раз.

Ня так даўно бэрлінскі паліцэй-прэзыдэнт забараніў збор усякіх ахвяраваньняў на карысьць бедных з мэтай дабрачыннасьці, калі збор гэты адбываецца на вуліцах ды ў публічных месцах, дзе заўсёды ёсьць шмат народу. Асабліва забаранялася гэта ў раёнах „Унтэр дэн Ліндэн, Фрыдрыхштрасэ ды Кюрфюрстэндам“, г. зн. у самых буржуазных раёнах. Забарона гэта мотывуецца тым, што зборшчыкі трымаюць сябе вельмі нахабна, чым абураюць і дадзяюць абывlталю, і, з другога, боку тым, што ўсё гэта стварае вельмі няпрыемнае ўражаньне на чужаземцаў. Мудраму паліцэй-прэзыдэнту (ён соц.-дэм.) усе буржуазныя газэты крычалі „браво“! Гонар „дэмократыі“ яшчэ раз выратаваўся, праўда, надта утрыраваным спосабам. Але гэта няважна. Абы сродкі дасяглі мэты.

Урэшце, нельга ня спыніцца на факце, які ўзрушыў, сёлета, ня толькі рабочых, але і ўсю дэмократычную ды лібэральную думку.

Гутарка ідзе аб фільме „Броняносец Пацёмкін“. Яго вайсковае міністэрства забараніла наведваць рэйхсвэру. Фільм выклікаў вялікую зацікаўленасьць. Ён ішоў на экране засаб некалькі тыдняў. Дэмонстраваўся ва ўсіх раёнах, не выключаючы і буржуазных. Глядач бурна рэагаваў. Аплёдысмэнты глушылі сыканьне ды сьвіст. Зацікавіўся пастаноўкаю і нямецкі жаўнэр. Але на другі-ж дзень ва ўсіх кіно, дзе ішоў „Пацёмкін“, усюды соўгаліся прадстаўнікі вайсковага ведамства ў вольнай вопратцы і ня пускалі рэйхсвэру. Праўда, дзе-ні-дзе ўласьнікі кіно ня лічыліся з гэтымі прадстаўнікамі і праганялі іх з тэрыторыі кіно. Аднак гэта не памагала: агенты ўзяліся выконваць свае абавязкі на вуліцы, перад уваходам у тэатр. Аднак, як ні галасіў друк, як ні абураліся дэмократы, пастанова скасавана ня была, бо міністэрства сваё распараджэньне засноўвала на конституцыі.

Тымчасам, як канстытуцыяй формальна забараняецца ўсякае абмежаваньне асабістых правоў, для вайсковых існуюць спэцыяльныя палажэньні. Канстытуцыя дазваляе (арт. 133, п. 2) асобныя абмежаваньні асноўных правоў для асоб, якія ўваходзяць у склад узброеных сіл, „дзеля выкананьня імі сваіх задач ды падтрыманьня дысцыпліны“.

Вынік гэтага канстытуцыйнага абмежаваньня: забарона чытаньня некаторых газэт у казармах, рэйхсвэр пазбаўлены права сходаў, ён выключаны з палітычнага жыцьця, ён пазбаўлены выбарчых правоў ды, урэшце, забарона на кіно. Таму вайсковае міністэрства і давала тлумачэньні, прыблізна, у наступных рысах: у моц таго, што яно мае права забараняць чытаць некаторыя газэты, яно забараніла таксама наведваньне кіно, бо некаторыя фільмы ў іх могуць больш пашкодзіць ідэі „абароны бацькаўшчыны“, як газэты. На провокацыйнае мерапрыемства пана Грэнэра трапна змаўчалі пан Герман Мільлер ды Зэвэярынг. Спалохаліся яны фільмы-бацылі... Гэта цалкам гармонуе са зьместам Бэрліну № 1.

## Бэрлін № 2

Але ёсьць і Бэрлін № 2. Бэрлін рабочых раёнаў ды чырвоных франтавікоў. У таго зусім інцы твар. Шэры, сухарлявы. На ім шмат шнараў, на лбе глыбокія зморшчы. Вочы гараць агнём нянавісьці. Рукі сьціснуты ў моцны кулак. На гарызонце ваколіц высока падымаюцца фабрычныя трубы; яны ў густой заслоне дыму.

Тут гразь ды беднасьць; заўсёды нэндза ды хваробы. Абадраныя ды паўгалодныя дзеткі. На вуліцах жабрацтва. Бяздомныя ды бяспрытульныя дзяды. Беспрацоўныя, якія ня маюць жадных сродкаў для існаваньня. Начуюць на сквэрах. Ёсьць брудныя рабочыя сталоўкі. Зьмяты капялюш. Рабочая кепка. Стары гарнітур у плямах. Бэрлін № 2 бядней на асфальт, агні, пляцы. Да яго шум Гросштадта даходзіць толькі здалёк. Тут больш самакаты ды пешаходы. Сюды рэдка калі загляне прадстаўнік Бэрліну № 1. У гэты бок паглядаюць, азіраючыся, з ахайнага Бэрліну. Пролетарскі Нордынг, Веддынг ды Найкельн адасобіліся ад цэнтру ды жывуць сваім уласным жыцьцём. Тут рана кладуцца спаць ды рана ўстаюць. Тут у інтэрнацыянальнае пролетарскае сьвята ўюцца чырвоныя сьцягі. Тут у дні дэмонстрацыі рабочых організацый, у дні пролетарскай солідарнасьці амаль з кожнага вакна рабочай кватэры ветліва ўсьміхаецца чырвоны сьцяжок. Тут, у гэтых цэнтрах організацыі волі рабочага на барацьбу куецца сьвядомасьць клясы, зацятасьць да свайго ворага.

Вось Германпляц з яго „Найе-Вэльт“, дзе кожны вечар зьбіраюцца рабочыя блізкіх раёнаў ды, аддыхаючы ад пакапіталістычнаму рацыяналізаванай фабрыкі, абгаворваюць палітыку дня. Сюды-ж прыходзяць і сем'і рабочых, устанаўляючы, такім чынам, сапраўды колектывістычную солідарнасьць. Тут-жа ў аднэй з вялікіх заляў „Найе-Вэльт“ адбываюцца

вялізарнейшыя сходы сапраўды рэволюцыйных організацый Бэрліну. У такія дні па Германпляцы ўзбуджана снуюць узброеныя паліцэйскія аўтомобілі.

А вось „Малая Александэрштрасэ“ з яе „Карл Лібкнэхт-Гаус“ („Дом Карла Лібкнэхта“). Тут друкарня „Ротэ Фанэ“. Тут таксама чырвоныя сьцягі, якія горда ўюцца над будынкам. Тут цэнтральнае выдавецтва нямецкай компартыі. У памяшканьні „Дому Карла Лібкнэхта“ выстаўка чырвоных франтавікоў проці вайны. Выстаўка адрозьніваецца ўдала падабранымі матэрыяламі. Лёзунг гэтай выстаўкі: „Вайна імпэрыялістычнай вайне“.

Уся выстаўка складаецца з пададдзелаў, пры ўваходзе ў якія б'юць у вочы надпісы: „Вайна і яе ахвяры“, „Царква і вайна“, „Хэмічная вайна“, „Мастацтва і вайна“, „Сэксуальнасьць і вайна“ ды г. д. Усе гэтыя аддзелы пакідаюць незапомнае ўражаньне, гавораць пераканальнай мовай проці новай вайны. Асабліва яскравае ўражаньне пакідаюць некалькі пластычных скульптур мастака Розэнбаума. З пачуцьцём агіды пазіраеце вы на маску Мусоліні, якая вывешана ў аддзеле, прысьвечаным фашыцкаму тэрору. Усюды падабраны ўдалы статыстычны матэрыял. Вы спыняецеся перад „дакумантамі вайны“. Думкі вашы плывуць да мінулага. Дакуманты выклікаюць крывавую здань. Яны кіруюць вашы думкі да таго часу, калі жыхарства атрымлівала некалькі грамаў маргарыну ў дзень, калі не галадалі толькі шыбэры ды спэкулянты. А вось вы перад карцінай разбуральнага дзеяньня газавай вайны. Досыць 15 самалётаў для таго, каб зьнішчыць усё жыцьцё гэтага шматмільённага гораду; побач пераканальная даведка: „Разьвіцьцё прамысловасьці ў бок вытворчасьці штучнага шоўку зьяўляецца паказьнікам ды меркаю ваеннай падрыхтоўкі капіталізму. Штучны шоўк можа ў самы кароткі тэрмін стаць небясьпечнай выбуховай матэрыяй“.

Бэрлін № 1 вельмі скрывіў твар, калі даведаўся пра гэта прадпрыемства № 2. Былі спробы нават спровокаваць. У газэтах (буржуазных і соц.-дэмокр.) паказвалася на тое, што гэта выстаўка інсьпіравана цёмнымі элемэнтамі, якія стараліся зьменшыць значэньне бацькаўшчыны перад заграніцай і г. д.

Але пролетарскі Бэрлін атаку вытрымаў. Ніякага паклёпу ён не пабаяўся. Выстаўка прайшла вельмі добра, з кожным днём яе наведвалі ўсё больш ды больш людзей. На рабочых сходах зазначалі вялізнае выхаваўчае значэньне яе. Перакінемся яшчэ далей у Нордзінг, у раён возера „Плэтцэнзээ“. Яно знаходзіцца блізка ад фабрыкі, на якой робіцца лінолеум. Яно нібы ўвабрала ў сябе ўсю атруту душнага паветра далёкай акраіны. Тут купальнае месца, месца адпачынку пролетарыяту. Вы ідзеце вузкай сьцежкай да купаньня. З двух бакоў разьмешчаны магілкі. Магіла на магіле. Ланцуг магіл. Весела наогул рабочаму, які ідзе адпачываць пасьля працы. Прывык, мабыць, тутэйшы рабочы праводзіць свой свабодны час сярод магілак ды фабрык. Толькі дзеці, якія

купаюцца ды дурэюць, сваімі галасамі адцягваюць вас ад сумных думак ды невясёлых малюнкаў. За 10 пфэнігаў за ўваход вы маеце права аставацца на тэрыторыі „пляжа“ колькі вам захочацца. „Пляж“ зусім неўпарадкаваны. Ня тое, што ў буржуазных раёнах. Распранаюцца і пакідаюць вопратку тут-жа на беразе. Кражы тут амаль няма. Тут сам па сабе існуе контроль ды солідарнасьць.

Калі вы хочаце бачыць зморанае цела, што рана пастарэла ад ціску ды жыцьцёвага змаганьня, жанчыны, рахітычных дзяцей, пабудзьце некалькі гадзін на гэтым вядомым пролетарскім „пляжы“. Тут вы ўбачыце вынік „дэмократычнага“ шчасьця. Аднак, на гэты „пляж“ маюць права ня ўсе пролетары. Шмат рабочых, праца якіх аплачваецца нізка, з сваімі сем'ямі знаходзяцца ў другім месцы ды зайздросна пазіраюць на больш шчасьлівых таварышоў.

Гарадзкое самакіраўніцтва Бэрліну не прадбачыла бюджэт рабочага, назначыўшы ўваходную плату з дарослага 10 пфэнігаў, а з дзіцяці 5 пфэнігаў. Вялікая сям'я, якая складаецца з некалькіх чалавек дарослых і дзяцей, ня мае магчымасьці карыстацца гэтым адзіным „домам адпачынку“. Ёй не пад сілу плаціць гораду некалькі дзесяткаў пфэнігаў. За вельмі невялікае задавальненьне прыходзіцца туліцца на могілках, каля „Плэтцэнзээ“. Групы дзяцей часта прабіваюцца праз бар'ер контролю за агарожу. Але гэта для маладых пролетараў звычайна канчаецца вельмі сумна. Пастаўленая для парадку гарадзкая варта ловіць адважных ды проста б'е.

* * *

Звычайна прынята думаць, што нямецкі рабочы жыве лепш ад рабочага СССР. Кажуць аб яго лепшай аплаце працы, аб лепшых кватэрных умовах і г. д. Гэта вялікая памылка. Тут проста няведаньне ўмоў, неразуменьне абставін.

Пачнем з кватэрных умоў. Праўда, кватэра нямецкага рабочага чыстая, у ёй адчуваецца парадак. Тут ёсьць якаясь спэцыфічная культура. Гэта культура адчуваецца ва ўсім. На вуліцы, у сталоўцы, у піўной, на фабрыцы. Культура працы, культура адпачынку, культура адносін. Усё гэта стваралася шматдзесяцігодзьдзямі і зьяўляецца неадымнай часткаю быту ды існаваньня нямецкага пролетарыяту. І поруч з гэтым цяжкія матэрыяльныя ўмовы прымушаюць яго туліцца ў адным-двух пакойчыках. Густасьць насяленьня ў рабочых кварталах Бэрліну распачлівая. Зьмяніць-жа становішча ён ня можа. Пры нязначнай заработнай плаце (у сярэднім 70—90 марак), пры дарагоўлі харчоў ды кватэр рабочы павінен здавальняцца малым. І гэта-ж тады, калі ў другіх раёнах шмат вольных кватэр і пакояў. Але цана на іх (50—90 марак за месяц) для рабочага вельмі вялікая, а гарадзкое самакіраваньне зьмяніць існуючае законадаўства, якое ахоўвае ўсе правы ўласьнікаў кватэр, ня можа.

Статыстычныя весткі прускага статыстычнага кіраўніцтва ды падлік нямецкага міністра працы паказваюць, што ва ўсёй краіне не хапае 1,7 мільёнаў кватэр, з іх большая частка не хапае ў сталіцы.

Ня гледзячы на арт. 155 канстытуцыі, дзе сказана аб тым, што „дзяржава імкнецца забясьпечыць кожнаму немцу здаровае памяшканьне, а ўсім сем'ям немцаў, асабліва шматдзетным, забясьпечыць дамашні прытулак для работы", да гэтага часу дзяржава толькі пагоршвала становішча для рабочай клясы.

Можна ня пісаць аб гэтых жыльлёвых умовах—яны відаць з наступнага. У свой час бэрлінскі комуністычны друк надрукаваў жахлівыя даныя аднаго з гарадзкіх дактароў—доктара Шмінке. Справаздача гэтая паказала, у якіх дрэнных умовах знаходзіцца жыхарства рабочых раёнаў.

Вось, напрыклад, даныя аб сьмяротнасьці грудных дзяцей.—У 1921 г. у раёне Крэйцбургу з 100 дзяцей памерла 19,6, а ў Шарлётэнбургу (буржуазны раён) за той-жа час—толькі 9,8. У 1922 г. у тых-жа раёнах было так: 22,2 : 9,1; прыблізна такая-ж пропорцыя была і ў наступныя гады.

Такі самы малюнак наглядаецца і ў адносінах да дзяцей па-зашлюбных (у Нямеччыне яны яшчэ ёсьць). У 1925 годзе ў тым-жа Крэйцбургу памерла з 100 па-зашлюбных 25 дзяцей, у той час як у буржуазным раёне Вільмэрсдорф—9,6. Між іншым, у другіх буржуазных дзяржавах процант сьмяротнасьці па-зашлюбных дзяцей даведзены да 4,5. Адсутнасьць дзіцячых ясьляў ды выхаваўчых дамоў асабліва адчуваецца ў пролетарскіх раёнах.

У Нэйкельне, напрыклад, са 100 дзяцей школьнага веку 18 чал. ня было прынята ў першапачатковую школу з прычыны іх дрэннага харчаваньня. Дасьледваньне паказала, што ўсе яны займаліся на вытворчасьці(!), што зрабіла ўплыў на стан іх здароўя і разьвіцьця.

У Нэйкельне ў 1928-29 навучальным годзе ўстаноўлена каля 309 выпадкаў, калі дзеці школьнага веку (малодшых кляс) адначасова працавалі і на фабрыцы. А калі дадаць да гэтага выпадкі ўтойваньня свае работы, то можна ўявіць сабе сапраўднае становішча рэчаў.

Такі-ж процант і ў адносінах да калек. Тымчасам, як у консультацыі раёну Лянзбэргералее летась было зарэгістравана 2056 выпадкаў калецтва дзяцей, падлеткаў і рабочай моладзі—у Шарлётэнбургу такіх выпадкаў 614, а ў Шэнэбургу—усяго 314 выпадкаў. Ня менш паказальным зьяўляецца лік хворых на сухоты. Гэта хвароба ў пролетарскіх раёнах праяўляецца, як тыповая соцыяльная хвароба. Устаноўлена, што 81,2 з 100 выпадкаў сухот прыпадае на сем'і, якія займаюць адзін або два пакоі. Калі да гэтага дадаць рэзультаты капіталістычнай рацыяналізацыі, у выніку якой за апошні час павялічыліся нэрвовыя хваробы сярод кваліфікаваных рабочых, усё большае зацягваньне пятлі на шыі рабочае клясы, у выніку чаго павялічаецца лік самазагубстваў ня толькі сярод рабочых, але і працоўнай інтэлігенцыі, то насычанасьць другім зьместам Бэрліну № 2 стане цалкам зразумелай.

Але ён духам ня падае. Не паддаецца заняпадным настроям. Покі падагульняе вынікі, перастройвае шэрагі, трэніруецца. Сьпявае ды насьвіствае „Інтэрнацыянал“ і „Сьмела, таварышы, ў ногу“. Часамі дэманструе сваю сілу ды арганізаванасьць. Тады яго пазнае, з ім сустракаецца Бэрлін № 1. Апошні ніколі не запамятае грознае па сваёй сіле ды яскравасьці спатканьне Макса Гельца. Контр-дэмонстрацыі 4 і 11 жніўня, якія захапілі ня толькі рабочыя раёны гораду, напомнілі сяму-таму пра існаваньне вельмі балючага мазаля, на які так недалікатна ды нечакана наступае пролетарыят. У гэтыя дні нават фокстрот мяняе свой тэмп і асфальт больш цьмяна адбівае бясьпечнасьць Вэстэну.

* * *

Часовая стабілізацыя капіталізму кладзе свой асобны адбітак на абодва варожыя лягеры.

Кожны пасвойму ўспрымае дыханьне эпохі. Дынаміка імкненьняў абодвух выкрыла нутраную гніласьць аднаго і глыбокія раны другога. Але гэтыя раны апошняга маюць тэндэнцыю да зажываньня. У пролетарскага Бэрліну цела здаровае. Яно выпрабавана ў змаганьні, загартавана ў клясавых паядынках. У будучай сустрэчы двух асілкаў Бэрлін № 1 мае ўсе шансы трапіць у становішча поўкатаванага.

Пасьля гэтай вырашальнай сустрэчы ды атакі абодва твары сталіцы зьнікнуць,—зьявіцца новы, аднастайны. Гісторыя зробіць тады сваю папраўку, а новы разьбяр, заклікаты да жыцьця, трапнымі ды сьмелымі рысамі надасьць яму (твару) новыя выражэньні.

# КНІГАПІС

**Г. Парэчын. Наша канстытуцыя.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. 1928 г., стар. 248. Цана 1 р. 75 к.*

Патрэба ў кнізе, прысьвечанай констытуцыі БССР, даўно ўжо насьпела. Таму зьяўленьня кнігі Г. Парэчына „Наша констытуцыя“ нельга ня вітаць.

Тэза—кожны грамадзянін павінен ведаць асноўныя законы сваёй дзяржавы—бясспрэчна для ўсіх констытуцыйных дзяржаў, асабліва-ж яна правільна і неабходна для СССР і рэспублік, якія ствараюць апошні.

Бяручы пад увагу гэты момант, аўтар зрабіў правільна, калі на першай-жа старонцы прывёў вынятку з прамовы Чарвякова на VIII Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў пра тое, што кожны рабочы, кожны селянін павінен разумець значэньне констытуцыі, а для гэтага апошнім трэба даць кнігу, прысьвечаную асноўным законам БССР. Аўтар памянёнае кнігі, такім чынам, ставіць перад сабою пэўную задачу—даць кнігу для рабочага і селяніна. Але на загалоўным аркушы мы чытаем. „Навукова-Мэтодолёгічным Камітэтам дапушчана ў якасьці падручніка для тэхнікумаў, профшкол на базе сямігодкі і спэцклясаў“. Выходзіць, замест аднае мэты—дзьве.

З аднаго боку, кніга, якая высьвятляе значэньне ды сутнасьць констытуцыі БССР для рабочых і сялян, а з другога боку, падручнік для тэхнікумаў і профшкол. Пры гэтым пра тое, што азначаная кніга ёсьць падручнік, аўтар нідзе ня кажа, а толькі сьведчыць славамі: „Навукова-Мэтодолёгічным Камітэтам дапушчана і г. д.“ У выніку цяжка сказаць, якую мэту ставіў перад сабою аўтар; выразна толькі адно, што ён жадаў і напісаў кнігу пра констытуцыю БССР. Але-ж архітэктоніка, мова, памер і цана кнігі для рабочых і сялян ня могуць адпавядаць запатрабаваньням, якія вымагаюцца ад падручніка, прызначанага для тэхнікумаў і профшкол.

Хіба-ж купіць рабочы і, асабліва, селянін кнігу, у якой 248 старонак і цана якое 1 р. 75 к.

Хіба ў кнізе для рабочых і сялян канечна трэба вылучыць 35 старонак пра выдатнейшыя этапы ў разьвіцьці дзяржаўнага ладу БССР? Зразумела, разьдзел гэты цікавы і каштоўны, але ці-ж гэта аснова, каб вылучаць пад яго столькі старонак. Мы гэтым не жадаем сказаць, што рабочаму ды селяніну ня трэба ведаць пра тое, як стварылася БССР, але трэба-ж ведаць, што звычайнаму рабочаму ды селяніну ня так цікава гісторыя констытуцыі БССР (хоць яна і адлюстроўвае ў пэўнай ступені гісторыю заснаваньня БССР), як сама сучасная констытуцыя БССР, рэдакцыі 1927 г. Болей-жа разьвіты рабочы і селянін прачытае гэта ў падручніку па констытуцыі хоць-бы таго-ж Парэчына. Адгэтуль, разьдзел гэты павінен быць у кнізе зьменшаны і паданы, як кароткая даведка.

Калі тут поўбяды, дык у стасунку цэлага шэрагу дадаткаў зусім бяда. Бясспрэчна, што такія дадаткі, як: 1) Декларация прав народов России; 2) Маніхвэст Работніча - Сялянскага Савецкага Правіцельства Беларусі; 3) Констытуцыя Беларускай Соцыялістычнай Рэспублікі; 4) Констытуцыя ССРБ,—каштоўныя, ды толькі

ня ў кнізе для рабочых і сялян, памер якое павінен быць ня большым „Конституции СССР в схемах“ Г. Кулакова, або Стучкі—„Конституция в вопросах и ответах“. Апошняя, нам здаецца, больш падходзіць да тыпу кнігі, што прызначаецца для масавага пашырэньня сярод рабочых і сялян.

Гэта ня значыць, што кнігу трэба будаваць у выглядзе пытаньняў ды адказаў, як у Стучкі. Мэтод, абраны Парэчыным—спачатку артыкул з констытуцыі, а потым яго тлумачэньні—таксама нядрэнны. Нарэшце, у стасунку мовы. Мова кнігі „Наша констытуцыя“ простая і прыгожая. Але непатрэбныя і лішнія словы, як, напрыклад, „цэнз аседласьці“. Гэтыя словы трэба растлумачваць, бо іначай ня толькі рабочаму і селяніну, але вучню профшколы часта будзе ня зусім зразумела.

Такім чынам, кніга Парэчына для рабочых і сялян настолькі, наскольки яна гаворыць пра ўладу апошніх, наскольки вучні тэхнікумаў і профшкол у масе рабочыя ды сяляне, але сказаць, што гэта кніга прыдатна для масы звычайных рабочых і сялян, нельга. Зважаючы на тое, што яна напісана агулам дакладнаю, простаю моваю і што ў ёй параўнальна мала памылак (пра апошнія ніжэй), аўтар здолеў-бы, паводле нашай думкі, зрабіць яе прыдатнаю для звычайных рабочых ды сялян, але для гэтага трэ‘ было: па-першае, скараціць яе памер, па-другое — месцамі больш выразна формуляваць думку і, нарэшце, зьменшыць цану.

Ці падыходзіць работа Г. Парэчына для ўжытку, як падручнік для тэхнікумаў і профшкол на базе сямігодкі і спэцклясаў?

У асноўным падыходзіць, але вымагае шэрагу зьмен, дадаткаў і паправак. Па-першае, калі кніга прызначана для тэхнікумаў, профшкол, што будуюцца на базе сямігодкі і спэцклясаў, дык яе трэба было-б дапасаваць да програмы апошніх.

Ёсьць гэта ў кнізе Г. Парэчына? Няма. Возьмем, напрыклад, спэцклясы. Уласных програм на Беларусі для спэцклясаў няма (дарэчы кажучы, яны ў нас агулам пасынкі), але затое ёсьць „Пятый выпуск программ и методических записок единой трудовой школы Наркомпроса РСФСР“, выд. 1928 г. У гэтай програме констытуцыі вызначана 8-мігадзінная тэма: „Учение Ленина о государстве и пролетарской диктатуре“, у якой павінны быць разабраны такія пытаньні, якія ў кнізе Г. Парэчына амаль не асьветлены, напрыклад, пытаньне пра адміраньне дзяржавы, як органу гвалту.

Па гэтым пытаньні нельга абмежавацца некалькімі словамі, як робіць Парэчын на стар. 10-ай.

Таксама вымагае даная програма, і само жыцьцё, асьвятленьня лёзунгу ажыўленьня саветаў. Па гэтым пытаньні ў Парэчына няма ніводнага слова, няма нават саўсім намёку.

Разглядаючы падрабязна артыкул 65 констытуцыі БССР на 13-ці старонках (стар. 165—178), Г. Пярэчын чамусьці палічыў за лішняе закрануць лёзунг ажыўленьня саветаў. Мо‘, паводле думкі аўтара, у падручнік па констытуцыі ён не ўваходзіць? Тады чым вытлумачыць „памылку“ Г. Гурвіча, які ў „Основах Советской конституции“ (апошняе выданьне) кажа аб політыцы ажыўленьня саветаў і яе значэньні. Нехта памыляецца. Або Г. Парэчын, або Г. Гурвіч, а сьледам за ім і мы.

Няўжо задача аўтара падручніка па констытуцыі БССР абмяжоўваецца тым, каб толькі ў больш пашыраным выглядзе перадаць зьмест артыкулу констытуцыі і разам з тым месцамі тое самае, што ў артыкуле, але сваімі словамі без тлумачэньня?

Пры гэтым ёсьць і такое тлумачэньне: у арт. 71 гаворыцца, побач з іншым, што „ня могуць быць абранымі асобы, якія прызнаны ва ўстаноўленым парадку душэўна-хворымі або вар‘ятамі“, а Г. Парэчын далей

на стар. 187-ай піша: „Асобы, прызнаныя хворымі, няздольны сьвядома ажыцьцявіць выбарнае права, і таму яно ім не даецца"—вось і ўсё тлумачэньне.

Вось вам і дайшоў да ладу. Ну, а калі грамадзянін N прызнан хворым (напр., сухоты, лёрынгіт і г. д.), дык ён ужо няздольны сьвядома ажыцьцявіць сваё выбарнае права? Гэта-ж, паводле думкі Г. Парэчына, яго трэба пазбавіць выбарнага права. Ці-ж гэта так? Калі так, дык рабочы, што працуе ў шкадлівых для здароўя цэхах, пэўны кандыдат у сьпіс пазбаўленых выбарных правоў. Ды ці-ж толькі ён? Памяркуйце самі, ці можна так тлумачыць? Ці можа звычайны рабочы і селянін, прачытаўшы на стар. 185 арт. 71-ы, а на стар. 187-ай гэта тлумачэньне Парэчына, адразу разабрацца, у чым тут справа?

Спыніўшыся доўга на гэтым факце, мы не жадаем зганьбіць агулам добра напісаную кнігу Г. Парэчына, але лічым сваім абавязкам падкрэсьліць, што месцамі аўтар ня здолеў выразна і дакладна сформуляваць сваю думку, а констытуцыя ўсё-ж вымагае падвойнае пунктуальнасьці і дакладнасьці ў выразах.

Ёсьць у кнізе таксама такія тлумачэньні: „Розьніца між монархіяй і рэспублікай зьяўляецца ў тым, што ў монархіі на чале стаіць асоба, якая, паводле закону, ня можа быць заменена іншаю да самае свае сьмерці. У рэспубліцы-ж прэзыдэнт рэспублікі або іншы найвышэйшы орган дзяржавы абіраецца толькі на пэўны час, пасьля якога ўлада гэтага органу, калі ён ня будзе пераабраны на далейшы тэрмін, прыпыняецца. Монархі (каралі, цары і г. д.) могуць таксама абірацца, але толькі на ўсё жыцьцё, а не на абмежаваны тэрмін" (стар. 12).

Ці правільнае гэта тлумачэньне Г. Парэчына? Правільна, але ня зусім.

Няўжо-ж уся розьніца толькі ў тым, што ў монархіі ўлада належыць спадчыннаму або абранаму на ўсё жыцьцё монарху, а ў рэспубліцы — абранаму на пэўны тэрмін прэзыдэнту? Выходзіць, што розьніца толькі ў часе. А хто-ж у монархіі ды рэспубліцы зьяўляецца крыніцаю ўлады? Бо гэты-ж момант, з юрыдычнага пункту погляду, адыгрывае не апошнюю ролю пры ўстаноўцы, якую форму кіраваньня мы перад сабою маем у пэўнай дзяржаве.

Праўда, на стар. 8-ай гэты момант закрануты і правільна асьветлены, але, адарваўшы гэта тлумачэньне ад таго, што выказана на стар. 12-ай, у чытача нехаця ўзьнікаюць думкі, падобныя да тых, якія мы выказалі. У падручніку трэба даваць падагульняючае азначэньне, а ня тое, што падана на стар. 12.

Апрача таго, ва ўводным артыкуле было-б ня лішнім спыніцца коратка на формах дзяржаўнага ладу (монархіі аконстытуцыйнай і на родах апошняй: дуалістычнай і парляментарнай), растлумачыўшы, зноўтакі коратка, клясавую сутнасьць кожнае формы.

Агулам, для таго, каб кніга Парэчына стала падручнікам для тэхнікумаў і профшкол на базе сямігодкі і спэцклясаў, патрэбны, як вышэй ужо зазначана, дабаўкі, зьмены ў вывадах і выпраўленьне памылак.

Апроч таго, сучасны падручнік павінен будавацца інакш, чым кніга, каторую мы разглядаем. Патрэбна даць уводзіны, матэрыял для самастойнае распрацоўкі і контрольныя пытаньні.

Кніга Г. Парэчына няпрыдатна ні для звычайнага рабочага і селяніна, ні ў якасьці падручніка для тэхнікумаў і профшкол на базе сямігодкі і спэцклясаў. Пасьля адпаведнае перапрацоўкі яна можа быць прыстасавана для абедзьвюх мэт, але для гэтага патрэбны дзьве розныя кнігі. У сваім цяперашнім выглядзе, з прычыны адсутнасьці другіх кніг па констытуцыі БССР, яна можа быць пакуль што, да выхаду ў сьвет новых,

параджана і як падручнік і як кніга для чытанкі пра конституцыю БССР, бо яна ўсё-такі добрасумленная і каштоўная праца.

Асноўны недахоп кнігі той, што яна пісалася, як відаць, аўтарам без установкі на пэўны тып чытача, а Навукова-Мэтодолёгічны Камітэт, ня ўзяўшы пад увагу цэлы шэраг момантаў, параіў яе ў якасьці падручніка.

**Н. Фінкельштэйн.**

**Інстытут Беларускае Культуры. Аддзел гуманітарных навук. М Шчакаціхін.** Доцэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. **Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Том першы.** *Менск—1928 г. (Старонак 280, табліц 45. Цана 3 рублі).*

Гісторыя беларускага мастацтва яшчэ толькі распрацоўваецца. Адзіным пакуль што дасьледцам гэтае цікавае навуковае галіны зьяўляецца доцэнт БДУ М. Шчакаціхін. Асноваю гэтых нарысаў зьявіліся матэрыялы, распрацаваныя ім пры падрыхтоўцы яго унівэрсытэцкіх лекцый у 1923-1924 акадэмічным годзе.

Поўнага, суцэльнага, пасьлядоўнага курсу беларускага мастацтва апрацаваць яшчэ нельга. Даная кніжка—гэта рад монографій на паасобныя тэмы,—гэта першапачатковыя вывады ў маладасьледванай краіне. Мы тут знаходзім характарыстыку курганнае эпохі ў адносінах да ўласьцівых ёй стылістычных форм, паколькі гэтыя формы зьяўляліся вынікамі тых сталых суадносін і сувязяй Беларусі з іншымі краінамі, што адыгралі самую істотную ролю і ў разьвіцьці яе ўласнага мастацтва ўжо ў пазьнейшыя гістарычныя часы. Далей, пачынаючы з XII сталецьця, галоўным прадметам увагі зьявілася эволюцыя архітэктуры—гэтае найважнейшае галіны нашага старадаўняга мастацтва, помнікі якой у межах з XII да XVI сталецьця захаваліся да цяперашняга часу ў досыць значным ліку.

Нарысы М. Шчакаціхіна даведзены толькі да паловы XVI сталецьця. Такім чынам, гэта толькі пачатак агульнага курсу гісторыі беларускага мастацтва; пры гэтым тут няма належнае паўнаты, ёсьць пропускі, што і няўхільна пры першых кроках у маладасьледванай краіне. Гэта прызнае і сам аўтар, ды інакш і быць ня можа пры такіх умовах.

Тым ня менш кніжка надта цікавая, бо дае шмат новага матэрыялу, а старыя даныя зьвязвае з ім у адну органічную суцэльнасьць.

Даўнейшыя расійскія і польскія дасьледцы кіраваліся перадузятымі тэндэнцыямі — імкненьнем давесьці прыналежнасьць Беларусі выключна да тае ці іншае сфэры культурных уплываў. Расійскія дасьледцы даводзілі, што Беларусь усю сваю культуру ўзяла ад Бізантыі пры дапамозе праваслаўнае царквы, а польскія вучоныя імкнуліся давесьці сувязь нашае культуры з Польшчаю і іншымі заходнімі каталіцкімі краінамі. Тымчасам, сапраўды Беларусь успрымала розныя культурныя ўплывы, як і кожная краіна, але зьлівала і свае, і запазычаныя культурныя здабыткі ў адну органічную суцэльнасьць. Найбольш об'ектыўнасьці выявілі нямецкія дасьледцы — Павал Вэбэр і Альбэрт Іппэль, якія пазнаёміліся з Беларусьсю ў часе нямецкае окупацыі.

Альбэрт Іппэль ставіць нашае мастацтва ў сувязь з антычнаю культураю, а ня імкнецца падпарадкаваць яго сваёй нямецкай культуры.

У крытычнай ацэнцы крыніц М.Шчакаціхін зьяўляецца вельмі асьцярожным і сумленным. У яго няма ўлюбёных аўторытэтаў—ён кіруецца выключна патрабаваньнямі навуковае дакладнасьці.

У першым разьдзеле „Курганныя старажытнасьці Беларусі“ мы бачым, якія разнастайныя і шырокія сувязі мела Беларусь ужо ў гэтую далёкую эпоху з рознымі краінамі Захаду і Ўсходу, Поўначы і Поўдня. Хазары

і баўгары (паўночныя), мяра (фінскае племя паміж Волгаю і Акою) і скандынавы ды інш. вялі зносіны з Беларусьсю (г. зн. з тымі абшарамі, што потым атрымалі гэтае імя).

Агляд помнікаў пачынаецца з орнамэнтыкі нэолітычнае эпохі. Далей гаворыцца аб эмалёвых вырабах VI-VIII сталецьцяў, апісваюцца грыўні з падвескамі, гладкія з пашырэньнем, з абвіўкай, вітыя, плеценыя, галаўныя павязкі, нагрудныя і плечавыя ланцугі, фібулы чашачныя, падковападобныя, паясныя пражкі, бляшкі і прывескі, абручыкі, пярсьцёнкі, бранзалеты шчытападобныя, літыя, пласьцінкаватыя, вітыя і сьпіральныя, урэшце, налокатнікі і да т. п.,—цэлы рад ювэлірных вырабаў гэтае далёкае эпохі.

Разьдзел другі прысьвечаны царкоўнай архітэктуры XI—XII сталецьцяў. Гэта ўжо значна пазьнейшы пэрыод і зусім іншая галіна мастацтва. Тут мы бачым цікавае скрыжаваньне розных чужых уплываў, прычым у Смаленск яны ішлі з Поўдня і часткова з Захаду, а ў Полацак—пераважна з Усходу. З свайго боку Беларусь мела ўплыў на Ноўгарад.

Далей ідзе падрабязны агляд смаленскіх, полацкіх, віцебскіх, гарадзенскіх помнікаў царкоўнае архітэктуры.

Пасьля агляду царкоўнае архітэктуры гаворыцца аб помніках сьвецкае архітэктуры Заходняе Беларусі ў XIII—XVI сталецьцях. Даны кароценькія заўвагі аб пахаджэньні першапачатковых тыпаў гэтага роду мастацтва на Беларусі, а потым гаворыцца аб замках у Наваградку, Крэве, Лідзе, Троках, Горадні, Вільні (горнім і дольнім), аб віленскіх цытадэльных мурох і аб Мірскім замку.

Малярству прысьвечаны дадатак да разьдзелу III (цытуецца ў аўтэнтыку апісаньне фрэскавых росьпісаў Троцкага замку, зробленае Вінцэнтам Смакоўскім у 1822 годзе).

У чацьвертым разьдзеле гаворыцца аб беларускай готыцы XV—XVI сталецьцяў, аб асноўных двух тыпах готыцкіх помнікаў на Беларусі і даецца апісаньне віленскіх касьцёлаў, а таксама і цэркваў у Сынкавічах, Маламажэйкаве і Супрасьлі.

Пры кожным разьдзеле падана багатая бібліографія. Ёсьць сьпіс ілюстрацый і географічны паказьнік.

Недасьледванасьць данае галіны беларусазнаўства, дзе аўтар зьяўляецца амаль што піонэрам, дае магчымасьць карыстацца сапраўдным марксыцкім мэтодам у вельмі абмежаванай колькасьці выпадкаў, але па меры магчымасьці аўтар заўсёды шукае матэрыяльнае, гаспадарчае падставы пэўных зьяў.

Выдана кніжка добра і на асобных табліцах і сярод тэксту мы знаходзім шмат малюнкаў і плянаў. Паколькі гісторыя малярства будзе выкладацца ў наступных томах, можна пагадзіцца з адсутнасьцю каляровых ілюстрацый. Цана кніжкі ня надта дарагая. Як першая спроба, кніжка, здаецца, можа задаволіць чытача.

**Л. Цьвяткоў.**

**Наконт рэцэнзіі на бібліографію пэрыодычных выданьняў на беларускай мове [1]).**

Можна толькі з прыемнасьцю адзначыць, што заклік да зацікаўленых справай беларускага друку аб дапаўненьні і выпраўленьні „Летапісу Беларускага пэрыодычнага друку“ знайшоў компэтэнтны водгук. Дадаткі і папраўкі да „Летапісу“ выклікаюць самую шчырую падзяку. Але з некаторымі крытычнымі заўвагамі рэцэнзэнта згадзіцца нельга.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што калі-б дзяржаўная бібліотэка паставіла сабе заданьнем даць дакладнае бібліографічнае апісаньне беларускай пэрыодыкі, дык яна дадала-б да гэтага яшчэ больш строгія патрабаваньні, чым яны пастаўлены ў рэцэнзэнта. Дакладнае бібліографічнае апісаньне часопісу патрабуе ня толькі

[1]) Гл. „Полымя“ № 1 за 1929 г.

фотографічнага апісаньня яго з усімі варыяцыямі загалоўку, але і высьвятленьня фактараў, асабліва важных для гістарычна-соцыолёгічнага або гістарычна-літаратурнага падыходу да друку, як: тыраж, падпісная плата, зьмены рэдактараў ды інш.

За такую бібліографію беларускага пэрыодычнага друку Бел. дзярж. бібліотэка брацца ў сучасны момант, калі яна ня можа лічыць сваю працу па зьбіраньню гэтага матэрыялу скончанай, не магла ды і заданьнем сваім ня ставіла. Мэтай гэтага выданьня, як адзначана ў прадмове і як заўважана і рэцэнзэнтам, было толькі даць орыентыровачны рэгістрацыйны сьпіс беларускіх пэрыодычных выданьняў з тым, каб зафіксаваць самы факт іх існаваньня і мець канву для далейшага іх комплектаваньня, праверкі і дакладнага апісаньня, а таксама выклікаць якраз тое, што мы маем часткай ад рэцэнзэнта—дадаткі і папаўненьні адпаведных асоб і ўстаноў.

Тое, што ў прадмове адзначана, што матэрыял, апісаны, галоўным чынам de visu, адзначае не паўнату і дасканальнасьць апісаньня ўсяго комплекту, а тых нумароў, якія былі ў распараджэньні бібліотэкі, і гэты прынцып апісаньня, па магчымасьці, de visu і прымушаў адмовіцца ад таго, каб выходзіць за межы матэрыялу, які рэальна быў пад рукамі.

Што да дадаткаў, дык каштоўнымі папраўкамі зьяўляюцца ўстаноўленыя пры дапамозе рэцэнзэнта факты:

1) што газэта „Biełarus“ мела працяг у 1915 годзе;

2) што „Наша Ніва“ за 1912 г. мела 52 нумары (у комплекце Бел. дзярж. бібліотэкі толькі 44). Ня было вядома аб № 31 за 1915.

Што да № 7 за 1906 г. і № 52 за 1913 г., дык гэта друкарская памылка; № 51 за 1913 г. падвойны і зьяўляецца адначасна нумарам 51-52, што ня было заўважана рэцэнзэнтам.

3) „Весьнік ЦВК“ № 13 ня быў вядомы.

4) № 2 „Krynicy“ за 1918 г. быў вядомы таксама, як № 12 за 1919 г., але невядома, ці гэта апошнія нумары, таму пастаўлена было шматкроп‘е № 1..., каб з часам дапоўніць.

Што да прапускоў, якія заўважаны рэцэнзэнтам, дык паказаныя выданьні сьвядома ня зьмешчаны ў сьпісе пэрыодычных выданьняў. Наконт „Кніжнага Бюлетэню“ дзяржвыдавецтва яшчэ формальна можна было-б згадзіцца; паколькі меркавалася яго выдаваць пэрыодычна—яго можна было і зьмясьціць у сьпісе, хаця ніякага працягу ён ня меў. Нельга гэтага сказаць аб „Аршанскім Рабфакаўцы“, бо гэта звычайны юбілейны зборнік і ні ў якім разе не пэрыодычнае выданьне, хаця і мае малапісьменны падзагаловак „Юбілейная часапісь“ (?). Да аднаднёвак гэты зборнік таксама не падыходзіць, бо аднаднёўкі ў нашым сьпісе зьмешчаны толькі такога тыпу, што выяўляюць сабой эфэмерную форму пэрыодычнага друку, якія па тых ці іншых прычынах замяняла сапраўдную газэту. Сьвядома ня зьмешчаны таксама часопісы, якія хоць і мелі падвойную назву на беларускай і расійскай мовах, але іх беларусізацыя толькі гэтай назвай і абмежавалася, як, напрыклад, адзначаныя рэцэнзэнтам „Бюлетэнь ЦСУ“. „Статыстычны Лісток“. „Запіскі Менскага і Горацкага с.-г. інстытутаў“. Аднак прынцыпова мы зусім згодны з тым, што, наогул, такія часопісы трэба далучаць, бо яны раней ці пазьней павінны пераходзіць на беларускую мову. Але справа ў тым, што якраз адзначаныя часопісы скончылі сваё існаваньне і не зрабіліся беларускімі. Калі, апрача назвы, у часопісах ня было беларускага тэксту, дык яны далучаліся Бібліотэкай да сьпісу расійскіх часопісаў, якія вышлі на тэрыторыі БССР. Гэты сьпіс таксама мае быць выданы Бел. дзярж. бібліотэкай, але спасылка рэцэнзэнта на нейкі, ужо існуючы, куды, нібы, гэтыя часопісы не ўвайшлі, зьяў-

ляецца непаразуменьнем. Гэты сьпіс яшчэ ня выданы. Можа быць, рэцэнзэнт мае на ўвазе ня выданьне бібліотэкі, а рукапісны сьпіс выданьняў БССР на расійскай мове, які Бел. кніжная палата пры дзярж. бібліотэцы рассылала па бібліотэках, якія атрымліваюць беларускі абавязковы паасобнік, у тым ліку і ў бібліотэку Акадэміі Навук. Але гэты сьпіс быў чыста адміністрацыйнага характару для праверкі паўнаты абавязковых экзэмпляраў і ня ставіў ніякіх бібліографічных заданьняў.

Што да „Запісак Горацкага і Менскага с.-гасп. інстытутаў“, дык нам невядомы такі прынцып у бібліографіі, каб лічыць працягам выданьне аднэй навуковай установы, якая толькі заняла месца другой, але не зьяўляецца яе працягам, пад новай назвай. Дзяржаўны інстытут сельскай гаспадаркі ў Менску і Горацкі інстытут былі самастойнымі незалежнымі адна ад другой установамі. Акадэмія-ж зьяўляецца не працягам якойнебудзь з гэтых устаноў, а новаўтворанаю і таму „Запіскі Акадэміі“ ня могуць зьяўляцца працягам абодвух выданьняў. Вельмі ўважлівы да ўсіх падрабязных заўваг у падзагалоўках часопісаў рэцэнзэнт ня прыняў, аднак, пад увагу, што выдаўцы „Запісак Менскага с.-г. інстытуту“ самі адзначылі № 9 свайго выданьня „последним“.

Што да дробных папpавак, якія датычаць, галоўным чынам, падрабязнасьцяй падвойнай нумарацыі або розначытак у загалоўку, дык яны часткова, як заўважыў і сам рэцэнзэнт, адносяцца да занадта ў нас яшчэ звычайных друкарскіх памылак, часткай да такіх элемэнтаў падрабязнага бібліографічнага апісаньня, якое, як ужо адзначана вышэй, не магло зьявіцца заданьнем гэтага сьпісу, хаця-б па тэй прычыне, што апісаньне грунтавалася на ня зусім поўных комплектах. Рэцэнзэнт сам зьяўляецца ахвярай свае пагоні за гэтымі падрабязнымі папраўкамі, выправіўшы подпіс рэдактара „Нашай Долі“, „Ян Тукеркес“, а не „И. Тукеркес“, как в обзоре“. Якраз №№ 1. 2, 3, 5 маюць подпіс „И. Тукеркес“ і толькі № 6 падпісаны „Я. Тукеркес“.

Што да апошняга „факту“ з датыроўкай аднаднёўкі, „Чырвоная Варта“, дык цікава было-б ведаць, чаму рэцэнзэнт адносіць месца выданьня „Чырвонай Варты“ да Масквы, у той час, як на ёй выразна стаіць рэдакцыя—„Савецкая Беларусь“. Апрача таго, месца выданьня, таксама як і год, маглі быць устаноўлены на падставе таго, што аднатыпнае выданьне на польскай мове мае дату і месца выданьня.

Ю. Б.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Сярод пісьменьнікаў і літаратараў

* *Янка Купала* падрыхтаваў да друку новы том сваіх твораў пад назвай „1918—1928“. У гэты том уваходзіць выключна поэзія за апошняе дзесяцігодзьдзе.

* *Міхась Зарэцкі* піша гістарычны роман пад назвай „Крывічы“.

* *Васіль Сташэўскі* напісаў і здаў да друку ў БДВ п‘есу з жыцьця Заходняй Беларусі пад назваю „Арханґелы з крэсаў“.

Ім-жа перакладзена п‘еса украінскага пісьменьніка М. Ірчана—„Сям‘я шчотачнікаў“. П‘еса будзе друкавацца ў БДВ асобнай кніжкай.

* *Юрка Лявонны* падрыхтаваў да друку зборнік сваіх лірычных вершаў.

* *Янка Маўр* здаў да друку напісаную ім новую аповесьць для дзяцей сярэдняга ўзросту: „Палескія Робінзоны“.

* *М. Хведаровіч* здаў у Белдзяржвыдавецтва новы зборнік вершаў „Ветры“.

* *П. Галавач* падрыхтаваў да друку зборнік апавяданьняў „Хочацца жыць“.

* Пры *БелАПП‘е* організавана сэкцыя драматургаў.

* 10 сакавіка ў Доме Пісьменьнікаў адбыўся першы сход пісьменьнікаў.

Сход абраў праўленьне Дому Пісьменьнікаў у складзе: М. Грамыка (Галоўмастацтва), Я. Колас, В. Каваль, Крапіва, І. Барашка, Вітэнзон, В. Сташэўскі (члены); З. Бядуля і З. Бандарына (кандыдаты).

На сходзе ўхвалена лічыць ДП месцам літаратурна-грамадзкай працы.

На праўленьне сход ускладу вырашэньне пытаньня пра час і характар урачыстага адчыненьня дому, напісаньне статуту дому і організацыю яго гаспадарчай часткі.

* У канцы лютага бягучага году група членаў пісьменьніцкага аб‘яднаньня „Полымя“ (Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, Алесь Ґурло, Янка Нёманскі і Васіль Сташэўскі) наведвалі Ленінград з мэтаю азнаямленьня з апошнімі тэатральнымі пастаноўкамі, музэямі, заводамі ды інш. За дзесяць дзён у Ленінградзе пісьменьнікі пабылі на пастаноўках: „Чырвоны мак“ (тэатр опэры і балету), „Джонкі“ (малы опэрны тэатр), у тэатрах „Крывое Зеркала“, тэатр „Сатыры“, „Мюзік Холл“ ды інш. З музэяў яны агледзелі—Эрмітаж, Рускі музэй, Музэй рэволюцыі і царскія палацы ў Дзецкім сяле. Таксама яны пазнаёміліся з броняносным караблём „Парыская Комуна“ і Бальтыцкім караблябудаўнічым заводам.

Прыезд полымеўцаў у Ленінград выклікаў вялікую зацікаўленасьць з боку ленінградзкае прэсы і ленінградзкіх літаратурных колаў. У цэлым шэрагу газэт зьмешчаны былі артыкулы пра беларускую літаратуру, характарыстыкі яе і прыехаўшых пісьменьнікаў.

Пры ад‘езьдзе з Ленінграду ў беларускім доме асьветы быў наладжаны літаратурна-музыкальны вечар, на якім цэлы рад прадстаўнікоў ад беларускіх і нацыянальна-літаратурных організацый (украінскай, літоўскай, туркменскай) віталі пісьменьнікаў. У ліку вітаўшых быў японскі літаратар т. Нарумі, які цяпер у Ленін-

градзе вывучае расійскую літаратуру. Са сваімі творамі выступалі Якуб Колас, Янка Купала, Алесь Гурло і Васіль Сташэўскі. Пасьля ўрачыстай часткі была наладжана гарбата.

### Тэатр, мастацтва, музыка

* БДТ1 прынята да пастаноўкі новая п'еса Анатолія Глебава „Інга". П'еса малюе жыцьцё работніц на швэйнай фабрыцы.

* Этнографічнай катэдрай Беларускай Акадэміі Навук сабрана каля 1000 беларускіх народных мэлёдый, якія запісаны ў Савецкай і Заходняй Беларусі. Адзін зборнік такіх песень ужо выданы.

* У хуткім часе колектыў трупы Галубка ставіць п'есу „Кастусь Каліноўскі", якая ідзе ў адноўленым выглядзе.

* У Магілеве сабраны композытарам Чуркіным 64 народныя песьні, з якіх 54 апрацаваны для хору, 14 для солё.

Ім-жа напісана увэртура да опэры „Уласнай рукой" і увэртура да музычнай п'есы „Дукорскія муры" Гарбацэвіча.

* Былы колектыў артыстых „Наш тэатр" перайменаваны ў беларускі рабочы тэатр. Тэатр праводзіць сваю студыйную работу ў Доме Працасьветы. Рыхтуюцца да пастаноўкі новыя п'есы з рабочага жыцьця. Організавана мастацкая рада тэатру, у склад якое ўвайшлі прадстаўнікі розных грамадзкіх організацый, буйных фабрык і заводаў Менску.

Надалей драматычны колектыў „Наш тэатр" ставіць сваёй мэтай зрабіцца рабочым тэатрам, які мог-бы ў большай меры абслугоўваць рабочыя клюбы, фабрыкі і заводы БССР.

Зараз з вялікім посьпехам ставяцца па рабочых клюбах Менску (клюбы будаўнікоў, харчавікоў, комунальнікаў, друкароў і інш.) п'есы „Будні" — пераклад з украінскага Ільлі Гурскага і „На стыку"—Цішкі Гартнага.

У бліжэйшы час будзе пастаўлена поэма М. Чарота „Босыя на вогнішчы" ў двух частках.

Зараз драматычны колектыў пачынае рыхтаваць новую п'есу „Его шаги" Юр'іна, якая на беларускай сцэне пойдзе пад назвай „Кравец Бэрка".

Улетку беларускі драматычны колектыў „Наш тэатр" мяркуе зрабіць выезд у мястэчкі і вёскі Менскай акругі.

* 24 лютага скончыў сваю чатырохмесячную працу ў Гомелі БДТ2. Зачыненьне сэзону адбылося ў прысутнасьці 700 рабочых добрускай папяровай фабрыкі, якія спэцыяльна для прагляду апошняй пастаноўкі БДТ2 „Рэйкі гудуць" прыехалі ў Гомель.

З 50 тысяч гледачоў, якія былі на паказах БДТ2, 35 тыс. былі члены саюзаў, 10 тыс.—вучні і комсамольцы, 3 тысячы—чырвонаармейцы. Тэатр, такім чынам, на 90 проц. абслугоўваў працоўнага гледача.

За час сваёй працы ў Гомелі (з 20 кастрычніка па 24 лютага) тэатр даў 75 пастановак.

* Колегія Наркамасьветы даручыла Галоўмастацтву з наступнага году рэорганізаваць Беларускую Дзяржаўную капэлю з мэтай падбору лепшага складу харыстых. Рэорганізацыя будзе таксама праведзена і з мэтай палепшаньня працы капэлі. Побач з гэтым Наркамасьветы адпусьціў на выдаткі Беларускай дзяржаўнай капэлі 1000 руб.

* У сярэдзіне красавіка на беларускіх экранах зьявяцца дзьве апошнія пастаноўкі Белдзяржкіно „Хвоі шумяць" і „Песьні вясны". Праца над абодвума фільмамі ўжо скончана.

* На днях у Менск зьвярнулася з свае падарожы вандроўная трупа ЦП саюзу сельгаслесрабочых „Полымя". Трупа за 13 месяцаў абвандравала Бабруйскую, Віцебскую і Мазырскую акругі, заглянуўшы ў самыя глухія куткі Беларусі і ўносячы прамень Беларускай культуры ў жыцьцё нашага батрацтва.

Трупа складаецца з 12 чалавек, з якіх большая частка нядаўняшнія батракі, рабочыя саўгасаў і іншыя працоўныя без спэцыяльнай навукі і толькі 2 чалавекі выхадцы з трупы Галубка.

П'есы большай часткай падабраны з жыцьця батрацтва, яскрава адбіваючы жыцьцё і быт батрацтва ў дарэвалюцыйны час і тую муку, якую яны пераносілі і, звычайна, ня бачачы і не знаходзячы нідзе абароны, канчалі самагубствам, як, напрыклад: „Наймітка", „Чортава кузьня" і г. д.

Вандроўная трупа мае добрую музычную частку, абсталяваную нацыянальнымі музычнымі інструмантамі: цымбаламі, скрыпкай, гармонікам і падборам добрых музыкантаў. Канцэртнае аддзяленьне спэктаклю, звычайна са скокамі лявоніхі, задавальняе вясковага гледача.

* Пры Галоўмастацтве НКА была склікана нарада для абгаварэньня ўмоў конкурсу на складаньне проекту помніка У. І. Леніну.

Нарада выказалася за тое, каб прадстаўлены проект быў ня меней 1/30 натуральнай велічыні. Дзеля прыцягненьня высокакваліфікаваных сіл усяго Саюзу нарада лічыць неабходным устанавіць досыць высокія прэміяльныя стаўкі: у 3000, 2500, 2000, 1500 і 1000 р.

Тэрмін прадстаўленьня проектаў на конкурс вызначаны да 15 кастрычніка 1929 г. У дзень сьвята Кастрычнікавай рэволюцыі 7 лістапада ў Менску будзе наладжана выстаўка проектаў.

Помнік будзе пабудаваны ў Менску на Пляцы Волі.

* Беларускія мастакі—сябры т-ва „Ромб", якія цяпер жывуць у Маскве, мяркуюць у бліжэйшыя дні арганізаваць у Маскве шэраг выступленьняў на тэму аб разьвіцьці беларускага вобразнага мастацтва. Для ілюстраваньня гэтых выступленьняў будуць арганізаваны невялічкія выстаўкі беларускага вобразнага мастацтва.

* У Магілеве ў Дзяржтэатры імя Ігнатоўскага пастаноўкаю п'есы Лаўрэнева „Разлом" распачаў свае трохмесячныя гастролі па Магілеўшыне БДТ2.

Пастаноўкі тэатру будуць адбывацца 3, найбольш 4 разы на тыдзень. Цяпер адбываюцца спробы 2-х новых п'ес, якія будуць пастаўлены ў канцы сэзону.

У шэрагу п'ес, якія пойдуць на магілеўскай сцэне, маюцца: „Разлом", „Каля тэрасы", „Рэйкі гудуць", „На прадвесьні", „Калі пяюць пеўні" і інш.

Тэатр будзе імкнуцца як мага дасканальней абслужыць арганізаванага гледача—праз саюзныя арганізацыі і ўстановы.

### Хроніка друку.

* Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выпускае з друку аповесьць украінскага пісьменьніка А. Галоўкі „Бур'ян" у перакладзе на беларускую мову В. Сташэўскага.

* Вышаў другім выданьнем колектыўны роман трох поэтаў: Александровіча, Дудара, Вольнага—„Ваўчаняты".

* Беларускае Выдавецкае таварыства (Рыга, Латвія) выдала на беларускай мове кніжку К. Пажытkоўскага—„Популярныя нарысы тэорыі коопэрацыі", з прадмовай перакладчыка К. Езавітава.

* У Вільні вышлі з друку новыя кніжкі: Ю. Дамарослы—Аматарскі зборнік № 1 лірычных твораў, поэм, гумарыстыкі і элегіі і „князь Мярцыпан", роман Завадовіча, перароблены з украінскага З. Верас.

* Беларускаму дзяржаўнаму выдавецтву А. Вольны здаў сваю прыгодніцкую аповесьць „Антон Савіцкі".

* Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выдала аповесьць украінскага пісьменьніка П. Панча „Зямля" ў перакладзе на беларускую мову Янкі Купалы.

* Белдзяржвыдавецтва друкуе зборнік вершаў Вечара пад назваю „Кола дзён“.

* Выпушчаны з друку зборнік вершаў пра Заходнюю Беларусь А. Александровіча—„Фабрыка сьмерці“.

* Пры самых цяжкіх матэрыяльных, палітычных і культурных умовах вядзецца ў Зах. Беларусі выдавецкая справа: перш усяго няма грошай, грошай і грошай, каб паставіць справу выданьня патрэбных для народу беларускіх кніг на належны грунт. А попыт на беларускую кніжку вялікі, асабліва сярод моладзі, бо сьвядомасьць сярод беларусаў у Польшчы ўзрасла ўжо надзвычайна. Цяпер народныя масы Зах. Беларусі не здавальняюцца ўжо толькі пэрыодычнай прэсай, а падыходзяць да справы глыбей. Беларускім масам у Польшчы патрэбны беларускія кніжкі і кніжкі самага рознароднага зьместу, але гэтай патрэбы ў поўнай меры задаволіць у Зах. Беларусі ня маюць магчымасьці і вось чаму: 1) з прычыны беднасьці чытача, які ня мае магчымасьці купіць кніжку, 2) з прычыны немагчымасьці для беларускіх організацый і фізычных адзінак выдаць кніжкі з-за недахопу грошай і 3) з прычыны адмовы польскіх урадавых сфэр матэрыяльна дапамагчы беларускай выдавецкай справе.

Наўрад ці можна спаткаць на сьвеце горшыя ўмовы для выдавецтва, чымся ў Зах. Беларусі.

Ня гледзячы, аднак, на гэта, сякія-такія кніжкі там выходзяць.

У 1928 г. ў Зах. Беларусі вышлі наступныя кніжкі:

*I. Бэлетрыстыка*

1. Якуб Колас.—„Новая зямля“. Поэма. Выд. газ. „Народ“. (2 кніжкі). 2. Якуб Колас.—„Сымон Музыка“. Поэма. Выд. т-ва „Пагоня“. 3. Ст. Грынкевіч.—„Царква, Помста, Вязьніца“. Апавяданьні. Выд. „Бел. Крыніцы“. 4. Тарас Гушча.—„Нёмнаў дар“ і інш. апавяданьні. Выд. Клецкіна. 5. Янка Купала.—„На куцьцю“. Абразок у 1 акце, інсцэніроўка М. Счэнсновіча. Выд. т-ва „Прасьвета“. 6. Беларускі тэатр. Сцэнічныя творы: Дзядзька Якуб, Міхалка, На вёсцы, Пярэстая Красуля. Выд. Бел. выдавецкага т-ва. 7. Янка Купала.—„Адвечная песьня“. Выд. Бел. выд. т-ва. 8. „Рунь Веснаходу“. Зборнік твораў поэтаў і пісьменьнікаў Зах. Беларусі. Выд. Бел. выд. т-ва. 9. Ст. Станкевіч.—„З майго ваконца“. 10. „Беларускі дэкляматар“. Сабраў С.С. Выд. Знамяроўскага Ўл. 11. Друцкі-Падбярэскі. „Байкі, гумар і сатыра“. Выд. Клецкіна. 12. Машара. „Малюнкі“. Зборнік вершаў. Выд. Л. Войцік. 13. А. К.—„Казкі“. Выд. Знамяроўскага. 14. Уніцкі Ўл. „Сон Гаўрылы“. Апав. вершам. Выд. Знамяроўскага. 15. Марка Твэн. Прынц і Жабрак. Аповесьць для юнацтва. Пераклаў Краўцоў Макар. Выд. Клецкіна. 16. Крапіўніцкі. „Пашыліся ў дурні“, комэдыя ў 3-х дзеях. Выд. т-ва Бел. школы. 17. Леў Талстой. „Ці шмат чалавеку трэба зямлі“ і інш. апавяданьні. Пераклад Уніцкага. 18. Леў Талстой. Апавяданьні для дзяцей. Выд. Клецкіна. 19. М. Крапіўніцкі. „Па рэвізіі“, комэдыя ў 1-й дзеі, і „Модны шляхцюк“—Каганца, п‘еса ў 1-й дзеі. Выд. т-ва Бел. школы. 20. Ул. Караленка. „Сьляпы музыка“. Пераклаў Краўцоў Макар. Выд. Клецкіна. 21. Нямiровіч-Данчэнка. Стары замак. Апавяданьне. Пераклаў Б. Ст. Выд. „Бел. Крыніцы“. 22. Ул. Караленка. „Судны дзень“, украінская казка. Пераклала Вера Грыц. Выд. Бел. выд. т-ва.

*II. Падручнікі*

23. Астроўскі. Р. Арытмэтычны задачнік, ч. II. Выд. Клецкіна. 24. Астроўскі Р. Арытмэтычны задачнік (для настаўнікаў). Выд. аўтара (літограф). 25. Інж. Неканда-Трэпка. Аналіт. Геомэтрыя. Курс 8 кл. гімн. Выд. аўтара (літограф).

*III. Розныя творы*

26. Ул. Казлоўшчык. „Фізычнае выхаваньне ў беларусаў“. Выд. „Бел. Крыніцы“. 27. А. Станкевіч. „Беларуская мова ў школах Беларусі XVI і XVII веку“. Выд. Бел. Радыкальнай Народнай Партыі. 28. Д-р Туронак. Гігіена ўзгадаваньня дзіцяці. Выд. „Бел. Крыніцы“. 29. С. Паўловіч. „Аб організацыі беларуск. працоўнай школы“. Выд. Бел. Т-ва. 30. С. Паўловіч. „Пазашкольная асьвета і культурна-асьветная праца Т-ва Бел. школы“. Выд. Бел. выд. т-ва. 31. А. Луцкевіч. „За дваццаць пяць гадоў“. Выд. Бел. выд. т-ва. 32. „Статут Беларускага коопэратыўна-земляробскага прамысловага банку“. 33. Д-р М. Гнатышак. „З сучаснае мастацкае працы Нямеччыны“. Пераклаў А. Бартуль. Выд. Бел. выд. т-ва. 34. Беларускі каляндар на 1928 г. Выд. Бел. выд. т-ва. 35. Адрыўны каляндар на 1928 г. Выд. Бел. выд. т-ва. 36. Каляндарык „Хрысьціянскай думкі“ для беларускай моладзі на 1928 г. Апрацаваў і выдаў ХПТ. 37. Народны каляндар на 1928 г. (Ананімнае выдавецтва). 38. Галкоўскі. „Лугам, лугам зялёненькім“. Романс да слоў Я. Купалы для высокага голасу з акомпанімэнтам фартэп‘яну.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць 5 кніжак рэлігійных твораў.

Выдавецкая справа ў Заходняй Беларусі за апошнія тры гады мае наступны выгляд: Выдана бэлетрыстыкі: у 1926 г.—9 кніг, 1927 г.—22, 1928 г.—22 кн. Падручнікаў: 1926—4, 1927—4, 1928—3 кн. Розных твораў: 1926—16, 1927—26, 1928—14. Рэлігійных: 1926—4, 1927—2, 1928—5 кн. Усяго ў 1926—33, 1927—54, 1928—43.

Як бачым, 1927 год даў на 12 кніжак больш, чымся 1928 год. На першы погляд можа паказацца, што такім чынам леташні ўраджай кніг у Зах. Беларусі быў меншы. Аднак, калі ўзяць у рукі выданыя ў Зах. Беларусі ў 1928 годзе кніжкі, дык убачым, што яны хоць і меншыя па ліку, але затое значна большыя па аб‘ёму.

Зразумела, ня можа быць ніякага параўнаньня беларускай выдавецкай справы ў Польшчы з такою-ж у нас, у БССР, дзе новыя беларускія выданьні лічацца тысячамі.

* Інстытут навуковай мовы да апошняга часу выпусьціў 19 слоўнікаў і тэрмінолёгій з 30 тыс. слоў-тэрмінаў. Вышлі з друку слоўнікі па элемэнтарнай матэматыцы, агульнай хэміі, лясных тэрмінах, бухгальтарскіх тэрмінах, с.-гаспадарчых, музычных і інш.

Рыхтуецца яшчэ рад слоўнікаў—па фізыцы, расьлінагадоўлі і г. д.

* Беларускае навуковае таварыства марксыстых прыступіла да выданьня пэрыодычных зборнікаў навуковых работ па пытаньнях тэорыі марксызму. Да ўдзелу ў зборніках прыцягнуты ўсе асноўныя марксыцкія сілы Беларусі. У рэдколегію па выданьні зборніка ўваходзяць акадэмікі: Ігнатоўскі, Вальфсон і т. т. Рыўлін, Сянкевіч, Быхаўскі і інш.

Першы зборнік навуковых работ ужо здаены ў друк і выйдзе ў бліжэйшы час.

* Катэдра географіі Беларускай акадэміі навук зьбірае багаты матэрыял аб паасобных мясцовасьцях і іншых географічных об‘ектах Беларусі. Зьбіраньне вядзецца праз краязнаўчыя організацыі пры дапамозе спэцыяльных экспэдыцый і выкарыстаньне розных матэрыялаў. У бліжэйшы час сабраны матэрыял дасьць магчымасьць распачаць выданьне вялікага беларускага географічнага слоўніка. Такое выданьне будзе служыць важнай дапамогай для працаўнікоў на мясцох, даючы весткі аб самых дробных раёнах і мясцовасьцях Беларусі і прадстаўляючы сабою сынтэз географічных ведаў аб Беларусі.

* Вышаў з друку другі том „Беларускага архіву“, у які ўваходзяць матэрыялы з 16-й кнігі літоўскай мэтрыкі па гісторыі Віцебшчыны і Полаччыны. Гэтыя дакуманты маюць надзвычайную каштоўнасьць для вывучэньня старога беларускага права і гісторыі Усходняй Беларусі першых гадоў 16 стагодзьдзя.

## Хроніка навукі

* Гэтымі днямі на прэзыдыуме Бел. акадэм. навук быў вызначаны плян разгортваньня навуковай дзейнасьці акадэміі на бліжэйшы час (5 год). Зацьверджаны наступныя зьмены ў структуры акадэміі. Па аддзелу гуманітарных навук проектуецца аб'яднаньне ўсіх гістарычных навук у адну ўстанову—інстытуту гісторыі, у які ўвойдуць: катэдра агульнай гісторыі, катэдра гісторыі Беларусі з яе камісіямі, катэдра беларускага права і катэдра гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі. Інстытут гісторыі канчаткова організуецца ў 1929—30 акадэмічным годзе.

Увесь комплекс навук па беларускай літаратуры і прыгожаму пісьменству аб'яднаецца ў інстытут літаратуры, у які ўвойдуць катэдры беларускай літаратуры з усімі камісіямі, якія працуюць па гэтаму пытаньню. Інстытут літаратуры таксама організуецца ў 1929—30 акадэмічным годзе. Катэдра этнографічных навук рэорганізуецца ў катэдру матэрыяльнай культуры і этнографіі з сталымі камісіямі па вывучэньню матэрыяльнай культуры, народнага мастацтва, народных песень і фольклёру. Рэорганізацыя павінна адбыцца ў наступным акадэмічным годзе. У канцы 5-годзьдзя катэдра будзе рэорганізавана ў інстытут матэрыяльнай культуры.

У 1930—31 акадэмічным годзе разгортваецца катэдра па вывучэньні мастацтва. Што-ж да аб'яднаньня ўстаноў, якія працуюць над досьледамі мовы, дык гэта пытаньне перададзена на абгаварэньне рады аддзелу гуманітарных навук.

Па аддзелу працы і гаспадаркі ў 1929—30 г. адчыняецца некалькі новых устаноў: катэдры мікробіолёгіі, хэміі, гідролёгіі, фізікі, энэргетыкі, а ў 1930—31 г.—катэдра матэматыкі. Камісія па фізыолёгіі рэорганізуецца ў катэдру фізыолёгіі. Апроч таго, будзе ўзьнята пытаньне аб перадачы БАН важнай установы—Белгеофізу, якая зараз уваходзіць у склад НД Інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі.

Некаторыя з паказаных катэдраў, як катэдры мікробіолёгіі, энэргетыкі, хэміі і гідролёгіі будуць рэорганізаваны ў канцы 5-цігодкі ў адпаведныя інстытуты.

Комплекс экономічных навук з 1929—30 г. аб'яднаецца ў інстытут экономікі, у які ўвойдуць тыя ўстановы акадэміі, якія зараз займаюцца досьледам некаторых галін экономікі Беларусі. Новы інстытут будзе яднаць такія экономічныя галіны, як коопэрацыя, колектывізацыя, гандаль, фінансы, крэдыт, статыстыка, экономіка дробнай і буйнай прамысловасьці і інш.

Усе інстытуцыі аддзелу прыроды і гаспадаркі, якія зараз займаюцца вывучэньнем прыроды і прыродавытворчых сіл краіны, захоўваюцца як самастойныя адзінкі. Сюды ўваходзяць: інстытут геолёгіі, катэдры глебазнаўства, зоолёгіі, ботанікі, географіі і антрополёгіі. Катэдра глебазнаўства разгортваецца ў канцы 5-годкі ў інстытут глебазнаўства, а катэдра географіі—у інстытут географіі і картографіі.

* У трох пунктах Койданаўскага р., каля Койданава, каля в. в. Каменка і Навасады была праведзена раскопка курганоў, гарадзішчаў і селішчаў. Абодва гарадзішчы каля Каменкі і Навасадаў пабудаваны не славянамі, але пазьней славяне занялі і перабудавалі іх. (У канцы X і пачатку XI ст.). Славяне зрабілі з іх месца абароны і выкананьня рэлігійных абрадаў. Вакол гэтых гарадзішчаў славяне заснавалі свае селішчы. Навасадзкае гарадзішча славяне значна пашырылі.

Побач з гэтымі селішчамі знаходзіліся могілкі славянскага насельніцтва ў выглядзе шматлікіх курганоў.

У даславянскім пласьце гарадзішчаў знойдзена грубая пасуда, прась-

ніцы, сярпы ды інш. У славянскім пласьце гарадзішчаў і селішчаў таксама знойдзена пасуда і розныя рэчы.

Пры раскопках у курганох знойдзена трупаспаленьне ў выглядзе гаршкоў з перапаленымі касьцямі, таксама знойдзена папсаваная бронзавая аздоба, сярод апошняй знаходзілі бляшкі ад скураных паясоў.

Што-ж да часу, калі заснавалася м. Койданава, то няма аб гэтым дакладных вестак, але ў канцы X ст. каля гэтых 3-х гарадзішчаў былі невялікія селішчы.

* У харкаўскім навуковым т-ве быў заслуханы даклад Зьм. Зайцава, выдатнага украінскага зоолёга і краязнаўцы на тэму: „фаўністычныя досьледы ў БССР“. Даклад быў зроблены на падставе асабістага вывучэньня Зайцавым гэтага пытаньня, калі ён быў у Менску.

Украінскія вучоныя выказалі зацікаўленасьць да гэтага дакладу. Было ўхвалена больш сьцісла зьвязацца з беларускімі навуковымі і прыродазнаўчымі інстытуцыямі.

* Беларускі вэтэрынарны інстытут сабраў у сваім музэі надзвычайна багатыя колекцыі па энтомолёгіі. У музэі інстытуту цяпер знаходзіцца 14.000 розных эўропэйскіх і азіяцкіх жукоў і 8.000 розных жукоў, сабраных на абшарах БССР.

Усяго ў музэі інстытуту сабрана 2.517 розных экспонатаў і колекцый.

Апроч гэтага, пры інстытуце знаходзіцца багаты ботанічны сад і анатомічны музэй.

* У катэдры археолёгіі акадэміі навук скончылася распрацоўка палеонтолёгічных матэрыялаў, якія былі здабыты ў 1928 г. пры раскопках Бердыскай палеолітычнай стаянкі (каля м. Чачэрску, Гомельск. акр., на р. Сожу) і якія складаюцца з 500 (прыблізна) цэлых і паламаных ці разьбітых костак жывёл ледавіковага часу. Сярод гэтых жывёл на першым месцы па колькасьці стаіць мамант, які прадстаўлены рэшткамі 9 жывёл. Калі прылічыць сюды яшчэ 16 экзэмпляраў, косьці якіх былі знойдзены пры раскопках 1926-27 г., дык агульная лічба ўсіх мамантаў, выяўленых на Бердыскай стаянцы да гэтага часу, дасягае 25. Большасьць іх маладога ўзросту, хаця зрэдка трапляюцца рэшткі і старых жывёл. Зварачае ўвагу прысутнасьць паасобнага віду маманта, які адрозьніваецца малымі разьмерамі (карлікавая форма).

Апрача касьцей маманта, выяўлены ў невялікай колькасьці яшчэ косьці наступных жывёл: 1) быка (хутчэй усяго бізона), 2) пячэрнага мядзьведзя, 3) песака (пясца) і 4) дзікага каня.

Сабраныя косьці становяць вялікую цікавасьць для навукі, бо даюць уяўленьне аб фауне тэрыторыі ўсходняй Беларусі ў час, бліжэйшы за адступаньнем так званага Вюрмскага (апошняга) ледавіка, які калісь пакрываў паўночную Беларусь. Асаблівую-ж цікавасьць знаходкі набываюць таму, што яны знойдзены на стаянцы разам з крамянёвымі прыладамі, якія былі зроблены палеолітычным (ледавіковага часу) чалавекам і якія адносяцца да самай старажытнай культуры, выяўленай на Беларусі (каля 20.000 год назад).

Распрацоўка костнага матэрыялу зроблена пад кіраўніцтвам палеонтолёга В. І. Громава (Зоолёгічны музэй акадэміі навук СССР), які з гэтай мэтаю прыяжджаў у Менск.

У сучасны момант катэдра археолёгіі наладзіла выстаўку гэтага матэрыялу.

* Буйны тэмп росту нашай прамысловасьці і вызначаныя ў гэтым годзе вялікія будаўнічыя работы, асабліва новае капітальнае будаўніцтва, ставяць перад прамысловасьцю БССР задачу падвядзеньня навуковай базы і скарыстаньня апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі ў гэтым будаўніцтве. У сучасны момант, у сувязі з гэтым, перад прамысловасьцю БССР з усёй сур'ёзнасьцю паўстала пытаньне аб арганізацыі Беларускага навуковага дасьледчага інстытуту прамысловасьці.

Задачай гэтага інстытуту, які павінен будзе аб'яднаць дзейнасьць шэрагу органаў, якія займаюцца вывучэньнем прамысловасьці, павінна быць сыстэматычнае і ўсебаковае вывучэньне розных частак прамысловай гаспадаркі, сыравінных і энэргетычных рэсурсаў.

Вывучэньне гэтых проблем павінна адпавядаць аб'ёму індустрыялізацыі БССР. У сувязі з пастаўленымі задачамі ў галіне тэхнікі і экономікі інстытут прамысловасьці павінен мець і адпаведную структуру. Па думцы ВСНГБ, інстытут павінен мець наступныя аддзелы: мінэральнай тэхнолёгії; горна-прамысловых досьледаў; энэргетыкі; тэхнолёгіі дрэва, мэталю; леса-торпа-хэмічны; тэхнолёгіі валаконістых матэрый; аддзел перапрацоўкі сыравіны ад жывёлагадоўлі; харчавы; штучных угнаеньняў; хэміка-фармацэўтычны; экономіі прамысловасьці і агульны аддзел з пад'аддзеламі: рацыяналізацыі, стандартызацыі і вынаходзтва.

Пры інстытуце павінна будзе знаходзіцца цэнтральная лябораторыя з адпаведнымі аддзяленьнямі. Адкрытым засталося пытаньне адносна організацыі ў складзе інстытуту прамыслова-мастацкага аддзелу.

Кіруючымі органамі інстытуту прамысловасьці будуць зьяўляцца дырэкцыя і савет. Апошні складаецца з прадстаўнікоў розных навуковых організацый, Дзяржпляну і міжсаюзнага бюро інжынэрна-тэхнічнай сілы.

Цікава адзначыць, што для больш цеснай сувязі інстытуту з прамысловасьцю і грамадзка-вытворчымі організацыямі мяркуецца ўстанавіць членства і корэспондэнцтва. Членамі і корэспондэнтамі інстытуту будуць як розныя асобы, якія працуюць у прамысловасьці, так і вытворчыя нарады і контрольныя камісіі, якія выявілі заслугі ў галіне прамысловасьці і рабочага вынаходзтва або дапамаглі інстытуту карысная працай.

Пытаньне аб організацыі інстытуту прамысловасьці ВСНГБ у хуткім часе ўносіць на разгляд СНК БССР і накіроўвае на заключэньне ў Галоўнавуку, Дзяржплян і Акадэмію навук.

* З вясны гэтага году ЦБ Краязнаўства організуе сталае вывучэньне 3-х раёнаў: Камарынскага і Чачэрскага (Гомельскай акругі) і Чырвона-Слабодзкага (Бабруйскае акругі).

* Супрацоўнік Беларускай акадэміі навук Міхалевіч склаў эспэранцка-беларускі слоўнік, у які ўвайшло звыш 15 тысяч слоў. Да гэтага часу ў СССР быў выданы толькі 1 расійска-эспэранцкі слоўнік.

**Хроніка беларускай культуры ў савецкіх рэспубліках і за рубяжом СССР**

* Ва украінскім часопісу „Культработнік" № 3 за люты 1929 г. надрукованы артыкул М. Быкаўца з портрэтам Галубка—„Беларускі вандроўны тэатр і яго кіраўнік В. Галубок".

* Ленінградзкі часопіс „Жизнь Искусства" № 10 зьмясьціў артыкул „Белорусские писатели", у якім даецца агляд перакладзеных на расійскую мову твораў Цішкі Гартнага і Якуба Коласа.

* У № 55 за 7 сакавіка Ленінградзкай газэты „Красная газета" зьмешчана рэцэнзія Б. Пятоўскага аб перакладзеных на расійскую мову творах Тараса Гушчы „В глуши Полесья" і Цішкі Гартнага „Повести и рассказы" і „Щепкі на волнах".

У сваёй рэцэнзіі аўтар закранае тэматыку абодвух пісьменьнікаў, мастацкасьць памянёных твораў і заключае: „У сваёй маляўнічасьці тыпаў і здарэньняў абодва аўтары ўмеюць зафіксаваць тыя соцыяльныя моманты, якія далучаюць беларускае жыцьцё да агульнага руху народаў СССР за новую соцыялістычную культуру".

* У № 62 Ленінградзкае „Вечерней красной газеты" зьмешчана рэцэнзія П. Руфінскага на тыя-ж творы Якуба Коласа і Цішкі Гартнага.

* У № 44 ад 13 лютага бягучага году газэты „Prager Presse“ зьмешчана рэцэнзія на кніжкі: „Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы“ і „Узгоркі і нізіны“ З. Жылуновіча. У рэцэнзіі пералічаюцца зьмешчаныя ў кнігах артыкулы і падаюцца веды з біографіі Цішкі Гартнага.

* Чэскі пэрыодычны зборнік „Slovancky Prehled“, што выходзіць у Празе пад рэдакцыяй вядомага прыхільніка беларускай культуры проф. А. Чэрнага, у № 1 за бягучы год друкуе артыкул „Цішка Гартны“, прысьвечаны дваццацігадоваму юбілею пісьменьніка. Артыкул дае агляд творчасьці Гартнага, сьціслую характарыстыку яе і падае ўзорам частку перакладзенага на чэскую мову яго вершу „Бяз працы“.

* У № 23—24 чэскага часопісу „Hlac“, што выходзіць у Браціславе, зьмешчаны артыкул пад назваю „Kožełah-literat“ (літаратар-гарбар), з прычыны 20-цігадовага юбілею Ц. Гартнага. Артыкул падае біографію пісьменьніка, пералічае выданыя ім творы і дае ім характарыстыку, адмячаючы быцьцё юбіляра ў Празе.

* Літаратурны дадатак да газэты „Národni osvobodzeni“ „Hobina“ ў № 9 за бягучы год надрукаваў перакладзеныя на чэскую мову проф. Ф. Ціхім вершы А. Дудара „Цені“ і А. Моркаўкі „Сьцены“ пад агульным загалоўкам „З маладое беларускае поэзіі“.

* У № 4 літаратурнае чэскае газэты „Literárni Noviny“ зьмешчаны артыкул M. Šimanki пад назваю „Беларуская кніга раней і цяпер“, у якім даецца агляд выданьня беларускае кнігі, падаючы цалкам продукцыю БДВ за 1927-28 год.

Урыўкі з таго-ж артыкулу, галоўным чынам лічбы, перадрукаваны у № 57 газэты „Národni osvobodzeni“.

* У літаратурным дадатку да № 36 чэскае газеты „Rudo Pravo“ (орган чэскай комуністычнай партыі) зьмешчаныя вершы Алеся Дудара—„Навальніца“ і А. Моркаўкі—„Крык вуліцы“ сконфіскаваны. Занятае імі месца пакінута пустым з надпісамі ўверсе „Ales Dudar“ і „Arkadz Morkauka“, а ўнізе—„Z bêlaruštiny prel. F. T.“

* Харвацкая газэта „Obzor“, што выходзіць у Загрэбе, у № 215 за мінулы год зьмясьціла вялікі артыкул, пад назваю „izgradnja bjeloruske kulture“, у якой па выданаму зборніку Беларускім таварыствам культурнае сувязі з-за межамі „Беларуская культура“ даецца агляд сучаснага культурнага становішча Савецкае Беларусі.

У артыкуле цалкам паданы лічбы пра стан асьветы і пра асыгнаваньні на яе.

* Паводле польскай статыстыкі за 1927-28 школьны год, на абшарах Віленскага і Навагрудзкага ваяводзтваў, якія належаць да аднаго Віленскага школьнага куратарыуму, існавала 2.164 польскіх школ.

На гэтым-жа самым абшары, паводле даных, прысланых куратарыумам у Т-ва беларускай школы 30-XI-28 г., лік беларускіх школ за мінулы школьны год выглядае гэтак: у Віленскім ваяводзтве ўрадавых беларускіх школ — 11, прыватных — 3, польска-беларускіх—18. У Навагрудзкім ваяводзтве ўрадавых беларускіх школ—10, прыватных—1, польска-беларускіх — 26. Усіх беларускіх і польска-беларускіх школ у двух памянёных ваяводзтвах—69.

Такім чынам, бачым, што на аднэй і тэй-жа самай тэрыторыі польскіх школ існуе 2.164, а беларускіх (са зьмешанымі) усяго 69; усіх-жа няпольскіх — 299. Тымчасам, паводле польскай статыстыкі, ад 30-XI-21 году, лік беларусаў у Віленскім і Навагрудзкім ваяводзтвах у сярэднім становіць 33 проціанты, г. зн. адну траціну ўсяго насельніцтва ў двух названых ваяводзтвах.

Мы тут ня будзем спыняцца на праўдзівасьці гэтай польскай „статыстыкі“. Зазначым толькі, што калі ў Віленскім ваяводзтве лік сьвя-

домых беларусаў складае найменш 50 працантаў усяго насельніцтва, дык у Новаградзкім гэты лік дасягае 80 працантаў.

Аднак, калі нават базавацца толькі на польскай статыстыцы, дык і тады па праву трэба было-б, каб і лік беларускіх школ у гэтых ваяводзтвах раўняўся прынамсі аднэй трэцяй усіх школ там-жа, г. зн.—821 (2.164+ +299) : 3. А што ёсьць? Ёсьць—69.

Каляндар Віл. бел. т-ва на 1929 год аблічае, што ў двух памянёных ваяводзтвах адна польская школа прыпадае на 500—600 чалавек, а адна беларуская школа—на 10 тыс. чалавек.

Кажучы аб беларускай школе ў Польшчы, мы цалкам абмінулі ваяводзтвы Беластоцкае і Палескае. У Палескім ваяводзтве беларусы ў Косаўскім толькі павеце падалі 531 дэкларацыю аб адчыненьні белар. школ, а ў Пружанскім павеце падалі 802 дакларацыі. Аднак, беларускай школы насяленьне не атрымала ніводнай. У Беластоцкім ваяводзтве ў большасьці паветаў насяленьне бадай выключна беларускае, якому без цырамоніі накінулі польскую школу. Урэшце, таксама трэба прыняць пад увагу, што 44 (18+26) школы ў Віленскім і Новаградзкім ваяводзтвах польска-беларускія фактычна зьяўляюцца сапраўды польскімі, з настаўнікамі пераважна палякамі.

Усе стараньні беларускага грамадзянства, каб адчыніць Беларускую настаўніцкую сэмінарыю, не давялі да пажаданага выніку. На дамаганьне адчыніць сэмінарыю Віленскі школьны куратар адказаў, што дазвол на такую сэмінарыю дастаць можна было-б, але без грашовай дапамогі. Гэта значыць, што беларускі народ у Польшчы, плоцячы школьныя і іншыя падаткі, утрымлівае толькі польскія школы, а не свае беларускія, а калі хоча іх мець, мусіць плаціць асобна. Пры такіх умовах утрыманьне сэмінарыі, пэўна-ж, вельмі цяжкае. Беларускую гімназію ў Радашковічах, нібы з прычыны „нізкай навуковай роўні“, замест таго, каб дапамагчы стаць ёй на ногі, улада зачыніла. Такі-ж самы лёс чакае Беларускую гімназію і ў Клецку.

* У Баўгарскім літаратурным пролетарскім часопісу „Накавальня“ за 1928 г. зьмешчаны артыкул аб Цішку Гартным.

## ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў СССР

* Украінскае таварыства культурнай сувязі з замежамі мае намер наладзіць выезды за межы (Заходняя Украіна, Турэччына ды інш.) выдатных украінскіх музыкаў, артыстых з мэтай популярызацыі дасягненьняў музыкі і мастацтва Савецкай Украіны.

* У Харкаве Дзяржаўная Бібліотэка арганізавала выстаўку да гадавіны Т. Г. Шэўчэнкі. Выстаўка падзяляецца на аддзелы:

1. Творы Шэўчэнкі і бібліографічныя паказьнікі.
2. Жыцьцяпіс поэты.
3. Шэўчэнка і Кірыла-Мефодзіеўскае брацтва.
4. Гісторыя кабзара.
5. Грамадзкія мотывы ў поэзіі Шэўчэнкі і нацыянальнае ды рэлігійнае пытаньне.
6. Шэўчэнка ў крытыцы.
7. Поэты Шэўчэнкі.
8. Літаратурныя ўплывы ў творчасьці Шэўчэнкі.
9. Шэўчэнка як маляр ды інш.

* У ліпні-жніўні месяцах бягучага году адбудзецца ўшанаваньне памяці А. П. Чэхава па выпадку 25-годзьдзя з дня яго сьмерці. Выдавецтвы (Масквы) распачалі перавыданьне твораў Чэхава і апублікацыю новых прац аб Чэхаве.

* З лютага г. г. ў Маскве пачынае выходзіць новая тыднёвае літаратурная газэта. Газэта падзяляецца на аддзелы: мастацкай працы, вершаў, мастацкіх нарысаў, крытыкі, бібліографіі. Новая газэта будзе мець 4 паласы формату „Известий", ілюстраваных зарысоўкамі, шаржамі ды інш.

* Барыс Пільняк напісаў новую п'есу „Дураки на периферии".

* Злучаныя штаты Амэрыкі абвясьцілі сусьветны конкурс на пабудову найвялікшага маяка Колюмбу. У гэтым конкурсе прымаюць удзел і украінскія архітэктары: харкаўская група архітэктараў на чале з архітэктарам Касянам і кіеўская—на чале з арх. Волошыновым.

* ВУФКУ закончыў натурныя здымкі кіно-карцін: „Мерта петля", „В заметах" і „Велике лихо маленькоі жінки".

* ВУФКУ канчае кіно-фільмы: „Пять нареченных" па сцэнарыю Д. Мар'яна, „Экспонат з панопцікуму", сцэнары Кашэўскага, „Тобі дарую", сцэнары і пастаноўка В. Радзішчава.

* Цэнтральны камітэт па ўшанаваньні памяці М. Кацюбінскага атрымаў асыгнаваньне ад НКА УССР на пабудову помніка М. Кацюбінскаму.

* 10—12 сакавіка г. г. на Украіне адбудуцца вечары і выстаўкі, прысьвечаныя памяці т. Шэўчэнкі. Дзярж. тэатр „Бэрэзіль" ставіць з прычыны гадавіны інсцэнаваную поэму „Гайдамакі, Чэрвоназаводзкі тэатр—інсцэнізацыю твораў Шэўчэнкі „Ведзьма". У будынку літаратуры імя В. Блакітнага адкрываецца выстаўка помнікаў поэту Шэўчэнку.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ